# ЯКУБ КОЛАС

## ВЕРШЫ І ПАЭМЫ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя мастацкай літаратуры
Мінск 1948

## ЯКУБ КОЛАС

Старэйшы пісьменнік Савецкай Беларусі, лаўрэат Сталінскай прэміі, народны паэт БССР Якуб Колас прыходзіць да 30-годдзя нашай рэспублікі з выдатнейшымі творчымі поспехамі і дасягненнямі.

Буйны і шматбаковы талент паэта, аднаго з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры і стваральнікаў літаратурнай мовы, пасля Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэвалюцыі развінуўся ва ўсёй сваёй яскравай сіле і глыбіні.

За прайшоўшае трыццацігоддзе, адзначанае выключным ростам, агромністым будаўніцтвам і ўмацаваннем нашай рэспублікі, творчасць Якуба Коласа зрабілася першараднай з'явай грамадскага і культурнага значэння. Гэта абумоўлена ў першую чаргу тым, што народны паэт праз увесь час з'яўляецца актыўным удзельнікам перэтварэння краіны, пабудовы социялістычнага грамадства.

Глыбокая ідэйнасць і веданне жыцця, выдатнае ўмельства пранікаць у сутнасць з'яў і фактаў, а галоўнае зжытаванасць з народам у яго несупынным руху наперад, у яго барацьбе і перамогах, даюць Якубу Коласу магчымасць паказваць савецкую рэчаіснасць праўдзіва, па-мастацку, стоячы на пазіцыях партыйнага літаратара, як гэта і належыць савецкаму пісьменніку-рэалісту.

Уважлівае вока мастака не абмінула ніводнага з новых праяўленняў нашага, так багатага на падзеі і рознастайнага жыцця. Усё новае ў стваральным поступе народа Савецкай Беларусі, усё, што заключае

ў сабе велізарныя магчымасці развіцця і далейшага руху наперад, знайшло сабе дастойнае адлюстраванне ў творах Якуба Коласа.

Жыццё совецкай моладзі, пераробка псіхалогіі селяніна ў першыя часы калектывізацыі, усенародная барацьба супроць фашысцкіх захопнікаў, уз'еднанне Беларусі ў адной совецкай дзяржаве — усе гэтыя тэмы пад пяром Якуба Коласа ператварыліся ў дасканалыя мастацкія творы вялікага ідэйнага значэння.

Комсамолец Барута, недаверлівы «адшчапенец», які падаўся паглядзець свет, незабыўны партызан дзед Талаш, Даніла і Марына — вось далёка няпоўны пералік жывых і павучальных вобразаў, створаных Якубам Коласам.

Творчасць паэта багата ўсімі тымі лепшымі якасцямі, што ставяць совецкую літаратуру на чале прагрэсіўных літаратур свету. Гэта—совецкі патрыятызм, сапраўдная народнасць, што вынікае з непарыўнай еднасці з народам, стваральнікам і пераможцам, глыбокая адданасць большэвіцкай партыі і правадыру народаў вялікаму Сталіну, глыбокая ідэйнасць і высокая мастацкасць.

Упэўненай рукою выдатнага мастака-рэаліста Якуб Колас дае жыццё ўсё новым і новым вобразам і творам.

Творчая актыўнасць пісьменніка за прайшоўшыя 30 год надзвычайна высокая; яна радуе і здзіўляе, паказваючы нам новыя, яшчэ невядомыя бакі таленту, магутныя выяўленчыя сродкі ў эпасе, лірыцы, драме і публіцыстыцы.

У першым дзесяцігоддзі пасля Социялістычнай рэволюцыі Якуб Колас завершвае працу над выдатнейшымі класічнымі творамі нашай літаратуры. Гэта — паэмы «Новая зямля» і «Сымон Музыка». Гэтыя творы, маючы вялікую пазнавальную каштоўнасць і высокія паэтычныя вартасці, сталі шырока вядомы совецкаму чытачу. Моладзь вывучае іх у школах, знаёмячыся з жахлівымі ўмовамі дарэволюцыйнага беспрасвецця, якое ламала і калечыла таленты, прывязвала чалавека да кавалка зямлі, выклікаючы гнеўны пратэст і жаданне «з панскіх выпутацца пут».

За гэтымі творамі ідуць дзве часткі трылогіі: аповесці «У палескай глушы», «У глыбі Палесся». Якуб Колас расказвае ў гэтых аповесцях аб жыцці настаўніцтва да рэволюцыі, высмейваючы ўвесь гэты свет пісароў і бацюшак, цынічных панічоў, сярод якога цяжка жылося маладому настаўніку, што любіў і шанаваў народ і хацеў па-сапраўднаму несці яму асвету.

Мінаў час. Перад пісьменнікам узнікалі ўсё новыя і новыя далягляды. Наспяваў пераход да тэм сучасных, да твораў, якія-б

паказвалі новае жыццё і дабрабыт народа, адлюстроўвалі працэсы, якія адбываліся ў ходзе соцыялістычнай перабудовы краіны. Сапраўды, ужо і знаку не засталося ад тых часоў, калі пуцявіны народа зарасталі «не чаротам, не лебядою, а беларускаю бядою», не засталося следу і ад старых пуцявін. Той чалавек працы, пра якога з гордасцю пісаў паэт: «Ці-ж я ростам невысокі? ці-ж у грудзях не шырокі?»—гэты чалавек даўно вырваў апошняе каліва бяды трактарам совецкай маркі, ператварыўшы бедныя аднаасобніцкія палоскі ва ўрадлівае калгаснае поле.

І Якуб Колас піша аповесць з жыцця моладзі («На прасторах жыцця»), якая прагне вучыцца і ідзе ў рашучы наступ на рэшткі старога. Затым ён дае шэраг вершаў на калгасную тэму, звярочваецца да гэтай тэмы ў аповесці «Адшчапенец», стварае выдатны празаічны твор «Дрыгва», прысвечаны барацьбе беларускіх партызан у час белапольскай акупацыі.

Аднак гэтым не вычэрпваюцца ўсе тварэнні Коласавага таленту. У перадваенныя часы таксама з'яўляюцца п'есы і некалькі кніг, складзеных з новых вершаў паэта («Нашы дні» і «Пад Сталінскім сонцам»). У іх мы адчуваем гарачы струмень працоўнага будаўнічага жыцця рэспублікі, радасць стварэння, гордасць ад дасягнутага. Лірычны герой паэта — мужны і працавіты совецкі чалавек змяняе аблічча краіны, удыхаючы жыццё ў новыя пабудовы, даючы рух магутнейшым заводам, збіраючы багаты ўраджай з калгасных палёў. Усё гэта здзяйсняецца дзякуючы сталінскаму генію, пад сталінскім сонцам. Вершы і звароты паэта да вялікага правадыра змяшчаюць у сабе глыбокае і шчырае пачуццё і любасць усяго народа.

Палымяныя вершы-заклікі да народа, якія натхнялі яго на барацьбу супроць цёмнай навалы фашызма, шматлікія артыкулы ў совецкай прэсе, удзел у партызанскіх выданнях — усё гэта і ў малой ступені не ахапляе ўсёй велізарнай працы Якуба Коласа ў часы Вялікай Айчыннай вайны. З вялікай любасцю і непахіснай верай ў перамогу звяртаецца паэт да вялікага Сталіна, выказваючы ўсенародную любоў да правадыра. Усёй сваёй гарачай і ўсхваляванай сілай паэта імкнецца Якуб Колас зрабіць лягчэйшымі пакуты роднай зямлі, наблізіць час яе вызвалення. І тым больш страсна гучаць яго заклікі да жорсткай барацьбы і бязлітаснага знішчэння гітлераўскіх псоў.

Асобна трэба адзначыць такі буйны твор ваенных часоў, як паэма «Адплата». Паэт шырока разгортвае паказ усенароднай партызанскай барацьбы супроць фашызма. Людзі, выведзеныя ў паэме, гэта характары дужыя, якія кіруюцца адзіным імкненнем да перамогі.

Барацьбой савецкіх людзей кіруюць большэвіцкая партыя і Вялікі Сталін. Авангарднай, вядучай, стваральнай ролі партыі ў жыцці савецкага народа Якуб Колас прысвячае глыбокія і пранікнёныя радкі. Яны ў значнай меры характарызуюць мэтанакіраванасць усёй ваеннай і пасляваеннай творчасці паэта:

Мы тым, браты, жывы і дужы
І поўны бясстрашша,
Што маем такое аружжа,
Як партыя наша.

Яна—гэта голас народа,
Яна—яго воля,
Яна дзеліць з намі нягоду,
Нясе нашы болі.

Усюды на роднай краіне
Яны, комуністы,
Высоўваюць волю айчыне,
Наш дзень урачысты.

Гэтыя радкі, поўныя глыбокай праўды, заклікалі народ у цяжкія часы выпрабаванняў шчыльней гуртавацца вакол партыі, вакол комуністаў, перадавых барацьбітоў супроць гвалту і няволі і за пабудову комуністычнага грамадства.

Такое ўсведамленне ролі партыі знаходзіць усё большае месца ў творчасці і другіх паэтаў ужо ў нашы дні, у часы вялікай адбудовы і аднаўлення. Так зліваецца голас старэйшага паэта з голасам малодшага пакалення беларускіх савецкіх пісьменнікаў у адзіным імкненні шырэй і глыбей асэнсаваць і паказаць нашу рэчаіснасць, уславіць кіруючыя сілы нашага жыцця.

У пасляваенны час Якуб Колас стварае выдатную паэму «Рыбакова хата».

Гэты твор дастойна завяршае вянок такіх дасканалых эпічных паэм, як «Новая зямля» і «Сымон Музыка». Дзея ў ім адбываецца па той бок савецкай мяжы, у тым свеце няроўнасці і прыгнёту, супроць якога так палка выступаў Якуб Колас у згаданых вышэй творах. У гэтым змяшчаецца агульная рыса ўсіх трох паэм. Але людзі «Рыбаковай хаты» больш актыўныя і свядомыя, яны зусім дакладна ведаюць, адкуль прыдзе сапраўдная воля. Асноўныя героі паэмы, Даніла і Марына, робяць значныя высілкі, каб супроцьстаяць панскаму ўціску. Нават трапіўшы ў турму, дзякуючы намаган-

ням асадніка Богута, Даніла не траціць веры. Яго жонцы дапамагае чым можа вясковая бедната, якая любіць і шануе гэтых герояў. Гэтае пачуццё еднасці працоўных людзей яскрава праходзіць праз усю паэму. У гэтай якасці, як падкрэслівае паэт, і зміяшчаецца залог пасняховага змагання з панамі.

Паказваючы з вялікім майстэрствам жыццё народа пад панскім прыгнётам, мары аб вызваленні і само доўгачаканае вызваленне, гэтая паэма з'яўляецца як-бы падагульненнем запаветных мар самога паэта. Беларусь сапраўды стала новай зямлёю, вялікай савецкай дзяржавай; народ нашай рэспублікі свабодна развіваецца ў сям'і братніх народаў пры братняй дапамозе вялікага рускага народа. І бясспрэчна ў гэты вялікі час Якуб Колас, мастак буйнейшага таленту і выключнага майстэрства, умножыць славу беларускай літаратуры, даўшы новыя творы пра наш будаўнічы дзень, пра наш вялікі совецкі народ.

## СТАЛІН, ПАРТЫЯ І НАРОД

Цёмныя ночы, дні ліхалецця
 Ткалі нам гора, бяду.

З дымам пажараў гойдаўся вецер,
 Хмар наганяў грамаду.

Грозна грымелі, глуха стагналі
 Горы, даліны, лясы.

Клаліся густа засевы сталі
 У кроплях крывавай расы...

Глянь ты на стэпы, глянь на дарогі,
 Сонца і ветра спытай:

Хто сабраў сілу для перамогі?
 З кім быў рабочы, ратай?

Сонца адкажа: Ленін і Сталін!
 Вецер пацвердзіць: яны!

Разам з народам волю кавалі
 Партыі слаўнай сыны.

* * *

Шумна праходзяць творчыя годы,
Буйна растуць гарады,

Пышна буяюць новыя ўсходы —
Ленінскі сеў малады.

Выйдзі на поле, глянь, падзівіся, —
Гмахі бязмежныя ніў.

Рэкі ў каналах дружна зліліся,
Морскі шугае разліў.

Высі надзем'я поўны гаворкі —
Песень маторaў без слоў.

Гэтакіх быстрых, гэтакіх зоркіх
Дзе яшчэ знойдзеш арлоў?

Армія наша—гордасць краіны,
Сіла надзейная, шчыт.

Партыя, ўрад наш—мы ўсе адзіны,—
Непераможны граніт.

Нам паслухмяны рэкі і моры,
Арктыка шле нам паклон.

Свецяць над намі сонца і зоры —
Сталінскі ясны закон.

Хто-ж даў народам столькі разгону?
Хто іх у высі падняў?

Пад бальшэвіцкім сцягам чырвоным
Сталін нас дружбай абняў.

Сее ён, сейбіт, промені згоды,
Каб красавала зямля.

Сталіну слава! Доўгія годы
Сэрцу краіны, Крэмля!

*1938 г.*

## ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ

Мы славім у песнях, у думках сваіх
Таго, чыё імя на вуснах усіх,
Таго, хто правёў нас праз гром навальніц,
Хто шлях пракладае да ясных дзянніц —
Насустрач світанню і новаму дню.
І гордасць дае нам адчуць вышыню
Таго, чыёй воляй растуць гарады,
Таго, хто мяняе рэк бурных хады,
Хто сцяг перамогі нясе ў вышыні,
Дзе новым сузор'ем гараць нашы дні.
Мы славім у песнях шырокіх дарог
Таго, чыё імя — наш сцяг перамог,
Таго, чые мыслі — арліны палёт,
Таго, хто нас кліча нямоўчна ўпярод,
Хто творчую волю гартуе, як сталь,
Хто мудрых законаў дае нам крышталь.
Няхай-жа квітнее савецкая шыр!
Няхай-жа красуе наш друг, правадыр!

*1937 г.*

## ПРАВАДЫРУ І НАСТАЎНІКУ

Ад чыстага сэрца, проста і шчыра,
Як просты і ты, Правадыр,
Цябе славіць песняю звонкая ліра,
Як сейбіта праўды, дружбы і міра,
Зямлі разняволенай шыр.

Паэты, ашугі з гор Дагестана,
Далін і стэпоў песняры

Вітаюць, як друга, згодна, аддана
Цябе, Правадыр наш, словам баяна,
На струнах зурны і дамбры.

Жывыя пачуцці, думы і сказы
Прыносіць народ табе ў дар,
А новае мора сыпле алмазы,
Дзе сонца гуляе з хвалямі разам
І тушыць у вечар свой жар.

На Арктыцы дзікай, холадам скутай,
На гонях, дзе нівы шумяць,
На краі нядаўніх здзекаў, пакуты,
Дзе воляй тваёю скінуты путы,
Ляжыць тваіх думак пячаць.

Ад Белага мора і да гор Крыма,
Ад Буга за быстры Амур
Лунае, як промень, роднае імя
На гмахах бяскрайніх слаўнай радзімы,
Народжанай громамі бур.

І гэту радзіму узняў ты высока,
Даў сілу ёй, голас, разгон,
Магутныя крыллі, смелае вока,
І вывеў яе ты з голаду, мроку
І сталінскі даў ёй закон.

Ад чыстага сэрца, проста і шчыра,
Як просты і ты, Правадыр,
Цябе славіць песняю звонкая ліра,
Як сейбіта праўды, дружбы і міра,
Зямлі разняволенай шыр.

* * *

Бушуе навокал магутнае мора,
І пеніцца ў беразе вал.
Дзесь намысел злосны спеляць пражоры,
Сыкаюць гады паўзучыя ў норах
І вые труслівы шакал.

Цямраная сіла свету старога
Сплятаецца ў чорны клубок,

Адна ў яе думка, мэта, дарога—
Паўстаць насупроць жыцця маладога,
Спыніць наш вясенні паток.

Але няхай знаюць: марны заходы
Прыслужнікаў цемры і зла,
Бо з намі ты, Сталін — воля народа.
На варце краіны, шчасця, свабоды
Стаіць твая постаць — скала.

Бо зорыць нядрэмна орляе вока,
Бо ты разбіваеш хады
Глашатаяў здзеку, гнёту і мроку,
Разгадваеш проста, мудра, глыбока
Злодзейскія сцежкі, сляды.

Магутнай рукою смела, імкліва
Ты крышыш былога ланцуг.
Жыві-ж нам на радасць, доўга, шчасліва,
Нястомны, аддаӊы, людзям зычлівы,
Наш бацька, настаўнік і друг!

*1939 г.*

## СТАЛІНСКАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ

Разгарнуў магутна раме
Край наш сталінскаю воляй.
Шмат чаго здабыта намі,
А здабудзем яшчэ болей.

Пройдзен шлях вялікі, трудны,
Мы — на радасным прывале,
На тым сходзе многалюдным,
Дзе лунае імя—Сталін.

У нашым сэрцы гэта імя,
І на нашых вуснах — Сталін.
Свет законы яго ўспрыме,
Як людскіх свабод скрыжалі.

Не было нідзе спрадвеку
У жыцці такіх прагалін,
Дзе-б пашану чалавеку
Аддалі, як дае Сталін.

Правадыр наш, добры геній!
Праз вякі, праз часаў далі
Усім новым пакаленням
Сімвал шчасця будзе — Сталін.

*1936 г.*

## ПРЫВІТАННЕ МАСКВЕ

На ўсход, у Крэмль, у новы свет,
Раскрыўшы акяніцы,
Мы шлем табе, Масква, прывет
З заходняе граніцы.

Ты — сцяг нашай сілы,
Ты — волі прастор,
Палёт быстракрылы
Да сонца і зор.

Ад гарадоў, калгасных ніў,
Ад кожнае святліцы
Прымі, Масква, сардэц парыў,
Як шум жывой крыніцы.

Ты — сцяг нашай сілы,
Ты — дружбы прастор,
Палёт быстракрылы
Да сонца і зор.

Агням тваім, што над Крэмлём
Гараць, як зараніцы,
Вянкі багатыя саўём
Мы з жыта і пшаніцы.

Ты — сцяг нашай сілы,
Ты — славы прастор,
Палёт быстракрылы
Да сонца і зор.

Агні твае плывуць у свет,
Няма для іх граніцы;
Гараць яны, як яснацвет,
Як светлыя дзянніцы.

Ты — сцяг нашай сілы,
Ты — шчасця прастор,
Палёт быстракрылы
Да сонца і зор.

Жыві, Масква! На ўвесь сусвет
Струмень святла крыніцы.
Мы шлем табе, сястра, прывет
Ад роднае сястрыцы.

Ты — сцяг нашай сілы,
Ты — праўды прастор,
Палёт быстракрылы
Да сонца і зор.

*31/III 1939 г.*

## ПРАВАДЫРУ НАРОДАЎ

Вышлі мы ў прасторы
Праз імжу, туманы,
Праз крывавы жах.
Сокал ясназоры,
Генія абраннік,
Сталін, ты—наш сцяг!

Праз гады-сталецці
Марылі аб шчасці

Людзі ўсіх краін.
Але толькі ў свеце
К шчасцю шлях пракласці
Здолеў ты адзін.

Я гляджу ў здзіўленні
З радасцю паэта
На наш творчы ўзлёт.
У вянку праменняў,
Любасцю сагрэты,
Ты вядзеш народ.

І з твае дарогі
Саступаюць горы,
Ледзяны прыбой.
Песня перамогі
На зямлі, на моры —
Спадарожнік твой.

Цьмее дзень ўчарашні.
Точыць на нас зубы
Злы фашыст-вампір.
Але нам не страшна,
Бо ты з намі, любы,
Мудры правадыр.

Вышлі мы ў прасторы
Праз дымы, туманы,
Не схіліўшы сцяг.
Сокал ясназоры,
Любы наш, каханы,
Ты—наш верны шлях.

Праз гады-сталецці
Марылі аб шчасці
Людзі ўсіх краін.
К шчасцю-ж шлях прымеціў,
К праўдзе шлях пракласці
Здолеў ты адзін.

*1936 г.*

## ПАД СТАЛІНСКІМ СОНЦАМ

Узыйдзі на гору, браце,
Глянь ва ўсе бакі—
Светла стала ў нашай хаце,
А прастор які!

Заірдзелі ў сонцы далі
Пурпурам зары,
І навек папрападалі
Панскія двары.

Зарунелі буйна нівы,
Зацвілі сады,
Поўніць гоман, спеў шчаслівы
Сёлы, гарады.

Ходзіць сіла маладая,—
Дол пад ёй дрыжыць.
Не гаруе, не гадае
Чалавек, як жыць.

Вольны ўсе яму дарогі,
Толькі йдзі ўпярод—
Не далі таго і богі,
Што ўзяў сам народ!

Паглядзі — гараць вясёлкі,
Сыплюць бляск з Крэмля.
А герояў родзіць колькі
Новая зямля!

Людзі дружбаю абняты—
Шмат дзівосных змен!
Нам сягоння стаўся братам
Таджык і туркмен.

І ідуць гасцінна ў дзверы,
У чум, кішлак, аул,
К нам Шэўчэнка, Руставелі,
Пушкін і Джамбул.

У еднанні, ў дружбе, згодзе
Нацый і плямён—
Усе мы у адным паходзе,
Наш адзін закон.

У еднанні гэтым сіла,
Наша моц, святло,
Рух няспынны, быстракрылы,
Ворагу на-зло.

Не пазнаць зямлі сягоння.
Глыб яе і шыр
Сам адзначыў у законе
Мудры правадыр.

Сам ён, геній ясназоры,
Даў ёй ход, размах;
І праз нетры, пушчы, моры
Нам праводзіць шлях.

*4/XII 1938 г.*

## У ЗАЛІ КРЭМЛЁЎСКАГА ПАЛАЦА

Усё мне радуе тут вока
І поўніць сэрца цеплынёй:
І постаць Леніна — прарока,
Што даль вякоў раскрыў шырока
З яе прывабнай глыбінёй;

І сад жывы народаў нашых,
І featureнамоўны гоман іх,
Дзе дружбы слодыч поўніць чашы,
Дзе воля чуецца, бясстрашша
І сіла крокаў маладых.

А ў садзе тым — краса народаў,
Цвет многалікі і буйны—
Героі працы і паходаў,
Пранёсшых славу нашу ў годы
Праз дым, агонь і гром вайны.

Гудзе, як летам рой пчаліны,
Утульны, светлы зал Крэмля
У чаканні радаснай хвіліны,
Каб згледзіць хоць на міг адзіны
Таго, аб кім пяе зямля.

Таго, хто мудрыя законы
Даў нам для вольнасці, дабра,
Таго, каму люд шле паклоны
І праслаўляюць міліёны,
Як бацьку і Правадыра.

## ЖЫВЕ МІЖ НАС ГЕНІЙ

З глыбінь жыватворчых народнага духа
Прышоў ён світаннем да нас.
Ён праўду і мудрасць народа падслухаў,
Каб споўніць народа наказ.

Ён зрокам прарочым угледзеў разлогі,
Што людзям нябачны былі.
Ён, Ленін, азначыў, акрэсліў дарогі
У новую праўду зямлі.

На гонях раскутых, на нівах калгасных
Ляжыць яго праўды пячаць,
І мудрыя словы так проста і ясна,
Як вечныя песні, гучаць.

Гучаць яны ў шуме, дзе плынь маладая
Разгортвае сілы ўглыб, шыр.
У песнях і думах бязмежнага края,
Як сонца, жыве правадыр.

Жыве ён у гомане-шуме заводаў,
У ясных крэмлёўскіх агнях.
У нашым еднанні, у дружбе народаў
І ў сталінскіх зоркіх вачах.

Жыве ён з Чырвонаю Арміяй нашай
І дзеліць паходы яе,
І сэрцу героя, і волі бясстрашных
Імя яго сілу дае.

Між нас жыве Ленін, як сонца, як зоры,
Як мудрасць вялікай зямлі,
І сее праменні, агні непакоры,
Каб людзі шчасліва жылі.

*Студзень 1943 г.*

## ПАД СЦЯГАМ ЛЕНІНА—СТАЛІНА

Нас дружба народаў навекі злучыла,
У нашым еднанні мы — грозная сіла—
Няма для яе перашкод!
Пад Ленінска-Сталінскім сцягам і словам
Мы сонечным шляхам, чаруючым, новым,
Ідзём несупынна ўпярод.
Хоць шлях наш і трудны, хоць ворагаў многа,
Мы скінем з дарогі астаткі гнілога—
Ці-ж ім запыніць наш паход?
Гранітную сілу куе мудры Сталін.
Дзень пройдзе—і болей іскрыстых прагалін,
Год пройдзе — і вышай узлёт!
Нас дружба народаў навекі злучыла,
У нашым еднанні мы — грозная сіла—
Няма для яе перашкод!
Жыві-ж ты, з'еднанасць і дзень златакудры!
Жыві, правадыр наш, бясстрашны і мудры!
Жыві ты, савецкі народ!

*27/XII 1937 г.*

## У ПАЛЯХ БЕЛАРУСІ

Дзень добры вам, лясы і далі,
Прасторы вольныя зямлі!
Я зноў між вас, пагоркі-хвалі,
Палоскі цьмянае раллі!

Вітаю вас, як блізкіх, родных,
Старыя хвоі на палёх,
І вас, красёнцы сцежак згодных,
Сляды нялічаных дарог!

І гэты жоўценькі пясочак,
Дзе хвойкі зелена растуць,
Бярозы тыя, што ў шнурочак
За рубяжы зямлі бягуць.

Над рэчкай гэты луг мурожны,
Дубоў развіслых цэлы рад,
І буслаў дом, стары, заможны,
Як той пасэсарскі пасад.

То тут, то там лясок сінее,
У лагчынах рэчачкі блішчаць,
Куды ні глянь — пакоем вее,
На ўсім адна ляжыць пячаць:

Развагі мудрай, задумення
І нейкай смутнае красы.
І чуеш ў гэтым лятуценні
Адвечнай песні галасы.

А хмарка ў небе, ў ясным полі
Плыве шчасліва, як дзіця,
І забываеш мімаволі
Ўвесь клопат буднага жыцця.

*1921 г.*

## ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках — булі-гулі!—
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А ён, гучны і смяшлівы,
Так і ходзіць, аж дрыжыць,
І другі сябрук шчаслівы
Насустрэч яму бяжыць.

Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ў гары?
Што за спеў за самавіты
Ў небе правяць песняры?

А зіма аж пачарнела—
Годзе ёй тут кросны ткаць!..

Гэй, маленства, жыва, смела
Выйдзем весну прывітаць!

А як слаўна каля хаткі
Нам пабегаць, пагуляць!
Ну, зіма, збірай манаткі,
Годзе нас табе ўшчуваць!

Маладая вясна,
Залатая пара!
Будзь красна і ясна,
Не шкадуй нам дабра!

Вокам маткі зірні,
Бледнасць з твару згані!
Дай уздужаць малым
Пад павевам тваім.
Мы вяночак спляцём,
Табе песню спяём.

*1922 г.*

## БРАТАМ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у злосным гнёце,
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі;

Няхай ксяндзы-жрацы-блюзнеры,
Падпёршы тылакам алтар,
Выводзяць панскія намеры
З святых канонаў свае веры,
Каб болей сталася ахвяр;

Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць «святы» дурман,
Каб выбіць з беднага ратая

Прагненне к волі таго края,
Дзе не прышчэпіцца больш пан;

Няхай караюць там сурова,
Каб дух народу загасіць;
Хай «ужонд польскі» слова ў слова
Бярэ прыклады з Мураўёва,
Каб рух спаганіць, ахлусіць;

Няхай «ад мора і да мора»
Жыве ў закручаных мазгах, —
Браты! мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панах.

*1927 г.*

## ЗМАГАННІКАМ ЗА КАСТРЫЧНІК

Бушавала бура з сілай нечуванай,
А вы йшлі напорна крокам нестрыманым.

Вар'яцела мора, пеніліся хвалі,
А вы йшлі няспынна — вабілі вас далі.

Бухалі гарматы, грукацелі громы,
А вы йшлі наперад віхрам-бураломам.

Разбівалі ковы, векавыя путы,
А на кожным кроку вораг злы і люты.

І было змаганне, ой, было змаганне!
Не хацеў стары свет страціць панавання.

Каледзін, Карнілаў, Калчак і Дзенікін —
Йшла навала супраць у шаленстве дзікім.

І каваў кайданы вораг за граніцай,
Ды ніхто не здолеў той жывой крыніцы.

Ліха, небяспека ўсюды вас чакала, —
Згінула ў дарозе змагароў нямала.

А дарога ваша — горы, перавалы,
Але ўсё здалелі раці занядбалы.

Пройдзен шлях пачэсны, трудны і вялікі,
Не залье яго той шквал шалёна-дзікі,

Што падняць гатовы Чэмберлен зацяты —
Кінуты па свеце добрыя зярняты.

Вышлі зерні тыя ў шоўкавыя руні —
Праўдай сталі вашы мары аб комуне.

*1927 г.*

## ВОРАГАМ

Яшчэ не стлеў у полі дрот калючы —
Агідны след знішчэння і вайны —
Яшчэ на могілках буяюць бур'яны,
Дзе тысячы галоў зляглі ў крывавай бучы,
Яшчэ не зроўнены накопаныя кручы
І не засеяны аблогі-дзірваны, —

А вы, прыслужнікі драпежнага Ваала,
Зноў вострыце загнутыя дзюбы,
І сліна пырскае з запененай губы:
Вам трэба кроў — крыві пралітай мала!
Ражном у горле вам сябрына наша стала,
Дзе самі ўладары — нядаўнія рабы.

Ну, што-ж? Пускайце ў ход і подкуп і намовы,
Нацкоўвайце сабак пад граканне варон,
Але вам не стрымаць той вольнасці разгон
І бег яго няўхільны, паступовы,
Што ў пух і прах развейвае аковы,
Каб іншы выснаваць парадак і закон!

*1927 г.*

## ПАНСКАЯ ЛАСКА

За вашу «ласку» панскую,
Палітыку шатанскую
Мы дзякуем, паны!
«Дабра» зрабілі многа вы,
Залезшы ў наша логава,
Пабраўшы бізуны.
Наслалі нам асаднікаў,
Жандараў і ураднікаў,
І іншае брыды.
Кунтушыкаў, каптурыкаў
І антэкаў-мазурыкаў
Наперлі нам сюды,
Каб гэтыя «дабродзеі»
Вам польскасць тут праводзілі
На панскія лады.
І «польскасць» тут праводзіцца —
На ўвесь наш край смуродзіцца
Ксяндзоўская мана.
І веру каталіцкую
Падносяць нам і тыцкаюць —
На чорта нам яна?
Не возьмеш нас касцёламі,
Царквамі і саборамі —
На ліха нам ваш рай!
Гандлюйце сабе душамі,
Як рэдзькаю ці грушамі,
А нас ты не чапай!
Ды ліха ў тым, каханыя,
Што вы прышлі нязваныя,
Убіліся ў наш край,
Зрабілі яго «крэсамі»
І разам з пэ-пэ-эсамі
Заслалі тут абрус.
Ад Піншчыны да Случчыны
Пад пятамі пілсудчыны
Гаруе беларус.
Няма яму аддушыны,
А крык яго прыдушаны
Ўзвялі вы ў крымінал!..

Паны! ці-ж мелі рацыю
Судзіць за крык той нацыю,
Упасці ў такі шал?
Рэкорд, паны, пабілі вы,
І як тут ні адвілівай,
А роўных вам няма.
І тактыку ксяндзоўскую,
І школу мураўёўскую
Прайшлі вы недарма.

*1928 г.*

## ДА 11-е ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

Ідуць гады сталёвым шыхам,
Гады змагання, перамог,
Стаіўся вораг і прылёг,
На край Советаў чмыша ліхам...
Паціху, злоснікі, паціху:
Ці пераступіце парог?

Трашчаць усюды вашы гмахі,
Праела моль стары каптан.
Вам не падняць гнілых сутан,
І не ўратуюць вас ні плахі,
Ні вашы цёмныя замахі,
Ні служак здрадніцкі абман.

Ўстае, расце, мацнее хваля,
Шырэй, дужэй яе разгон,
Імя тэй хвалі — легіён.
Залюцца ў грозным перавале
Свой час аджыўшыя скрыжалі,
Бо новы пішацца закон...

Ідуць гады напорным крокам,
Гады змагання, перамог.
Ідуць мільёнамі дарог...
Сябры! сачыце пільным зрокам —
Жаданы край яшчэ далёка,
А ворат сілы ўсе напрог.

*1928 г.*

## ПАНАМ-ВАЯКАМ

Забразгалі
«Шабелькамі»
Палкоўнікі-паны.
Не ўрымстуюць
Пілсудчыкі:
Ім хочацца вайны.

З'язджаюцца,
Злятаюцца
Крывавых спраў майстры,
Шушукаюць,
Змаўляюцца,
Падпальваюць кастры,

Каб з дымам іх,
З пажарамі
Зноў рушыцца ў паход.
Мы ведаем
Іх намеры,
Магнатаў, ваявод;

Прадонне іх
Палохае —
Гісторыі прысуд.
Шукаюць нам
Пагібелі,
А будзе ім капут.

Палкоўнікі,
Ваёўнікі!
Вам меч ці па плячы?
Прыпомніце
Вы прыказку
Старую аб мячы!

*1930 г.*

## СТАРОЙ ВЁСЦЫ

Убогая старая вёска!
Ты ў рызманох, ты ўся ў саломе,
Пануе цемра ў тваім доме,
А ты стаіш на пераломе,
Шкадуеш выцвіўшай палоскі.

Вякамі доўгімі гарліва
Пад звон гнусавы стромкай вежы
Ты вартавала свае межы.
Зямлю саха і смык мярэжыў,
А што ты мела з свайго жніва?

Гібела, гнулася ў прыгоне
Пад вечным страхам і смугою,
Сама сабе была рабою —
Зямля валодала табою,
А ты была ў яе палоне.

Твае сыны і твае дочкі
Жылі, гібелі ў брудзе, пылу
Ды марнавалі сваю сілу.
Зямля за працу так дарыла,
Што беглі вон з яе ўпрочкі.

Аб чым-жа смуцішся, старая?
Ці так надбала ты багацця
У цемры вечнага пракляцця?
Дык смела ўперад, смела, брацце!
Жыццё старое адмірае!

Чаго жалець табе, гаротнай?
Загонаў, дзе цвіце сурэпа,
Смыка, сахі, сярпа і цэпа,
Каб так чапляцца за іх слепа?
Пара іх кінуць беззваротна!

Зірні наперад зоркім вокам
У наша сёнешняе ранне...
Вітай дня новага світанне,
Ідзі машынам на спатканне,
Ды грамадою, цвёрдым крокам!

«Мая зямля», «мой поплаў», «паша»,
«Мой луг», «мой конь», «мае каровы» —
Зліня лыя, старыя словы!
Пара, пара даць сэнс ім новы:
Змяніць іх час на «наш» і «наша»!

*1930 г.*

## КРАІНЕ СОВЕТАЎ

Адзванілі званы на званіцах,
І збуцвелі, паніклі крыжы,
Знакі цемры-імжы.
Новы край тут паўстаў з навальніцаў,
Забурлілі другія крыніцы
На шырокай Совецкай мяжы.
У пустых дзірваністых абшарах,
Патапельніц і багны балот
Дзівы робяцца ў год:
Ажываюць аблогі-імшары,
Загараюцца зоры-стажары,
Асвятляюць вялікі паход.
І спяваюць вятры самагуды
Гучным звонам у струнах дратоў,
На гітарах слупоў,
Што бягуць, як ганцы, з Асінбуду,
Каб працоўнаму вольнаму люду
Прывітанне аддаць хоць без слоў.
Бурны рост. Цвёрды крок. Будаванне.
Зносяць межы ў палях трактары,
Новых дзён песняры, —
Тут будуюць сваё бытаванне,
І сімфоніі працы змагання,
Пролетары, зямлі ўладары!
Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння.
Разагнуўся працоўны твой люд:
Грукат, шум, гоман, гуд...
Пакацілася ліха ў прадонне.
А калі-ж ты, калі, Занямонне,
Адсвяткуеш свой дзень, як мы тут?
Дык дазволь-жа і мне ты, краіна,
Прывітаць малады твой разгон,
Песню-быль, казку-сон.
А ваякам тваім, хто загінуў
За свабоду, працоўных айчыну,
Мой журботны і нізкі паклон.

*1930 г.*

## ПІОНЕРАМ

Шлях паказан вам шырокі,
Шлях прасторны,
Светлы, зорны,
Дык наперад цвёрдым крокам,
Шум вясенні, яснавокі!
Дзеці волі, дзеці буры!
Ваша ранне —
Бой, змаганне:
У Кастрычніцкай віхуры
Карані вашай натуры —
Быць гатовым дружна крочыць,
Сямімільна!
Звенне шчыльна!
Вышай сцяг трымаць рабочы!

*1930 г.*

## ПОЛЬСКІМ КАТАМ

Польшча панскае культуры,
Польшча — блеск Еўропы —
Залівае турмаў муры
Кроўю «хамаў-хлопаў»!
На намыленай вяроўцы
Новы «цуд» Варшавы —
Строяць мудрасць сваю змоўцы,
Ладзяць баль крывавы.
Страх, трывога ў панскім сэрцы —
Вецер дзьме усходні —
І рыхтуюць крывяжэрцы
На усход паходні.
Рып і скрогат надмагільны
На астрожных брамах,
Кат ваенны і цывільны...
Кроў... магілы — ямы!
Вар'яцее ў дзікім жале
Бельведэрскі рыцар,
Часы жудасці паўсталі,

Бы ў век інквізіцый.
Кропка ў кропку, слова ў слова,
Не змяніўшы моды,
Ідуць следам Мураўёва
Панства ваяводы.
Па засценню здзек, расправа
Дэфензіўных катаў...
Гонар, пан Пілсудскі, слава
Панскім тваім пятам!..
Гром арганаў у касцёлах —
Набажэнства «ксендзаў»,
А па местах і па сёлах
Бродзіць голад, нэндза.
Ходзіць крыўда з хаты ў хату,
Сее помсту-злобу
І куе, рыхтуе катам
Гвозд у века гроба...
Непакой у панскім сэрцы —
Час іх сходзіць, гіне.
Не спыніць вам, крывяжэрцы,
Большэвіцкай плыні!

*1931 г.*

## ЯНКУ КУПАЛЕ

*(Да 25-годдзя літаратурнай дзейнасці)*

Была пара. Марнелі нашы гоні
У холадзе жыццёвых непагод.
Ішоў за годам год,
Маўчаў, цярпеў народ,
Заціснуты, задушаны прыгонам.
Была пара. Знямела слова ў краі
Пад уціскам жандарскае нагі.
У полагу смугі
Разлівамі тугі
Звінеў наш сум на гуслях-самаграях.
Журыліся і плакалі іх струны,
Ды слухалі іх толькі дзірваны,
Балоты, курганы
Ды ў межах палыны;

Карчма-ж была і школа і трыбуна!
Ды час прабіў, і волі промень глянуў,
Вясёлкаю прарваўшыся з-за хмар.
Знайшоў ты шлях, пясняр,
Пакрыўджаны свой дар
Панёс ты голасам трыбуна і баяна.
Грымеў твой кліч, іскрылася крыніца
Адточаных, як меч, і выкаваных слоў.
У словах тых было —
Нядоля наша, зло
І заклікі да яснай зараніцы.
Прайшлі гады. Магутны віхар дунуў
У цемру-ноч адвечнае жуды.
Самкнуліся рады
Працоўнай грамады
Пад лозунгам сусветнае комуны.
Упаў тыран. Адчынены дарогі!
Мільёны мас — дзяржава і ўладар...
Грымі-ж яшчэ, пясняр!
Нясі працоўным жар —
Грамчэй заві да новай перамогі.

*1930 г.*

## ДА ТЫДНЯ «БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ»

Быў такі час ліхі
У забытай, галоднай краіне,
У краіне сахі,
Саламянай страхі,
Дзе век-векам жылі на мякіне.

Безыменны быў край,
І народ свайго імя не ведаў.
Ветру песні пеў гай
Ды хадзіў смутны бай
Старасвецкі ад прадзедаў-дзедаў.

Лад тут ладзіў бізун,
Ды свістала па спіне нагайка.

На імшарах — багун,
На Палессі — каўтун.
Вось і слынь наша ўся, наша байка.

Бо хто-ж ведаў, скажы,
Аб забытым народзе і краю?
Цемра зману, ілжы
Тут стаўлялі крыжы,
Як слупы па дарозе да раю.

І былі песняры
І складальнікі розных гісторый;
На шурпатай кары
Клалі знак ведзьмары
На людскую нядолю і гора.

Часы шлі ды плылі,
Абдзіралі народ ліхадзеі.
Так вякамі жылі
На «тутэйшай» зямлі
Без прасветліны і без надзеі.

*

Прайшлі гады
Нуды, бяды,
Нястачы,
Плачу
І жуды.
У бурны год
Паўстаў народ,
Пайшоў на звод
Пан-абармот.

Разгарнуўся
Голы, босы,
Край ачнуўся
Безгалосы,
У вясёлках,
У бліскanні
Заірдзела

Ў восень ранне.
У агністых,
Палкіх словах
Прамяністасць
Далеч новых.

У бунтарскай завірусе
Быў ратунак
Беларусі.

Край вышаў з цёмных нетраў
У подыхах віхуры,
Ачысціла паветра
Кастрычніцкая бура.

*

Змоўкнуў звон хаўтурны
На старых капліцах,
Забурлілі бурна
Новыя крыніцы,
Загулі заводы,
Трактары ў калгасах —
Гімны пра паходы
Рабочага класа.

Зарунелі гоні
Сталінскім засевам,
І спявае сёння
Край наш іншым спевам.

А ў Маскве чырвонай
Падрахункі, чыткі —
Беларусь гамоніць
Пра свае здабыткі.

Ды гамоніць стала
З волі дыктатуры.
Пройдзена-ж нямала
Па шляху культуры.

*

Былі пуціны розныя,
Блуканні без пуцін,
Пуціны ў часы грозныя
Схадзіліся, бы ў клін,

Шырокія і вузкія—
Крывы быў іх разлог,
Краіна-ж беларуская —
Пярэсмыкі дарог.

З іх два найболей бітыя,
Вядомыя шляхі,
Другія ўсе размытыя,
Палын і лапухі.

Адна старая, цёмная,
Дарога абдзірал —
На захадзе, за Нёманам,
Лютуе капітал.

Другая — шыр бязмежная
На ўсход у новы свет,
Бурлівая, мяцежная,
Як волатаўскі след.

Сагнана цьма халодная,
І шыр усім відна,
Жыві-ж, пуціна ўсходняя:
Ты наша, ты адна!

*1931 г.*

## НА ВАРТУ

Крывавыя здані, агністыя бляскі
Фарбуюць манчжурскае неба.
Шакал ненаедны зубамі заляскаў
Ад Токіо і да Сасеба.

Мільёны няшчасных працоўных Кітая
Асуджаны шайкай бандытаў.
Сталіц еўрапейскіх прадажная зграя
Далары бярэ за забітых.

Жандар азіяцкі, японскі пражора,
Ашчэрыўшы воўчыя зубы,
Рве цела Кітая і з сушы і з мора,
Шаленствам запеніўшы губы.

Ён — рыцар «парадку». Берлін і Варшава
І іншыя цэнтры «культуры»
Авансам вітаюць японца-удава,
Абы ён Советы разбурыў.

Заліты крывёю руіны Чапэі...
Цікавы малюнак дарэмны.
І моўчкі бяздушна глядзіць на падзеі
Сэтльмэнт, квартал чужаземны.

А там, у Жэневе, славутая ліга
У вочы пускае туманы,
І покрыва міру, як сцёртая кніга,
Раз'едзена моллю на раны.

Таварышы, слухай! Шакалы ў паходзе,
Учулі сцярвятнікі трупы.
Сусветны разбойнік, культурнейшы злодзей
Падносіць агонь пад халупы.

Нянавісць і злоба заслала ім вочы,
Бо чуюць, што песня іх спета...
Чырвонаармеец, калгаснік, рабочы!
На варту краіны Советаў!

*1932 г.*

## ДА 15-е ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

Былі гады змагання.
    На ростані эпох —
Агністае бліскание
    Вялікіх перамог.
Ішлі, як хвалі, орды
    З усіх канцоў, граніц
Пад грозныя акорды
    Крывавых навальніц.
Вяла іх помста, змова
    Супроць паўстаўшых мас,
Каб пульс эпохі новай
    Спыніць на вечны час,
Каб жудасным разгулам
    Рабочы стан сагнуць,
А прожарам-акулам
    Уладу зноў вярнуць.
Ды грымнуў клік: «Да зброі!
    Пазіцый не здаваць!
Таварышы-героі!
    Советы ратаваць!»
І рушылі мільёны,
    Па голасу ЦК,
Сталёвыя калоны
    І гарт большэвіка.
Паход іх — гоман буры,
    Удары іх — пярун —
За славу дыктатуры,
    Советаў і комун.
Ад поўначы панурай
    Да сонечных гаёў
Віхрыліся віхуры
    Напружаных баёў.
Прасторы Украіны
    І таежны разлог,
І горы, і даліны
    Дыміліся ў агнёх.
Хіснуўся лёс Ваалаў,
    І выпаў яго шчыт —

Разбілася навала
Аб Ленінскі граніт...
Былі гады змагання
На грані двух эпох,
Кастрычніцкіх паўстанняў
Ніхто не перамог.
Ірдзее сцяг чырвоны,
Як водблескі зарніц,
А творчаму разгону
Канца няма, граніц.
У ясныя прасторы
Вандруюць нашы дні,
І ўжо гараць, як зоры,
Дняпроўскія агні.
Скарылася стыхія,
Змяніла свой абраз —
Убачылі й сляпыя,
Што значыць воля мас.
Хоць шлях наш і цярністы,
І труднасцей — мільён,
Ды явай прамяністай
Нас вабіць яснасць дзён...
Праходзіць год за годам,
Выводзіць гмах муроў,
Жывіце-ж вы, паходы
Тытанаў-змагароў!

*1932 г.*

## БУДЗЬЦЕ ЧУЙНЫ

Чорныя цені,
Шэпат таемны,
Шум падазрэнны,
Глухі.
Щворыцца вораг,
Свой, чужаземны,
Намысел тоіць
Ліхі.

Выпаўзлі гады,
Сыкаюць злосна,
Пасці раскрыўшы,
Вужы.
Ткуць дыпламаты
Хітрыя кросны,
Точаць бандыты
Нажы.
Змовы, хаўрусы
Рознай пачвары —
Прагнуць, акулы,
Крыві.
Згледзіш тут шпоры,
Крыж і ціяры,
Голас учуеш —
Даві!
Туга завязан
Вузел з'еднаны
Шаек сусветных,
Банд, зграй.
Ткуцца, плятуцца
Гнусныя планы
Супраць Советаў —
Зважай!
Свет стары гіне,
Сходзіць са сцэны,
Але натворыць
'Шчэ бед.
Стой-жа на варце,
Юная змена,
Чуйна ахоўвай
Совет!

*1932 г*

## БУДЗЬМА ГАТОВЫ

Сышліся прэм'еры,
Фашысты, бандыты,
У вузел спляліся адзін,

І ткуцца іх змовы
Праз чорныя ніты
Насупраць совецкіх краін.
Успенена мора,
Зямля ўзбунтавана,
І глуха вірують віры.
Дзве хвалі, дзве плыні —
Варожыя станы:
Советы і Захад стары.
Там крызіс лютуе,
Там крык безрабоцця —
Сістэма старая згніла.
Там побач з раскошай
Галеча, лахмоцце
І бездані цёмнай імгла.
Тут праца і творчасць,
І веліч разгону,
І яснасць пастаўленых мэт:
Змаганне ў імя
Вызвалення мільёнаў,
Каб сцерці прыгнечання след.
І блізіцца бура,
Бо круг іх замкнёны,
А разам ім месца няма.
Апошні бой грымне —
Той час неўнікнёны,
Гусцее варожая цьма.
Дзве сілы, дзве плыні:
Стары свет і новы,
І нельга тут згоды чакаць.
Працоўныя, чуйце
І будзьце гатовы
Сусветны Кастрычнік спаткаць!

*1932 г.*

## КАЛГАСУ «СЛАБАДА»

Не дужа вялікі калгас «Слабада»,
Ды дужа прыемна яго грамада:
Жанчыны, як вішні, мужчыны — дубы.
А хлопцы, дык хлопцы—гвардзеец любы!

А дзеці! ой, слаўныя дзеці пайшлі!
Яны—аздабленне калгаснай сям'і.
Іх вочкі жывыя і смеласць у іх...
Такіх не бывала у вёсках старых.

Не надта вялікі калгас «Слабада»,
Ды дружна працуе яго грамада.
Калгас ідзе ўгору, калгас — жывы вір,
Калгаснаю справай жыве брыгадзір.

Работа ў калгасе кіпіць і гудзе.
На месцы і старшыня ў «Слабадзе».
І рэчка на месцы, на месцы шаша,
Глядзіш—і вясною квітнее душа.

*1932 г.*

## ШАСНАЦЦАТАЯ ГАДАВІНА

Цвёрды крок жалезнай волі
След пакінуў, як ніколі,
У гэты слаўны год.

Большэвіцкаму напору
Паддаліся скалы, горы
І паўночны лёд.

Гэтай воляй і стыхія
У берагі ўвайшла другія —
Рэкі, вадаспад.

Намаганнем тым геройскім
Па каналу Беламорскім
Пацяклі назад.

У пустэлях Кара-Кума
Гімны пеў маторным шумам
Караван аўто.

То не людзі, а тытаны,
Зразумелі, кім пазваны
Біцца і за што.

І глыбіні стратасферы
Большэвіцкі розум змерыў,
Як ніхто нідзе.

Творчай воляй комуністаў
Шлях праложаны агністы
Вольнай грамадзе.

Днепрабуд, Магнітастроі...
Слава, гонар вам, героі!..
Вораг, чуй, зважай!

Шлях шырокі ў свет адкрыты...
Дык красуйся і жыві ты,
Наш Совецкі край!

*1933 г.*

## НАШЫ ДНІ

Праімчаўся віхор, пыл і затхласць размёў,
Сцяг чырвоны разняўшы ўгары...
Мы, таварышы, мы ўладары
Гэтых фабрык, заводаў і вольных палёў.
Зарунела ралля,
Твар мяняе зямля —
Новы засеў вянкі перамогі заплёў.

У нябыт адыходзіць закляцце вякоў,
Гэты здзек, гэты жах кабалы,
Гэта цемра папоўскай імглы,
Гэта тхлань і насланне ліхіх ведзьмакоў.
Запалілі агні
Большэвіцкія дні
І спалілі нашчэнт звон іржавых акоў.

Не пазнаеш зямлі і вясковых людзей —
Не, не тыя, не тыя яны:
Іншым клопатам людзі паўны,
Крута іх павярнуў большэвік-чарадзей.
Новы гоман наўсцяж,
Замест «мой» громка «наш»
Вылятае з калгасных шчаслівых грудзей.

Знята ўлада зямлі — векавечны прыгон,
Што пракляццем лажыўся на нас.
Я вітаю вялікі, шырокі разгон
Нашых дзён маладых,
Гоман творчасці іх...
Дык ярчэй-жа гары, сонца радасных дзён!

*1933 г.*

## КАМАНІНУ, МОЛАКАВУ І СЛЕПНЁВУ

Панурая поўнач. Халоднае мора,
Дзе бура выводзіць акорды глухія,
Дзе голага лёду пачварныя горы
Вартуюць сакрэты і тайны стыхіі...

Адважныя людзі Совецкай краіны
Пайшлі ў наступленне на тайны прыроды...
Разбілі, расцерлі судно іх ільдзіны
Пад ярасны скогат пургі, непагоды...

Прыкованы вочы, увага мільёнаў
Да лагера Шміта на здрадлівым лёдзе —
Што будзе з іх лёсам над вірам шалёным?
Хто вызавы кіне халоднай прыродзе?

Нашліся ў краіне Советаў тытаны,
Дзе ленінскі геній трымае стырно:

Праз горы, праз нетры, праз пургі, туманы
Вёў смелы Каманін арліна звяно...

Слепнёў і Каманін і Молакаў хмуры!
Дастойны вы песень вялікіх паэтаў:
Вы пакарылі стыхію і буры
Для гордасці, славы Краіны Советаў.

*1934 г.*

## ПАМЯЦІ С. М. КІРАВА

Замоўклі натхнёныя словы
Трыбуна, тытана
Рабочага класа.
І вусны замкнёны сурова —
Жыццё абарвана
Без часу...
У росквіце бурнае сілы
Злачынна і нагла,
Як зубы гадзюкі,
Падсеклі арліныя крылы,
Пульс сэрца, што творчасці прагла,
Спынілі наёмныя рукі.
Вялікае гора і страта!..
Над свежай магілай,
Над урнаю праху
Таварыша, друга і брата
Журботна галовы мы схілім
І пойдзем наперад без страху.
І сцяг яго, кроўю абліты,
Узнімем высока
Над светам, што гіне.
А вораг, яшчэ недабіты,
Успомніць, адчуе глыбока
Жалобу Совецкай краіны!

*1934 г.*

## ВОСЕНЬСКАЕ

### I

Зачынае гоман вецер непакорны
На суровы лад.
Халадзеюць ночы. Шлях ярчэе зорны.
Дні ідуць на спад.
Згорбленая восень пад руку з вятрамі
Клыгае ў імжы
І гірлянд пажоўклых на калгаснай браме
Гойдае брыжы.
Кончылася лета. Адзвінелі песні,
Громы навальніц...
Шкадаваў я колісь у сваім прадвесні
Чуткіх заранiц;
Смуткаваў па леце, як па той каханай,
Што ўзяла спакой,
І ў цішы самотнай з дум усхваляваных
Я вянкі віў ёй.
Многа з таго часу дзён сплыло суровых,
Многа лет прайшло,
І на свет гляджу я сёння з вышак новых
Праз другое шкло.
Бачу і чытаю іншыя скрыжалі —
Credo нашых дзён: —
Вольныя пуціны, сонечныя далі,
Без канца разгон.
І я ў захапленні, радасны і горды
За свой край, народ,
Убіраю ў сэрца дзіўныя акорды,
Творчай сілы ўзлёт...
Вось чаму я сёння не тужу па леце,
Па сваёй вясне
І па тым, што колісь навязаў мне вецер
У юнацкім сне.

## 2. Зямля совецкая.

Многа было сварак, боек, калачэчы
З-за цябе, зямелька
Родная ты наша!
Пільнавалі межаў, хаты свае, печы,
Вузенькіх палосак
І гібельнай пашы.

Не жылі—марнелі на ваччу з павязкай:
Свет быў нам зачынен,
Не было разгону.
Сёння гэта ліха — злыбедная казка,
Дзікі сон-навала,
Вынікшы з прыгону.

Выйдзіце на поле ды зірніце, братцы:
Не акінеш вокам
Польнага разлога!
Гоні — край-прыволле, ёсць на чым разняцца...
Легла ты шырока,
Сельская дарога.

Пазнікалі межы — нудныя адзнакі
Цёмнага бязволля,
Жудкага бязвыйсця.
Шыр і безбярэжжа, дзе вятры-тулякі
Ходзяць станавіта,
Як сваты калісьці.

Гэтакіх прастораў і паны не мелі
І не будуць мець іх,
Трутні, абармоты:
Вырвалі мы з корнем тое пустазелле,
Што смактала сокі
З чорнае галоты.

Час не так вялікі, а якія змены.
І зямля не тая,

І не тыя людзі,
Сходзіць быль-пачвара, як ад сонца цені.
У рабоце дбалай,
У няспынным гудзе.

Глянеш — не пазнаеш сёння ты краіны:
На балотах-багнах
Выраслі пасёлкі,
Засвяцілі ў цемры, замест той лучыны,
Ільічовы лямпы
Ветла, як вясёлкі.

Праляглі утульна праз лясы, праз нетры
Ільняным абрусам
Роўныя дарогі.
Едзеш—сэрцу ўцеха. Лічыш кіламетры,
А іх гэтак многа,
А яны так строгі.

А надыйдзе жніва — высыплюць брыгады,
Загрукоча трактар,
Загудуць машыны.
Ці-ж калі мы снілі аб такіх парадах,
Аб рабоце дружнай
Гуртавай сябрыны?

Не цягае маці за сабой калыску
На кастлявай спіне
Ў жніўны час гарачы.
Не пачуць у полі здушанага піску:
Нашы дзеці ў яслях,
У садах дзіцячых.

І аб нашых дзецях сёння мы не тужым:
Свет ім разгароджан,
Ім дарогі гладкі,
Каб расці і выйсці пакаленнем дужым,
Новым пакаленнем
Большэвіцкай складкі.

Нашы дзеці сёння — самі камандзіры,
Лётчыкі-героі,
Докі-інжынеры.
То-ж яны схадзілі дзікія Паміры
І ў Паўночны полюс
Прабіваюць дзверы.

Хто штурмуе неба ды ідзе ў дазоры,
Дзе ніхто ніколі
Не хадзіў у свеце?
Хто спыняе рэкі і злучае моры?
Гэта нашы людзі,
Гэта нашы дзеці.

Гэтакіх герояў ды такіх адданых
Выхавала мудра
Партыя і Сталін.
Сходзяць з земляў нашых мутныя туманы,
Што ні дзень, то болей
Сонечных прагалін.

Вось чаму я сёння, на ушчэрбе лета,
Не тужу па леце,
Як тужыў калісьці,
Бо-ж і песня-радасць намі не прапета,
Бо-ж вясна гучыць мне
І ў пажоўклым лісці.

*6/IX 1935 г.*

## НА ШЛЮБ ПАНА СТУДНІЦКАГА

Пан Студніцкі кроіць мапу,
Крэмзае задачы.
На Советы зявіць ляпу,
Як на блін гарачы.

Беларусь-жа, Украіна
І ў сне пану сніцца,
І з японцам у хвіліну
Ён гатоў жаніцца.

Сват-жа Гітлер дапаможа,
Каб прыдбаць пасагу
І ад «morza» і да «morza»
Прыме пад увагу.

Пан Студніцкі «ў светлым блудзе»
Вырашае справы,
Вось прастор, раскоша будзе
Антэку з Варшавы!

«Беларуская крыніца»
Згорблена, без шапкі,
Перад панам пала ніцма
На чатыры лапкі.

Падвывае, хоць няўдала,
Тонам недаростка,
Абы толькі перапала
Ёй ад пана костка...

Трызні, пан, пішы пра шлюбы
Тоўстыя трактаты,
Ды глядзі, жаніх бяззубы,
Каб не страціў хаты!

*1935 г.*

## ПАМЯЦІ ГЕРОЯЎ

Для радасці, шчасця магутнай айчыны,
Дзе яркія зоры заззялі,
Арлы новай эры снавалі пуціны
У светлыя, вольныя далі.

І зорныя высі былі іх дарогі,
Іх воля цвярдзей ад граніта,
І смерць іх не вырве наш сцяг перамогі,
Хоць сэрца жалобай спавіта.

Мы схілім галовы над свежай магілай,
Дзе прах свой злажылі героі,
І пойдзем іх шляхам з нязломнаю сілай
І сілы айчыны утроім.

А памяць аб слаўнай кагорце арлінай,
Што выкаваў геній наш, Сталін,
Запішам у сэрцы, як траур краіны,
Каб нашы патомкі іх зналі.

*1935 г.*

## КОМСАМОЛЕЦ МАЙ

Ідзе Май у паходы, дазоры,
Пад штандарам чырвоным ідзе
Цераз пушчы, пустэлі і моры,
Нестрыманы нікім і нідзе.

Пераходзіць граніцы, кардоны,
Бо хто-ж можа яго затрымаць,
Калі з ім баявыя калоны,
Пролетарыяў грозная рaць?

Ідзе май у вясёлкавым ззянні —
Буравей, комсамолец-юнак —
І заве ў прамяністае ранне
Разняволенай працы ваяк.

Няхай цёмная сіла шалее,
Хай зубамі скрыгоча шкілет, —
Зацвіце ва ўсім свеце лілея —
Міжнародны наш Май — агняцвет...

Ідзе Май у вясеннім уборы,
Пад агністым штандарам ідзе
У паходы свае, у дазоры
І магутным разводдзем гудзе...

Прывітаем яго мы, як трэба,
І спаткаем яго, як адзін —
Караваем калгаснага хлеба
І сімфоніяй грознай машын.

*27/IV 1935 г.*

## З ДАРОГІ

*Прысвячаю Заходняй Беларусі*

Мінула шмат гадоў,
І многа змен за час той адбылося!
У подыхах вятроў
Шмат страчана гадоў,
Бы красак тых у выцвіўшым пракосе.

І часта, нібы ў сне,
Мінулае мільгнецца прад вачамі,
Як песня аб вясне,
Аб той, што калісь мне
Няяснымі звінела галасамі.

Пазбыцца гэтых сноў
І з'яў былых не ў сілах я і сёння:
Не-не, ды ўспомню зноў
Той кут, дзе я даўно
Сагрэты быў пяскамі Наднямоння.

Я свет угледзеў там,
Пазнаў складанасць гам яго і тонаў.
Адчуў дзівосны храм —
Злучэнне блеску, плям,
Дзе ўсё дрыжыць, звініць напеўным звонам.

І колькі з'яў і чар
У памяці захована з былога!
Дзяцінства ясных мар
Прывабны скарб і дар,
Як першая ў жыццё мая дарога.

Хоць след пуцін маіх
Засыпан там ужо даўно вятрамі,
Я бачу, як жывых,
Мне блізкіх, дарагіх,
Замучаных панамі і царамі.

Дзяцінства сны мае
І вобразы пад нёманаўскім сонцам!
Як часта паўстае
І вабіць і пяе
Акорд, адспеваны і злучаны з бясконцым!

* * *

Прайшоў час немалы,
К нам светлыя заглянулі дзянніцы,
А там, у бок Сулы,
Драпежныя арлы
Дзюб звесілі ў панурай таямніцы.

Па сходзе многіх дзён
Я зноў зірнуў у вочы родным долам...
Зняменне, ціш і сон,
Убойства і прыгон,
За крыжам крыж, астрогі і касцёлы.

Зноў сунуцца з імглы
Забытыя малюнкі і настроі:
«Двухглавыя» арлы,
Жандар, тупы і злы —
Прыпеўкі ўсё з той оперы старое!

Вось ён, другі жандар...
Нутро адно, хоць іншае аблічча:

Насунут брыль на твар,
Ён бог тут, ён тут цар
І «польскасці» ахова ў прыгранiччы.

Гляджу, лаўлю вакол
Знаёмыя і выцвіўшыя рысы.
Дзе-ж люд, ярэмны вол?
Спусціўшы вочы ў дол,
Ён ходзіць дзесь, адцёрты за кулісы.

Дзе-ж посулы паноў,
Іх лёкаяў аб роўнасці, аб волі?
У дзвеньканні званоў,
У звоне кайданоў,
У свісце бізуноў,
У голадзе, асадніцтве, падполлі!

Дык вось які ты, край,
Прытулак мар і сноў маіх дзяціных!
Стары снуеш ты бай
Пра царскі, панскі «рай»,
Гаротная, знямелая краіна!

Пасечаны лясы,
І толькі хмыз на торфішчы буяе.
Загоны-паясы,
Ні сілы, ні красы, —
На тыя-ж галасы
Звініш, зямля заходняя, старая!

І горкім палыном
Павеяла ад песні, ўжо забытай,
Мой родны край і дом
Пад белым пад арлом!
Нядоляю ты цяжкаю спавіты.

І я, твой родны сын,
Чужынцам у табе сябе ўжо адчуваю.
Прымі-ж хоць на ўспамін
Нататку з пуцявін —
Жальбу маю аб лёсе тваім, краю!

*1935 г.*

## КОМСАМОЛЬЦАМ

Прывет вам, племя маладое,
Зямель савецкіх яснацвет
Дарога ваша — шлях герояў
У новы дзень бліскучы след.

Як сонца, першыя ў паходзе,
Стыхіям злым наперакор,
Ішлі вы з песняй, як разводдзе,
На штурмы скал і дзікіх гор.

Ішлі вы, юнасць-чарадзеі,
З'еднанай сілай грамады,
Перамагаючы завеі,
Дажджы і суш і халады.

І голас вашай песні звонкай
Лавіў прастор нябёс, зямлі,
І ціш балот, і шчыт сасонкі,
Дзе густа збіліся камлі.

Усюды, дзе патрэбна зброя,
Каб перашкоды ўсе скрышыць,
Вы неслі сэрца маладое
І жар юнацкае душы.

І было крэпка ваша раме,
І не стамлялася рука,
Бо Ленін быў заўсёды з вамі,
Быў з вамі гарт большэвіка.

І вам дарогу саступалі
Пустэлі, пушчы і снягі,
Бо даручыў таварыш Сталін
Вам комсамольскія сцягі.

Прывет вам, войска маладое,
Загартаванае ў баях.
Дарога ваша — след герояў,
Былінны эпас — зорны шлях.

Ідзіце-ж гэтак-жа і далей!
Прывет вам, родныя, прывет!
Пад комсамольскай гулкай хваляй
Ці-ж устаіць варожы свет?

*1935 г.*

## РАСКУТЫ ПРАМЕТЭЙ

Зашумела, забурліла
Вольная крыніца,
Ды такая яе сіла,
Што адно — дзівіцца!
Верне горы, зносіць скалы,
Запрагае рэкі,
Каб сузор'ямі бліскала,
Дзе быў мрок век-векам,
Каб жывіла рух заводаў
Электрычным токам
Ды совецкаму народу
Несла дзень далёка.
Цуды творыць сіла тая
На зямлі, на моры,
Ды за воблакі ўзлятае
К зорам у дазоры.
Разнімае плечы-крыллі
Праметэй раскуты.
Нашы дні — паэмы-былі,
Сказ нідзе нячуты.
Хто і скуль яны, герої,
Дземчэнка, Стаханаў,
Што ідуць напорным строем,
Крокам веліканаў?
Не было яшчэ на свеце
Ім герояў роўных,
Бо такія ужо дзеці
Вольных мас працоўных!

Слава, чэсць табе, Краіна,
І тваім узлётам —
Большэвіцкім пуцявінам,
Сонечным яснотам!

*1935 г.*

## ПЕСНЯ КАСТРЫЧНІКУ

Вялік разгон,
Шырок размах
Нястрымнай гулкай хвалі,
Мы ў плынях дзён
Праводзім шлях
У сонечныя далі.

І што ні год —
Гучней паток
Імкне пад сцяг чырвоны.
Смялее ўзлёт,
Цвярдзее крок —
Ідуць, ідуць калоны.

Вядзе на бой
Іх наш стратэг,
Маяк наш, слаўны Сталін.
Шуміць гразой
Ён, наш разбег,
Імклівасць творчай хвалі.

Глядзім мы ўдаль,
У шыр пуцін
Без страху, без трывогі:
Краіна — сталь,
Акорд машын.
То — песня перамогі.

А ўсцяж граніц
Стаіць скала

Байцоў чырвонай раці.
Агні зарніц,
Узрок арла —
Ахова нашай працы.

Прайшла яна
Праз громы, дым
І ворагаў скрышыла.
Вайне — вайна.
Жыві, наш Клім,
Наш маршал Варашылаў.

Вялік разгон,
Шырок размах
Імклівай творчай хвалі.
У яснасць дзён
Пралажым шлях.
Вядзі-ж нас, мудры Сталін.

*24 кастрычніка 1935 г.*

## ШЧАСЛІВАЯ ХВІЛІНА

Нясе маці з ясляў сына,
Песціць яго, туліць
Ды варкуе з яснай мінай
Так, каб іх не чулі:

«Брыгадзір ты мой удалы,
Цвецік свежы макаў!
Як цябе там даглядалі?
Мо' ты ў яслях плакаў?

Не? Не плакаў? Малайчына,
Мой калгаснік слаўны,
Мой ударнік, хват-мужчына,
Трактарыст упраўны.

А я ў полі прыбіраю
Жыта ў перавяслы

Ды сама сябе пытаю:
Як мой сын у яслях?

А сынок мой чысты, мыты —
Маладзічок ясны!
І расчэсаны, глядзі ты,
Кудраў яго пасмы.

Вот мой сын які шчаслівы.
Як аб ім тут дбаюць.
Бо ты-ж рунь калгаснай нівы
У Совецкім краю.

А на лета мы адчынім
Яшчэ й сад дзіцячы.
Вось дзе будзе рай хлапчыне!
Вось дзе ён заскача!

А там цацак — падзівіцца!
Ды якія цацкі?!
Ты з іх зложыш дом з святліцай,
Клуб змайструеш хвацкі.

Падрасцеш — вучыцца будзеш
І чым далей — болей,
А кім быці, сам рассудзіш
Сваёй добрай воляй.

Можа будзеш інжынерам,
Можа аграномам,
Бо-ж нам вольны ўсюды дзверы,
Дома і за домам.

Ці ты будзеш лётчык смелы,
Каб у небе плаваць,
Ды прастор яго знямелы
Поўніць лётнай славай.

Праляціш над нашым полем
Ты на самалёце,

Калі я там, мой саколе,
Буду на рабоце.

Загудзе машына ў небе
Пераможна-звонка.
Схісянецца збожжа ў глебе,
Сціхне ў нас гамонка.

Мы рукой прыслонім вочы
Ды зірнем угору,
Дзе грыміць ён, дзе якоча
Самалёт маторам.

А ён мкне, напорны, бурны,
Грозным ураганам,
Потым робіць круг фігурны
Унь над тым курганам.

Ты скідаеш з самалёта
Мне на павітанне
Ліст ад сына, ад пілота
Калгасніцы Ганне!

Ото-ж матцы радасць будзе
За пілота-сына,
І пахваляць цябе людзі,
Скажуць — наш хлапчына!

Хлопчык з усміхам шчаслівым
Слухае матулю
І да маткі так жычліва
Шчочку сваю туліць.

*1935 г.*

## ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС

Леглі шырока нівы калгасаў.
Глянеш — разлог, далячынь.
Стужак дарожных роўныя пасы
Мераюць смужную сінь.

Ходзіць паважна дбалы араты,
Трактар — палёў гаспадар,
Дужы і ў працы спорны, заўзяты,
Ходзіць, гамоніць абшар.

Скінуты межы, свет разгароджан —
Далеч, бязмежны простор.
Яснае заўтра, дзень наш прыгожы,
Досвіткаў тысячы зор!

Змоўкла ў прасторах песня старая,
Скаргі адвечны палон:
Вольная праца нас адарае
Песняю радасных дзён.

Песні гавораць — жыць стала лепей,
Песні, як мак, расцвілі,
Поўняцца імі горы і стэпы
Нашай Совецкай зямлі.

Плаваюць песні звонам-разлівам,
Песні расквечаных дзён,
Песням вясёлым, песням шчаслівым
Хочацца ўторыць у тон.

Марш перамогі ў радасным гудзе.
Хіба-ж не радасць наш час?
Краю Совецкі, новыя людзі!
Песняй вітаю я вас!

*1936 г.*

## ПЕСНЯРАМ СОВЕЦКАЙ ЗЯМЛІ

Мы расчынім вам дзверы гасцінна
І сустрэнем, як родных сваіх,
Ды на покуць, як быць і павінна,
Вас пасадзім, гасцей дарагіх.

У прыязнай і шчырай бяседзе
Падагулім здабыткі свае,
Што зрабілі і мы і суседзі
І чаго яшчэ нам не стае.

Мы—сям'я маналітнай краіны,
Дзе Советы трымаюць стырно.
Нам, як дзень, нашы ясны пуціны,
На увазе-ж мець будзем адно:

Для радзімы свае складаць песні,
Як нідзе і ніхто не складаў,
Каб спявала іх з намі сумесна
Па ўсім свеце адна грамада.

Прывітанне вам, госці, баяны
Неасяжна вялікай зямлі,
Што разводдзем вясеннім з'едналым
На совецкія гоні ўсплылі.

*7/II 1936 г.*

## У МАЙСКІЯ ДНІ

Пеў я песні коліс
У журботным тоне
Без пустых прыкрас,
Бо не меў я волі,
Бо быў я ў палоне,
Бо такі быў час.
Ліха тое сёння
Адышло далёка,
Зарасло быллём.
Цёмнае прадонне,
Дзе адчай галёкаў,
Знішчана суздром.
Гляну я навокал
Ды зірну я ў далі —
Шырыня, разгон!

Цешаць маё вока
Сонечныя хвалі
Нашых ясных дзён.
Вольныя разлогі
Без мяжы-граніцы,
Гмах калгасных ніў —
Воля перамогі,
Водблескі зарніцы,
Аб якіх не сніў.
На зямлі раскутай
Веснавым напевам
Носяць шум вятры —
Сказ, нідзе нячуты,
Радасць-неспадзевы,
Новыя дары.
І шуміць мне вецер
Роднае краіны,
Як вяшчун-баян:
«Пройдзе Май па свеце
Зорнаю пуцінай,
Разагнуўшы стан.
Няхай вар'яцее
Гітлер цемрашалы
І яго хаўрус:
Май вясною вее,
На пагост з'імшалы
Сцеле ім абрус!»
Ходзіць вецер долам
Лёгкаю паходкай
І вядзе свой бай:
«Пройдзе Май вясёлы
Шумнаю паводкай,
Пераможны Май!»
Веснавым напевам
Па зямлі раскутай
Носяць шум вятры:
«Большэвіцкім гневам
Знят ланцуг пакуты, —
Вы — гаспадары!»

Песнямі прывета
Ветру ўтораць далі,
А мы ім у тон:
«Дзякуй вам за гэта,
Партыя і Сталін!
Шчыры вам паклон!»

*1936 г.*

## ГЕРАІЧНАЙ ІСПАНІІ

На варту свабоды і шчасця народаў
Пазвала гісторыя вас.
Мужайцеся, брацце, ў гадзіну нягодаў
І верце — надыйдзе ваш час.

Няхай вар'яцеюць пачварныя здані,
Што свету будуюць астрог:
Яны захлынуцца ў крывавым тумане
Сваіх-жа зладзейскіх дарог.

Яны не пяройдуць мяжы, на каторай
Сурова паўстане Мадрыд.
І знойдзе магілу ў рабочых разорах
І свой і замежны бандыт.

Рыхтуйце пагібель ліхім крыважэрцам,
Што носяць забойства кляймо.
Мы з вамі заўсёды і ў мыслях і сэрцам
І руку мы вам падамо.

Прымі-ж прывітанне ад вольнай краіны,
Працоўны іспанскі народ!
Жалезнай кагортай з'еднанай сябрыны
На ворагаў дружна ўпярод!

* * *

Эх, словы! чаму вы
Не віхар, не гром?

Пастроіў-бы вам я
З паветра парам,

Падняў-бы высока
У смутную сінь,
Мінуўшы прасторы
Чужых далячынь.

Праз горы і моры
Пранёс-бы я вас
Над Навалькарнера,
Мадрыд, Ільескас.

І з высей блакітных
Дажджом агнявым
На голавы-б рушыў
Забойцам ліхім,

Каб знішчыў дашчэнту
Ваш бурны палёт
Наёмнікаў Рыма
І Гітлераў зброд...

Эх, словы! чаму вы
Не віхар, не гром?
Чаму вас не рыну
Агнём, перуном?

## ДЗЕД-КАЛГАСНІК

Калгасная хата. Багоў ані следу.
Угоднік святы Мікалай
Не рупіць сягоння калгасніку-дзеду —
Газеты яму падавай.

На сценах — выдатныя, здольныя людзі —
Ударнікі і правадыры,
Што волі імкненне да радасці будзяць,
На землю рай зносяць з гары.

І дзед гэтак сама не лыкам падшыты:
Ударнік. Яму, батраку,
Сам маршал Будзённы, яздок знамяніты,
З падзякаю ціснуў руку.

У дзеда на стайні такія ўжо коні,
Што хоць з іх малюнкі пішы,
А сядзеш, і вецер цябе не дагоніць,
Як бура, прамчыць па шашы.

Гарыць над абрусам не тая газоўка,
Не тая куравасць карча,
А лямпа, што свеціць, як сонца ў пятроўкі, —
Дзівосны агонь Ільіча.

Паважная постаць у дзеда Грыгора:
Уздзеў акуляры на нос,
І мыслі пабеглі кудысь аж за мора,
Дзе чыйся рашаецца лёс.

Ён так углыбіўся ў газеты! Чытае,
Эх, грозны падзеяў развой!
Куды завядзе інтэрвенцыя тая,
Той наглы фашысцкі разбой?

Куды яна прэцца, фашызма агіда?
Не ёй-жа на свеце ўладаць?
І дзед разважае аб лёсах Мадрыда
І як яму помач падаць.

А потым адводзіць свой зрок ад газеты
І родны прыгадвае край.
За шчасце, за волю, за край родны гэты,
Ну, хто не паўстане, спытай?

*10/XI 1936 г.*

## САБЕ І СВАІМ РАВЕСНІКАМ

Ідуць за падзеяй падзеі,
За годам праходзяць гады.
Зірнеш на сябе, добрадзеі, —
Эх, дзе-ж ён, твой час малады!
Глядзіш — насядаюць маршчыны,
У вусах блішчыць сівізна...
Калі, ну калі вы, часіны,
Зрабілі старога з блазна?
Няма тае лёгкасці, спрыту,
Бурчыш, асуджаеш грахі:
Гарэзнасць свая ўжо забыта,
Цішэеш, як вечар глухі.
Звычайная, простая з'ява,
Закон адзінакі для ўсіх,
А ў люстра зірнеш — не цікава,
Няўзнак засумуеш на міг.
Ды чорт яе, з той сівізною:
Хай лысіна свеціць, як блін,
Ты-ж клыгай старэцкай ступою,
А думай — мне дваццаць адзін!

*13/XII 1936 г.*

## НАПЕРАД

Грымяць многаспеўнасцю гукаў супольных,
Як гімн перамогі, вясной ручаі,
І мары аб сонцы струменяць гаі,
І тоіцца мудрасць у далечах вольных.

Ёсць чары-прывабы прастораў наддольных,
Што лучаць бязмежным блакітам краі,
Як родных яшчэ несабранай сям'і,
Каб дружба гучэла у песнях застольных.

І хто засумуе па новай радзіме?
Ці прыдзе вялікі той час і калі?
І як яго людскасць раскутая ўспрыме?

Праслаўлена будзе цудоўнае імя
Таго, хто рассуне граніцы зямлі
І мудрасцю праўды краіны абніме.

Рассыпаны зоры брыльянтавым пухам,
І Млечнага шляху ляжаць абрусы
Таемным акордам спрадвечнай красы,
Як водгулле змоўкшай даўно завірухі.

У калавароце няспыннага руху,
У сонцавым ззянні, у блеску расы —
Усюды разліты жыцця галасы,
І многа ў іх сэнсу для чуткага слуху.

Раджаюцца, гаснуць заранкі і ночы,
Мяняюцца ходы прыліваў і рэк,
І ў часах губляецца голас прарочы.

Азначан для кожнай істоты свой век.
Жыццё-ж безупынна ўсё крочыць і крочыць,
А разам з ім вечны юнак-чалавек.

Наперад, вандроўнік! А шлях так багаты:
Якія разлогі навокал, зірні!
Усходняе сонца запаліць агні,
Рассее праменні, як сейбіт зярняты.

Сустрэнецца вецер з табою крылаты,
І гром табе голас падасць з вышыні,
Пачуеш ты скаргі і сум цішыні,
Ты праўду пазнаеш у мроку зацятым.

Вітай-жа дарогі і новыя далі,
І вечнага руху святыя скрыжалі,

І юнасць людскую, і мудрае слова,
І ясную радасць дабра, перамог,
І гэты шырокі, чароўны разлог,
Дзе заўжды прыгожа ўсё, молада, нова.

*5-8/IV 1937 г.*

## КОМСАМОЛЬЦАМ

Аб змене чырвонай даўно грыміць слава:
Здабыў ты законнае права,
Атрад баявы комсамольскі, на гэта.

Вы ў першых шарэнгах, са звонкаю песняй,
Напорна ішлі, як прадвесне,
На штурмы стыхіі пад сцягам Советаў.

Крышыліся скалы пад вашым напорам,
Вы смела ўзнімаліся к зорам,
Каб Сталінскім шляхам прабіцца ў вышыні.
Вас ведаюць тундры, тайга, запаляр'е,
Гарачы пясок Аму-Дар'і,
Суровы Памір, Кара-Кума пустыні.

Вас ведаюць нетры зямлі і глыб мора,
Усюды ішлі вы ў дазоры,
І голас ваш звонкі ўзнімаўся над долам.
І ведае вораг, ліхі чужаніца,
Як моцна стаіць на граніцы
Адданая, мужная раць комсамола.

І ўсюды, дзе толькі вас партыя звала,
Ішлі вы, як буры навала,
З парывам юнацкім, з адважнаю воляй.
А следам за вамі пачэснай дарогай
Нязменна ішла перамога,
Як моладасць ваша, як светлая доля.
Дык з Новым-жа Годам вітаю вас шчыра!
Няхай яшчэ вышай і шырай
Узносіць вас юнасць у ясныя далі,
Каб новаю сілай і новым узлётам

Была ваша справа, работа,
Каб новыя песні пра вас мы складалі.

*1937 г.*

## ПЕРАМОЖНЫ МАЙ

Дарогай вольнай, зорнаю,
Шырокаю, прасторнаю,
Як наш Савецкі край,
На свята ўсенароднае
К нам з песняю паходнаю
Ідзе вясёлы Май.

З усмешкаю шчаслівацю,
Як сонейка, зычлівацю,
Задзівіцца юнак:
Такая шыр бязмежная,
Бурлівая, мяцежная, —
Што крок, то волі знак!

Калоны за калонамі
Пад сцягамі чырвонымі
Ідуць, як хвалі рэк,
Няспынныя, імклівыя,
Вясёлыя, шумлівыя,
Бо знішчан гнёт і здзек.

Далінамі, прагаламі
Бяжыць вада каналамі, —
Вялікі волжскі шлях...
Пад краснаю сталіцаю
Вясёлкай-бліскавіцаю
Іграе морскі гмах.

У гмаху тым струменіцца,
Жыве. гарыць. праменіцца
Душа правадыра.
І Сталіну, як зодчаму,

І простаму рабочаму
Гукаем мы «ура!»

Дарогай вольнай, зорнаю,
Нізіннаю і горнаю
Прайдзі ты, юны Май,
З канца ў канец краіны ўсе.
Працоўны люд у іх красе
Ты з воляй прывітай.

*22/IV 1937 г.*

## РАДАСЦЬ

Ходзіць вецер па даліне,
Ходзіць-павявае
Ды пра радасць мне, дзяўчыне,
Песні напявае.
Разасláліся шырока
Ветлыя дарогі.
Я ступаю смелым крокам
Без тугі, трывогі.
Выйду, гляну я на поле,
Гляну — усміхнуся:
Дзе-ж такое ёсць раздолле
Для цябе, Ганýся?
Зняты межы — знак варожы,
Гмахі—задзівіцца!
Ой, ты, поле! Як прыгожа
Ты ў калгаснай світцы!
Дзе ліхое беззямелле —
Гора бацькі, дзеда?
Разам з панскім пустазеллем
Знішчана без следу.
Скасавалі вашу ролю,
Вузкія загоны:
Не прытуліце вы болей
Слёз, нуды, праклёну.
Носіць поле гоман новы —
Жыта жнуць жняяркі,

Рэжа скібы вол сталёвы
Большэвіцкай маркі.
І гамоняць нашы нівы
Буйным ураджаем.
Ходзіць ён, дружок зычлівы,
Па Совецкім краю!
Хай лепш ворагі-зладзюгі
Не чыняць ліха, здраду, —
Не, не вернуць іх патугі
Праклятага ладу.

*

Ходзіць вецер далінаю,
Ходзіць каля гаю.
І я вольнай пуцінаю
Іду, дзе жадаю.
Расчынілі мне гасцінна
Ясныя дарогі —
Ідзі ўперад несупынна:
Зняты ўсе парогі.
Я — камбайнер, трактарыстка,
Кіраўнік брыгады.
Я — пілот, парашутыстка,
І мне ўсюды рады.
Я — дырэктар на заводзе,
Аграном, вучоны...
Ці было калі ў народзе
Столькі нам разгону?
І ў сям'і мне воля вее:
Без царквы, без бога
Сама выберу сабе я
Друга дарагога.
Дзе-ж так вольна ў свеце жыці?
Ці-ж не радасць гэта?
Як-жа край свой не любіці,
Родны край Советаў!

*1937 г.*

## ДА ДНЯ 20-й ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

Сцягоў агністых мора
Струменіцца ў прасторы,
Як сонечны прамень.
Над радаснай краінай
Расквечанай пуцінай
Ідзе наш ясны дзень.
Раскатам многаструнным,
Узнімным, дружным, юным
Грыміць з ім песень хор.
Выходзь, народ працоўны,
Вітай свой дзень цудоўны,
Што даў табе прастор.
Успомні час бурлівы,
Як геній празарлівы
Склікаў цябе на бой...
Разбіты ўсе аковы.
Як золак, шлях ружовы
Разгорнут прад табой,
Вялікаму з вялікіх
На мовах многалікіх
Нясем мы песень дар,
І тым, хто ў дні паўстання
За праўду на змаганне
Нёс ленінскі штандар.
Сцягі, агні, як зоры,
Струменяцца ў прасторы,
Іграюць, як прамень.
Над вольнаю краінай
Прасторнаю пуцінай
Ідзе наш ясны дзень.

*16/X 1937 г.*

## ПРАДВЫБАРНАЕ

Паважна так і урачыста
Гамонка сялянскіх бясед.
Сышліся на сход усе чыста,
Каб выбраць Вярхоўны Совет.

Вялікая-ж гэта падзея —
Ей сведкай не быў яшчэ свет:
То новая зорка ірдзее
І свеціць на тысячы лет.

У Сталінскім мудрым законе
Дзівосныя мары жывуць,
Што праўдаю сталі сягоння,
Што к шчасцю народы завуць.

Разбіты старыя скрыжалі,
Адвечнае знішчана зло.
Шырокаю сонечнай хваляй
Разліта навукі святло.

Праároблена свету на дзіва
Работа за дваццаць гадоў:
Узораны новыя нівы,
Гмах новых шуміць гарадоў.

Праз немарач, дзебры і скалы
Дарогі-палотны ляглі,
І носяць паслушна каналы
З калгасным дабром караблі.

Прарэзаны нетры і горы,
Парушан іх сон і спакой,
І вынікла новае мора,
Пакорнае волі людской.

І наперакор перашкодам
Стыхійную сілу зямлі
На службу совецкім народам
У моцныя рукі ўзялі.

Нам служаць надземныя высі,
Прастор ледзяных далячынь,
І морам садоў разліліся
Бясплодныя гоні пустынь.

З галечы, з руін спусташэння,
Як волат, падняўся народ,
Нястрымная воля імкнення,
Нябачаны творчы палёт.

І гэта гранітная воля
Свой гарт набыла ў барацьбе,
Дзе першая слаўная роля
Належыць, наш геній, табе.

І лепшых людзей і герояў —
Тваіх выхаванцаў, наш цвет, —
Мы дружна і з шчырай душою
Пашлем у Вярхоўны Совет.

*20/XI 1937 г.*

## ДА ВЫБАРАЎ ПА СТАЛІНСКАЙ КАНСТЫТУЦЫІ

Я за тых падам свой голас,
Хто працуе чэсна, дбала,
Хто кладзе трудоў нямала,
Каб жыццё закрасавала,
Як дзянніца мая;
Хто, адмёўшы твань старую,
Ідзе ў далеч маладую,
Хто гартуе баявую
Моц нашаму краю;
Хто ў час кожны і хвіліну
Стаць гатовы за айчыну,
Каб зламаць хрыбет змяіны
Шкоднікам і гадам;
Хто на полі, на заводзе,
Як вясенняе разводдзе,
У стаханаўскім паходзе
Ідзе новым ладам, —
Я за іх падам свой голас.

*30/X 1937 г.*

## ДЗЕД І ЎНУК

Дзед Міхалка і ўнук Грыша —
Прыклад дружбы ў хаце.
Дружба ім законы піша,
Дружба грэе іх, калыша,
Ну, як тая маці.

Яны ўсюды неразлучны —
На дварэ, на печы,
Яны знойдуць момант зручны
Для гамонкі, песні гучнай
І для кожнай рэчы.

Дружба крэпкая навекі
Лучыць дзеда, ўнука;
Ды сягоння на час нейкі
Двум дружакам небяспека —
Сочыць іх разлука.

Дзед убраўся, як у свята,
І падмаладзіўся,
Боты вычысціў багата —
Гэтак ззяюць зухавата,
Што ўнук аж здзівіўся.

На дварэ-ж Мышак і Гнеды
Запрэжаны цугам.
— Ну, брат Грышка, дык я еду, —
Пазірае ўнук на дзеда,
На старога друга.

І гаворыць дзеду Грышка:
— Эх, дзядок, як шкода!
Табе восемдзесят з лішкам,
А мне толькі дзевяць блізка,
Дык пазыч мне годаў.

Я таксама з усёй сілай
Крыкнуў-бы раз-по-раз:

Родны Сталін, любы, мілы,
І ты, маршал Варашылаў! —
Наце вам мой голас!

*II/XII 1937 г.*

## НАРОДАМ СССР

Быў час небяспечны, трывожны,
У дзверы Совецкай зямлі
Ламаліся ворагі, йшлі
На гарады нашы, пожні.

Была іх вялікая сіла,
І моцна сціскалі гужы
Бандыты свае, з-за мяжы,
І нам рыхтавалі магілы.

А мы знемагалі ў нястачы,
А мы былі ў сціску, бядзе,
І нам дапамогі нідзе,
Нас голад гнуў, холад лядачы.

Ды клікнуў кліч Ленін: «Да зброі!
На варту зямлі і свабод!
На ворага дружна ў паход!
Советы ратуйце, герої!»

І голас пранёсся, як бура,
Па ўзгор'ях, па гмахах раўнін,
І рушыў народ, як адзін,
І ворагу справіў хаўтуры.

З тых часаў мінула шмат годаў,
Рэспублікі нашы — скала,
А сілу ім дружба дала —
З'еднанасць совецкіх народаў.

І я сёння — горды, шчаслівы
За нашу з'еднанасць, сям'ю,

Радзіму да сэрца тулю
І сказ ёй прыношу зычлівы.

Народы вялікай краіны,
Што селі ў пачэсным куце!
Няхай наша дружба цвіце,
Каб сонцам ірдзелі пуціны.

*21/X 1937 г.*

## ЖЫВЕ РУСТАВЕЛІ

Ні буры, ні віхры, ні чорныя годы
Яго не здалелі:
У сказах-былінах, у думах народа
Жыве Руставелі.
У чыстых крыніцах натхнёнага слова,
У песеннай трэлі,
Для вечнасці спетай баянам сурова
Жыве Руставелі.
У ясных зарніцах пясьнярскага дара,
Што ў далях ірдзелі,
У гуках дзівосных, у казачных чарах
Жыве Руставелі.
У строфах пра «Віцязя ў тыгравай шкуры»,
Якіх 'шчэ не мелі,
У вобразах яркіх, ярчэй ад лазуры,
Жыве Руставелі.
У светлых імкненнях, чым сэрца людское
Гарыць і гарэла,
У шуме змагання, у цішах спакою
Жыве Руставелі.
Цудоўныя струны ў Грузіі роднай
Даўно празвінелі,
Пад сонцам совецкім народам свабодным
Расцвіў Руставелі.

*15/XII 1937 г.*

## Я — БАЕЦ ЧЫРВОНЫ

Шлях мой слаўны і шырокі.
Выпаў гонар мне высокі:
Я — баец чырвоны.

Я не знаю большай чэсці,
Як святы доўг чэсна несці —
Стаць на абарону.

Вартаваць свой край, граніцы,
Як вачэй сваіх зяніцы,
Як наш скарб бясцэнны.

Бо я знаю — землі нашы,
Горы, моры, нівы, пашы,
Для ўсіх нас свяшчэнны.

За іх кроў бацькоў праліта.
Праз горніла мук здабыта
Наша доля, воля.

Бо на гэтых землях, нівах
Мой народ жыве шчасліва,
Як не жыў ніколі.

І я, радасны, вясёлы,
Іду ў Армію — у школу
Сталінскае складкі.

Я ўсяму народу, краю
Урачыста абяцаю —
Для радзімы-маткі

Сіл сваіх не пашкадую,
Волю ўзброю маладую
На пачэснай варце.

Каб сам маршал Варашылаў
Мне сказаў з усмешкай мілай:
— Малайчына, браце!

*5/IX 1938 г.*

## ВУСЦЕ

Я зноў жыву ад горада ўдалі,
Дзе я знайшоў куток у сваім гусце.
І весела мне робіцца, калі
Я ў мыслях зноў прайдуся па зямлі,
Дзе туліцца закінутае Вусце.

Няхай сабе пясчаны гэты кут,
Няхай няма ў ім роскашы паўднёвай,
Ды мілы ён, прыветны яго люд,
Так ласкава глядзяць узгоркі, груд
У вопратках расліны адмысловай.

А гэтыя бародкі-хвайнякі
І жоўць пяскоў на сонечным угрэве!
У летнія гарачыя дзянькі
Смалісты пах разносіцца такі,
Што п'еш яго ў ветравым павеве.

Якія там чароўныя лясы
З дарожкамі і сцежкамі між сосен!
І колькі ў іх спакою і красы!
І колькі там наткалі верасы,
Гваздзіка белая дыванаў сваіх, кросен!

Прыпынішся у зацішку адзін,
Ваколіцы акідваеш вачамі.
Струменіцца цяплынь з лясоў, з далін
І тонкая смуга свой лёгкі тын
За Свіслаччу стаўляе над палямі.

Жыве, дрыжыць, хвалюецца прастор.
І кожнае стварэнне робіць штосьці:
Капошацца мурашкі каля нор,
Дзе коўрыкі развешвае чабор
Ды пчол к сабе заваблівае ў госці.

Пад горкаю, бы срэбраны равок,
Паблісквае на сонцы Балачанка.

І хіліць так утульны беражок,
Так добра там, прылёгшы на пясок,
Папесціцца ружовым летнім ранкам!

Як волаты, за рэчкаю дубы
Шатры свае раскінулі над долам,
Зірнеш на іх—гвардзеец з іх любы!
А гордыя вяршаліны-чубы
Не кланяюцца непагадзі чолам.

За Балачанкаю, дзе Блужскі бор
Вясёлую пазіцыю займае,
Адна сасна вартуе касагор,
Над хвойнікам схіліўшы свой убор,
Бы тоіць сум, журбу ў сабе старая.

Нацягнутыя струны цішыні
Разносяць звон крылатага стварэння.
А вось матор загуў у глыбіні
Блакітнага прастору: нашы дні
У сонечным купаюцца праменні.

Гудзе, імкне над доламі крылан,
Над хатамі вусцянскага пасёлка.
А хаты ўсё—стары, даўнейшы план,
Трухлявая салома і паркан —
Далёкае мінуўшчыны асколкі.

І марам я сваім тут волю дам,
І думаю, што будзе ў нашым краю:
Змятуць калгаснікі драўляны хлам,
Я новыя катэджы ўбачу сам,
І Вусця я на Бадэн не змяняю.

*1937 г.*

## ВУСЦЯНСКІ ГРУД

Грудок удалы я сабе абраў
І часта ў вольныя часіны
Саджуся там, каля хваіны,
Гляджу ды слухаю навіны,
П'ючы мяды лясоў і запах траў.

Не славіцца багаццем мой грудок,
Але ён просты і адкрыты,
Сіўцом, чаборыкам спавіты,
Дзе пчолкі звоняць самавіта,
Збіраючы па кропельцы мядок.

Гваздзічка белая рассыпана вакол, —
Нібы махрыстыя сняжынкі
Ляглі на тонкія націнкі,
Прыгнуўшы кволыя раслінкі,
Аздобіўшы пясчаны гэты дол.

З грудка відаць прыгожы краявід.
У ткань атулены сінечы.
Унь гурт дубоў шырокаплечых
Стаіць, нібы на нейкім вечы,
І сонейка узносіць на свой шчыт.

А там лугі па Свіслачы ляглі
З іх купамі лазы, алешын;
І астраўкі, і пустак плешы,
Дзе сіняваты шоўк развешан,
Што выткалі ім подыхі зямлі.

А па лугах паходжваюць буслы,
Сурдут надзеўшы чорнапёры;
Агледзяць ніз і касагоры,
Як землямеры-рэвізоры
Ці нейкія важнецкія паслы.

Брыльянтамі паблісквае раса, —
Сляды, дзе пройдзе паляўнічы,
Шукаючы ў тым лузе дзічы.
І колькі радасці ў абліччы,
Калі ён спойме часам бекаса!

З грудка мне ўсё відаць і ўсё чутно:
І трактар дзесь з-за Балачанкі,
І гром сталёвае крыланкі,
І спеў дзявочы з Беразянкі, —
А неба ўсцяж — блакітнае акно.

З свайго-ж грудка ў засушлівыя дні
Гляджу ў акно гэта на хмары,
І падпадаю пад іх чары;
Вачэй не зводжу з іх гушчары,
Дзе гром грыміць і ўспыхваюць агні.

Цяпер жыву ад Вусця я ўдалі.
Сяджу між кніг, чарніл, паперы.
На думкі прыдуць лес і зверы,
Грыбы і рыба на вячэру,
Прастор і скарб калгаснае зямлі.

А з думак тых звіваецца вянок.
У ім—цяплынь і голас лета,
І дол, праменнямі сагрэты,
І мары мірныя паэта —
То дар табе, Вусцянскі мой грудок!

*18/X 1938 г.*

## НАД СВІСЛАЧЧУ

Растрэслі адзенне лясы,
Даўно адцвілі верасы,
І травы павялі.
Глядзяць сіратою лугі,
Пажоўклі, аселі стагі,
Да долу прыпалі.
Разліта сумоты пячаць,
І кроплі імжакі блішчаць.

Як слёзы на вецці.
І я мімаволі не раз
У восеньскі спознены час
Успомню аб леце.
У мыслях лячу я туды,
Дзе сонца, лясы і груды
З дубамі, з травою.
І, нібы чаруючы сон,
Малюнкаў і песень шум-звон
Плывуць нада мною.

* * *

Усходзіць сонца з-за Блужскага бору
І сцеле на ўзгоркі парчу залатую,
Развешвае чырвань на хвою унь тую,
Што туліць, як маці, сям'ю маладую
Хваінак, паросшых па касагору.

Ружовыя хмаркі згортваюць шоўкі, —
Відаць, каб на сонцы яны не зліналі, —
А росы на травах блішчаць, бы каралі.
Спакой урачысты захоўваюць далі,
Птушыныя ловяць песні-размоўкі.

Як слаўна, як хораша ў летняе ранне,
Калі атрасаюць сон ціхія гоні,
Дзе жыта пачціва калосікі клоніць,
А дымка туману кладзецца на тоні,
І луг ажывае у поўным убранні!

Выходжу на луг, на Свіслач шыбую
Ды з вудамі, з хлебам, з чарвямі і босы.
Мне ногі змываюць крыштальныя росы.
Я моўчкі вітаю дзень многагалосы,
Дубоў граматаду, красу лугавую.

І многа-ж іх тут! І усе як магнаты, —
Глядзяць станавіта, важнецкага роду,

І кожны захоўвае чын свой і моду:
Адзін, дуплянаты, плашч звесіў на воду,
Другі, як тогу, разгортвае шаты.

А той, небарака, век дажывае:
Стаіць палыселы, няма на ім кроны:
Самотны, журботны і ўвесь задумлёны,
Ляцяць к яму нанач у госці вароны,
Бусліца-ўдава падчас завітае.

Мне сумна стане, і я неўзаметкі
Гадаю аб лёсе стварэння жывога, —
Як доўга працягне ён, гэты нябога?
І мне засталося самому як многа
Таптаць гэты дол, лясы і палеткі?

Гляджу я на іх, нібы на знаёмых,
Ды далей мкну хутка па мяккаму груду.
Прыходжу на Свіслач, раскручваю вуду
На злосць і на зайздрасць рыбацкаму люду—
Рыбак рыбака не любіць, вядома.

А Свіслач жыве, бяжыць неўгамонна,
Разлёгшыся ў травах, у выспах пясчаных.
А колер—то цёмны, то светла-румяны—
Ад яснага неба, ад чыстай паляны,
Ад дрэў і кустоў, ад ценяў бяздонных.

Насупраць—Кручок, куток маляўнічы.
Там буйна буяюць кусты зеляніны
Абапал заглухлай старой азярыны,
Дзе раніцай голас звініць салаўіны,
Дзе многа звяркоў і рознае дзічы.

Мне ўсё тут знаёма: і Балачанка —
Яна тут у Свіслач якраз упадае, —
І зарасляў-хмызу града маладая,
І блукскае поле, і пустка глухая,
І тыя груды, і тая палянка.

Я чую—з Вусця даносяцца гукі:
Пявун заспявае, — адлічыць часінкі,
І смех бестурботны дзятвы ля адрынкі,
І крык распачлівы плаксівай дзяўчынкі,
Рып студні, сякеры мерныя стукі.

Успомню любоўна убогія хаткі,
І груд мой вусцянскі, і бераг зялёны,
Дзе гнуткія лозы б'юць рэчцы паклоны,
Я знаю вусцянцаў і ўсе іх імёны —
Язэп Рымашэўскі, Жук і тры Дзяткі.

Ды Вусце сягоння глухне, нямее,
Змаўкае і голас у ім чалавечы —
Нясуць маё Вусце шырокія плечы.
Стаяць недаўменна адны толькі печы,
І клён каля плоту асірацее.

Ну, што-ж? Бывайце!—скажу я жычліва. —
Будуйцеся ў вёсцы на новай мясціне
У дружнай і шчырай калгаснай сябрыне.
Хай добрая доля вас не пакіне:
Багата жывіце вы і шчасліва!

Праз купы раслінак сыплюцца стрэлы —
Паказвае сонца свой воблік адкрыты
Ды сее брыльянты на луг, аксаміты
Травы прыбярэжнай, як рунь сакавітай,
І на паплавок мой хітра прысела.

Гарыць і дрыжыць вясёлка-іскрынка.
Агні незлічоныя раптам заззялі.
Грымяць жывым срэбрам на Свіслачы хвалі.
Аір і чароты страсаюць каралі—
У воду роняць расу за расінкай.

Я дбала гляджу, сачу ўсё за вудай.
Не чую, як сядзе і тне камар вушы.
Чакаю—вось клюне штось з воднае глушы
І на паплаўку маім сонца патушыць,—
І з поўнай пайду рыбацкай пасудай.

Злаўлю, не злаўлю—ды я не сярдую.
Я рады дню, сонцу, прасторнаму лугу,
Ружоваму небу і ветрыку-другу,
Што ходзіць, як сонца па вечнаму кругу,
Ды хмару прыгоніць нам дажджавую.

Я рады лету і людзям калгасным,
Прыгожству і чарам мне родных мясцінак
І тысячам кветак, мільёнам былінак,
Што нам аздабляюць жыццё, адпачынак.
Няхай-жа ім вечна дзень свеціць ясны!

*1938 г.*

## ДЭПУТАТУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Як светлае ранне,
Абнятае сонцам,
Расходзіцца радасць
Па нашай староцы.

І кожны ўсхвалёван,
І кожны узнят:
Ён, родны наш Сталін,
Ён — наш дэпутат!

Напоўнены сэрцы
Пачуццем высокім;
Нас гордасць шугае
Патокам глыбокім.

Шуміць наша радасць,
Як майскі парад:
Праслаўлены геній,
Ён — наш дэпутат!

Падымем-жа вышай
Чырвоныя сцягі,
Дастойнымі будзем
Вялікай увагі,

Каб Сталін любімы,
Зірнуўшы на нас,
Сказаў-бы: «Хвалю я,
Таварышы, вас!»

*24/V 1938 г.*

## МАЙСКАЕ СВЯТА

Па совецкіх гарадах, па сёлах
Ходзіць Май расквечаны, вясёлы,
Ходзіць смелым крокам,
Зорыць ясным вокам.

Дзе яго сустрэнуць больш пачэсна?
Дзе так радасна квітнеюць весны?
Дзе, у якім краю
Так прывольна Маю?

Не, няма другой такой краіны,
Дзе-б шырэй пралеглі пуцявіны,
Дзе-б так ветла далі
Вабілі, ласкалі.

Працярэблены шляхі, прагалы,
А па іх ідзе народ удалы,
Дружбаю з'еднаны,
Партыі аддany.

І няма імкненням перашкоды.
Славаю авеяны паходы,
Смелыя палёты
Увысь, у ясноты.

Ходзіць Май, краіну аглядае,
А байцоў чырвоных моц якая:
Першы маршал скажа —
Зломяць сілу ўражжу!

На прастор ідзе мая краіна
З песняю юначай, салаўінай.

Свеціць па старонцы
Сталінскае сонца.

Па савецкіх гарадах, па сёлах
Ходзіць Май расквечаны, вясёлы,
Ходзіць смелым крокам,
Зорыць ясным вокам.

*1938 г.*

## ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ

У бітвах, у громах навалы і бур
Узводзілі Ленін і Сталін той мур,

Што сталі мацней і цвярдзей за алмаз, —
Што армія горда завецца у нас.

Чырвоная Армія гэта — скала,
Адвага герояў і зоркасць арла,

Ахова свабоды, яе меч і шчыт.
Чырвоная Армія гэта — граніт,

Жалезная воля і сіла зямлі,
Дзе новае сонца і зоры ўзышлі.

Чырвоная Армія — грозны народ,
Чырвоная Армія — мужнасці ўзлёт,

Што ўзносіць у высі, якіх не знаў свет.
Чырвоная Армія — лепшы наш цвет,

Вялікага сэрца гарачая кроў
І наша бязмежная гордасць, любоў.

Чырвоная Армія—наша краса,
Для ворагаў Армія наша — граза!

Жывеце-ж, красуйцеся, сокалы, львы!
Вышэй узвівайся наш сцяг баявы!

*1938 г.*

## ВЫШЫНЯ БЕЗЫМЕННАЯ

Яшчэ яна ўчора была Безыменнай,
Сягоння ўвесь свет яе знае.
Для нашай радзімы Совецкай свяшчэннай
Яна—гара наша святая.
Пачуцці і мыслі народаў свабодных
Лунаюць на ўсходзе Далёкім,
І воінаў нашых, любімых і родных,
Вітаюць з геройствам высокім.

*

Жахнуў агонь бандыцкай зграі
Пад Безыменнай вышынёй.
Сляпіцай лезуць самураі
І пагражаюць нам вайной.

Ужо святая кроў праліта
Герояў, нашых вартавых.
Няхай-жа ведаюць бандыты,
Што гэта кроў падзе на іх,

Што мы па Сталінскаму слову
Усе паўстанем, як адзін,
Супроць разбойніцкае змовы
Сталіц варожых і краін.

Няхай на лбе сабе запішуць
Майстры разбою тых сталіц:
Паломяць каркі, зубы скрышаць —
Ім не прайсці нашых граніц!

Няхай-жа вораг тупарылы
Запомніць раз і на ўвесь час,
Што ён, апроч свае магілы,
Нічога больш не знойдзе ў нас.

*1938 г.*

## ШЧАСЛІВЫМ ЖАНЧЫНАМ

Па-над лесам, па-над долам
Зніклі мжа і цень.
Гарадам, калгасным сёлам
Свеціць ясны дзень.

Я не чую песень жалю,
Смутку дзён ліхіх,
Што ў жніво жанкі спявалі
На шнурах пустых.

Я не чую ў полі плачу
Стомленых дзяцей,
Млявых постацей не бачу
Паднявольных жней.

Паў у прошласць гнёт суровы,
Цяжкі лёс жанок.
На калгасным полі новы
Жнеі ўюць вянок.

І складаюць песні-краскі
Аб жыцці сваім,
Што праз сненне, мары, казкі
Ледзь мільгала ім.

Свецяць вочы іх, як зоры,
Радасцю гарадь.
А прасторы-ж! а прасторы! —
Люба пазіраць.

Замлявае ў далях сініх
Шырыня, размах.
Свет шырока ім расчынен —
Вольны ўсюды шлях.

Па-над лесам, па-над долам
Зніклі мжа і цень.
Дочкам горада і сёлаў
Свеціць новы дзень.

Прахам стаўся лёс прапалы,
Гнёт заклятых дзён.
Гераіні працы дбалай!
Вам прывет, паклон!

Ходзіць па-над нашым краем
Сонца-яснацвет.
Мы вас сёння пасылаем
Ў Сталінскі Совет.

*5/III 1938 г.*

## СІЛА МАЛАДАЯ

Што ні дзень, што ні час
Наша сіла расце,
Сіла маладая.
Хто ні гляне на нас,
Сам, як май, расцвіце, —
Юнасць прыгадае.

Як разводдзе вясной,
Як той шум баравы,
Ідзе сіла гэта,
Бо суровай вайной
Кован дух баявы,
Сталіным сагрэты.

Бездань сініх вышынь,
Дзікай Арктыкі лёд
Добра нам вядомы.
Нам няма далячынь,
Нам няма перашкод,
Нас не спыняць громы.

А дарог-жа, дарог
Ды прасторных якіх,
Што яснотай дышуць!
Не шкадуй толькі ног,
Сіл сваіх маладых,
Ды ўздымай сцяг вышай!

Свет збянтэжан стары
І са страхам глухім
На нас паглядае.
Мкне, бы камень з гары,
Нестрымана нікім,
Сіла маладая.

Ну, ды дзе і калі,
У краіне якой
Хто меў столькі волі?
На Совецкай зямлі
Грае бурнай ракой
Наш разгон саколлі.

А хто зробіць замах,
Каб спыніць наш разгон
І не даць нам ходу,—
Будзе змецен, як прах,
Будзе выкінут вон,
Не паўстане зроду.

Што ні дзень, што ні час,
Наша сіла расце,
Сіла маладая.
Хто ні гляне на нас,
Сам, як дзень, расцвіце,
Як усмешка Мая.

*1/IX 1938 г.*

## СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

*(Да 20-годдзя)*

Безыменнай, безгалосай
Ты была, краіна.
Аб тваім гаротным лёсе
Вецер песні ў свет разносіў,
Плачучы пад тынам.

Люд твой бедны, занядбаны
Жыў у вузкіх межах,
Век галодны, абарваны,
Сеяў, жаў, касіў на пана,
Сошкай дол мярэжыў.

У сырых, куравых хатах
Пад шум, дым лучыны
Плёў ён лапці, світку латаў,
Праклінаў адвечных катаў,
Баяў сказ-быліны.

Неадступна, пільна, строга
Ліха вартавала,
Ды адною з ім дарогай
З клункам, з торбаю убогай
У свет вандравала.

Калыхала яго дзетак
Тое ліха-гора,
Ды з палетка на палетак
Слёзы несла шчодра гэтак,
Як пясок у мора.

Не кранalі бога слёзы,
Іх не чула неба.
Гнуўся люд твой, нібы лозы,
Жыў пад страхам, пад пагрозай
Не мець куска хлеба.

*

Ты кроўю паліта, зямелька, багата.
І пан тут таптаўся, і кайзер праклятыᐧ

У бляску пажараў знікалі сялібы.
Цябе асудзіла звяр'ё на пагібель.

Ішлі генералы, паўзлі атаманы,
На вольныя гоні кавалі кайданы.

І розная нечысць брыла ўслед за імі,
Ды труп старой гнілі ніхто не падыме,

Паўсталі народы рэспублік совецкіх —
З Украіны светлай і з шахтаў данецкіх,

І з Волгі, і з Дона, і з Камы, з Урала
Магутная сіла народа паўстала.

Армяне, грузіны, башкіры, татары,
Казахі, кіргізы, як грозныя хмары,

На ворагаў лютых абрушылі сілу
І злых акупантаў дашчэнту скрышылі.

І вольнай дзяржавай, краіна, ты стала
І слаўнай работы зрабіла нямала.

Усюды дарогі пралеглі, як стужкі,
І ходзяць машыны, сталёвыя служкі,

І пожні, і нівы цвітуць на балоце,
І выраслі людзі на новай рабоце.

Квітнее культура, красуюцца школы,
І песні спявае народ твой вясёлы.

На нашых заводах, на полі калгасным
Адсвечвае розум Сталінскі ясны.

Настаўніку-бацьку, народам-ваякам
Ад сэрца прыносім вялікае дзякуй!

*

Ходзіць гоман з хаты ў хату
З радаснай навінай:
Год святкуе свой дваццаты
Вольная краіна!

Разагнула стан дзявочы
Беларусь магутна,
Пахаваўшы лёс сірочы,
Панскі гнёт атрутны.

Збеглі з твару яе цені,
А ў вачах-аконцах
І іскрыцца, і струменіць
Сталінскае сонца.

У вянку калоссяў спелых
З жыта і пшаніцы
Яна побач з вамі села,
Родныя сястрыцы,

Што адзінаццацю зорак
Свеціце на свеце
У світанне, адвячорак,
Новай зямлі дзеці!

Свет расчынен вам прасторны,
Зняты ўсе парогі,
Каб пракласці шлях свой торны
Сталінскай дарогі.

Дык ідзі-ж, мая краіна,
Гулкай, светлай хваляй,
Узнімайся ў верхавіны
Яшчэ вышай, далей.

З новым шчасцем, з новым годам,
Родны край Советаў!
Слава ўсім тваім народам,
Дружбаю сагрэтым!

*21/XII 1938 г.*

## НА НОВАЙ ЗЯМЛІ

Ляжыць шырокая дарога,
Вакол прастор, і я іду,
Іду, нясу пачуццяў многа
І ясных думак чараду.

Уздоўж дарогі чынна з краю
Слупы стаяць у два рады,
І, нібы гуслі-самаграі,
Звіняць іх струны-правады.

Куды ні гляну — шыр і воля,
Дзе лес ды неба ставяць тын,
Нідзе мяжы не згледзіш болей,
І зніклі быльнік і палын.

Цвітуць палі ў адзенні новым,
Гадуюць новыя сады,
І нават вецер з-пад дубровы
Шуміць на новыя лады.

Глядзіш — узносяцца будынкі
То з той, то з гэтай стараны,
І цешаць вочы мне навінкі,
І сэрца радуюць яны.

Унь там, высока па-над долам,
Развесіў хвост купчасты дым,
І лічыць час калгасным сёлам
Гудок напевам маладым.

Па ўзгор'ю поля, па раўніне
Паўзуць сталёвыя валы.
Вядзе іх бойкая дзяўчына
Ці комсамолец удалы.

А тут, дзе ўчора багна прэла,
Гнілі век-векам балаты,
Збажынка сёння зарунела,
І спее колас залаты.

На тых-жа багнах, дзікіх, сумных,
Разлёгся ў шыр тарфяны шчыт.
На ім стаяць, бы тыя гумны,
Грамады чорных пірамід.

Ідуць калгасныя падводы,
Дабро вязуць грузавікі, —
І дзед стары, сівабароды
Падацца хоча ў юнакі.

Шумяць па-новаму дубровы —
На край свой люба мне зірнуць.
Цябе, зямля, ў адзенні новым
Хацеў-бы к сэрцу прыгарнуць!

Сышлі навекі з доляй злою
Галеча, сціск, зямлі палон,
Бо сцяг над новаю зямлёю
Трымае Сталінскі закон.

*1938 г.*

## ДЖАМБУЛУ

Ад снежных вяршалін Каўказа, Паміра,
Як гордасць шчаслівых аулаў,
Грыміць многаструнная звонкая ліра,
Сімфонія песень Джамбула.

Дзівосныя песні яго — зараніцы,
Што ззяюць у яснай лазуры,
Што сыплюць вясёлкі, святло бліскавіцы,
Сатканыя з сонца і буры.

У іх дыша свежасць, юначая сіла,
І мудрасць у іх Казахстана,
Імклівасць патокаў, арліныя крылы
Чаруючых думак баяна.

Плывуць яго песні ад краю да краю
Натхнёна, свабодна, прачула,
Дзядулю Джамбула я шчыра вітаю,
Вітаю акына Джамбула!

Вітаю і партыю, Сталіна геній,
Што круг наш глухі разамкнулі,
Што сеюць народам для дружбы праменні,
Што нам падарылі Джамбула.

*1938 г.*

## ЧУВАЦЬ ВЯСНА

Не сышлі яшчэ з нізіны
Роспісы зімы,
Скуты холадам даліны,
Луг ляжыць нямы.

Але зрок нябёс яснее,
Больш і больш святла,
Жыватворчая надзея
Землю абняла.

Белы пух атрэслі з шапак
Хвойнікі, ляскі,
Іх зацішкі, нібы запек,
Туляць дол, пяскі.

Лашчыць сонца твар узгоркаў,
Сушыць след іх слёз,
Што струменяцца разоркай
Да знямелых лоз.

Па-над лесам ходзіць шолам,
Хмельны зоў вясны,
І разліты навакола
Жыцця мары-сны.

Весялей у вочы свету
Зорыць стрэхі хат.
Эй, калгаснік, помні лета,
Варушыся, брат!

У надзем'і, як жалейка,
Сонцу ў лад і ў тон
Сыпле пташка-чарадзейка
Першых песень звон.

*1938 г.*

## XVIII З'ЕЗДУ ПАРТЫІ

На вежах крэмлёўскіх
Высока ў прасторы,
Як водблеск жывой глыбіні,
Гарадзь непагасла,
Як вечныя зоры,
Вялікае праўды агні.

Над стромкасцю вежаў
Лунае шчасліва
Пачуццяў і мысляў вянок,
Сабраны любоўна,
Завіты зычліва
Рукамі мужчын і жанок.

І сэрца, і воля,
І думы народа
Злучыліся ў плыні адной,
Як хвалі патокаў,
Як шумныя воды,
Дзе сонца гуляе вясной.

Прыхілены чуйна
І слух наш, і вочы,
І мыслямі ўсе мы ў Крэмлі,
І слухаем словы,
Як голас прарочы,
Як мудрую праўду зямлі.

І бачым аблічча,
І бачым мы постаць
Настаўніка, друга свайго,

І чуем, як льецца
Так мудра, так проста,
Так ясна гаворка яго.

Сям'ю баявую,
Сяброў перамогі
Заклікаў на сход правадыр,
Каб разам адзначыць
Шляхі і дарогі,
І новыя далі, і шыр;

Каб вышай узвесці
Краіну Советаў,
Умножыць яе дабрабыт,
Каб грознаю сілай
Над стомленым светам
У сонцы ірдзеўся наш шчыт.

Няхай вар'яцеюць
Начніцы ў бяссіллі,
Як совы ў збуцвелым камлі:
Магутна над мрокам
Разгорнуты крыллі
Вялікай Совецкай зямлі.

Вядзі-ж нас наперад
У ясныя далі,
Акрэсліўшы новы размах:
Мы разам з табою,
Любімы наш Сталін —
Адзін у нас з партыяй шлях!

*1939 г.*

## БАЯНУ-КАБЗАРУ

У тваіх вачах,
Двух глыбозных, як неба, крыніцах,
Я чытаю шлях,
Багатырскі ўзмах
У вышыні, дзе свецяць дзянніцы.

Ты прайшоў яго,
Як асілак-змагар непахісны,
І агню твайго
Не згасіў ніхто, —
Прахам паў твой тыран ненавісны.

І расце адзін
Пустазёл на магіле тырана.
Пра яго ўспамін —
Горкі дым, палын
І страхоцце пустога кургана.

А ты жыў, кабзар,
І жывуць твае песні на свеце.
І табе, пясняр,
Зносяць песень дар
Твае вольныя ўнукі і дзеці.

І прыносяць іх
Усе народы Совецкай краіны,
Што з крыніц тваіх
Пілі ў цяжкі міг,
Як блукалі вякі без пуціны.

Наш прастор-абшар
Зззяе сёння, як золак у сонцы,
І баян-кабзар
Свой разносіць дар
Па ўсёй чыста Совецкай старонцы.

У тваіх вачах,
Двух глыбозных, як мора, крыніцах,
Я чытаю шлях
І арліны ўзмах
У прастор, дзе гараць зараніцы.

*14/I 1939 г.*

## КЛЯТВА

Прад народам і радзімай
Клятвай вернай, нерушымай
Паклянуся я.

Сцерагчы маю краіну,
Як мой скарб святы, адзіны,
Паклянуся я.

Вартаваць яе граніцы,
Як вачэй сваіх зяніцы,
Паклянуся я.

Для яе спакою, волі
Не жалець сябе ніколі
Паклянуся я.

Для яе красы і славы
Чэсна ў бой ісці крывавы
Паклянуся я.

Хто-б і дзе-б ні быў злы вораг,
Біць яго на сушы, моры
Паклянуся я.

І захоўваць тайну свята
Ад людзей ліхіх, зацятых
Паклянуся я.

Быць заўсёды беззаганным,
Доўг свой помніць пастаянна
Паклянуся я.

Клятву споўніць нерушыма
Перад Сталіным, радзімай
Прысягаю я.

*21/II 1939 г.*

## НАПЕРАД

Багаты і прасторны,
Магутны, непакорны
Зямлі савецкай гмах
Ад мора і да мора
Праз долы, стэпы, горы
Ірдзее новы шлях.

Наперад — к дзяннiцам
Палёт быстракрылы.
Вартуе граніцы
Надзейная сіла!

Ад захаду і ўсходу
Шчаслівыя народы
Зліліся ў адзін вір.
Вядзе іх к сонцу ўдалі
Рука цвярдзей ад сталі —
Бясстрашны правадыр

Наперад — к дзяннiцам
Палёт быстракрылы.
Вартуе граніцы
Надзейная сіла!

Паводкай веснавою,
Паходкай маладою
Імклівіць вольны люд,
Змятаючы з дарогі
Вякоў старых парогі,
Старых законаў чмут.

Наперад — к дзяннiцам
Палёт быстракрылы.
Вартуе граніцы
Надзейная сіла!

У сонечным прадвесні
Звіняць, як срэбра, песні
Па сёлах, гарадах.

Савецкая краіна!
Магутна ты, адзіна,
І смелы твой размах!

Наперад — к дзянніцам
Палёт быстракрылы.
Вартуе граніцы
Надзейная сіла!

Мы Арміі Чырвонай
Сталёвых батальёнаў
Адважныя сыны.
Наш зрок — узлёт зарніцы,
Удар наш — бліскавіцы.
Наш голас — перуны.

Наперад, краіна!
Наперад, народы!
Узмахам арліным
Няма перашкоды.

*20/III 1939 г.*

## МОЙ ДОМ

Між ніў дарожкаю сляпою
Іду я мернаю ступою
І разглядаюся кругом.
Пад ясна-сіняю страхою
Чыеюсь дбалаю рукою
Збудован мне прасторны дом.

Утульна ў ім, дабра ў ім поўна,
І ўсюды мудрасці бязмоўнай
Відна спрадвечная пячаць.
На ветравеях, нібы воўна,
Плывуць хмурынкі так чароўна
Чаго плывуць? куды? — маўчаць.

Унь там рачулка срэбрам літым
Бяжыць па жолабе размытым
І цэлы свет жыцця нясе.
А луг зялёным аксамітам,
Вянкамі кветак апавіты,
Разлёгся ў роскашы-красе.

Дубы, сябры мае самоты,
У высі неба мкнуць узлёты,
Сукі раскінуўшы вакол.
А колькі згоды і пяшчоты
У тых пясках, што пазалотай
Ускрай баркоў ляглі на дол!

Як многа волі і разгону!
Як многа песень, шуму, звону,
Дзе ні паслухай, ні зірні!
Свае тут звычаі, законы.
У кожнай песні свае тоны
І свой адбітак глыбіні.

Іду я, дом свой аглядаю,
Ды сам з сабою разважаю,
А на душы такі спакой!
І песня нейкая жывая
У дружны тон адзін спявае
І з гэтым небам і зямлёй.

*13/IV 1939 г.*

## НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

Выплывае круг агністы
З груды мутных хмар.
Па-над рэчкай дуб вячысты
Не схісне ніводным лістам
І стаіць, як цар.

На яго шацёр-карону
Пурпур лёг зары.

У прасветы хмар заслоны
Сыпле сонца стрэл мільёны, —
Шле зямлі дары.

Над нізінай нерухомы
Звіс, як дым, туман.
Цераз нетры, бураломы
Сцеле белыя паромы
З лугу да палян.

Звонка граюць струны цішы
На ўсе галасы.
Дрэмле ветрык і на ўзвышшы
Нават кветкі не калыша,
Не страсе расы.

Дзень свой рэй вядзе ў калгасе, —
Гоман, скрып і грук.
Дзесь у лесе на папасе
Забалбоча, хоць не ў часе,
Чуткі цецярук.

А над хатай дым бялявы
Выгнуўся дугой,
Не йдзе ўгору, кучаравы,
А наніз, на дол, на травы
Нікне галавой.

Парна з ранку. Муць разліта,
Нібы сум павіс.
Даль у сінеч апавіта.
«Будзе дожджык, — шэпча жыта. —
Дым пайшоў наніз».

*15/IV 1939 г.*

## ПІОНЕРСКАЯ ПЕСНЯ

Мы — дзятва зямлі шчаслівай,
Мы — народ вясёлы,
Гаманлівы
Ды імклівы,

Нам расчынены жычліва
Сталінскія школы.
А ты толькі ведай-знай:
Болей ведаў набывай!

Нам дарогі ўсе адкрыты.
Наш прастор бясконцы,
Апавіты
У аксаміты
Ды вясёлкамі умыты,
Разасланы ў сонцы.
А ты толькі ведай-знай:
З краю ў край па іх ступай!

Усюды нам даюць з ахвотай
У жыццё пуцёўкі:
Будзь пілотам,
З самалётам,
Як арол, у небе лётай,
Камандзір будзь лоўкі...
Адно толькі ведай-знай:
Сцеражы савецкі край!

Піонерскай клятвы словы
Мы не забываем:
За свет новы
Мы гатовы
І на бой пайсці суровы
Супраць чорнай зграі.
Піонер, ты будзь гатоў
Падтрымаць сваіх братоў!

*1939 г.*

## ЛЕТАМ

Ну-ж, і волі, волі
У гаі за вёскай!
А цяплынь, цяплынь!
Весела на полі,
Слаўна пад бярозкай,
Хоць ты сядзь спачынь.

Палюбуйся толькі —
Травы што не збрысці,
Кветак — не злічыць!
Гойдаюцца голькі,
А на гольках лісце
Сонцамі блішчыць.

Пчолкі, матылёчкі,
Як сняжынкі тыя,
Мільгацяць вакол.
Жоўтыя пясочкі —
Крупкі залатыя,
Хоць бяры ў прыпол!

Ды хіба ты ўседзіш
У такой раскошы,
Сярод кветак, траў?
Што там згледзеў Федзя?
Што знайшоў Цімоша
І дружка пазваў?

І ўсе яны трое
Збіліся маўкліва
Шчыльненька ў гурток.
«Ну, што там такое?
Ну, што там за дзіва?» —
Думае Дружок.

Нават Коля з сеткай
Стаў, нібы на варту,
І глядзіць на іх,
А лявей над кветкай
Прысядае Марта,
Шчаслівей за ўсіх.

Між двух дрэў сястрычка
Брацікa за ручку
З кошыкам вядзе.
Мусіць, у сунічкі,
Унь у тую лучку,
Брат з сястрой ідзе.

Добра Янку ў гаю,
Люба на паходзе

Пагуляць з кашом.
Толькі вось не знаю,
Куды то Валодзя
Рушыў з малышом.

А малыш на плечы
Сеў, ды так забаўна,
І глядзіць арлом.
Добры дзень і вечар
Нашым дзецям слаўным —
Цешцеся жыццём!

*27/V 1939 г.*

* * *

1

Гусцее над стомленым светам імгла,
І тленню старэчаю вее.
Адна толькі наша краіна-скала
У іскрах світання ірдзее.
У ясныя далі сталёвай рукой
Вядзе яе сталінскі геній.
Праз буры народам прыносіць спакой
І новага свету прамені.

2

Крывавай пенай плешча мора,
Зямля палошчацца ў агні,
І толькі нам ты, ясназоры,
Разумнай працы дарыш дні.
Няхай-жа дзень наш златакудры
Атуліць землю з краю ў край.
Жыві шчасліва, Сталін мудры,
І ясным сонцам людзям ззяй!

*9/IX 1939 г.*

## СВАЙМУ НАРОДУ

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою, —

Сотні новых і ясных дарог
Рассцілае жыццё прад табою.

Новай долі ўзыходзіць зара,
Будзеш жыць ты без панскай апекі:
Адышла, адцвіла іх пара,
І панам не вярнуцца вавекі.

Паглядзі, як прасторна наўкруг,
Як прыціхлі палацы, касцёлы!
Тваё ўсё: гэта поле і луг,
У палацах будуй сабе школы.

Ідзі-ж смела і ясна ўпярод
Разам з намі дарогай адзінай:
Мудры Сталін вядзе свой народ
Самай вернай і простай пуцінай.

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою:
Многа новых, шчаслівых дарог
Рассцілае жыццё прад табою!

*21/IX 1939 г.*

## ВОЛЬНАМУ НАРОДУ

Спета бясслаўна панская песня.
Кончана з панам, пан не ўваскрэсне,
У край наш не знойдзе дарог.
Вольным народам сталі вы сёння.
Вашы ўсе пожні, вашы ўсе гоні,
І шлях вам, як сонца, пралёг.
Дружна-ж да працы, творчая воля,
Вольная сіла, ясная доля,
І новыя песні складай!
Многа работы, многа разгону.
Гэй-жа наперад, люд вызвалёны,
Наперад, Совецкі мой край!

*3/XI 1939 г.*

## СТАЛІНСКАЕ СЛОВА

У хвалях эфіра, як мудрасць зямлі,
Далёка ў прасторы
Праз долы і горы
Натхнёныя словы плылі.

Плылі, як праменні, будзілі глухіх,
Развязвалі вочы
Сялянам, рабочым
Замежных краін і сваіх.

Ён сеяў, як сейбіт, настаўнік і друг,
У сэрца народаў
Тых слоў карагоды,
Што радасцю поўнілі слух.

Гаіў нашы раны жывою вадой,
Паказваў дарогі
І шлях перамогі
Над цемрай крывавай, пустой.

Вялікую веру і кryллі арла
У цяжкай часіне
Падаў ён краіне,
Каб слава яе расцвіла.

Жыві, правадыр наш! Пад сцягам тваім
Жыві, наша слава!
Згінь, вораг крывавы!
Развейся у попел, у дым!

*9/XI 1941 г.*

## БАЙЦАМ-КОМСАМОЛЬЦАМ

Арлы маладыя,
Я вас пазнаю
Бясстрашных і мужных
У грозным баю.

Пад вашым напорам
Хістаецца даль,
Пад вашым ударам
Згінаецца сталь.

І крышуцца танкі
Фашысцкія ў соль,
І падае вораг,
Як горкі куколь.

Пілот-комсамолец,
Танкіст і стралок —
Нястрымная лава,
Вясенні паток,

Што орды тэўтонаў,
Нямецкіх сабак,
Развее, рассее,
Раскрышыць на мак.

На сушу, на мора,
У высі нябёс
Ваш дух непахісны
Сцяг славы узнёс.

Паднят ён высока,
Як зоры Крэмля,
І вас услаўляе
Радзіма-зямля.

Арлы маладыя,
Юначая кроў,
І радасць вы наша,
І наша любоў.

## МАСКВЕ*

Бурліць на подступах к сталіцы
Смяротны бой, крывавы вір
Вачамі мутнымі блудніцы
У Маскву уставіўся вампір.

Сагнаў ён безліч гунаў дзікіх,
Армады зграй — сваіх, чужых,
Забойцаў цёмных, розналікіх,
І ўжо трыумфу ловіць міг.

Масква, краіны роднай сэрца!
Няўжо кране цябе рука
Звяругі прускай, крывяжэрца,
Галаварэза-чужака?

Масква, народная святыня!
Няўжо нямецкі людаед
Чырвоны плашч твой у прах кіне,
Растопча нашу гордасць, цвет?

Масква, надзея долі новай!
Няўжо ў Кастрычніцкія дні
Налучыць лёс цябе суровы,
Каб загасіць твае агні?

Ты не была вавек рабою
І не кланіла галавы,
І сёння ты гатова к бою,
Бо славен шлях твой баявы.

Няхай-жа вораг азвярэлы,
Руку занёсшы над табой,
Знясла́ўлен будзе на свет цэлы
І зложыць косці пад Масквой.

Шчаслíва будзь твая часіна!
Распраў-жа плечы ва ўсю шыр.
Масква! з табою ўся краіна.
Масква! з табою правадыр.

*27/X 1941 г.*

## ГОЛАС ВЕТРУ

Зашумеў на лад суровы
Вольны вецер, сонца сын,
З родных ніў, з палёў, з дубровы
Шмат нясе ён мне навін.

А навіны не вясёлы:
Паліць вораг нашы сёлы,

Топча нівы, сенажаці,
Няма літасці к дзіцяці,

Ні к жанчыне, ні к старому,
Забірае скарбы з дому.

Ненаедны, злы і люты,
Чыніць здзекі і пакуты.

Нелюдзь, вырадак шалёны
Кроўю піша цьмы законы

Для няволі, гора, згубы.
Звер нямецкі шчэрыць зубы.

Ды прыціх мой родны вецер,
Шэпча мне, змяніўшы тон:
«Не сумуй, браток: як смецце,
Вольны люд змяце палон.

Не сагнуў ён спіны, шыі,
Зброю ў рукі ўзяў ізноў,
На дарогі баявыя
Ён павёў сваіх сыноў.

Росіць вораг кроўю чорнай
Багуны і верасы,
І гамоняць непакорна
Беларускія лясы.

Не зламаць народнай сілы
Дзікім ордам у баю,
А я ім на іх магілах
Марш хаўтурны прапяю».

*25/VII 1941 г.*

## НАД МАГІЛАЙ ПАРТЫЗАНА

На ўзгорку пясчаным тры хвоі
Ад даўняга часу стаяць.
Бязлюдныя пусткі спакою
Вакол палажылі пячаць.

Не ходзіць тут з плугам араты,
Каса не звініць на зары.
Не згледзіш ні клуні, ні хаты,
Шумяць адны толькі бары.

Ды вецер гуляе з пяскамі,
Расчэсвае хвоям чубы,
Ды зрэдку дзяўчаты з кашамі
Праходзяць між іх у грыбы.

І вось нечаканыя госці,
Атрад баявы партызан,
Праходзяць пад хвоі, кагосьці
Нясуць на пясчаны курган.

Акінуў вачамі паляну,
Узгорак, пяскі камандзір
І знак падае партызанам
Пакласці насілкі на жвір.

Дзве пары суровых, адважных
Маўклівых ваяк-партызан
Насілкі спускаюць уважна
На дол, чабаровы дзірван.

— Мы тут пахаваем героя!
Капайце магілу, сябры. —

Журботна стаялі тры хвоі,
І шум прытаіўся ў бары.

Рытмічна ўскідаюць лапаты
Угору пясок залаты,
Дзе хвоі развесілі шаты
На бераг узгорка круты.

Гатова магіла — прыпынак,
Халодны і вечны спакой.
На ложы з духмяных галінак
Ляжыць нерухома герой.

Самкнёны павекі, расніцы.
Як мрамар, застыў яго твар.
Крывавыя кроплі-брусніцы
Пад чубам пылаюць, як жар.

Закрыты цяпер яму далі,
Пуціны зачынены ўсе,
А вусікі чуць высядалі
У свежай юначай красе.

Падходзіць хвіліна цяжкая —
Зямлі даручыць яго прах.
Употай слязіна блукае
На чэсных сяброўскіх вачах.

І вышаў наперад з іх круга
І словы сказаў камандзір:
— Хаваем мы вернага друга.
Спакой твайму праху і мір!

Не ведаў ты страху ніколі,
Быў верны і храбры ў баю.
За край, за радзіму, за волю
Аддаў маладосць ты сваю.

Няхай-жа гад фюрэр крывавы,
Кат Гітлер запіша на лбе:
Здабудзе ён толькі той славы,
Што знойдзе асіну сабе.

Клянёмся табе над магілай,
Наш верны таварыш і брат:
Мы знішчым фашысцкую сілу,
Жывою не пусцім назад!

— Клянёмся! — ваякі сказалі.
— Клянёмся! — адказвае бор.
— Клянёмся! — азваліся далі.
— Клянёмся! — гамоніць прастор.

*8/IX 1941 г.*

## НА ЗВЕРА

К канцу падыходзіць дарога
Крыві і ярма.
Ад ярасці гневу людскога
Збавення няма.

Навокал разбойніка-звера
Змыкаецца круг,
І вострыцца помсты сякера,
Куецца ланцуг.

Няхай сатанее звяруга,
Двуногі шакал —
Не выйдзе з замкнёнага круга
Нямецкі капрал.

Узважаны дні яго, лёсы,
Ён лёгкі, як пыл:
Чарвяк не ўзлятае ў нябёсы,
Бо слеп і без крыл.

Апусціцца грозна заслона,
Суд будзе суроў.
Пагібель яго неўнікнёна,
За кроў аддасць кроў.

На звера ў паход, людзі-брацце!
Скідайце ярмо!
Мы імя забойцы пракляццю
Навек аддамо.

*17/XI 1941 г.*

## ЛЕС

Ціха, глуха ў лесе,
Хоць-бы гук адзін.
Скупа свеціць месяц
У акно галін.

Злегла нерухома
Цемра на камлі.
Што ў ёй — невядома,
Ты-ж, брат, не драмлі!

Сцішыўся сурова
Лес, як немы склеп,
І нідзе — ні слова,
І ніхто — ні шэп!

Толькі ў дзебрах дзікіх,
Нібы голас змоў,
Чуеш свісты-склікі
Пугачоў і соў.

Ой, ды сцеражыся
Ты, ліхі чужак:
І ў зялёных высях
Падае ліст знак.

Не, не спіць, не дрэмле
Старажытны бор:
Ён вартуе землі,
Даўні свой прастор;

З-пад камлёў замшэлых,
З-пад балот, палян
Сочыць вокам смелых,
Грозных партызан.

І не будзе жалю
Для чужацкіх зграй.
Што крывавай хваляй
Заліваюць край. .

Шмат касцей злажыла
Не адна тут рацъ,
І нямецкай жыле —
Не, не панаваць!

Дык служыце-ж людзям,
Родныя бары:
Мы былі і будзем
Тут гаспадары.

*8/X 1941 г.*

## НАРОДУ-БАРАЦЬБІТУ

Няхай землю імгла аблягае
І звісае над ёю туман —
Іх разгоніць вясна маладая,
Вытча новы зямлі сарафан.

Няхай цёмная сіла сваволіць
І злы намысел тоіць вар'ят —
Не было і не будзе ніколі,
Каб хадзіў ясны месяц назад.

Няхай вораг-звяруга лютуе
І навалаю чорнай плыве —
Ён магілу сабе сам рыхтуе
Пад асінаю ў дзікай траве.

Няхай доўгія ночы находзяць
І трывожныя веюць вятры —

Іх адолееш ты, мой народзе,
І табе зложаць гімн песняры.

Дык гуртуй-жа магутныя сілы —
Вораг люты штурмуе наш дом,
Ты абруш на яго прах магілы,
Разразіся над ім перуном!

*16/X 1941 г.*

## МАЙМУ ДРУГУ

Не малую дарогу прайшлі мы
Па чужой і па роднай зямлі.
Адыходзілі вёсны і зімы,
І гады за гадамі плылі.

Шмат снавалі мы кросен шаўковых
З нашых думак-лятунак і мар,
Сустракалі нас ветла дубровы,
І лясы нам давалі свой дар.

Па-над рэчкай у лузе квяцістым
Мы хадзілі, бывала, не раз.
Векавыя дубы жоўтым лістам
Навявалі няўцямны нам сказ.

Жураўлі пралятаі над полем,
Забіраючы лета з сабой.
Ды пагуліваў вецер на волі
З неакрэсленай ціхай журбой.

Эх, ды дзе ні лятали пуціны!
Хіба можна іх змераць, злічыць?
Пакідалі мы дзве каляіны,
Але песня адна ў іх гучыць.

Аб той песні, што сэрца мне поўніць,
Аб табе, кім жыву я заўжды,
Я хачу, мілы друг мой, напомніць,
Прыгадаўшы былыя гады.

*23/X 1941 г.*

## НА ЗАХАД

Апала заслона мядзяная хмар,
На захад плывуць іх клубы,
А я пазіраю ў знямелы абшар,
А ў сэрцы так многа журбы!

Вандроўніцы хмары,
Нябёсаў украсы!
Зрадніўся я з вамі
Ў далёкія часы.

На ветравы крыллі паслаўшы руно,
Здаецца, замлелі яны,
Як мара, як сон той, што сніўся даўно
У досвітак ранняй вясны.

Клубястыя хмары,
Куды вы плывеце?
Ой, многа вам, многа
Прастору на свеце!

Стаю, пазіраю ў блакітны разлог,
І колькі там дум паўстае!
Чаруюць і вабяць прасторы дарог
На захад, дзе межы мае.

Купчастыя хмары,
Куды вас мкне вецер?
Вы роднаму краю
Мой сум занясеце!

Гаруе краіна пад жорсткай пятой,
Як прагне збавення народ!
І дуб мой над рэчкай глядзіць сіратой,
Галіны схіліўшы на ўсход.

Грымотныя хмары!
Рассыпце маланкі
На голавы катаў
З нябеснай палянкі.

Павісла над лесам у родным краю
Удушлівай гары імгла.
Пячаць непакоры ў смяртэльным баю
На чола народа лягла.

На захад, на захад
Спяшайцеся, хмары,
Варожаю кроўю
Заліце пажары!

*16-17/VIII 1941 г.*

## АБАРОНЦАМ РОДНАЙ ЗЯМЛІ

У кожны міг, у кожны час
Душою, сэрцам я між вас,

Браты мае, байцы-сябры,
Зямлі святой багатыры!

Вялік прастор, шырок прасцяг —
На сотні міль пралёг ваш шлях.

На тым шляху і ўдоўж, і ўшыр
Бурліць смяротны бой, як вір.

Тэўтон-бандыт, фашыст-удаў
Бандытаў полчышчы нагнаў.

Ды пад навалай чорнай цьмы
Галоў сваіх не хілім мы.

І ўсё, што ў нас святога есць —
Радзіма, воля, слава, чэсць —

Мы пранясем праз гром, агонь,
Варожых сіл раскрышым бронь.

Другіх дарог нам больш няма,
Сыноў-жа цьмы агорне цьма.

Байцы-сыны, сябры, браты!
Мы выпаўнім наш доўг святы

І над раскутаю зямлёй
Узыйдзем яснаю зарой.

Няхай вам свецяць сонца, дзень.
А ворагаў агорне цень!

*2/XI 1941 г.*

## У ЦЯЖКУЮ ЧАСІНУ

Зямля мая, нябёсаў родных сінь,
Лугоў зялёныя пасцелі!
Вы ўстаеце з-за смутных далячынь
Скрозь горы і пустэлі.

Празрыстасць рэк, дубоў жывы шалаш,
Дарог нязлічаных красёнцы!
Вас бачу я, я чую голас ваш,
Прываблівы, як сонца.

Мой мілы край, народ мой дарагі,
З душой адкрытаю і сэрцам!
Зноў дзеляць нас парогі-берагі.
Праклянцце крывяжэрцам!

Смуга-імгла навісла над табой,
І п'еш ты зноў пакуты чашу:
Фашыст-шакал звярынаю нагой
Стаптаў нам нівы, пашу.

Як пошасць чорная, ўварваўся ён,
Прайшоў разбойніцкай ступою,
І ўсюды кроў, няволю і палон
Пакінуў за сабою.

Спаліў твае сялібы, гарады,
Твой дом разграбіўшы дарэшты.

Не ведаў ты яшчэ такой бяды
З тых дзён, як тут жывеш ты.

Не плач, зямля! Народ мой, не тужы —
Вышэй ўзнімі сваю сякеру!
За здзек, за кроў, за грабяжы —
На Гітлера, на звера!

Находзіць час, і меркнуць яго дні,
Як ноч, над ім звісае кара.
Не вырвецца з сваёй-жа западні
Фашысцкая пачвара!

*25/XI 1941 г.*

## ГОЛАС ЗЯМЛІ

Я чую голас несціханны —
Зямля мая мяне заве
І кроіць сэрца мне на раны,
Звініць, як звон касы ў траве.

І шум дубровы, і стогн пушчы,
І рэк усхліп, і плач крыніц,
І немы зрок балотнай тлушчы
Нясуць мне весць пра чужаніц.

Я бачу постаці тэўтонаў —
Халодны твар, звярыны від.
Не знае жалю, ні законаў
У сталь закованы капыт.

О, каб я меў такія рукі,
Зямля, абняў-бы я цябе,
Каб сцішыць гора тваё, мукі
І сілу даць у барацьбе!

Зямля мая, мая краіна!
Я чую твой прызыўны звон.
Прымі-ж хоць слова твайго сына —
Не доўгі будзе твой палон.

Шумяць гняўліва твае пушчы,
Трасуцца помстаю бары,
І дзень твой хмурны зрок расплюшчыць —
Ёсць у цябе багатыры!

*31/XII 1941 г.*

## ДУБ

Многа лет і зім дуб стаяў стары,
Комель-стан пахіліўшы на воду.
На вершаліне з даўняй той пары
Збудаваў на ім бусел гасподу.

А прыгож быў дуб, над дубамі дуб,
У красе поўнацветнай і сіле:
Комель — сталь-крамень; кучаравы чуб
Красаваўся на цэлыя мілі.

Гадавала яго, не спускала з рук
Маці дбалая — мудрасць-прырода,
І дала яму багатырскі сук,
Каб нахіл зроўнаважыць на воду.

Унізе пад ім, нібы сок-янтар,
Свіслач родная павівалася,
Гаманіла з ім у палоне чар,
Бы каханая, прытулялася.

А над Свіслаччу скрозь прагалы груш
Выглядала старэнькая хатка.
Жыў тут дзед Андрэй, яшчэ крэпак, дуж,
Хоць мінула другая трыццатка.

Дзед любіў свой кут і любіў садок,
Узгадованы ўласнай рукою,
І пражыў ён тут не адзін гадок,
Зжыўся з дубам і з буслам, з ракою.

У ліпнёвы дзень, у вячэрні час,
Калі першыя зоркі засвецяць,

Выйдзе ён на двор, уздыхне не раз —
Так дзівосна ўсё створана ў свеце.

Свіслач дзень і ноч гоніць срэбра хваль
Ды шушукае з кусцікам ніцым.
Дзесь у далечы, нібы жар каваль,
Хмара дзьмухае іскры-зарніцы.

І такая ціш, бо на тое ноч,
Каб спакой мелі людзі, стварэнні.
Пахіліўшыся над вадой наўзбоч,
Дуб, як волат, стаіць у зняменні.

Бусел на-нач сеў ды сніць сны ў гняздзе
І маўчыць, як мудрэц ці той змоўнік.
А як хараша сцеле бляск вадзе
Неразгаданы месяц-вандроўнік.

У зямелай мжы тонуць лес, кусты,
А дубы нібы моляцца богу.
Урачыстасць, сон і спакой святы
Запынілі сваю тут дарогу.

Дзед глядзіць на ўсё, сам сабе кіўне,
І на сэрцы так лёгка ў Андрэя,
І ў душы яго, дзесь на самым дне,
Іскра згоды з прыродаю тлее.

Дзень ішоў за днём. Змоўк звон кос. Стагі,
Нібы вежы, па Свіслачы ўсталі,
І час восеньскай глухаты-смугі
Варажылі маўклівыя далі.

Бусел кінуў дом і з усёй сям'ёй
Скіраваўся на поўдзень у вырай.
Дуб адзін стаіць ды шуміць ліствой,
Ды разводзіць галінамі шырай.

І не ведаў дуб, бусел, дзед Андрэй,
Што над імі бяда вяжа сеці.

Не згадаць-жа ім, не прадчуць падзей,
Каб сляды і хады іх прыкмеціць.

Была раніца, і на небе ледзь
Заранiцы вясёлка займалася,
І на Свіслачы забрымела медзь —
Чырвань неба ў ёй умывалася.

А там, з захаду, разнімае шчыт
Над зямлёю грымотная хмара,
Грыва ўся ў агні, блізка гром гучыць,
І распрыжыўся раптам ударам.

Кончыў дзед Андрэй свой паход-абход.
Міма дуба ідзе, разважае.
Што за дзіва? Зірк—бачыць іскр узлёт,
Гул гудзе ў жарале і дужае.

Валіць з дуба дым. У гары агні,
Нібы стужкі чырвоныя, скачуць.
Стогне волат-дуб. А на ліст зірні,
На галіны... ды лепш-бы не бачыць!

Страпянуўся дзед, ды на двор кулём —
Можа ён яшчэ дуб уратуе!
І бяжыць назад дзед Андрэй з вядром
І на дуб ён вады не шкадуе.

Воду лье ды лье, а ў дупле гудзе,
І пякельны агонь яго ліжа.
Эх, спазніўся дзед памагчы ў бядзе:
Дуб схіляецца... ніжай і ніжай.

Глуха крэкнуў дуб пры сырой зямлі,
Здрыгануўся апаленым целам.
Быццам грымнуў гром у глухім камлі —
Дуб у Свіслач зваліўся, знямелы.

І вяршаліну, і гняздо на ёй
Абняла Свіслач, маці старая.
Багатырскі сук плашч развесіў свой,
Як нябожчыка, дуб прыкрывае.

Дзед стаіць, глядзіць: замест дуба—труп
Ды прагаліна свеціць пустая,
Чорны пень тырчыць, як старэчы зуб,
І, здаецца, аб чымсьці пытае.

Час бяжыць, плыве. І прайшла зіма,
Зноў павеяла далеч вясною.
Ажыла зямля, дуба-ж тут няма —
Незаняты прастор над ракою.

Абудзіўся лес, зацвітае луг,
Бусел з выраю к дубу вітае.
Прыляцеў, зірнуў—дзе-ж падзеўся друг?
Дзе гаспода, харміна тая?

Робяць круг буслы па-над месцам тым,
Дзе стаяў дуб стары з іх гасподай.
Пазірае дзед, спачувае ім:
Эх, бяздомнікі, як-жа вас шкода!

Такляталі дзень, так кружылі два
Ды на хвою паблізу прыселі.
Пагадалі штось, а праз дзень давай
Зносіць голькі для новай пасцелі.

Пазірае дзед, не знаходзіць слоў,
Каб акрэсліць сваё захапленне.
Павучыся, брат, ты у іх, буслоў —
І разумнае-ж гэта стварэнне!

Плынь плыве-цячэ, гоніць срэбра хваль
І ў нікога дарог не пытае,
А былое ўсё глыбей тоне ў даль,
І нанова зямля зацвітае.

*Снежань 1941 г.*

## БАЦЬКУ МІНАЮ

Паклон табе шчыры і нізкі,
Наш бацька Мінай.
Ты стаўся нам родны і блізкі:
Ты — гэта наш край.

Прываблівы, мудры і скромны
І стойкі, як дуб,
Той дуб-багатыр, што над Нёмнам
Узносіць свой чуб.

Не хіліцца дуб перад бурай,
І ты не умлеў —
Пазнала нямецкая скура,
Што значыць твой гнеў.

Адчулі нямецкія морды
Міная ў баю,
Удар твой, раптоўны і цвёрды,
І помсту тваю.

Нявінных дзяцей тваіх родных
Згубіў немец-кат,
І вецер змёў попел халодны
Ад спаленых хат.

Астаўся адзін ты, нябожа,
Без дзетак, сястры.
Туліла імшыстае ложа,
А грэлі кастры.

Я ведаю — цяжка, мой браце,
Зжыць раны той след
І ўсё дарагое растраціць
На схіле ўжо лет.

Ты-ж цяжкае гора адолеў —
Не здрадзіў сябрам.
Сказаў ты, герой наш: «Ніколі
Сяброў не прадам».

Ты мужныя рукі і сэрца
Народу аддаў.
Смерць, смерць немчуры-крыважэрцам!
Згінь, Гітлер-удаў!

Дазволь-жа сказаць табе шчыра:
Жыві, наш Мінай.
Разгорнем рамёны мы шырай
І вызвалім край.

*17/VIII 1942 г.*

## СТАРЫ ГАСЦІНЕЦ

Шлях старадаўні, вядомы ў народзе,
Лёг між прысадаў бяроз.
Пасмы іх спушчаных кос
Звіслі ў лісцвяным жывым карагодзе.

Роўныя тоны іх мірнай размовы
Ціха над полем плылі,
І заміралі ўдалі
Песні спрадвечнай знаёмыя словы.

Побач гасцінца — лясы, лугавіны,
Мора зялёнае ніў,
Срэбраных рэчак разліў,
Лёгшых утульна пад зелені тынам.

Вёскі, мястэчкі абапал дарогі,
Дбалы, гасцінны народ,
Сад, паплавец, агарод,
Гай у сінечы, узгоркаў разлогі...

Век плыў за векам, мяняліся часы,
Шмат адбылося падзей.
Свет расчыніўся шырэй,
Новыя сцежкі пралеглі, як пасы.

Шлях-жа спрадвечны з бярозамі ў згодзе
Так-жа, як здаўна, ляжыць,
Краю гатовы служыць,
Тое-ж ён носіць і імя ў народзе.

Шлях ты мой родны, гасцінец шырокі!
Лучыш ты два рубяжы:
Ўсход наш і Захад чужы,
Лёг ты спрадвеку праз нашы валокі.

Дай ты мне вестку аб людзях і краю —
Чым-жа народ наш жыве?
Голас твой, чую, плыве,
Горы і долы, пустэлі мінае.

Часы ліхія настала ў краіне
Топча дарогі чужак,
Нішчыць дабро ваўкалак,
Чыніць расправы нямецкі звярынец.

Толькі-ж не ведае вораг спакою —
Б'юць яго нашы байцы,
Ворагу будуць канцы:
Смерць яго сочыць з-за кожнае хвоі.

З Нёмана, Прыпяці, Свіслачы, Сожа
Носіцца голас наўсцяж:
— Быў ён і будзе край наш,
Вораг закляты тут голаву зложыць!

Дружна паўсталі байцы-партызаны.
Помста — іх думка адна:
Знішчыць заразу да дна —
Ворагу месца пад дзікім бур'янам!

Вер мне, мой дружа: няпрошаным госцем
Заўжды такі ў нас пачот:
Выкінем нечысць за плот —
Месца ім хопіць на цёмным пагосце.

Чуеш, з усходу як громы грукочуць,
Выкурым гада з нары.
Родны гасцінец стары,
Хай-жа твой голас ды будзе прарочы.

*12/V 1942 г.*

## НАД МАГІЛАЮ ДРУГА

*(Памяці Янкі Купалы)*

Падбіўся ў дарозе ты, дружа,
І вочы пагаслі твае.
У шуме жыццёвае сцюжы
Байца-песняра нестае.
Спі, мой дружа, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Не суджана, знаць, табе, браце,
На родныя гоні зірнуць
І ў нашай разбуранай хаце
Народ да работы гукнуць.
Спі, мой дружа, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Пакончыўшы з дзікай ардою,
З варожаю цемрай і злом,
Мы ўспомнім усёй грамадою
Цябе за жалобным сталом.
Спі, мой браце, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Успомнім, як лепшага сына,
Аддаўшага дар песняра
Народу і роднай краіне,
Дар яркі, як золак-зара.
Спі, саколю, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Шмат сцежак з табою прайшлі мы,
Адзін пракладаючы след,
І слухалі голас радзімы,
Каб несці той голас у свет.
Спі, баяне, спачывай —
Не забудзе цябе край.

І вось абарваліся ніці —
Сышоў ты на вечны спакой,

Буйнейшы наш колас у жыце,
Наш дуб лугавы над ракой.
Спі, гусляру, спачывай —
Не забудзе цябе край.

Парваліся струны, разбіты
Цудоўныя гуслі твае.
Краіна жалобай спавіта —
Байца-песняра нестае.
Спі, спакойна, спачывай —
Не забудзе цябе край.

*2/VII 1942 г.*

## МАЕ МАРЫ

*Прысвячаю М. Д. М.*

Далёка мы ад роднае зямлі,
Над намі неба высіцца другое.
А дожджыка хоць як тут не малі,
Ён не спадзе крыштальнаю слязою.

Разлучаны мы з берагам сваім,
З укладам прошлых дзён, з народам нашым.
На захад свой, як сіраты, глядзім
І п'ем разлукі горач поўнай чашай.

Кароткі час, а колькі ў ім падзей —
Не злічыш іх і не акінеш вокам!
А сэрца з кожным днём заве мацней
К разбураным сядзібам і валокам.

Я ведаю — прытулку там няма —
Зямля і край знявечаны без жалю.
Гаруе люд. Нямецкая чума
Крывавыя прыбіла там скрыжалі.

Шмат страчана, разгублена сяброў,
І дзе наш сын—не ведаем нічога,

Не ведаем, ці жыў ён, ці здароў,
Куды яго скіравана дарога.

Ох, родны мой! Без часу выбіт ты
З юначае шчаслівае пуціны.
Праклят-жа будзь, пасланнік ліхаты,
Спустошыўшы зямлю мае айчыны!

Напружана плывуць за днямі дні,
Нявідна ткуць нязнаную быліну.
Ці ўбачым мы прыветныя агні
І мірную ўваскрэсшую краіну?

Мой верны друг! Прайшлі мы бок-а-бок
Крывых дарог-пуцін ужо нямала.
Канчаецца наш шлях, наш вечар недалёк,
І ноч нам тчэ густое пакрывала.

На схіле дзён я мару аб адным:
Ўзыйсці з табой на нашы гоні, долы.
Зямлі сваёй усім нутром зямным
Паклон аддаць, схіліўшы нізка чола.

*19/VII 1942 г.*

## АДПОМСЦІМ

*(Партызанская песня)*

Ваякі-партызаны,
На Гітлера ў паход!
Раскрышым зброд паганы,
Нямецкі чорны зброд.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар.

Адпомсцім ліхадзеям
За слёзы, здзек, за кроў.
У вілы іх, як змея,
І галавы далоў!

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар.

Наш помсты вір імклівы,
Як гром, гудзе ўначы.
Ачысцім долы, нівы
Ад прагнай саранчы.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар.

На чорным папялішчы,
Дзе поўз нямецкі гад,
Мы гада-немца знішчым,
І згіне Гітлер-кат.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар.

Пад горкаю асінай
Прытуліць ката дол,
І зграі ўсёй звярынай
Загонім туга кол.

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружна, грамадой!
Ямчэй удар, цяжэй удар —
Пылае ў сэрцы помсты жар.

*22/IV 1942 г.*

## У ЛЕСЕ [1]

Люблю я лес, адвечны бор,
Дзе ўзносяць хвоі ўгору шапкі,
Дзе расцілаюць елі лапкі
І востры пах мкнуць у прастор.

Заўсёды ў лесе добра мне:
У ім так ціха, урачыста,
Калі прытоіцца ўсё чыста,
І ветрык нават не дыхне.

І дуб-крапак і куст малы
Стаяць у мудрым задуменні,
А сосны сочаць і струменяць
Густы, духмяны пах смалы.

Замлее лес — такая ціш,
І толькі пчолы струнным звонам
Гудуць працяглым роўным тонам
Ды прашмыгне лясная мыш.

А як прыгожы ў час вясны
Бярозак першыя уборы,
Калі яны па касагорах
У сонцы мараць свае сны!

Мне не забыць і тых часін,
Калі шумяць трывожна дрэвы,
А ў кожным дрэве свае спевы,
А ў хоры іх акорд адзін.

Сваю красу нясуць імхі,
Дзе многа рознай дробнай твары,
Дзе мурашы пасуць атары
Зялёнай тлі, як пастухі.

Хіба-ж не міл і час такі
На схіле лецейка, пад восень,
Калі на верасах між сосен
Пачнуць расці баравікі?

---

[1] З паэмы «Суд у лесе».

Мне лес цяпер міл удвая,
Бо родны лес мой краю служыць,
Бо лес мой туліць смелых, дужых,
Сярод якіх душой і я.

*1943 г.*

## БАЙЦАМ І КАМАНДЗІРАМ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

Якія словы, песні хвалы
Злажу я вам, багатыры?
І слоў маіх, і песень мала,
Каб вам прыняць іх за дары.

Вышэй вы песень самых звонкіх
І самых шчырых слоў-пахвал.
Вы — сонца роднае старонкі,
Зямлі вясёлкавы крыштал.

Над светам, змучаным тыранам
І пакалечаным вайной,
Заззялі ранкам вы румяным
І вечна юнаю вясной.

І толькі вашы рукі, плечы
Такі цяжар падняць маглі:
Ён вышай сілы чалавечай
І вышай сіл другой зямлі.

Пад вашым грамавым ударам,
Як лёд пад сонцам веснавым,
Хіснуўся, падае пачвара,
Нямецкі звер з клыком сваім.

Няхай-жа ў вашым сэрцы львіным
Не стыне помсты жар святы.
Наперад к новым верхавінам!
Да новых подзвігаў, браты!

*22/І 1943 г.*

## ЧЫМГАН

I

У мантыі лёгкай з празрыстай сінечы
Узносіцца ў неба магутны Чымган.
На ім спачывае халодны туман,
І хмары кладуцца на крэпкія плечы.

Як нейкі ўладар, незлічона багаты,
У розных адзеннях красуецца ён:
Дае яму сонца і колер, і тон,
Ткуць зоры і месяц яму свае шаты.

Суровы, маўклівы, як хорам спрадвечны,
Скалістыя вежы раскінуў Чымган,
Дзе непатрывожаны беркут-крылан
Адзін аглядае прастор бесканечны.

Я ў мыслях узношуся вышай Чымгана,
Туды, дзе звісае бяздонны блакіт,
Дзе свет ва ўсе бокі шырока адкрыт,
І ў мыслях гляджу я на край свой каханы.

Чымганскія высі напоўнены мірам,
На горах заснуў першабытны спакой,
А ў беднай краіне, гаротнай маёй,
Кроў, гора і слёзы расходзяцца вірам.

Эх, горы і скалы, даліны і кручы
І ты, нерухомы, магутны Чымган!
Не злечыце сэрца майго вы ад ран
І боль мой не сцішыце, едкі, пякучы.

II

Стаіць нерухома Чымган сівагрывы,
Як волат, рассунуўшы плечы.
Па схілах вандруюць святла пераліву,
Струменяцца з яснай далечы.

Унізе Чымганка шуміць, не сціхае
У жолабе вузкім каменным,
Гудзе аднатонна, і песня глухая
Даносіцца спевам нязменным.

Па скатах пажоўклых узгор'яў Чымгана
Няўцямна штось шэпчуць арыкі,
А хоры цыкад усю ноч аж да рана
Чымган услаўляюць вялікі.

Калі-ж пад гарамі ў жалобнай адзежы,
Ноч госцяю ляжа нязванай
І знізіць і горы, і выступы-вежы,
Прыкрыўшы іх чорнай сутанай, —

Тады запалае нябёсаў скляпенне,
Гірляндамі зор загарыцца,
Разгорнецца неба ў дзівосным адзенні,
Бы хочацца небу маліцца.

Спакой урачысты, прыглушаны гукі,
А неба ўсё — рух, трапятанне.
І голас змаўкае штодзённай дакукі
Прад веліччу зорнага ззяння.

А скоціцца знічка з бліскучага луга,
Як лісцік з нябеснага гаю.
І я тады ўспомню далёкага друга,
Па кім я так часта ўздыхаю.

## СОВЕЦКІМ НАРОДАМ

Розум і воля, і сэрца народаў!
Буры і громы прайшлі.
Сцяг пераможны вялікіх паходаў —
Слава совецкай зямлі.

Дружбай народаў магутна краіна,
Моц наша ў згодзе святой.

Будзь-жа шчасліва ты, наша пуціна,
Вечна свяці яснатой!

Хто-ж нашу дружбу пасмее парушыць,
Руку падніме на нас.
Трупамі лягуць іх чорныя душы,
Гібелі будзе ім час.

Нам пакараюцца мора і рэкі,
Горы і нетры зямлі.
Леніну, Сталіну слава навекі —
Сілу яны нам далі.

## САЛАР

Рассыпала сонца каралі,
Ірдзее ў ім пыл, нібы жар.
Шумлівыя кідае хвалі,
Прахладаю вее Салар.

Утульнай густою сцяною
Схіліліся дрэвы над ім.
Гамоніць Салар з цішынёю,
Не ведаю толькі аб чым.

Рахманая горленка з дрэва
Глядзіць на шырокі арык.
Вядомы ёй лепш яго спевы,
А я да іх — не, не прывык.

Злятаюцца птушак чароды
На ноч у зялёны гушчар.
Імклівыя жоўтыя воды
Нясе безупынку Салар.

Пагасла дзесь сонца далёка,
І толькі праменні ўгары
Узняты, як рукі прарока,
І дрэвы змыкаюць шатры.

Над стрэльчатым верхам тополя
Займаецца бледна пажар,
Паветра гарачае з поля
Плыве на халодны Салар.

Сціраюцца яркія тоны,
Напоўзвае мрок патайны,
І вечар замёр задумлёны,
Бясшумна снуюць кажаны.

Грывястыя жоўтыя хвалі
Не ведаюць сцішаных мар.
Маўчаць невядомыя далі,
Шуміць неўгамонны Салар.

А я пазіраю на захад,
Мне цяжка. Чаго? — не пытай!
Накрыты мы ўсе адным дахам,
А ўсё-ж найдарожшы свой край.

Сяджу я адзін, разважаю.
Як хвалі, маршчыны на лбе.
Смуткую па роднаму краю,
Тужу, мілы друг, па табе.

Укрылі далёкія зоры
Нябесны бяздонны абшар.
Аб чым-жа, скажы мне, гаворыш,
Узбекскі шумлівы Салар?

## НАВАЛЬНІЦА [1]

У небе свае адбываліся справы,
Ды людзі тут іх не зважалі.
Падшумліваў вецер лагодны, ласкавы,
Гайдаўся ў галінах, лажыўся на травы
І кветкам падлічваў каралі.

Кашлатыя хмары, як шапкі-папахі,
Развешвалі чорную воўну.
На светлае сонца рабілі замахі,

[1] З паэмы „Адплата“

Раслі, напаўзалі, як здані, як страхі —
Таемна, пагрозна, бязмоўна.

А вышай над імі заслонай кудзелі
Пасляліся густа аблокі.
Здавалася, багны нябёсаў аселі,
Аперліся цяжка на цёмныя елі
І сум затаілі глыбокі.

Схавалася сонца, і толькі праз хмары
Ледзь свеціць прагаліна цьмяна.
Маркотныя цені сышлі на папары,
Дзе мошкі, кузуркі і пчолак атары
Мядок бралі з кветак духмяных.

І вецер спыніўся, прысеў на галінах,
Прымоўк, як былінка сухая.
Адна толькі ў лесе шаптуха-асіна
Шушукала зрэдку аб нейкіх навінах,
Шушукне, ды зноў заціхае.

А хмары клубяцца, за лавамі лавы, —
У небе ім робіцца цесна.
Пануры іх колер і від неласкавы,
Зліваюцца ў глыбы клубоў кучаравых,
З-за лесу выходзяць злавесна.

Паўзуць яны звольна, ў развазе суровай,
Суцэльную цягнуць тканіну,
Бы з намыслам нейкім, з нядобраю змовай
І мрок апускаюць над лесам, дубровай,
І сцелюць смугу на даліну.

І вось дзесь далёка, нібы пад зямлёю,
Глухія загухкалі громы.
Струменні маланак адна за другою
Махаюць у хмарах шырокай касою
І вычварна крэсляць заломы.

Трывожная ціша прыцята зняменнем,
Травінка і лісцік застылі.
Стаілася ў страсе жывое стварэнне:

Мурашкі залазяць у схоў сутарэння
І ходы ў мурашнік закрылі.

І раптам, што тыгра, зрываецца вецер,
Умомант мяняе натуру,
Рве жоўклае лісце з макушак і з веццяя
І круціць, і верціць, і гоніць, як смецце,
Ды коціцца воблакам куру.

Трапечуцца дрэвы, кусты ў дзікім тлуме,
Размахваюць, б'юцца галінай,
Губляюцца громы ў тым жудасным шуме,
У песнях знішчэння, у буйстве і глуме,
У ветравай злосці звярынай.

Аселі, ссівелі грымотныя хмары
Ды срэбнаю сеццю густою
Ідуць на паляны, на луг, на імшары,
Стаўкі і азёры кладуць на папары,
Злучаючы неба з зямлёю.

*1944 г.*

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ [1]

Над полем, дзе спелі жыты і пшаніца
І мыліся ў росах аўсы,
Прайшла, пазваніла свой час навальніца
На ўсе галасы.

Цяжэрныя хмары прагнала над полем,
На нівы абрушыла град.
Палегла збажынка пад дзікім сваволлем
У скручаны склад.

Эх, поле, уцеха вачэй хлебароба!
Злажыў цябе шум дажджаны,
Памята, пабіта краса і аздоба
Тваё збажыны.

[1] З паэмы „Адплата".

Схіліліся моўчкі шчыты аржаныя,
Сцят колас і кінут у прах.
Блішчаць на ім кроплі, як слёзы буйныя
У блеклых вачах.

Бягуць ручаі па разорах размытых,
Выгладжваюць жоўты пясок;
Яны не падымуць тваіх аксамітаў,
Жывы каласок!

Эх, поле! глядзіш ты журботна, балесна,
Як маці, прышоўшы пад крыж.
Як-бы не цвілі для цябе твае весны,
Не песціла ціш.

Клубястыя хмары пацiснулі далей,
Зганяе іх гром-чарадзей,
І стрэлы маланак у гнеўных скрыжалях
Мільгаюць радзей.

Пабітае поле! На поўдзень зірні ты:
Блакітны заззяў там чаўнок,
І дбалае сонца праз волкія ніты
Свой ладзіць станок.

Апалі на землю халодныя слёзы,
Што гнулі былінкі к зямлі,
І сетачкі-крылцы ўжо сушаць стракозы,
Жучкі, матылі.

Вось выплыла сонца і тчэ на падолку
Тканіны кужэльнай святло,
Сямікаляровaю дужкай-вясёлкай
У хмары ўбрыло.

І шэпатам ласкі на выбітым полі,
Як сонца, плыве навіна:
Распроствае постаць і стан свой паволі
Жытцо, ярына...

Гадаючы ў смутку аб краю каханым,
Дзе чорная злоба прайшла,
Скажу свайму люду, зямлі і курганам:
Падымемся з тла!

*1944 г.*

* * *

У хвалях няспыннага руху
Ідзе-плыве час
Нячутна для нашага слуху,
Нябачна для нас.

І мы з ім, як хвалі, дыбаем,
Праводзім свой шлях,
А далеч расквечаным маем
Стаіць у вачах.

І шмат нам дароў яна суліць,
Чароўных, як сон.
Нас вабіць, і горне, і туліць
Дарога-разгон.

Яшчэ ў дні маленства лятункі
Авейваюць нас,
Прыгожыя пішуць рысункі,
Вянкі ўюць украс.

У нашай дарозе мы стрэнем
Не мала прыгод,
І сонцам мы пройдзем і ценем
Пад гоман грымот.

У нашым няспынным імкненні
Ёсць шмат хараства,
Хоць шлях нам заступяць каменні,
Пясок і жарства.

Ды мы іх падолеем, скінем,
Адсунем убок.
Наперад! к тым далечам сінім
Скірован наш крок.

Жывіся-ж вялікаю верай
У праўду, мой брат!
Наперад, і толькі наперад —
Ні кроку назад!

*1944 г.*

## НА РУІНАХ ПРОШЛАСЦІ

Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце.
Прытулак дум, абраны мой куток,
Дзе высіцца Вусцянскі мой грудок
І вецер лёгенька гайдаецца на кусце.

Іду на груд павольнаю ступою.
Сумотна мне, бо я цяпер адзін.
Мне шмат чаго прыходзіць на ўспамін,
І нікну я паныла галавою.

Грудок усё-ж такі, як быў, прыветны,
Гваздзічка белая, чабор на ім,
Ды ўжо гляджу я поглядам другім,
Як дуб стары, астаўшыся бяздзетным.

Стаю, маўчу, мясціны аглядаю —
Змяніліся, і трудна іх пазнаць.
Дубоў маіх паменшылася раць,
Як і людзей у родным нашым краю.

Бязлюддзе, ціш. Высокаю травою
Вусцянскія сялібы зараслі.
Бярэзнічак заняўся на зямлі,
Атульвае разложыстую хвою.

Дарожкі той, што бегла к Балачанцы,
Няма нідзе — згубілася ў траве,
У памяці маёй яна жыве,
Як шмат з таго, што знікла на палянцы.

І тых, з кім быў я блізка так знаёмы,
Ужо няма: хто выселіўся сам
К апошнім тым на свеце рубяжам,
Дзе крыж стаіць журботна нерухомы.

Другіх вайна ў далёкі свет пагнала,
І многа іх не вернецца назад,
А трэціх вынішчыў, замучыў немец-кат,
І родная зямля іх не прыбрала.

І ўсё мне тут, дзе вокам я ні кіну,
Нагадвае аб жорсткасцях вайны.
Знявечаны лясы, а порасцік буйны
Жыве і тчэ спрадвечную тканіну.

Ідзе жыццё, буяюць яго сілы,
Не немцу глупаму суняць яго, спыніць.
Снуе жыццё за ніццю сваю ніць,
І моцныя для ўзлёту яго крылы.

Я ведаю — загояцца ўсе раны:
З пажарышч край паўстане, расцвіце
Ва ўсёй сваёй красе і паўнаце. —
Наш верны шлях, ён з праўдай павянчаны!

І толькі мне адно сягоння горка:
Няма таго, з кім думкі я дзяліў,
З кім тут стаяў і з кім я быў шчасліў —
Пагасла ты, яснюсенькая зорка.

*8-9/VII 1945 г.*

## ТОПАЛЬ

*(Памяці друга)*

Каля купалавай пасады
Упёрся топаль у вароты.
І думаў Янка, як даць рады,
Каб не было яму згрызотаў.

Пад тапалёваю паветкай
Ляжалі градкі, ззялі ружы.
Расціў на клумбах Янка кветкі,
Пясняр наш дбалы і дасужы.

«А топаль грозны і гузасты,
І жыць яму, як бачна, мала —
Яму даўно ўжо гадоў за ста», —
Так разважаў з сабой Купала.

І страх часамі браў паэта,
Што вецер дрэва ў сад паваліць,
І будзе кветкам песня спета
У шуме-громе смертнай хвалі.

І вось прышлі дні злой навалы:
Асірацелі паркі, плошчы,
Згарэлі сад і дом Купалы,
І сам ён — блізкі нам нябожчык.

І Мінск, як труп, адны руіны,
Дзе ў мёртвых сценах вецер свішча,
А топаль, волат-сіраціна,
Стаіць на варце папялішча.

Ды горад мы з руін падымем,
Успыхне радасць зноў над краем,
І песняра святое імя
Навекі ў сэрцы захаваем.

*14-15/IV 1945 г.*

## ЛЯСАМ БЕЛАРУСІ

*Прысвячаецца П. К. Панамарэнка*

З маленства люблю я лясы,
Іх сцішаны голас і шум патаёмны,
І пушчы глухія, а ў іх бураломы,
Дзе віхры гудзелі пад гулкія громы
Ды слалі дажджоў абрусы.

Вучыў мяне лес пазнаваць
Прыгожства, суладнасць і чары прыроды,
Дзе птаства спраўляе штогод карагоды,
Дзе тояць крыніцы празрыстыя воды
Для рэчак, каб край умываць.

Ой, лес, беларускі наш лес!
Я песень за век свой злажыў табе многа,
У свет праз цябе мне ляжала дарога,
Ты песціў юнацкасць, і цешыць старога
Сягоння твой полаг-навес.

Ад сэрца табе я скажу —
Прымі-ж ты падзяку за ўсе твае дары:
За ціхія думы, за ясныя мары,
Што ты навяваў мне ў імшыстым гушчары,
Зганяючы з сэрца імжу.

І людзі вам скажуць, лясы:
У мірныя часы і ў часы ліхія
Кармілі, тулілі нас гмахі лясныя,
І хаты мы бралі з лясоў дзервяныя,
І мёд нам даюць верасы.

Акіну-ж я вокам свой край —
Прайшлі над ім буры, крывавыя грозы,
Дубы на дол палі, як ніцыя лозы,
Пайшлі пад сякеры і граб і бярозы.
Што знікла ў агні — не пытай.

На раны пабіта зямля,
Дзе смерць, бы касец той, прайшлася з касою.
Умыла дарогі смяртэльнай расою,
На долы шырокай лягла паласою,
Патрэсла лясы да камля.

Эх, родныя пушчы, бары!
Як вы парадзелі і звузілі колы!
І колькі ў вас плешын, асмаленых, голых,
Дзе вецер, вандроўнік жартлівы, вясёлы,
Высвіствае спеў свой стары.

Падходзіць вам час адпачыць,
Акрыцца адзежынай свежаю, новай,
І меней чуць, бачыць сякер, піл сталёвых,
Што поўнілі звонам гушчары, дубровы,
Бо ў іх ваша гора гучыць.

Я-ж мару цяпер аб адным:
Зямля—невычэрпнага скарбу крыніца,
На цэглу дасць гліны і для чарапіцы!
Мы з іх пабудуем дамы-камяніцы
На змену будынкам старым.

А вас, нашы пушчы, бары,
Ахоўваць мы будзем за ўсе вашы дары,
Засадзім лясамі пяскі і выжары,
Дзе плехі рабілі сякеры, пажары
Суровай ваеннай пары.

Няхай адпачынуць лясы,
Разгорнуць шырока зялёныя крылы
Ды зноў назбіраюць той мудрае сілы,
Што здавен ашчадна тулілі край мілы,
Багаты і поўны красы.

*1945 г.*

8

## ДА ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЯ КАСТРЫЧНІКА

Як хвалі шырокага мора,
Плывуць нашай славы гады,
І сонца ў іх ззяе, і зоры,
І далечай новых прасторы,
І сілы разгон малады.

Хто спыніць раскутыя сілы?
Хто праўды патушыць агні?
Скірован наш лёт быстракрылы
Ад цемры, ад ночы магілы
У ясныя далі і дні.

Совецкі наш край! Ты праз громы
Прайшоў, не панік галавой.
Як волат, яшчэ невядомы,
Над светам, не знаючы ўтомы,
Паўстаў ты гранітнай скалой.

Стаіш, непадкупны і смелы,
На варце законаў людскіх,
Каб праўда, як сонца, гарэла —
За шчасце, за правае дзела
Народаў бяспраўных, малых.

Твой голас ніхто не заглушыць:
Ні зграі прадажных пісак,
Ні лордаў двурушныя душы...
Не! Сонца аслiныя вушы
Сабой не заслоняць ніяк!

Мы Леніна праўдаю дужы,
Мы Сталіна воляй цвярды,
Народам і міру мы служым,
Пранёсшы праз буры і сцюжы
Наш сцяг баявы, малады.

Красуйся-ж ты вечныя годы,
Наш край, малады багатыр!
Чэсць, слава совецкім народам,
Іх творчым узлётам, паходам!
Хвала табе, наш правадыр!

## ПЕРШЫ МАЙ

Кожны год прыдае табе сілы,
Веснік новай вясны, Першы Май.
Свет стары, свет гнілы, апастылы,
Адыходзь у нябыт, памірай!

Не табе зачыніць нам дарогі,—
Яны ўсе к комунізму вядуць:
Няма сіл у цябе і той змогі,
Каб жыццё ды назад павярнуць.

Няхай труманы, маршалы, папы
Разам з Бэвінам, з Блюмам пустым
Раззяўляюць звярыныя ляпы —
Гаспадарыць над светам не ім!

Адцвілі, палінялі ціяры,
З'едзен моллю стары Ватыкан.
Ні малітвы яго, ні далары
Не паднімуць сатлелы іх стан.

Новы подых праходзіць па свеце,
Ён старую ўсю гніль размяце.
Дык здароў-жа ты будзь, майскі вецер!
Няхай Май на ўсім свеце цвіце!

Кожны год прыдае табе сілы,
Веснік новай вясны, Першы Май.
Дык разгорнем пашырай мы крылы:
Бур наперадзе многа — зважай!

*1948 г.*

# РЫБАКОВА ХАТА

## *Раздзел I*

### 1

Глядзіць у вокны зімні вечар.
Кладзецца мрок на цесны двор.
Мароз-мастак рукой старэчай
На шыбах піша свой узор.
Ляжыць зямля ў адзенні белым,
І дрэвы ў шэрані стаяць.
Спакой халодны, амяртвелы
Паклаў на ўсё сваю пячаць.
Але жыве старая хата.
Як сведка прадзедаўскіх дзён.
Лучнік звісае, нібы звон,
І тоіць нейкі сум зацяты.

### 2

На лучніку гарыць карчажка,
Агоньчык весела шуміць,
Нібы жывы, нібы жар-пташка,

Ды пра сваё штось гаманіць.
Здавалася-б, у гэтай хаце,
Збуцвелай, згорбленай, старой,
Павінен дзед быць на палацях,
Мудрэц з сялянскаю душой
Або старая варажбітка,
Што прышласць можа расчытаць
Ды людзям дзіва паказаць
І цуд стварыць увачавідкі.

3

Не — тут якраз у свеце сілы
І на зары свае вясны
Жывуць Марына і Даніла,
Год, як пабраліся яны.
Стаіць калодка сярод хаты,
А стук бяжыць ва ўсе вуглы:
Даніла справаю заняты —
На сані чэша капылы.
Пачэша, змерае на-вока,
Ці гладка выведзены чос,
А сам гадае пра свой лёс
І мыслі кідае далёка.

4

Сур'ёзны, сталы не па летах,
Гадуе ён у сэрцы план —
Зажыць па-людску—а не гэтак,
Як у пячуры таракан.
Даволі жыць чужой скарынкай,
Хадзіць па людзях бабылём:
Цяпер іх двое, і з Марынкай
Яны збудуюць новы дом.
Хібарка-ж гэтая старая
Ужо каторая пара
Гібее без гаспадара,
І дзе ён сам, ніхто не знае.

5

А жыў у ёй Сымон Латушка,
Яе законны гаспадар,
Натура вольная, як птушка,
Рыбак заядлы і дудар.
І жыў ён птушкай пералётнай,
Хоць, праўда, ў вырай не лятаў,
А больш на печы бестурботна
Зімою ночы каратаў.
Хіба як голад сваё права
Прад'явіць грозна дудару,
То ён і ў зімнюю пару
На раздабыткі бег рухава.

6

Але няма ў яго маршруту.
Куды ісці, у двор які.
Ён на дварэ стаіць з мінуту,
Уважна нюхае дымкі.
І нос яго не ашукае,
Вядзе, як компас, у той двор,
Дзе гаспадыня запраўская
Пячэ бліны і скварыць здор.
І людзі ведалі Сымона,
Сымон людзьмі не злоўжываў.
Людскіх-жа звычаяў і праў
Трымаўся цвёрда, як закона.

7

К таму-ж яшчэ ён быў вясёлы,
На байкі здатны, на язык.
І словы сыпаў, як з прыполу,
Жаданы ўсюды жартаўнік.
Вясной, як толькі снег пагіне,
А рэчка ўвойдзе ў берагі,
Адзін Хрыстос жыве ў хаціне;
Сымон-жа сам ідзе ў лугі,

Нясе з сабою і ўсе снасці:
Вядзёрка, вуды, кацялок,
Садзіцца ў лёгкі свой чаўнок,
Упэўнены ў рыбацкім шчасці.

8

Вясна і лета — яго свята,
Яго жыццё, яго жніво.
Хоць ён і жыў не так багата,
Затое-ж воля, хараство,
Прастор нябёс, лугі і травы,
Паветра чыстае лясоў,
Агоньчык ветлы і ласкавы
І думы мірныя без слоў.
Ён зварыць смачную вячэру
І ляжа песціцца ў траве.
Няма турбот у галаве.
А вольны свет — яго кватэра.

9

Вось так і жыў Сымон Латушка,
Адзін, не звязаны нічым,
Сабе сам пан, сабе сам служка,
Ды ліха сталася і з ім.
Сымон вязаў на рыбу сеці,
А на Сымона ў гэты час
Паны вяльможныя ў павеце,
Як і на ўсіх, свой ткалі пас.
Снавалі ніці іх шпіёны,
Як павуціну павукі.
І лад заводзілі такі,
Што застагналі ўсе Сымоны.

10

Прышоў аднойчы панскі гончы,
Паліцыянт, агледзіў снасць

І актам свой агляд закончыў
Зусім Сымону не пад масць:
За волак вызначыў падатак.
За гушчыню-ж яго вачок
Накінуў злотых з поўдзесятак —
Плаці, Сымоне, і маўчок.
Затым пайшлі яшчэ падаткі
На хату, землю і на двор,
А там і штраф. Бадай іх мор!
Бадай на іх бог даў упадкі!

## 11

Сымон падумаў, паразважыў.
Плаціць... Каму? Трыбухачу?
Хутчэй ты здохнеш, сіла ўражжа,
Чым я налогі заплачу!
Сабраў Сымон свае манаткі —
У грунт не дужа ён урос, —
Хоць, праўда, шкода яму хаткі, —
Ну, што-ж, вартуй яе, Хрыстос!
І ён зірнуў на печ, на лавы,
На покуць, дзе вісеў абраз.
Бывай-жа, хата, добры час!
І ў свет пайшоў бабыль рухавы.

## 12

Тры годы хата пуставала,
Зямлю-ж гектараў паўтара
Прыбраў вясковы абдзірала,
Прыслужнік панскага двара.
А хто-ж Марына і Даніла?
Як апынуліся яны
У хаце кінутай, панылай,
Дзе сцены курныя адны?
Не доўгі век маіх герояў,
Але калі зірнуць назад,
То ён падзеямі багат,
Не лёгкі шлях прайшлі абое.

### 13

Марына родам з-пад Пружанаў.
За нейкі час перад вайной
Бацькі яе неспадзявана
Памерлі ранняю вясной.
І засталася яна з братам.
Ёй дзесяць год, а брату тры.
Пайшла Марына жыць па хатах,
Таптаць чужацкія двары.
Была і нянькай і пастушкай
Без ласкі матчынай, адна,
А хлопчыка ўзяла радня,
Каб абярнуць і яго ў служку.

### 14

Была яшчэ адна падзея,
Што прыпаднесла ім вайна.
Успомніш — сэрца халадзее,
Душа калоціцца да дна.
Быў у Марынкі дзядзька родны,
І вось калі прышоў загад
З-пад фронту бегчы ў свет халодны,
То дзядзька, меншы бацькаў брат,
Падбіў Марынку ехаць з імі
І разам жыць з яго сям'ёй —
Чаго сланяцца ёй адной
Сіроткай горкай між чужымі?

### 15

Паехалі — яна, Ігнатка
Ды дзядзька з цёткай, іх сынок.
Куды? Ніхто не знаў парадкам,
Дзе іхні спыніцца чаўнок.
І дзень і два яны ў дарозе,
То гуртам едуць, то адны,
То заначуюць пры бярозе,

То ў лесе дзе каля сасны.
Было ў дарозе шмат відовішч,
Малюнкаў розных, гора, слёз,
Што тлум людскі з сабою нёс,
Што толькі чулым сэрцам зловіш.

### 16

Марынка чыста па-дзіцячы
На свет глядзела, на людзей,
І не туманіў лёс бядачы
І новы дзень яе вачэй.
Яна то ехала на возе,
То йшла з Ігнаткам пехатой.
А стрэнуць хвойнік пры дарозе,
У хвойнік кінуцца стралой,
Ці ў лес дубовы на хвілінку,
Калі ён трапіцца грыбны.
Баравікоў збяруць яны
Ды едуць далей без упынку.

### 17

Так і праходзілі дні, ночы,
І лета ўжо ішло на сход.
А доўгі цень за імі крочыць,
І птушкі ладзяцца ў адлёт,
Яны ўсё едуць далей, далей.
З дня ў дзень з начлегамі цяжэй.
Глядзіць журботна цётка Галя,
Пануры дзядзька іх Аўдзей.
Марынка сэрцам адчувае,
Што, пэўна, лішнія яны,
Хоць і няма іх тут віны,
А дзядзька ў мыслях штось хавае.

### 18

Яна сама адчуе смутак,
Да брата туліцца бліжэй.
І шмат было такіх мінутак

Пачуццяў горкіх і надзей.
А дзень канчаецца тым часам,
Пара падумаць пра начлег,
Ды дзе спыніцца для папасу?
А лес абапал, як на грэх.
— Ну, што-ж? У лесе паначуем:
Находзіць ноч, падбіўся конь.
Збірайце дровы на агонь. —
І дзядзька з коніка зняў збрую.

## 19

Прынеслі дроў, агню наклалі,
У прыску бульбы напяклі.
А ноч рассыпала каралі
Над гмахам сцішанай зямлі.
У лесе цёмна. Скрозь галіны
Цікуе месяц малады,
А дзесь з суседняй баравіны
Крычыць сава на ўсе лады.
Вячэра кончана, і цётка
Ідзе да воза слаць пасцель.
Марынка мох кладзе пад ель —
І тут ім будзе спаць салодка.

## 20

Яна, як маці, па Ігнатку
Раняе дух, глядзіць за ім.
Прылегла з брацікам, бы матка,
І сном заснулі маладым.
Праходзіць ноч, і меркнуць зоры.
Святлее ў лесе. З-за камлёў
Праменні сонца шле ў дазоры
І будзіць сірат-малышоў.
Марынка вочы расчыніла —
Не сходзіць з іх салодкі сон.
Глядзіць, як ночку правёў ён,
А хлопчык спіць з усмешкай мілай.

## 21

І раптам дрогнула сіротка,
І ў сэрцы штось кальнула ёй.
А дзе-ж фурманка? А дзе-ж цётка?
А дзе іх дзядзька? Божа мой!
Яны адны! Няма і следу
Ні дзядзькі з цёткай, ні калёс.
Куды падаўся конік гнеды?
У які бок дзядзькоў павёз?
Яна замерла на хвілінку,
І сон развеяўся, як дым.
Глядзіць лес вогнішчам пустым
І страх наводзіць на Марынку.

## 22

Што-ж тут рабіць? Хто дасць параду?
Куды падацца ёй, куды?
Як знесці гэтакую здраду?
Дзе выйсце з роспачы-бяды?
Глядзіць Марынка на Ігната —
Ён спіць, пакінуты малыш,
А лес глухі маўчыць зацята.
Навокал глуш адна і ціш...
Заплакала дзяўчынка з жалю,
Зямлі не бачучы з-за слёз.
Аж едзе бежанскі абоз,
І людзі іх з сабой забралі.

## 23

Вандруюць зноў яны ў трывозе
З людзьмі чужымі ў свет чужы,
А ліха следам па дарозе
За імі ўпотайку бяжыць.
Дагнала бедную Марынку,
Наслала ёй цяжкую хвор.
Яна ў бяспамяцці. Дзяўчынку

Адвезлі ў больніцу на двор.
І разлучыла ліха сірат.
Марынка ў больніцы адна.
Дзе брат, не ведае яна,
І след яго прапаў, бы ў віры.

## 24

Праходзіў час, плылі нядзелі,
Далёка бежанства, шпіталь,
І дні дзяцінства адляцелі
Кудысь у выцвіўшую даль.
Марынка ў людзях акрыяла
І кветкай майскай расцвіла.
Хоць гора зведала не мала,
Ды друга мілага знайшла
І вышла замуж за Данілу,
Як і сама, за батрака.
Ім сход адвёў дом рыбака —
Няхай жывуць, раз ім тут міла.

## 25

Цяпер Марынка—гаспадыня,
І весялей жыць стала ёй.
Яна з Данілам не загіне,
І з часам кут прыдбаюць свой.
Яе работа не пужае —
Не ёй да працы прывыкаць.
Хоць праца зноў усё чужая,
Ды лепей, чым адной блукаць.
І ўсё, што колісь пераажыта,
Цішэй спускаецца на дно.
Не забываецца-ж адно:
Журба па брату не пазбыта.

*Люты-сакавік 1940 г.*

## *Раздзел II*

### 1

Не дужа ветла ў гэтай хаце:
Акенцы скошаны на бок,
Пры печы туляцца палаці,
Уздоўж сцяны стаіць палок.
На гнуткай жэрдачцы калыска
Звісае к самаму палку,
А столь закурана і нізка,
Дзе трудна жыць і павуку.
Затое-ж колькі шчасця, ласкі
І мацярынскага цяпла
Калыска-гойданка ўзяла!
Якія зложаны тут казкі!

### 2

Каля калыскі ў мроку шэрым
Чуваць ґаворка-варкатня:
«Не хочаш спаткі, мой Валерык?
Такая ў хаце стукатня!

Глядзі — унь татка ладзіць сані,
І мамцы трэба зарабляць,
Каб мой сынок быў у жупане,
Няма калі з табой гуляць...
Ну, ну, не плач! ну, не крывіся:
Ты-ж маладзец, мужчына ты,
Маладзічок мой залаты,
Унь жыжа свеціць, падзівіся!»

3

Яна бярэ сынка на рукі.
Яму не больш, як тыдняў пяць,
А ёй здаецца, да навукі
Яго пара ўжо далучаць.
Глядзіць і цешыцца з малога
Ды з ласкай туліць да грудзей.
Ну, дзе знайсці сынка такога?
І радасць сочыцца з вачэй.
— Зірні, Даніла: такі-ж самы,
Як ты, і крошачкі пабраў,
І губкі гэтак-жа зацяў...
Ці сын падобен больш да мамы?

4

Паправіў светлы чуб Даніла,
Зірнуў на жонку, на дзіця.
— Ну, ты ўжо трошкі наманіла,
Не смейся ты з мяне хацця.
Унь, цельпучок ты наш кірпаты!
Кінь суслу, лепей закуры!..
Глядзі, які ён зухаваты
І пазірае, як стары. —
Яны ўдваіх глядзяць на сына —
Малы, а колькі ўцехі ім!
І думкі маюць заняць чым,
І з ім утульней больш хаціна.

5

Сынок заснуў. Услон драўляны
Бліжэй падсунут к лучніку.
Работа зноў ідзе па плану
І на ўсю поўную руку.
Марыне трэба спрасці воўну,
Заказ, прынесены даўно,
І смыча нітку яна роўна
Шляхцянцы нейкай на сукно.
Гарыць работа, і хусцінка,
Нібы матыль які жывы,
З яе спаўзае галавы,
І люба глянуць на Марынку.

6

Адкрыты лоб, сама смуглява,
А што найбольш прывабна ў ёй,
Дык гэта вочы, іх аправа
Пад тонкай дужкай брывяной.
Як тыя-ж вейкі прыпадніме —
Нібы ўзлятаюць матылькі,
Ці засмяюцца ў жытнім дыме
Пад летні ветрык васількі.
І погляд іх такі лагодны,
Хоць часам свеціцца ў іх сум
Адбітак нейкіх горкіх дум,
А часам строгі і халодны.

7

Яшчэ-б дадаў я колькі рысак,
Каб дапісаць яе партрэт
Без лішніх выдумак, апісак,
Якіх не ўхіліцца паэт,
Але дарога, шлях паэмы,
Ледзь толькі збіцца з двара,
Не ўсе відны яе паземы

І для самога песняра.
Прыгод у ёй яшчэ нямала,
Марынку стрэну я не раз,
Дык далей свой вяду расказ,
Які жыццё мне падказала.

8

Даніла кончыў сваю рату,
Да купы ставіць капылы,
Аж раптам стук пачуўся ў хату
З двара, з марознае імглы.
Ўваходзіць госць неспадзяваны,
Мікодым Богут, той павук,
Што лісцем сцеле перад панам,
Перад панамі гнецца ў крук;
Той самы Богут, што без жалю
Гатоў зарваць чужы кусок
І высмактаць з цябе ўвесь сок,
Свайго-ж не ўпусціць ні на цалю.

9

Вайшоў, спыніўся на парозе,
На хату кінуў востры зрок,
Затым у велічлівай позе
Яшчэ ступіў на адзін крок.
— Дык добры вечар вам, панове!—
Ён далікатны, як і пан,
А панскіх слоў у яго мове —
Хоць ты іх кідай за паркан.
Яго прысесці запрасілі
І падстаўляюць табурэт.
Садзіцца важна прайдзісвет
І зрок спыняе на Даніле.

10

— Што-ж гэта, васпан мой ласкавы,
Не завітае да мяне? —

Узбіў Даніла чуб святлявы —
Куды-ж ён цэліцца і гне?
І кажа: «Так, не выпадала:
Вы — гаспадар, а я... што я?
Дапяў, прызнацца, вельмі мала—
Ось хата, бачыце, мая...»
— Так, так, ды вартасць усё-ж мае,
Няхай сабе хоць як труна,
Дый не васпанава яна, —
Ось дзе, васпане, запятая!

## 11

І Богут глянуў многазначна,
Падняўшы палец угару,—
А вус паплыў на твар, блін ячны,
Вагі дадаў гаспадару.
Зірнуў на госця і Даніла,
Адчуўшы цёмны нейкі ход.
Куды паводзіць сваё рыла?
Чаго ён хоча, абармот?
— Вы праўду кажаце, пан Богут:
Жывем у хаце мы чужой,
У рыбаковай, у пустой,
Ды людзі добрыя памогуць...

## 12

Пан Богут гнеўна ссунуў бровы,
Закратаў вусам, як прусак.
— Пустыя, васпан, кажаш словы:
Я гаспадар, а не рыбак!
Бо праз мяне сваю апеку
На хату вырак даў мне суд,
А лайдака таго, няўмеку —
І не папарыцца ён тут.
Так, так, васпане мой ласкавы:
Плаціць за хату трэба мне,

Раз вы жывеце ў ёй, а не —
Дык скутак будзе нецікавы.

13

І вышаў госць паважна з хаты,
Як гаспадар, як уладар,
Надзьмуўшы круглы твар вусаты,
Няўмольны, жорсткі да ахвяр.
Яго няма, а ў мірнай хатцы
Астаўся чад яго пагроз.
Як далей жыць? і за што ўзяцца?
Эх ты, бяспраўны горкі лёс!
— Марынка, чула ты брадзягу?
Ой, абармот-жа, абармот!
Забіць-бы гада ды за плот.
Як носіць свет такую плягу?

14

— Няма сумлення ў іх, ні бога...
Ох, доля, доля батрака!
Не зробіш з імі ты нічога:
Адна іх шайка і рука.
Няма нам ходу і разгону,
Бо свет замкнулі шляхтуны,
І ўсё ў іх робяць па закону,
Законы-ж пішуць ім паны. —
Яна сказала і ўздыхнула.
Парушан лад іх і спакой,
А думкі ўюцца талакой —
Надзею ночка праглынула.

15

Карціць ім Богут, як заноза,
І вочы есць, як горкі дым.
Няўжо трымацца яго воза?
Няўжо на згоду ісці з ім?
Цана-ж той згоды ім вядома —

Залезці зноў у кабалу,
Не мець ніякай волі, дому,
Як пад'ярэмнаму валу.
І дзе-ж на свеце праўда тая?
Забраць зямлю і кут чужы,
А ты яму плаці, служы,
Як сам таго ён пажадае!

16

Папсован вечар іх і ночка,
Пара і спаць ужо даўно,
І месяц з неба сваё вочка
Навёў на нізкае акно.
І нават пеўнік у падпечку
Сігнал ім першы падае,
Яны-ж вядуць гаворку-спрэчку
Пра справы трудныя свае.
Апошні корчык дагарае,
У хатцы робіцца цямней,
Яшчэ няўтульней, чым раней,
І больш яна для іх чужая.

17

Лучнік пагас. У цьму пустую
Зляцеў наніз іскрынак рой,
Ткучы палоску залатую,
Слядок апошні за сабой.
І стала ціха і маркотна,
А ноч бярэ свае правы
І сон прыносіць бестурботны
Для многадумнай галавы.
Ды чутак сон жанчыны-маці,
Не спіць, не дрэмле яе слух,
Дзіцячы ловіць кожны рух —
Хто за турботы ёй заплаціць?

## 18

Сярод цішы начной знямелай
Калыска скрыпнула — раз, два,
А следам кволенькае цела
Адтуль азвалася — ку-ва!
Марына знае нораў сына —
Дзіцятка трэба пакарміць.
Яму, нябось, свая часіна
Таксама-ж муляе, карціць.
Яна ўстае, і сон злятае.
Яе прывычная рука
Сыночка кратае злягка,
І з сынам маці маладая.

## 19

Прыпаў сынок да грудзей маткі
І прагна смокча, а яна
Гатова ўсю і без астатку
Аддаць сябе для пестуна.
Малое голад свой спагнала
І спаць не хоча а-ні-ні,
Яму да маткі справы мала,
Сказаць не можа ёй — засні.
Ён ручкі вызваліў з пялёнак,
І волі трэбуе малыш.
— Што-ж ты, гарэза мой, не спіш,
Мой мілы хлопчык, мой арлёнак?

## 20

Яна з ім ціхенька варкуе —
Няхай гудзе, смачней засне.
На іх сам месячык цікуе,
Апёршы рог свой на акне.
І доўга тчэцца іх гаворка,
А ёй малога так шкада,
І лёс успомніцца ёй горкі,

Яе дзяцiная бяда.
А што чакае яе сына?
Бяздомнiк ён. I дзе iх кут?
А свет так жорстак i так лют
I ўвесь аблытан павуцiнай.

**21**

«Ах, дуронiк ты маленькi,
Хлопчык мой!
Сыпле ноч з свае сявенькi
Зорак рой.
Унь i месяц сходзiць з неба,
Хоча спаць,
I матульцы тваёй трэба
Спачываць.
Спiць i татка на палацях
Моцным сном,
I даўно палегла спацi
Ўсё кругом.
Толькi лiха сну не мае
I не спiць,
Ды прадзе бяда лiхая
Сваю нiць.
Спi—пан ходзiць па надворку
I ўначы,
Ходзiць, слухае гаворку —
Лепш маўчы.
Ён усё падслухаць хоча,
Падглядзець,
Запускае свае вочы
К нам у клець.
Нас пачуе, прыдзе ў хату,
Страшны, злы
Ды ашчэрыць рот вусаты
I iклы.
Лiха следам за сабэю
Прывядзе,
Скажаш слова не такое—
Быць бядзе.

Спі, гадуй, сыночак, сілу
І расці,
Няхай іх ні духу-пылу,
Ні касці!
Згіне ліха, бо на свеце
Праўда ёсць,
І развеецца, як смецце,
Зайздрасць, злосць.
Ляжа вольна шлях-дарога
З краю ў край,
Спі, сыночак, часу многа,
Падрастай!!
Пойдзеш ты дарогай тою
Сам—адзін,
А я ў думках за табою —
Дзе мой сын?
І сустрэнеш шчасце-долю
Ты ў пуці.
Спі, сыночак, спі, саколік,
Ды расці.
Ты-ж зусім яшчэ дурненькі,
Хлопчык мой!
Ноч збірае ўжо ў сявеньку
Засеў свой.
Унь і месяц сходзіць з неба,
Ідзе спаць,
І матульцы з сынам трэба
Спачываць».

*4/IV 1940 г.*

## *Раздзел III*

### 1

Пляцоўка Богута і хата
У вочы кідаецца ўсім.
Што ні кажы, дзялка і хвата
Прызнаць адкрыта трэба ў ім.
Не так даўно расце сядзіба,
А паглядзі, што ёсць у ёй:
Садок, альтанка ў форме грыба,
Дзе ўтульнасць знойдзеш і спакой;
Гумно, свіронак і адрынка.
Блішчыць на хаце белы дах,
Антэна тоне ў небесах,
А сырасушка, як дзяўчынка.

### 2

Крыху паводдаль пры паркане
Стаіць вяндлярня, як гайдук,
Або манах які ў сутане,
Сухі, высокі і без рук.

З пагорка ўніз, у бок даліны,
Збягае сцежка між кустоў,
Дзе рэчка ў шатах зеляніны
У луг адходзіць ад платоў.
А від які з пляцоўкі гэтай!
Відаць мястэчка, лес, рака,
Пасёлак, хатка рыбака,
Палі пад збожжавай сурвэтай.

### 3

Куды ні глянь, на кожным кроку
Самой сядзібы і двара
Відаць уважлівае вока,
Стараннасць, густ гаспадара.
Гараць, як стужкі, каля хаты
Дарожкі з клумбамі. На іх
Арол красуецца дзюбаты —
Краса паноў, іх гордасць, пых.
І ўсё вядзецца ў панскім плане,
І ўсё прамерана пад шнур,
Бо ёсць адна з усіх культур —
Культура польская, васпане.

### 4

Пан Богут — польскасці апора,
Яе нястомны праваднік,
І многа мае ў ёй прастору,
Пажывы, шчыры каталік.
І ўсё ён ведае і знае,
Хто дыша чым, хто чым жыве,
Нібы па кнізе, ён чытае
Чужыя мыслі ў галаве.
Затое ж ён так хіліць, горне
К сабе паноў і панскіх слуг,
Пан саквэстратар яго друг,
У дружбе з ім і пан каморнік.

5

Ды не адным панам, падпанкам
Вядомы Богут, як дзялок,
Яго сяляне і сялянкі
Таксама знаюць на-зубок.
І знаюць так, што сцерагуцца
Яго, як скулы ці агню:
Няма за ім дзе павярнуцца
Ні свінням, курам, ні каню.
Цяля часамі зойдзе ў шкоду
Ці ступіць курка ў агарод—
Не абярэшся з ім згрызот,
І толькі штрафам купіш згоду.

6

Калі не штраф, дык адработкі,
Ды ён гатоў ісці на ўсё:
Часамі ўчыніць суд кароткі —
Застрэліць курку, парасё,
Яшчэ й маралы прачытае
Ці тэзіс выставіць аб тым,
Што хлоп—быдлё і што крутая
Павінна быць расправа з ім;
На від паставіць дух камуны
І грэшны край бальшэвікоў.
Не, васпан: лад тут не такоў,
Не тыя ў Польшчы граюць струны.

7

І гэта ўсё не ад злой волі,
Не, божа крый, наадварот:
Ён выступае ў добрай ролі,
Каб перавыхаваць народ
Ды навучыць яго парадку,
З дарог аблудных скіраваць,
Каб да чужога не быў падкі

І ўмеў законы шанаваць.
Ды быў давольны ў сваім стане,
Ці ты заможнік, ці бядняк,
Бо пан бог сам прызначыў так,
Вось у чым сіла, мой васпане.

8

Такі пан Богут з-пад Варшавы
Ці то з Пазнані, не скажу,
І так ён робіць свае справы,
Пільнуе панскую мяжу.
Умее ён свае падаткі
Аддаць і небу і зямлі,
І гэтай мудрасці пачаткі
На круглы твар яго ляглі:
Узнята вока адно ў неба,
Другое спушчана наніз,
І рыжы вус адзін павіс,
Другі ўгару задзёрт, як трэба.

9

З задзёртым вусам і ў гумору,
Вярнуўся ён ад маладых —
Задаў ім страху разгаворам,
Пара дабрацца ўжо да іх.
І ён пусціўся ў разважанне,
Які прыдумаць трапны ход,
Якое даць для іх заданне,
Каб мець найлепшы абарот.
І што зручней: ці плата, рэнта —
Павінна-ж быць для іх граза,
Дарма не скача і каза, —
Ці лепш паслухаць канфідэнта?

10

Тут Богут раптам нечакана
Паставіў вус яшчэ вышэй.

«Гм!», хмыкнуў ён: «але ў галгана
Кабета, васпан... разумей!»
І земным вокам ён, як злодзей,
Павёў тайком з кутка ў куток —
І мыслі грэшныя ў ім бродзяць,
Як уварваць чужы кусок.
Ды тут рабі, васпане, тонка,
Каб не нажыць сабе трывог,
Каб ведаў толькі ты ды бог
І не дагадвалася жонка.

## 11

А тут яна, як па заказу,
Якраз ідзе к яму ў пакой.
Ну, нібы сцяміла адразу
Няверных дум яго развой.
Але пан Богут не дасць маху,
Ён гоніць дур той з галавы,
І грэшных дум няма і паху,
Ён від прымае дзелавы.
Ды як пан Богут ні хітруе,
Каб ад яе свой юр схаваць,
Мальвіну трудна ашукаць,
Дружачку верную старую.

## 12

Так і цяпер, хоць мімаходам,
Каб папярэдзіць зло спакус,
Яна заўважыла: «Мікодым,
А для каго задраў ты вус?»
І паківала галавою,
Нібы шлючы яму дакор.
На шчасце гэтаю-ж парою
Вароты скрыпнулі ў іх двор.
І сам пан Богут і Мальвіна
Падходзяць хутка да акна —
Якая-ж гэта навіна?
Хто едзе позняю часінай?

### 13

— То-ж наш Пшэбора, пан Валенты!—
Сумнення болей не было.
Мальвіна ўзрушана дашчэнту,
Яна-ж не ўбрана, як на зло —
І стрымгалоў у бакавушку
Імчыцца свой змяніць убор,
А сам пан Богут, нібы птушка,
З сяцёлкі вылецеў на двор,
І крык гасцінны прывітання
Бяжыць дзядзінцам у мароз.
«Адкуль-жа пана бог прынёс?»
І — момант радасны спаткання!

### 14

Каня адпрэглі і ў стадолу
Вядуць і ставяць на папас.
Абодва рады і вясёлы,
Ідуць у хату бавіць час.
Пан Богут дзверы расчыняе,
Паўнюткі прыязных турбот,
І словы прыязні раняе
Ды просіць госця напярод.
Прышлі ў святліцу і з сабою
Прынеслі холад са двара,
Ды шмат цяпла ў гаспадара.
— Ну, проша-ж пана да пакою!

### 15

Пшэбора зараз па парадку
Скідае вопратку сваю,
Наўперад зняў канфедэратку,
Як сведку польскасці ў краю,
А потым важна расшпіляе
Зялёны вышыты жупан,

І ва ўсім пыху выплывае
Мундзір... які! ды як дагнан!
Такіх мундзіраў няма болей,
Нідзе іх больш і не было:
Раскоша, бляск!.. ды ўсё сплыло,
Прапала разам з панскай доляй.

## 16

А тут якраз і гаспадыня,
Надзеўшы сукню для гасцей,
Шыбуе важна, як гусыня,
І ветласць сыплецца з вачэй.
Пшэбора спрытна павярнуўся,
Як першы ў свеце кавалер,
Прыстукнуў ботам ды прыгнуўся,
Аж бліснуў срэбраны каўнер,
Ды ў ручку плюсь! — Як пані здрове?
— Дзенькую пану! А што-ж пан
Адзін без жоны? — Такі стан,
Што мой візіт ест выпадковы.

## 17

У часе прыязнай гамонкі,
Лятучых жартаў і прыкрас
Ускочыў хлопчык з крыкам звонкім,
Каханак богутаў, Адась.
— Ну, прывітайся-ж, сынку, з панам! —
З Адасем клопат у бацькоў:
Пасябраваўся ён з мужланам,
Гаворыць мовай мужыкоў,
Выходзіць з польскага уплыву.
Бяда і сорам з ім адзін:
Бярэ ў ім верх «беларусін»
І на чужую хіліць ніву.

18

Пытанне — дзе шукаць ратунку?
Як знішчыць шкодны гэты дух?
Пшэбора — дзеяч з пастарунку,
Не просты дзеяч, — хват і зух.
Цяпер пан Богут і Пшэбора
Вядуць размову сам-на-сам.
Іх тэма — богутава гора
І процівага мужыкам.
Ды ў госця тут няма сумнення.
Што беларускасць? пыл і дым,
І засмучацца няма чым:
Няма ў культуры іх карэння.

19

І разышоўся пан Валенты —
Надзьмуты польскі патрыёт.
У Польшчы ўсе ёсць элементы,
Каб смела рухацца ўпярод.
І ёй нішто не пагражае
Пад сцягам белага арла,
Не ступіць тут нага чужая,
Чыя-б яна там ні была,
Бо Польшча гэта — шчыт Еўропы,
За Польшчу бог, за Польшчу люд,
І сама Польшча—божы цуд,
То што ёй значаць тыя хлопы?

20

Гаворыць госць з такім запалам
І так узносіць паляка,
І польскі дух, і тую хвалу
Аб ім, што слыне здаляка:
Культуру, воінскую славу,
Дзяржавы польскай развіццё.
Ён сам за Польшчу, за Варшаву

Гатоў аддаць сваё жыццё.
Яшчэ-б ён больш перабраў меру,
Калі-б Мальвіна не прышла
Прасіць прамоўцу да стала
На «небагатую» вячэру.

## 21

Як першы снег, абрусам белым
Засланы стол, а на стале...
Абегла глянеш, скажаш смела:
«Вось гаспадыня, дык але!»
Як сонца, свецяцца талеркі,
Зіхцяць відэльцы і нажы,
Сурвэткі ну, чысцей паперкі,
Хоць гімн адразу ім злажы.
А закусь! Што тут за вяндліна!
А палядвіца, а той сыр?
Адна смятана ў ім і жыр
Ды кропкі чорненькія кміну.

## 22

І Богут ведае парадак —
Ідзе паважна ў свой буфет
І дастае бутэльку — «Дзядэк» —
Напіткаў польскіх гонар, цвет.
Хвала той дзедавай асобе:
І чарка ў гумар прывядзе.
Пітво такое ў Польшчы робяць
І толькі ў Польшчы, больш нідзе.
Кульнулі чарку за Мальвіну,
Другую за гаспадара,
І госцю выпала пара,
Пілі за славу, за айчыну.

## 23

І без таго, як мак ружовы
Або той восеньскі рыжок,
Пшэбора, пан пастарунковы,
Гарыць, як золата кружок,
І жар прамоў яго не стыне.
Ён шле хвалу на тоны ўсе
І гаспадыні, і вяндліне,
І той дзівоснай каўбасе.
— То проша-ж, проша, мой васпане!
Свае гадоўлі япрукі,
Мастацтва ўласнае рукі —
Не зробяць так і ў рэстаране.

## 24

Пан Богут смехам жартаўлівым
Ганьбуе злёгку рэстаран,
І ён давольны, ён шчаслівы,
І ў мыслях радасны туман.
Жыццё глядзіць нейк па-другому,
У хвалях шоўкавых плыве,
Ён рад сабе і свайму дому,
І сваёй мудрай галаве.
І «Дзядэк» той глядзіць жычліва,
Развёўшы ў сэрцы яго жар,
І рэй вядзе зноў гаспадар, —
Даволі думак мітуслівых!

## 25

І чаркі зноў ён налівае —
Яшчэ гасцінней і паўней
І другу вернамуківае:
— Валенты, справу разумей! —
Падняты чаркі спрытна ўгору,
Ды перш, чым выпіць іх да дна,
Пан Богут з радасці ў гумору
Заводзіць песню. Вось яна:

«А хто не выпіе,
Тэго вэ два кія.
Цупу-лупу! цупу-лупу!
Тэго вэ два кія!»

*10—25/IV 1940 г.*

*Раздзел IV*

1

Я зноў хачу, як і калісьці,
З адкрытай, простаю душой
На стык дарог знаёмых выйсці
І пераклікнуцца з табой.
Ты ад мяне цяпер далёка,
Але і з той далечыні
Гарадь вясёлкай яснавокай
Твае прывабныя агні.
Яшчэ гучыць у маім сэрцы
Твой шэпат, голас ціхіх мар.
Вясна мая, юнацтва жар,
У свет расчыненыя дзверцы!

2

Далёка ты! Заслона часу,
Як нерухомая імгла,
Яго рукой сатканым пасам
Між намі шчыльна пралягла,

Няма дарогі і праходу,
І не сустрэцца болей нам.
Юнацтва дні, дзяцінства годы
І ты, вясна, далёка там.
Але жывуць мае ўспаміны,
І ты ў маіх стаіш вачах,
Як недасяжны Млечны шлях,
Дзе свецяць зорак журавіны.

### 3

А як прывабна выглядалі
Праз ткань утульную смугі
Жыццё і свет, шляхі і далі
І юнай плыні берагі.
Як многа дум і мар крылатых
І той юнацкасці было.
Расціла бацькава іх хата
І грэла роднае сяло.
Як той вандроўнік адзінокі,
Я марыў свой праклясці след
У нейкі край, у нейкі свет,
Такі чароўны і далёкі.

### 4

Сплылі гады, бы тыя хвалі
Разводдзяў шумных веснавых,
І многа-многа запісалі
Падзей вялікіх і малых.
І змен не мала адбылося.
Забралі шмат каго жвіры.
Бы кветкі ў скошаным пракосе,
Палеглі родныя, сябры.
Перамясціліся і межы,
Граніцы штучныя зямлі,
І мне на твар, на лоб ляглі
Нямілай старасці мярэжы.

5

Нібы на нейкім перавале,
Стаю, гляджу назад з гары
І бачу пройдзеныя далі,
І шлях прамераны стары,
І ўсё, што ззаду засталося,
І ўсё, што знойдзена ў вясну,
Ды аб людскім і ўласным лёсе
Часамі ціхенька ўздыхну.
Але-ж не скончана пуціна,
І ці гадаў я, што ступлю
Сапраўды ў новую зямлю.
Шчаслiва-ж будзь, мая краіна!

6

Дык пойдзем далей. На мінутку
Спынюся ў хаце рыбака.
У ёй так многа зараз смутку.
Мне шкода хлопца-бедняка.
Ён помніць Богута пагрозу.
Карціць пытанне: як-жа быць?
Як гэту скулу і залозу
Латвей і лепей залячыць?
Бяда — няма куды падацца
І рук няма за што зацяць.
Жыццё ні ў дзесяць, і ні ў пяць.
І што ў ёй ёсць, у гэтай хатцы?

7

Судзілі разам і гадалі
І скарб свой бралі на вагу,
І ў дзень наступны заглядалі
Праз гэту цёмную смугу.
Ды выйсця ім няма другога —
Яны ў палоне павука,
Не абмінеш яго парога:

Закон стаіць за паляка.
Даніла вылаяўся ў злосці,
Надзеў паходны свой пільчак,
Схаваўшы сціснуты кулак,
Ды ў двор ідзе да ягамосця.

8

— Ну, вось і добра, мой васпане.
Хоць, праўда, васпан мусіў сам
Аддаць мне першым прывітанне,
Ды грэх падзелім папалам. —
Такой ліслівою прымоўкай
Сустрэў пан Богут бабыля,
Каб акруціць сваёй вяроўкай,
Дасціпным ходам круцяля.
Даніла глянуў асцярожна
І зрок утупіў малады.
А сам падумаў: «Гад руды!
Брашы, брахун пустапарожны!»

9

А ў голас кажа: — Я-ж не ведаў,
Што пан тут стаў гаспадаром
І, як дыктуе звычай дзедаў,
Пайшоў на сход прасіцца ў дом,
І сход дазволіў жыць у хаце,
А, кажа, вернецца Сымон,
То ўжо глядзіце самі, браце,
Бо гаспадар яе ўсё-ж ён. —
Пан Богут глянуў косым вокам
І нізкі вус спусціў ніжэй.
— Ох, мой васпане-дабрадзей:
Не нашым, васпан, ходзіш крокам!

10

І пасля ціхага дакору
Адразу ўзяў высокі тон.
— Падумай, васпан, што гаворыш?
А дзе-ж парадак і закон?
Ці заплаціў-жа сход падаткі
За зямлю, сеці рыбака?
То-ж большэвіцкія парадкі —
Стаяць за права лайдака.
У Польшчы іншыя законы,
Сваволлю месца ў ёй няма,
І, васпан, робіш надарма,
Што ходзіш сходу на паклоны.

11

Маўчыць Даніла, збіты з тропу.
Вось ён куды гне, каб ён здох!
І што ты скажаш асталопу, —
Яшчэ засадзіць у астрог.
Але пан Богут з'ехаў з тону
І ўжо гаворыць чуць мякчэй.
— Ну, васпан, мо', не знаў закону,
Адно-ж, васпане, зразумей:
Будуем мы сваю дзяржаву,
Не большэвіцкі гэта край,
Для Польшчы кожны ўсё аддай,
Рабі сумленна сваю справу.

12

Вось хоць-бы ўзяць мяне з васпанам,
Мы — людзі краю аднаго,
А, васпан, глянь — жыву я панам,
Ёсць, дзякуй богу, усяго.
Але-ж мне бог не скінуў з неба

Зямлі, набытку і дабра:
Свой глузд мазоліць, васпан, трэба
Ды пахадзіць каля двара.
Няма нікому забароны
Уладзіць дом свой, добрабыт.
Май, васпан, толькі розум, спрыт
І не выходзь з граніц закону.

## 13

І ўсе жывуць і жыць павінны,
Чыя як зносіць галава.
Не роўны дрэвы ў баравінах,
І ў лузе розная трава.
Другі, здаецца, землю гложа,
А спору ўсё яму няма,
І выйсці ён ніяк не можа
З свайго-ж уласнага ярма.
А той жыць хоча абібокам
І есці смачны каравай,
Яму гатовае давай,
А сам ён марыць пад аблокам.

## 14

Не, мой васпане: тыя мары
З пустой выходзяць галавы,
А ловяць іх адны няздары,
Што разгубілі дух жывы.
Ім толькі-б песціць сваё цела,
Запхаўшы рот чужым дабром. —
На ўсход пускае Богут стрэлы
Ды шле туды за громам гром.
І заключае: — Лад іх рухне. —
І раптам робіць ход другі:
— А што-ж мы, васпан дарагі,
Як жабракі, стаім на кухні?

15

Гарохам сыпле Богут словы,
А самы тон яго прамоў
То памяркоўны, то суровы,
Калі ён б'е большэвікоў.
Другім стаў Богут у пакою,
Куды заклікаў ён гасця.
Гаворыць з ласкаю такою,
Нібы госць — роднае дзіця.
І распытаў усё падробна,
Як ён жыве і чым жыве,
Куды кіруецца — плыве
І што ў жыцці больш упадобна.

16

Але чым Богут больш ласкавы,
Тым меней верыць яму госць,
Чакае ўсё развязкі справы:
Куды-ж то цэліць ягамосць?
Ды не паказвае і віду
І дзёгцю пану ў мёд не лье,
Сваю-ж няверу і агіду
Хавае ў словах: так, але.
А Богут проста яго ўзносіць
І адабрае іхні план —
Набыць уласны нейкі стан.
— То, васпан, рацыя і досыць!

17

І адабрэнне не пустое,
Пан Богут дальш ісці гатоў:
Ён сам, калі пайшло на тое,
Іх падтрымае, як братоў.
— І дапамогу дам, васпане. —
Ён платы з іх не будзе браць
І заработак ім дастане

На злотых... так пад сорак пяць.
Здабыць паможа цэглы, лесу
І дом збудуюць як-нібудзь,
Няхай здаровыя жывуць
Для Польшчы-маткі інтарэсу.

18

— Адна тут, праўда, рэч благая,
Што васпан, жаль, не каталік,
І гэта многа замінае,
Хоць грэх ён, можа, не вялік.
Было-б адно жаданне—шчыра
Стаяць за Польшчу, ёй служыць
І жычыць ёй дабра і міру
Ды па законах боскіх жыць.
Дык што на гэта, васпан, скажа? —
Даніла ўскінуў плечуком,
Як муха перад павуком,
Пачуўшы ліпкасць яго пражы.

19

— Я вельмі дзякую за ласку,
Ды чым я заслужыў яе? —
А ў думках думае: «Скінь маску:
Выкладвай намыслы свае!»
— Не заслужыў — то васпан можа,
Калі захоча, заслужыць,
А справа вось у чым, нябожа,
Калі ўжо доўга не кружыць. —
Пан Богут вусы растапырыў,
Адзін угору, другі ўніз,
Зірнуў, як хітры стары ліс,
Выжыга спрытны і няшчыры.

20

— Фатыгі, васпан, тут не трэба,
А толькі вушы, вочы мець,

Ніякім подслухам не грэбаць,
А часам дзе і падглядзець.
Цікава-ж ведаць, каб не збочыць,
Які ў народзе ёсць настрой,
Куды ідзе ён, чаго хоча,
Каб лепшы даць яму развой.
Не думай, васпан, што для ўлады
Не ходзіць клопат пра народ:
Яе ўвесь сэнс, наадварот,
У тым, каб людзі былі рады.

## 21

Але-ж на свеце ёсць злачынцы,
Што напускаюць мжу, туман
Ды суляць шчодрыя гасцінцы,
А посул іх — адзін падман.
На жаль, на гэтых звадыяшаў
Вялікі, васпан, ураджай,
Змагацца з імі — справа наша.
Дык вось, васпане, і зважай.
А той, хто злыдняў пакрывае,
Ёсць злыдзень гэтакі-ж і сам.
Ну, вось і ўсё, што трэба нам
Для справы людскасці і краю.

## 22

Цяпер ён толькі расшалопаў,
Куды яго заводзіць гад.
Дык вось які ён, хлябок хлопаў,
Які прытулак панскіх хат.
І ён затросся, як асіна,
Гатовы плюнуць пану ў твар,
Але прыпомніў жонку, сына
І расхaлоджвае свой жар.
Нібы памыямі абліты,
Стаяў ён некалькі хвілін
У сецях ліпкіх павуцін.
— То як, васпане: будзем квіты?

23

Зірнуў на Богута Даніла,
Як на агіду, на брыду:
— Смакчэце кроў, цягнеце жылы,
На хлеб такі я не пайду.
— Не пойдзеш?.. Ну то мы пабачым.
А скажаш слова хоць адно,
То будзе лёс табе сабачы —
Ты на прымеце ўжо даўно.
Але падумай, мой васпане:
Яшчэ не позна, маеш час,
Каб васпан болей не заграз. –
Даніла вышаў, бы ў тумане.

24

Сядзіць Даніла спахмурнелы
З сваёй Марынкай за сталом,
Старая печ глядзіць знямела,
А холад ходзіць пад акном.
Яшчэ цяжэй у курнай хаце,
Яшчэ гусцей звісае мрок
І апранае ў сваё плацце
Калыску, сцены і палок.
Маўчаць Даніла і Марына,
А іх галовы поўны дум.
Ці-ж то не здзек? Ці-ж то не глум
Над іхняй доляй бедачынай?

25

Ды хіба-ж свет сышоўся клінам?
Хіба-ж адзін ён, чужы кут?
Далей, далей ад павуціны,
Каб не чапіў іх панскі бруд!
Марына рада за Данілу —
Так паступіла-б і яна,

Хай знае Богут тупарылы,
Што ён напаў не на блазна.
А дзесь на печы сваю песню
Заводзіць рэзвы цвіркунок,
І спіць маленькі іх сынок,
Ды ў лучніку вугольчык трэсне.

*28/IV—15/V 1940 г.*

*Раздзел V*

1

Зіма стаіць у самай сіле.
Яе няўмятыя снягі,
Як лебядзіных стадаў крыллі,
Ляглі на стрэхі, на стагі.
Па вокны ў гурбы ўвайшлі хаты,
Згубіўшы свой фасон і від,
А вецер пасмы снежнай ваты
Сушыцца вывесіў на шчыт.
На голых дрэвах замест лісця
Паклалі шэрань маразы.
Рыпяць, скрыгочуць палазы —
Марозны снег ім цяжка грызці.

2

У вёсцы зараз руху мала,
Нібы заснулі Петрушы,
І там, дзе люд шумеў бывала,
Цяпер не згледзіш ні душы;

Хіба што зрэдку рыпне студня,
Кіўнецца стромкі журавель,
Ды скрозь прастор адзін бязлюдны,
Ды снегу томячая бель.
У снезе туліцца дарога,
Сляды саней і конскіх ног.
Але каго там нясе бог?
Які-то сунецца нябога?

3

Ідзе ён мернаю хадою,
З кіёчкам, з клункам на плячах,
Мінае крыж, старую хвою
На горцы, дзе праходзіць шлях.
Чым бліжай вёска і сядзіба,
Тым больш павольны яго крок,
Ці то яму ўжо трудна дыбаць,
І ён звярнуць мяркуе ў бок.
Глядзіць на богутаву хату —
Зайсці яму сюды ці не?
А там халупка ў старане
З старою комінай шчарбатай.

4

Ён углядаецца ў будынкі,
У хмыз, у снежныя палі,
Нібы даўно сляды-пуцінкі
Ён пракладаў на той зямлі.
На ім пільчак убогі, рваны.
З-пад пільчака стары кажух
На свет выносіць латы-раны.
Даўно растраціўшы свой пух.
Але вандроўнік не зважае
На гэты вычварны убор,
І вочы кідае на двор,
Дзе хатка туліцца старая.

5

Ён прыпыніўся на хвілінку
І, аглянуўшыся кругом,
Бярэ кірунак на хацінку —
Ідзе ў былы рыбацкі дом.
Вайшоў у двор, зірнуў на дзверы,
На цёмны, нізкі катушок —
Чыясь хадзіла тут сякера,
І нехта зняў з дзвярэй замок.
У сенцы ўходзіць, ідзе ў хату,
Глядзіць, — там двое маладых.
Ён добрым днём вітае іх,
На кій апёршыся таўсматы.

6

Глядзяць Даніла і Марына
На незнаёмага, а той
Глядзіць на іх з прыветнай мінай,
З усмешкай ціхай, з цеплынёй,
А потым кажа: — Вось праява!
Сказаць вам, здзіўлен трохі я:
За хатку-матку рад, ей-права, —
Яна-ж такі, сказаць, мая. —
І ўсё адразу ясна стала:
Да гэта-ж ён, Сымон рыбак,
Не валацуга, не жабрак,
Якіх бадзяецца нямала.

7

І рухам ветлай гаспадыні
Марына з лавы пыл змяла —
Няхай-жа госць іх адпачыне,
Як гаспадар каля стала.
А гаспадар і госць пачэсны,
Як цецярук, глядзіць на печ.
— Эх, маці-печ! ты — рай нябесны

І найпатрэбнейшая рэч, —
Гаворыць ён: — хіба залезці
З дазволу вашага туды,
Як у даўнейшыя гады
Ды распытацца там пра весці?

8

Залез на печ і распрануўся,
З ацёкшых ног зняў хадакі.
— Нарэшце, рай мне адамкнуўся.
Прызнацца вам, празяб такі...
А вы не бойцеся, мілягі:
На печ залез я не на век
І не зраблю вам ліха, плягі,
Бо не такі я чалавек.
— Да што вы, дзядзька, калі ласка.
Не мы, не вы гаспадары!
А падлічыць іх, будзе тры,
І хата ваша гэта — казка.

9

І расказалі казку тую
І крыўды выклажылі ўсе.
А хто паможа, паратуе?
Хто ім збавенне прынясе?
Дзе-ж справядлівасць? Дзе-ж управа?
Дзе тая праўда? дзе закон?
Пануе панская халява.
А ты ідзі ў яе палон.
Сымон прысеў, паставіў пяты,
Каб іх сагрэць, на чарано,
А там у нізкае акно
Зіма ўглядаецца зацята

## 10

Сядзіць рыбак і ловіць словы
Аб панскай жорсткасці гупой,
Свой шлях прыгадвае суровы,
Што лёг у марнасці пустой.
Сядзіць, пакусвае бародку,
Такую-ж чэзлую, як хмыз.
Вось і гадай аб заработку —
Усё забраў пан і не лыс.
Сядзеў, маўчаў, спусціўшы вочы,
І раптам смех яго затрос,
Аж захадзіў кірпаты нос;
Сядзіць на печы і рагоча.

## 11

Марыне нават страшна стала.
Яна ступіла крок назад,
Бліжэй к Данілу, прашаптала:
«Ці ён часамі не вар'ят?»
І тут, як-бы ў адказ Марыне,
Рыбак суняў пусты свой смех.
— Вам дзіўна можа, гаспадыня?
Ды пасмяяцца хіба-ж грэх? —
Азваўся ён: — вось прыгадаю,
Якраз дарэчы, старыну.
Я казку ведаю адну,
Што мела месца ў нашым краю.

## 12

Жыў колісь пан, даўно, вядома,
І быў аконам у яго.
Заклікаў пан раз аканома.
Прышоў. Пытаецца, — чаго?
А пан і кажа: «Грошы трэба.
Вазьмі па злоты два з душы.
Ніякім спосабам не грэбай,
А мне даходы прыпішы».

Пайшоў аконам і вярнуўся.
— Ну, што? — пытае яго пан.
— А так, папоўніў панскі збан,
Але народ крахтаў і гнуўся.

13

— А, то нічога, — пан гаворыць: —
Яшчэ па злоты тры вазьмі. —
Нясе аконам людзям гора,
Ідзе валтузіцца з людзьмі.
Было ўсяго ў тым інтарэсе,
І просьбы з грозьбамі былі.
Шумеў народ, як бура ў лесе,
Ды грошы пану аддалі.
— Ну, што? — спытаў пан аканома.
— Ой, пане! лаецца народ,
Крычыць услых: — пан-абармот,
Няхай яго забіла-б громам!

14

Смяецца пан. — Мой дабрадзею,
Не дарма-ж прыказка ў іх ёсць:
«Кляні ты пана, пан таўсцее
І абрастае яго косць».
Ідзі-ж ізноў да іх, каханы,
Накінь яшчэ ім злоты пяць.
Няхай каптан заложаць драны,
А грошы мусяць яны даць.
— Што-ж, воля панская, паночку,
Пайду, калі такі загад! —
Праз нейкі час ідзе назад,
Прышоў і топчацца ў куточку.

15

— Ну, з чым вярнуўся? — пан пытае,
І чуе ён такі адказ:

— Ні з чым, паночку. Рэч такая:
Смяюцца людзі ў гэты раз. —
І раптам пан змяніўся ў твару,
А на вачах адбіўся страх.
Ён памаўчаў хвілінак пару
І кажа: «Кепска! Справа — швах!»
Стагналі людзі, то—нічога,
Клялі—і гэта не бяда,
Калі-ж смяецца грамада,
То смех такі гаворыць многа.

16

— Дык вось і я, людцы мае вы,
Смяюся я, ды каб-жа смех
Звінеў панам магільным спевам
І гнаў іх прэч з-пад цёплых стрэх. —
Рыбак замоўк. Дастаў табакі,
Са смакам нюхнуў разы два
І кажа: «Плюньце, небаракі!
А гэта ліха — трын-трава!
Жывымі ў землю не палезем,
І засмучацца няма чым,
Разгоніць вецер горкі дым,
Дыхнем і мы паветрам свежым.

17

Тут узяла Марына слова:
— Пакуль яно там будзе што,
Ды дзе падзецца ў час зімовы?
Хто ў хату пусціць нас? Ніхто.
Калі-б адзін, а нас-жа трое
Ды пара курак ды свінчо.
Ідзі хоць вешайся на хвоі
Ці вешай торбу на плячо.
— Ну, кінь ты, жонка, плявузготы.
Няхай лепш вешаецца пан,
І не такі акрутны стан,
Каб так баяцца жываглота.

18

Ты не пужайся, а мы з хаты
І не кранемся да вясны,
Хоць ён там здохне, чорт лазаты,
І захлынуцца ўсе паны.
— Вось гэта голас, пане браце! —
Азваўся з печы зноў Сымон:—
Ды ў пана совесці ўсё-ж хваціць
І ўзімку выгнаць з хаты вон.
Яго і права тут і сіла,
Не так, як там, унь, за мяжой, —
На ўсход кіўнуў ён галавой: —
Капут там пану і магіла.

19

Не пан, а наш брат і рабочы
Жыццё там ладзяць, даюць тон.
Ім едкі дым не лезе ў вочы,
Ім там прастор, ім там разгон.
У свет адкрыты ўсе дарогі,
Пасады ўсе даступны ім,
Ідзі, рабі да поўнай змогі
І скарб увесь лічы сваім.
Няма там стараст, ваяводы,
І паліцэйскага дзярма
Там і ў паміне больш няма,
Ксяндзы з папамі вышлі з моды...

20

Ці-ж то ўсё праўда? Што за словы!
Прыціхлі ўсе і сам-на-сам
Снуюць у думках лад той новы,
Такі парадак, як і там.
Адзін Валерык пад дзяружкай
Парушыў ціш і гэты рай.

Цяпер яго ты і не гушкай,
Бяры на рукі, есці дай.
Рыбак таксама хоча есці.
— Эх, — цмокнуў ён: — малы, малы!
Ты не гадаеш пра сталы,
А хто цябе, Сымон, папесціць?

21

Маладажоны зразумелі
Сымонаў тонкі ход-намёк,
І сам ён рад, што ў гэтым дзеле
Зрабіў такі майстэрскі крок.
Сказаць-жа проста: «Я галодны»
Ці «замарыць-бы чарвяка», —
Сымон лічыў заход нягодны,
І ён не ў модзе ў рыбака.
Марынка сына пакарміла,
Кладзе ў калыску яго зноў,
Ідзе да печы, да гаршкоў,
Ды стол настольнікам накрыла.

22

Сымон-жа з печы, як з трыбуны,
Гатоў гукнуць: «няхай жыве!»
А ў жываце іграюць струны,
І ходзяць думкі ў галаве:
О, сэрца добрае галечы!
К дабру так чуткі бедакі!
Кажух накінуўшы на плечы,
Ён абувае хадакі,
Нібыта ладзіцца ў дарогу
З свае халупкі і сяла,
І чуе: — просім да стала,
Хоць на стале у нас убога.

23

— Ох, дзякуй вам, людцы мае вы,
Няхай дае вам бог дабра.
Такія мне тут неспадзевы —
Няма мяне, гаспадара.
І вы ліпіце тут да часу
Пад страхам заўтрашняга дня.
Даў бог, казаў той, хлеў Уласу,
Але не даў яму каня...
Эх, квас які-ж у вас прыўдалы! —
Гаворыць ён і хваліць квас
Ды есць без розных выкрутас,
Ды гаспадыні сыпле хвалы.

24

— То ежце-ж, ежце на здароўе,
Жывем сяк-так, і можна-б жыць.
Калі-б не тое безгалоўе,
Што над табой, як ноч, вісіць. —
І за сталом пайшла гаворка.
Даніла вылажыў свой план —
Паставіць хатку там, за горкай,
Дзе лесу цягнецца паркан.
І пляц ужо сабе наглядзеў,
І сходна можна яго ўзяць —
Яго ўступіць гэльчын зяць,
І людзі — добрыя суседзі.

25

— Дык што-ж! Няхай бог памагае
Прыдбаць шчасліва свой куток.
Міне вясенька і другая,
І падгадуецца сынок.
А там бог дасць якую змену,
І прыдзе пошасць на паноў,

І я вясёлых вас сустрэну
І абніму печ сваю зноў. —
І іхні госць ідзе ў паходы,
Куды — і сам не знае ён.
— Дык вось які рыбак Сымон,
А ўспомніш — стане яго шкода.

*Май—верасень 1940 г.*

*Раздзел VI*

**1**

Праходзіць час абыкла, ціха,
Ні змен трывожных, ні навін,
А дзесь снуецца ўпотай ліха
І сочыць ход сваіх хвілін.
Маўчыць пан Богут, а ні слова,
Як-бы яго тут і няма,
Ды помні, скрытна ходзіць змова,
Не заспакойвайся дарма.
Даніла гэта добра знае,
І з ім Марынка на-чаку —
Пакажа пан сваю руку,
Не абміне часіна тая.

**2**

І томіць гэта невядомасць
І гэты цёмны непакой —
З чым завітае пан ягомасць?
З якою прыдзе ліхатой?

Прыедуць пэўна з пастарунку,
Заручка ў Богута там ёсць,
І скажуць — звязвай транты, клункі!
Не гонім — проша вон, псякосць!
І так і сяк яны мяркуюць,
Каб адгадаць падзеі ход.
Ды што карысці з іх грызот?
Не век-жа тут яны вякуюць.

3

Ў руках шпарчэй сякера ходзіць —
Вазок ён ладзіць ого-го!
А лішні злоты не зашкодзіць,
Сякерай вычаша яго.
Кіпіць работа і ў Марынкі,
У хаце высіцца станок.
Навіты ніткі-павуцінкі,
Хоць і чужы прадзе лянок.
За пражу плацяць чым папала:
Хто воўны дасць, а хто лянку.
Яна ў кудзелі, бы ў вянку.
І будзеш мець, калі жыць дбала.

4

Марына — прыклад гаспадыні,
Жычлівы друг гаспадара;
Вось вы зірніце ў яе скрыню —
Там ёсць такі крыху дабра.
А гэта скрыня — дар ад мужа,
Як быў яшчэ ён жаніхом.
Адчыніш вечка — на ім ружа
І домік з яркім цветнічком.
Малюнак зроблен адмыслова,
І шмат у ім цяпла і фарб.
У скрыні лепшы хатні скарб,
Адзежы, хустак яе схова.

5

І часта ў зручную хвіліну,
Яна, астаўшыся адна,
Сабе на ўцеху, на здзіў сыну
Агледзіць скрыню ўсю да дна.
Тут ёсць абрус яе работы
З брыжамі белымі, як снег.
На ім узоры, пераплёты, —
Мастацкай выдумкі разбег.
А пад абрусам патаемна
Яна хавае ручнікі,
І від іх вышыўкі такі,
Што і самой зірнуць прыемна.

6

— Ты глянь, Валерык: бачыш — цаца!
А вось сувойчык палатна.
То ўсё твае матулі праца...
А вось і пояс для блазна.
Кашульку сыну я змайструю
І так аздоблю каўнярок,
Што мой Валерык закрасуе,
Бы той у жыце васілёк.—
І так па некалькі хвілінак
Над кожнай рэччу пастаіць,
Бы сон прыгожы яна сніць.
Нарэшце гляне і ў прыскрынак.

7

Да хіба-ж можна прайсці міма,
Каб у прыскрынак не зірнуць,
Не кінуць злёгку хоць вачыма,
Не затрымаўшыся хоць чуць?
Там кадубок работы тонкай,
Ён зроблен з густам мастака.
Тут пастаралася для жонкі
Яго-ж, данілава, рука.

Ну, што, здаецца, кусок дрэва,
Той чорны дуб, што ў рэчцы мок,
А вось-жа вышаў кадубок,
Майстэрства дзіва, неспадзева.

8

Ён чорны ўвесь, як жук той шустры,
У рукі возьмеш, ну — плыве,
Глядзецца можна ў ім, бы ў люстры,
Дзе дробязь кожная жыве.
І так ён зроблен самавіта,
Што вечка згледзець трудна ў ім,
Само-ж нутро яго набіта
Дабром ды самым дарагім.
Там два пярсцёнкі, крыжык медны,
Здабыты сыну ў час хрысцін,
І ёсць там злот і не адзін
І ёсць сакрамант запаведны.

9

Сам па сабе ён—глупства можа:
Шкляны чырвоны чарапок,
А для Марыны ён даражэй,
Чым злот і сам той кадубок.
Яна хавае яго свята.
У рукі возьме і ўздыхне,
Бо ён гаворыць ёй пра брата,
Што згінуў дзесь на старане.
Ігнатка з ім гуляў калісьці
І праз яго халодны жар
Глядзеў на луг, на грывы хмар,
На лес у дзіўным жоўталісці.

10

Ёй горка стане і журботна,
І з новай сілай паўстае

Пытанне: дзе-ж ён, брат гаротны?
Няўжо ён страчан для яе?
Вось так у коле думак розных,
Трывог і страхаў і надзей
Жыве, працуе — рана, позна
І для сябе і для людзей.
Эх, беднасць, беднасць — круг замкнёны
І вузкі-вузенькі разгон!
Успомніцца рыбак Сымон,
І гляне час той неўнікнёны.

### 11

Ужо мінулі і грамніцы,
Аселі пругкія снягі,
І дзень на новыя граніцы
Свае заносіць берагі.
Але яшчэ пытае люты,
Зіму прывёўшы на прычал,
Ці добра, людзі, вы абуты?
Як вы багаты на апал?
А людзі рады: дзень святлее
І з імі бавіць час даўжэй,
І далі зораць весялей —
Зіма патрошку сходзіць, тлее.

### 12

Часцей у вокны свеціць сонца,
А ўдзень і капне з капяжа;
Свідруе лёд вада ў палонцы —
Зімы канчаецца мяжа.
Святлей і ў хаце рыбаковай.
Падрос Валерык за зіму:
Сынку тры месяцы з паловай,
Садзіцца хочацца яму.
Расце, гадуецца хлапчынка,
Ён татку, мамку пазнае.
Ці-ж то не ўцеха для яе?
Ці-ж то не радасць, не навінка?

13

І ўсё, здаецца, было-б добра
І падымала-б іх настрой,
Калі-б не Богут, гэта кобра,
Што ў хатцы тоіцца старой.
І нечакана шлюць ім з гміны
Агідны панскі жоўты ліст —
Пра плату піша напаміны
На польскі лад канцылярыст.
Але для пана платы мала:
Яны праз сем ці восем дзён
Павінны з хаты выйсці вон.
Вось ён той час, бяды навала!

14

Яшчэ праз тыдзень і другая
Прышла паперка-напамін.
Ліхі павук — так налягае,
І колькі сцеле павуцін.
Хадзіў Даніла і прасіўся —
Пан Богут жорстак, як скурат.
Што-ж? быў выпадак — не згадзіўся,
То хто-ж, выходзіць, вінават?
А далей ён цярпець не можа,
Халупка-ж лічыцца яго.
Яна стаіць не для таго,
Каб там збіраўся зброд варожы.

15

І ў Петрушах вядома стала,
Якое зло замысліў пан,
І гэта панская навала
Узбударажыла сялян.
Ці-ж так патрэбна яму хата?
За што плаціць? завошта гнаць?
І як цярпець такога ката?
Ці доўга будзе замінаць?

Даніла — хлопец станавіты,
Марына — болей-бы такіх.
Пайшло дабро ручыцца ў іх,
Дык вось-жа не: ім шлях закрыты.

16

Кіпела вёска глуха, скрыта,
Стаіўшы злосць сваю ў цішы.
На дом асадніцкі сярдзіта
Глядзелі моўчкі Петрушы.
Уеўся Богут ім у косці,
Агорк, абрыд ім панскі лад.
Не раз няпрошаныя госці
Апошні скарб цягнулі з хат.
Ну, як вада плыве на кола:
Падатак, штраф, налогі, суд.
Калі-ж канцы ім будуць тут?
Калі іх, гадаў, будзе гола?

17

Ох, жыць пад панам не салодка,
На ўсё павінен быць дазвол.
Няма дарослым заработкаў,
А дзеці босыя без школ.
І слова роднае ў загоне,
Няма сваіх газет, кніжок,
Ігрышчы, сходы ў забароне,
І кожны нішчыцца гурток.
Лютуюць дзікія расправы,
А чуць дзе што — суды, астрог.
Расце густы чартапалох,
І горкі дым плыве з Варшавы.

18

Пра Петрушы хоць мімаходам
Сказаць не шкодзіць колькі слоў
І пацікавіцца народам,

Што тут жыве спакон вякоў.
Народу, праўда, не так многа:
У Петрушах семнаццаць хат,
А хаты пошыбу старога,
Будынкі ўсе на адзін лад,
Стаяць, уросшы ў дол пясчаны.
На заскарузлых стрэхах мох
Куп'ём зялёным шчыльна лёг,
Пабіўшы іх на струпы-раны.

**19**

Ды каб надаць красы хібаркам
І разам польскасці заліць,
Загад паноў вісеў над каркам,
І хаты мусілі бяліць.
Не надта гожа выглядалі
Крывыя сцены пад пабел,
І петрушоўцы жартавалі,
На вапну гледзячы, на мел.
І тут-жа сказ адкроіў мудры
На гэты конт Лямех Аўген:
«Прыстаў пабел да гнілых сцен,
Як да старой бабулі пудра».

**20**

Глядзелі скрыва петрушоўцы
На панскі рэй, на іх загад,
І не было таго прамоўцы,
Каб пахваліў ён панскі лад.
І як хваліць, калі ты звязан,
Калі табе разгон закрыт?
Вось Дзед Куцейка. Ён не блазан,
Яго тутун быў знаменіт,
А вось-жа стогне, небарака·
Не смей свайго мецць тутуну,
А дбай на панскую машну.
Якая-ж панская табака!

## 21

Ды не адзін ён, дзед Куцейка,
Панамі выбіты з сядла:
Іх не маленькая сямейка
Збярэцца з кожнага сяла.
Няма прадыху ім і ходу
Сваім адумам павярнуць,
І як ні ступіш,—зробіш шкоду,
То тым, то гэтым душаць, гнуць.
А зловяць часам, не дай, божа,
Калі ты слых схіліў на ўсход —
Тут не адзін заплача злот,
Дык будзь заўсёды настарожы.

## 22

Была-ж спакуса не малая
Пачуць, даведацца навін
З тых гарадоў і з таго краю,
Дзе вольна дыша селянін.
А на двары таго-ж Аўгена,
Як вартавы сялянскіх хат,
Угору ўзносіцца антэна
І вабіць хлопцаў і дзяўчат.
Сюды прыходзяць і старыя,
Украдкам, праўда, і тайком
Паслухаць весці вечарком,
Што шле Масква ў часіны тыя.

## 23

Збяруцца, сядуць у парадку,
Нахіляць чынна галаву.
— Давай Варшаву для пачатку,
А потым цэлься на Маскву. —
Варшава болей для адводу
І асабліва на той час,
Калі выпоўзвае ў абходы,
Як злодзей, панскі лабатрас.

Не лыкам шыты петрушоўцы
І бачаць панскіх слуг наскрозь,
А пападзецца такі лось,
Дык не пагладзяць па галоўцы.

## 24

Даўно вядзецца, хоць і глуха,
Вайна з пальшчызнаю ў сялян.
Дзяржаць тут трэба чуйна вуха,
Каб не паддацца на падман.
Вось і цяпер. Хто дасць ім веры,
Што дзесь не ходзіць іх шпіён?
Не, дудкі, брат: прыняты меры —
Свае стаяць каля акон.
Чуць небяспека, — скажуць слова.
Тады Аўген за ручку — круць.
І вось ксяндзы табе гудуць,
І чуеш модлы з Чэнстахова.

## 25

Не трацяць веры петрушоўцы
І ў сэрцы песцяць свае сны.
Няхай сабе красуюць змоўцы —
Ім не прыждаць свае вясны.
А дзед Куцейка ўсім гаворыць:
«Мужык як жыў, дык будзе жыць,
Бо ён прайшоў агні і моры,
А панскі лёс плыве ў імжы.
Ён пан сягоння, дабрадзею,
А заўтра прах з яго і дым,
Палын не вырасце над ім,
Я-ж тутуну яшчэ пасею».

*30/XI 1940 г.*

*Раздзел VII*

1

Ужо на сонечных угрэвах
Патрошку споўзваюць снягі,
І смех румяніцца на дрэвах,
Як нейкі веснік дарагі.
Глыбіні поўдня поўны ласкі,
Увысь усходзяць іх шатры
І апускаюць, нібы паскі,
На землю промені згары.
Чутно вясны дыханне ўсюды:
На сініх далях, на лясах,
На дрэвах, што вартуюць шлях,
Дзе струны-дроты правяць цуды.

2

І ўсё, куды ні кінеш вокам—
І шыр зямлі і глыб нябёс —
У хвалях вечнага патока
Вязе прызначаны ім воз,

У рух прыходзіць з анямення,
Свой круг рассоўвае шырэй,
І тчэ дню новаму адзенне
З нявідных нітак сонцавей.
І плынь снуецца маладая,
Прыводзіць юную вясну,
Жыццё абуджвае ад сну
І ў сэрца з ласкай заглядае.

3

Сядзіць на сонцы каля хаты
Марына з сынам на руках.
Сынок, раскрыўшы вачаняты,
Глядзіць і жмурыцца. У вачах
Відаць здзіўленне, недаўменне:
Ён першы раз тут у жыцці
І бачыць першы дзень вясенні,
Ды ў мысль яго як шлях знайсці?
Але матуля пільна сочыць
І ловіць кожны яго рух.
— Што, мой сыночак, што, мой зух:
Зірнуць на хлопца сонца хоча?

4

Ой, сонца, сонейка! У вочкі
Майму сынку не заглядай,
А грэй у ножкі, снег упрочкі
Гані з зямлі ў далёкі край.
Сагрэй яе, укрый травіцай,
У кветкі, зелень убяры,
Мы-ж з сынам пойдзем у суніцы
І гай агледзім, і бары.
І стане мой сынок на ножкі
Ды пойдзе сам хадзіць-гуляць,
Дарожкі-сцежачкі таптаць.
Дыхні-ж паветрам свежым трошкі

## 5

Глядзі, як тут прасторна, ясна.
Унь дзюдзі ходзяць каля хат,
А там, бач, пеўнік сеў на прасла,
І ён вясне і сонцу рад.
Ох, зімка, зімка, час твой сходзіць,
Даволі ў хаце нас трымаць:
Бяды набраліся і годзе,—
Не будзем больш тут зімаваць.
Да дзедкі пойдзем, да Куцейкі.
Ён нам камору адвядзе,
А пан няхай тут прападзе
Перш, чым засвішчуць салавейкі.

## 6

Яна і сонца хлопца песцяць
Ды клічуць рушыцца далей:
Быць можа там, на новым месцы,
Ім павядзецца шчаслівей.
Не варт чакаць пакорна ліха,
Пакуль не прыдзе гнаць іх прэч.
Дык лепш самім патрошку, сціха
Яму дарогу перасеч.
А дзед Куцейка даў ім згоду
Для іх адвесці ў доме кут,
Каб скінуць богутаў хамут
І век не ведаць яго роду.

## 7

Цішком Даніла ходзіць к дзеду
Сабе пад хату ладзіць клець:
Сухоты будуць людаеду,
Калі прарвецца яго сець.
І петрушоўцы ўціхамоўку
Данілу помач падаюць —
Ну, хоць-бы чым нашкодзіць воўку

І адплаціць хоць чым-нібудзь.
І клець прыведзена ў парадак.
Як пані, печ стаіць у ёй
З пячуркай, з комінам, з плітой
На ўсякі экстраны выпадак.

8

Тым часам хата рыбакова
Не ў знак пусцее з кожным днём.
Увесь набытак і ўся схова
У клець заносіцца тайком.
Ідзе у прочкі ўсё з халупы:
Данілаў струмант і варштат,
Гаршкі і міскі, збан і ступа
І чыгунок для парасят.
Ну, словам, тое, што набыта
І што прынесена з сабой.
Зноў стала хатка сіратой
З гнілым сымонавым карытам.

9

І мне так хочацца яшчэ раз
Зайсці ў яе на нейкі час.
Адзін тут мох расце, як верас,
Адзін астаўся ў ёй абраз.
Замёр лучнік стары ў здзіўленні,
У дол спусціўшы жарало,
Такое страшнае ў зняменні,
І печ растраціла цяпло,
Стаіць адна між сцен куравых,
А са сцяны глядзіць Хрыстос,
Што паству ўсю сваю растрос
Сярод бяздушных і няправых.

10

І хата сумна апусцела.
Вісіць ізноў на ёй замок.

Сляпыя вокны анямела
Глядзяць на двор, на курганок.
Ужо другі дзень вечарамі
У іх не свеціцца лучнік,
І толькі ў мутным шкле часамі
Адб'ецца месяц-чараўнік.
Глядзіць пан Богут і гадае,
Чаму ў акне святла няма.
І трэці вечар, а там цьма.
Ідзе, халупку аглядае.

## 11

Эге, васпане, да тут змова!
О, хаме, хамская душа!
Сышоў, як злодзей, і ні слова,
Не заплаціўшы ні граша!
І закіпеў ад злосці Богут,
І вус узняў, як таракан.
На смех падняў яго, на рогат
І так пакпіў з яго, галган!
Крануў замок—і не замкнёны.
Вайшоў, каб хату азірнуць.
Зірнуў — пустэча, гніль і муць,
Адзін лучнік звісае звонам.

## 12

На сцены глянуў—курна, чорна,
І раптам згледзеў ён Хрыста:
Вісіць забыты і пакорны,
Глядзіць на Богута з кута.
І нейкі страх адтуль павеяў,
Але пан Богут не панік:
— Ты—праваслаўны, дабрадзею,
А я, васпане, каталік.—
Надзьмуты, злы, расчараваны,
Ідзе пан Богут у свой двор,
І глупы хлоп, а нос уцёр,
І разбурыў яго ўсе планы.

## 13

І як на грэх, пан саквэстратар
Павінен сёння завітаць.
І з ім Пшэбора, памагатар,
З Данілы плату спаганяць.
Пан Богут ходзіць, збіты з тропу,
Ніяк не можа ўзяць канцоў:
Ці то шукаць паганца-хлопа,
Ці да Пшэборы слаць ганцоў?
І што ты скажаш? вось псяюха.
Пан саквэстратар здаляка
Прыедзе трэсці лайдака,
А тут яго няма і духу.

## 14

Шнуруе Богут, хмурыць бровы,
Жуе свой рыжы нізкі вус.
Разблытаць трэба вузел змовы,
Каб не было другім спакус,
Бо за адной ўсплыве другая—
Пара пачаць яму вайну.
Аж тут Адась яго ўбягае,
Прыносіць бацьку навіну:
Ён бачыў сам на свае вочы
Данілу ў дзедавым двары.
Ці не прыняў яго стары,
Бо ён штось хітранька рагоча.

## 15

— Я так і думаў,—кажа Богут,
Каб толькі гонар падтрымаць:—
Не заміце свой троп-дарогу,
Нідзе ён дзенецца, пся маць! —
Пан Богут зноў набраўся пыху
І натапырыў верхні вус.
Калі-ж і быў збянтэжан крыху,
То ён цяпер зноў тузам туз.

Ён важна ходзіць па пакою,
Высока сам сябе нясе—
Прад ім сагнуцца хлопы ўсе,
Прыгне іх цвёрдаю рукою.

16

Але навіну ён праверыў,
Каб больш упэўненасці мець,
Наконт данілавай кватэры
І прад гасцьмі не чырванець.
Ды ўсё-ж настрой адно зніжае:
Як гэта даў ён зевака?
Як хітрасць хлопская старая
Перахітрыла паляка.
І як не сцяміў ён адразу?
Як не напаў на верны след?
О, дзед Куцейка, гэта—дзед—
Пільнуй яго, пан, як заразу.

17

Нарэшце, ён выходзіць з дому,
Як гаспадар, агледзець двор,
Абход зрабіць даўно знаёмы,
І мыслям іншым даць прастор.
На стромкім ганку па прывычцы
Спыніўся ён і, як каршун,
Зірнуў на лес, што ў сіняй світцы
Замлеў у песні чуткіх струн,
На Петрушы, на плех саломы
Дзіравых стрэх, на курганок,
І чуе—дзесь грыміць званок
У цішы яснай, нерухомай.

18

Ды ён не чуе і не бачыць,—
Што чары дня, што прыгажосць.

«То з гміны едзе не іначай
Мой добры сябар і мой госць».—
Гадае ён ды сходзіць з ганку,
А звон заліўсты бліжэй
Разносіць тоны ў ціхім ранку,
Нібы мядзяны салавей.
І вось на горку пара коней
Вазок узвозяць запраўскі.
Чутно—шуршаць пад ім пяскі,
І пад капытам дол гамоніць.

### 19

Пан Богут сам бяжыць да брамы:
Вазок з дарогі мкне сюды,
Званок заліўсты той самы
Звініць на розныя лады.
Пан Богут ветлівым паклонам
Гасцей вітае дарагіх
І раскрывае сваё лона,
Каб прытуліць зараз дваіх.
Тут пан Пшэбора і пан Глынка,
Вядомы гмінны кручкатвор,
І галасы іх будзяць двор,
Плывуць за стайню, за адрынку.

### 20

— Ну, як-жа ехалі, панове?
— Ой, не пытайся, пан, бяда!
Няма дарог. У кожным рове
Зажора, пухлы снег, вада.
І не паедзеш дужа быстра
Ні на калёсах, ні ў санях,
А па пагорках, бы ў міністраў
Такія лысіны, што страх,—
Пан саквэстратар любіць жарты
І слова трапнае сказаць.
І сам ён тоўсценькі, як кадзь,
І нізкі, кругленькі, бы кварта.

21

Фурман фарсіста ляснуў пугай,
Вязе ў парадны ход паноў
І, нацягнуўшы лейцы туга,
Спыняе пару бегуноў.
Паны з вазка вылазяць лоўка.
Вядзе пан Богут іх у дом,
Таму, другому кіне слоўка
З прыязным жарцікам, смяшком.
У доме, згледзеўшы Мальвіну,
Валенты пан і пан Самусь
У ручку ёй галантна — плюсь
І распыталі пра навіны.

22

Гаспадары і госці рады,
Жычлівы, ветлы між сабой,
Жартуюць злёгку і да ладу,
Гудуць усе наперабой.
Пан Глынка, шустры і вяртлявы,
Хадзіць гатоў на галаве,
Бо тут так вольна, так цікава,
Што толькі тут ён і жыве.
Як певень дзюбам, Глынка носам
Туды паводзіць і сюды,
І ўсе вынюхвае сляды,
На непарадак гляне скоса.

23

Прыемна ў дом зайсці з дарогі,
Дзе рады вам гаспадары,
Дзе вас частуюць, што ёсць змогі,
Дзе трунак знойдзецца стары,
Такі, што чарачка-другая
Вам разагрэе ў сэрцы кроў
І ўгору ўзняцца памагае
Чуць не да самых аблакоў.

А за сталом якраз дарэчы
Вясёлы весці разгавор,
Пачуццям даць развой, прастор,
А часам трошкі папярэчыць.

### 24

Вось так і тут. Была і чарка,
Была і панская хвальба.
Нарэшце, выплыла хібарка
І тая панская цяжба,
З якой пан Богут мае справу.
Пшэбора стукнуў кулаком:
Ён зараз пойдзе на расправу
З тым дзёрзкім хлопам-вахлаком.
Але пан Глынка павёў носам
Туды-сюды разы са тры:
— Гарачкі, пане, не пары.—
Спыняе панскага барбоса.

### 25

— Панове, зробім мы іначай—
Закон у Польшчы не памёр:
Па акту трэба ўсё адзначыць.
Агледзець пойдзем хату, двор.—
І вось ідуць паны ўсе трое.
Яны ў хібарцы, у пустой.
— А гэта, пане, што такое?
Глядзяць—паперачка!—Пастой?—
Пан Глынка ўзяў з акна паперку.
Чытае ўголас: «Пан Багут!
Дай бог самому жыць вам тут
І на труну сабе зняць мерку».

*12—21/XI 1940 г.*

## *Раздзел VIII*

### 1

Паны падскочылі ўсе разам,
Як-бы хто шылам іх кальнуў,
Такая наглая абраза,
І жычыць, гад, яшчэ труну!
Застыў пан Богут грозна, строга,
Губамі чамкае, бы трус,
То на таго, то на другога
Глядзіць, спусціўшы рыжы вус.
Пан саквэстратар водзіць носам,
Ківае толькі галавой,
І пан Пшэбора сам не свой
Ды на запіску гляне скоса.

### 2

І раптам іх усіх прарвала.
— Пся крэў! — пся маць! О, галган, хлоп!
Лайдак! павесіць і то мала.
Пусціць адразу кулю ў лоб.—

І пан Пшэбора ўжо з гарачкі
Хапае грозна пісталет.
— То дзе ён, пся крэў, сын лайдачкі?
Ураз адпраўлю на той свет! —
Адвёўшы лаянкаю сэрцы
І астудзіўшы сваю кроў,
Ідуць да Богута ізноў,
Каб мець нараду аб паперцы.

### 3

Запіску шмат разоў чыталі,
Круцілі так яе і сяк
І пад законы падганялі,
Ды не ўзялі канцоў ніяк.
К таму-ж запіска безыменна.
Які-ж то козыр на судзе?
Хоць ад яе і пахне дрэнна,
Ды з ёй не сунешся нідзе.
Але ўсё-ж ролю адыграе—
Да рэчы кожнай час ёсць свой.
Пан Глынка круціць мазгаўнёй—
Аблутаць гіцля—рэч пустая.

### 4

І саквэстратар урачыста
Ганору слова тут дае,
Што падвядзе пад комуніста
Ён гіцля, аўтара яе.
Бярэ партфель свой чорнакрылы,
Кладзе запіску ў купу спраў,
Дзе імя значыцца Данілы,
Што ён падаткаў не аддаў.
Ды з асаблівою ахвотай
Рахунак піша кручкатвор:
За свой прыезд у панскі двор
Сыскаць з Данілы сорак злотых.

## 5

Сядзіць пан Глынка, бойка піша,
Выводзіць лічбіны рука,
І вось які дакумант вышаў
На бабыля, на бедака:
«Рэестр скарбовай панскай гміны.
Належыць платы ўсёй спагнаць:
За хату дзесяць з палавінай,
За двор, за землю дваццаць пяць.
Ды пені злот на дзесяць злотых
Ды саквэстратарскі візіт,
А разам сотня». Вось і квіт,
І ўсё спагоніцца з галоты.

## 6

— І аман тут!—сказаў пан Глынка:—
Рахунак гэты ёсць закон,
Сваволлю хлопскага учынку
Канец пакласці мусіць ён.
Парадак перш за ўсё, панове,
Прычым законнае мяжы
Я не парушыў ні ў поўслове,
Бо я закону не чужы.
О, пся іх маць! Ім то—навука.
Закажа пятаму другі,
Як аддаваць свае даўгі—
Зламаць упартасць іх—то штука.

## 7

Паны і Богут і Пшэбора
Спяваюць пану Глынку ў тон:
Дай хлопам волю, будзе гора—
Сам пападзеш у іх палон.
Пан Глынка слухае, ківае
Таму, другому галавой.
Шуміць размова іх жывая,

І мысцей коціцца развой.
Нарэшце Глынка бярэ слова.
Ён хваліць гмінны панскі лад,
Бо сэнсу ў ім сапраўды шмат,
І дробязь тут не выпадкова.

8

У чым, напрыклад, сэнс падаткаў,
Падчас быць можа і пустых?
У чым хаваецца разгадка
І сіла дробязей такіх?
У тым, як нехта сказаў дзесьці,
Драбніца—зло, ды біч для нас,
Бо б'юць яны на кожным месцы
І ў кожны дзень і ў кожны час.
Змагацца-ж з імі нецікава:
Ні гонару, ні хвалы той
У барацьбе няма такой,
І не здабудзеш у ёй славы.

9

Пан бог з Майсеем гэта зналі
І чым Егіпту дапяклі,
Калі гебраяў вызвалялі
Яны з нявольніцкай зямлі?
Як пан бог справу тую выйграў
У фараона, яго слуг?
Наслаў на іх не львоў і тыграў,
А дробных мошачак і мух.
— Дасціпна, пане саквэстратар!
Ну, дасканала, далі-бог!—
І сыплецца смех, як гарох,
І сонцам свеціцца аратар.

10

— То факт, панове: дробязь—сіла!
Я так ім, пся крэў, дапяку,

Што ў іншы бок ім зверне рыла—
Няхай ідуць к большэвіку.
Але дарог туды не ўтропяць,
Бо вока польскае не спіць.
Грашы, але шануйся, хлопе:
Твой лёс на нітачцы ліпіць.
— То так, але-ж ці справядліва
Наўмысне хлопаў удражняць,
Каб на варожасць іх падняць?—
Мальвіна кажа баязліва.

11

— Ласкава пані, бойся бога!—
Пан Глынка пырснуў, бы ў агні:—
Хто носьбіт ёсць пачатку злога,
Не патурай таму ні-ні.
А парасткі таго пачатку
Хоць штучна, але палівай.
Тады заклічам да парадку,
Калі спячэцца... каравай.
У тым-то, пані, і ўся штука:
Зло карчаваць за добры час.
Я знаю душу хлопскіх мас:
Маё дасведчанне—парука.

12

І разышоўся саквэстратар,
Разліўся шумным ручаём,
Дзе адбіваўся правакатар
З фальшывым фігавым лістком.
Цытаты сыпаў ён з Лайолы
І з мудрацоў, наколькі мог,
У сведкі бога браў, касцёлы,
Каб апраўдаць святы падвох.
Паны—Мікодым і Валенты—
Ад здавальнення аж раўлі,
На гонар польскае зямлі
Яму падносілі патэнты.

13

Тым часам хіліцца дзень к ночы,
Выходзяць госці з-за стала.
На сёння досыць ім талочы,
А тая справа не ўцякла.
Якраз цяпер яна ў той фазе,
Калі падходзіць да канца.
На «чарковэго» ў кожным разе
Не забракуе ім вінца.
— У хуткім часе, пане Богут,
Наш пан Пшэбора возьме рэй,
Прыцісне хлопа ён мудрэй.—
І госці едуць у дарогу.

14

Размовы змоўклі. На пагорку
Замлеў званок у цішыні.
У прадвясеннім адвячорку
Па хатах свецяцца агні.
Сям-там рыпяць яшчэ вароты—
Канчаюць дзень свой Петрушы
Ды смех пачуецца блазноты:
Вясне так рады малышы.
І каля хат, дзе грэла сонца
І агаліліся пяскі,
Звіняць, як медзь, іх галаскі,
І ловіць іх прастор бясконцы.

15

А далей дзесь чутна і песня.
Спявае некалькі дзяўчат,
Такіх-жа свежых, як прадвесне,
І сумны песні гэтай лад.
Жыве сваім жыццём пасёлак,
Свае гадуе мары-сны
Ды тчэ свой шлях у многа столак,
І не займуць яго паны.

Стаіць пан Богут на дзядзінцы,
Як адшчапенец і чужак.
Не, не сыйдуцца аніяк
У шлях адзін іх два гасцінцы.

16

А ноч паволі ў свае шаты
Зямлю агортвае шчыльней.
У мроку нікне лес кашлаты,
Бы нейкі хітры чарадзей.
Як бляск далёкага пажару,
Іскрыцца ў небе млечны пас,
Такі таемны, поўны чараў
І неапісаных украс.
Гарыць, жыве абшар нябесны,
І месяц ставіць свой паром...
Зямля і неба—адзін дом,
Ды ў гэтым доме людзям цесна.

17

Заснуў пасёлак анямелы.
Даўно патушаны агні.
І месяц бляск струменіць белы
З бяздоннай цьмянай глыбіні.
І цёмна ў дзедавай каморы,
Палеглі спаць уцекачы,
Але не спяць, і час каторы
Гамоняць ціхенька ўначы.
Прыезд паноў іх непакоіць
І сее ў сэрцы ком трывог.
Які рыхтуюць ім падвох?
І што іх змова ў сябе тоіць?

18

Начная звадлівая ціша
Наводзіць страхі талакой,

І ім здаецца—нехта піша
Прысуд халоднаю рукой.
З пустых куткоў паны выходзяць,
Глядзяць на іх з усіх бакоў,
А між панамі Богут злодзей,
Як люты воўк сярод ваўкоў.
І раптам дрогнуў мой Даніла —
Запіска ўстала перад ім,
Але ўжо ў выглядзе другім,
І ў жылах кроў яго застыла.

19

Ён змест запіскі ўспамінае—
На іншы лад гучыць яна.
Ой, галава яго дурная!
Сябе ён лае, як блазна.
І бачыць ён, нібы ў люстэрцы,
Старую хату і паноў,
Як зрок спыняюць на паперцы,
Як сэнс тлумачаць яе слоў.
Але ён страхі разганяе,
Глядзіць на ўсё, як адвакат,
І довадаў прыводзіць шмат,
Што справа гэта ўся пустая.

20

Ды тут, бы думак яго рэха,
Марына шэпча яму ў тон:
— Глядзі; ой, будзе не да смеху,
Калі запіску знойдзе ён!..
Нашто было пісаць, Даніла?
Нашто заводзіцца і з кім?
Яго і права тут і сіла,
І Польшча ўся стаіць за ім.
А поймуць, возьмуць яе ў рукі,
І нажывеш сабе бяду.
Нашто было чапаць брыду?
Ці ты не знаеш гэтай сукі?

## 21

Даніла гэта добра знае,
Ён сам калоціцца ў цішы.
Была мінуціна блазная,
Як-бы шапнуў хто—напішы.
Але калі зірнуць цвяроза,
То што ў запісцы гэтай ёсць?
Замах які або пагроза?
Што з яе высмакча пся-косць?
Хіба-ж Даніла безрассудны,
Каб падвадзіць сябе дарма:
У ёй і подпісу няма—
Няхай чытае, гад паскудны.

## 22

З другога боку рэч такая—
Чаго маўчаць, чаго цярпець
Ды пазіраць, як гэта зграя
Сляпіцай лезе табе ў клець?
Дакуль-жа гнуцца перад імі
І ставіць спіну пад бізун?
Маўчаць, дык душу з цябе выме
Няшчасны шкет, пусты шляхтун.
Глядзі, што сталася на ўсходзе!
Ім так падсеклі карані,
Што іх спаліла, бы ў агні,—
Кульнулі іх там раз і годзе.

## 23

— Паслухай, што гавораць людзі,
Зірні, што робіцца вакол?
І ты маўчы такой паскудзе,
Цягні ярмо сваё, як вол!
А дзе ты сунешся, нябога?
Табе-ж завязан вольны свет.
Хіба-ж з цярпення толку многа?

Дзе ты ў жыцці пралажыш след?
Ды што-ж, Марынка: не адны мы
Такія ў Польшчы бедакі...
Не, спосаб трэба не такі,
Каб прыставаць да іх у прымы.

**24**

Ён супакойвае Марыну
І хоча свой узняць настрой,
Але за прышлую часіну
Не-не, ды возьме непакой.
І колькі думак лезе розных!
І колькі ціснецца згрызот!
Ды хіба выказаць іх можна?
Хіба іх знішчыш перамот?
Даніла моўчкі шмат гадае
І пра жыццё і пра свой дом,
І вера ў іх ідзе назлом,
Надзея гасне, прападае.

**25**

Плыве часіна і другая,
Адходзіць месяц ад акна.
Гаворка зводьна заціхае.
Замоўк і ён, маўчыць яна.
І ціха ў дзедавай каморы,
І ціха ўсюды за акном.
На нейкі час заснула гора,
Як той чарвяк пад дзірваном.
На небе зоры ззяюць, свецяць
Ды сыплюць зоркі на снягі,
Нібы дыямант дарагі—
Дзівосных з'яў так многа ў свеце.

*14—25/XII 1940 г.*

## *Раздзел IX*

1

Ідзе вясна ў шумлівых водах,
У звонкім срэбры ручаёў
І разлівае мяккі подых,
Як песню нейкую без слоў.
Ідзе і будзіць, нібы маці
У дзень святы сваіх дзяцей,
Узгоркі, гоні, сенажаці
Пад гукі выраю—гусей,
І абнімае, туліць, песціць
І дрэва кожнае і куст
Ды нешта шэпча ім пад густ,
Прыносіць радасныя весці.

2

А ветрык лёгенькі паўднёвы
Зусім прыціхне ўскрай лясоў,
Нібы цікуе, як са сховаў
Зямля знімае свой засоў,
Як з патайных яе каморак
Жучкі выпоўзваюць на свет
І аглядаюць свой падворак,

Што так няпрыбран і раздзет.
А над узлескамі ў зацішку
Бязлюдных кінутых зямель
У небе гойдаецца трэль
І срэбрам коціцца па ўзвышку.

### 3

Плывуць у сэрца пералівы
Дзівоснай песні ў сем кален.
Яны так просты, так жычлівы,
І колькі ў тонах у іх змен!
Стаіш і ловіш гукі тыя,
Як гімн жыццю, хвалу вясне,
І сонца косы агнявыя
Лагодна спыніць на сасне.
Снуецца жаваранка ў небе,
Жыхарка ціхіх баравін,
І колькі сонечных навін
Нясе яна змяртвелай глебе.

### 4

Сышло разводдзе шумна, дружна,
Раскошна ўмыліся лугі
І ў цеплыні заслоны смужнай
Убор сабе ткуць дарагі.
Зямля гасцінна засцілае
Абрус зялёны на свой стол,
Дзе будзе доля немалая
І для жывёлін і для пчол.
Звініць паветра і гамоніць,
А даль так свежа, так ясна...
Дзень добры, юная вясна!
Дзень добры вам, лясы і гоні!

### 5

Выходзяць людзі з хат замшэлых,
Работы многа, дзе ні глянь.

Пад кажурынай лісцяў прэлых
Зіма схавала бруд і твань.
Падправіць трэба агарожу,
На коллях віткі пагнілі,
І час сяўбы ужо варожаць
Напеўным крыкам жураўлі.
Гудзе знаёмая работа
Пад стук сякер, пад шум мятлы,
І рад вясне стары, малы
І кожны жыў сваёй турботай.

6

І дзед Куцейка вышаў з хаты.
Яшчэ не ўломак старына.
Ён смокча люлечку заўзята,
А думка верціцца адна:
Вось ускапаць-бы, як бывала,
Хоць пару градак пад тутун.
Эх, згінь ты, панская навала,—
Свет завязаў яму шляхтун!
І дзед злуецца ды гадае,
Калі скапыцяцца паны.
Няма яму уцех з вясны,
Не цешыць дзеда маладая.

7

Ды дзед Куцейка не без дзела—
Прышла вясна, работы шмат.
Праз два ці тры дні ў поле смела
Вязі плужок ці панарад.
Зямельку трэба падлагодзіць,
Гнайку падвезці воз—другі:
Пшаніца, дасць бог, можа, ўродзіць
Яго старой на пірагі.
Турбот, работы не абрацца,
Але на ўсё ён знойдзе час
І пажартуе іншы раз—
Чым плакаць меў, то лепш смяяцца.

8

Любіў ён часам нечакана
Спытаць, сустрэўшы хлапчука:
«Нашто ты, хлопча мой каханы,
Украў яйцо з-пад япрука?»
Другі зусім саб'ецца з тропу,
Глядзіць, як выбіты з сядла,
А іншы сам насыпле з копу,
І дзед не возьме ў сэрца зла.
Адася Богутава стрэне,
Спытае ўжо: «Скажы, паніч,
Адкуль узяўся свіны лыч
І што хавае ксёндз у жмені?»

9

Адасю-ж меў ён на прымеце
Такую байку расказаць:
Адкуль пайшлі паны на свеце
І чаму лаюцца—пся маць.
І хлопцу страх было цікава
Ад дзеда байку тую ўчуць,
Ды дзед усё адкладваў справу —
Чакай, раскажа як-нібудзь.
Цяпер-жа час такі гарачы,
К таму-ж Адась яшчэ малы,
Не выраслі ў яго іклы,
А байку ўчуе, дык заплача.

10

У гэту весну клопат новы
І думак ход крыху другі,
І часам дзед нахмурыць бровы
Ды больш дадасць сабе вагі,
Бо як-ні-як, а ў яго хаце
Знайшлі прытулак бедакі.
Ну, што-ж? Жывіце, места хваціць,

Няхай злуюцца палякі.
А кватарантаў ён не судзіць,
Сказаць, хутчэй наадварот:
Ні сваркі з імі, ні згрызот,
Яны—шляхетнейшыя людзі.

11

Пазнаць не трудна чалавека
Па ўсіх паводзінах яго,—
Ці ён гультай, ці недарэка,
Ці не стае яму чаго.
І кожны выпадак асобны,
Зусім быць можа і не ў знак,
Пастулак нават самы дробны
Аб ім гавораць так і сяк.
Дзед прыглядаўся неўзаметкі
Да кватарантаў маладых—
Хваліць ён можа толькі іх,
Ну, людзі проста якіх рэдка.

12

Жывуць лагодна і ціхутка
І толькі ведаюць свой кут,
А ў іх клятушцы так чысцютка,
І сцены счэсаны пад склюд.
Працуе пара маладая.
Ён штосць майструе, а яна
Прадзе ды песні напявае
Пад порсткі шум верацяна.
А часам ён паможа дзеду
Без лішніх слоў і неўзнакі
Наладзіць лад сякі-такі,
Каб нават дзед таго не ведаў.

13

І бабка Ева так-жа сама
Спагадна ставіцца да іх,

І ёй абходзіць тая пляма,
Што ад паноў ідзе ліхіх.
Яна часамі на хвілінку
Сама ў камору забяжыць
Сказаць або пачуць навінку
Ці проста сім-тым услужыць.
Таксама-ж ведаць ёй цікава,
Як іх гадуецца сынок,
Харошы гэты пестунок,
Што поўзаць стаў ужо рухава.

## 14

А бабка любіць і умее
Павесці гутарку з малым.
І ўсё-ж ён, жэўжык, разумее—
Прыемна час пабавіць з ім.
Валерык ручкі цягне к бабе,
К бабулі хіліцца душа,
Бо бабка знае, чым прывабіць,
Схіліць на свой бок малыша.
Яна яго і паказыча,
І з ім пакружыцца трушком,
І пачастуе піражком,
Што «зайчык шле ім з пагранічча».

## 15

Плылі ў турбоце дні, нядзелі,
Усталявалася вясна.
Дубы зялёны плашч адзелі,
І зарунела ярына.
Прышла пара ўжо ў агароды
Жанкам руплівым завітаць.
У бабкі-ж Евы няма моды
Цягнуцца ззаду, адставаць.
Яна выводзіць дбала грады
Пад гарбузы і агуркі.
Мясцінку-ж бліжай ад ракі
Мяркуе бабка для расады.

16

Сюды-ж падходзіць і Марына.
Яна хадзіла ў свой абход,
Збірала шчаўе разам з сынам
І завярнула ў агарод.
Валерык згледзеў бабку Еву,
Пазнаў і «баба» крыкнуў ёй,
Для іх такая неспадзева:
Ён слоўны скарб пабольшыў свой.
І бабка кідае рыдлёўку;
— Гаварунок мой залаты.
Умееш «баба» сказаць ты,—
І гладзіць светлую галоўку.

17

Яна бярэ яго на рукі.
— Ідзі-ж да бабы, коцік мой!—
І песціць хлопчыка, бы ўнука,
З даўно забытай варкатнёй.
Марына бабку падмяняе
І рэжа скібіны-брускі
Ды градку гладзіць і раўняе,
Як агароднік запраўскі.
Аж бачыць—іх сусед Кастанты
Бяжыць сюды, як на пажар,
Цераз раллю, цераз папар,
Крычыць здалёк: «Паліцыянты!»

18

Закалацілася Марына,
Рыдлёўку выпусціла з рук,
Вось тая страшная часіна,
Крыніца страхаў яе, мук.
Не ў час спыняецца работа.
Тут ясна ўсё... Ідуць у двор,
У пастку пана-абармота,
Што ўжо даўно занёс тапор.

Прышлі. Глядзяць—стаіць, як шула,
Паліцыянт каля варот,
А за варотамі народ—
Карціць-жа панская ўсім скула.

19

У сенцах дзед і пан Пшэбора
І з ім яшчэ паліцыянт.
— Знімай, пся крэў, замок з каморы!—
Крычыць і тупае сержант.
— Ці-ж я грабежнік?—дзед пытае:—
Як буду я ламаць замок?
Сказаць і сіла ўжо не тая—
Ламі лепш сам яго, панок.—
Марына з бабкай вышла ў сені.
— Нашто збіваць замок? вось ключ.
І чалавека, пан, не муч!—
І ключык вынула з кішэні.

20

Вайшлі ў клятушку. Пан Пшэбора
Не траціць панскіх сваіх слоў:
Цяпер не месца разгаворам—
Ён не затым сюды прышоў.
— Забраць усё, што вартасць мае!—
Дае калегу ён загад.
Стаіць Марына, як нямая,
Не ўцяміць, што гаворыць кат.
І бачыць—рушыліся гады.
Ляцяць падушкі, ручнікі,
Дзяружкі, коўдра і гаршкі,
Данілаў струмант і прылады.

21

Хватаюць, рвуць ды ўсё ім мала.
— У скрыню, пане, завітай!—
І не спыняецца навала.

І ліха прэцца цераз край.
Праходзіць момант анямення.
Марына к скрыні. — Прэч, не дам!
— А, так! то проша прабачэння:
Я адчыню яе і сам.—
Яна на скрыню садзіць сына,
На скарб свой падае сама,
Але ёй літасці няма.
На землю сцягнута Марына.

22

Не сцерпеў дзед і бабка Ева.
Падняўся лямант, гвалт і шум
І чыйся голас, поўны гневу:
— Дакуль цярпець мы будзем глум?—
З двара ўрываюцца сялянкі,
А вартавы каля варот
Крычыць: «Нявольно! о, паганкі!»
Жанкі-ж таўкуць яго ў жывот.
А ў клеці панскія ваякі
У віхры схваткі баявой
Хапаюць палатна сувой,
І справа хіліцца да дракі.

23

Сувой раскручан. Адзін кончык
Трымае дзед і тры жанкі,
Другі ў руках у панскіх гончых.
Пацеюць, тужацца панкі.
Ды іх паволі крок за крокам
На свет выцягваюць, на шыр.
Пшэбора ўз'еўся ненарокам:
Знімае, кідае мундзір—
Прастору больш геройскай сіле.
А бабка Ева мундзір—хоп
Ды ў агарод з ім у галоп.
Паны і рукі апусцілі.

## 24

Пшэбора кінуўся ў пагоню,
А паліцэйскія за ім,
Бягуць і тухкаюць, як коні.
Пад імі пыл курыць, як дым.
І вось Пшэбору даганяюць,
А ён ім грозіць кулаком,
І трое ўсе свой бег спыняюць,
Аб чымся радзяцца тайком.
Прабегла бабка гоні двое
І—гоп мундзір той у кусты!
Сама-ж бяжыць у хмыз густы
І пераможцам ідзе з бою.

## 25

Даніла шусь тут у вароты
З жалезным ёмкім сахаром.
Прыбег ён з дзедавай работы,
Пачуўшы весці пра пагром.
Ідзе, ўсхваляваны, рашучы.
Зірнуць, дык проста маладзец.
І не мінуць-бы, пэўна, бучы,
Калі-б не гэтакі канец.
А дзед Куцейка яму кажа:
— Спазніўся трохі, хлопча мой,—
Старая выйграла бой:
Мундзір шукае войска ўражжа.

*28/II 1940—7/I 1941 г.*

## *Раздзел X*

### 1

Мундзір узнёслага Пшэборы
Не сходзіў доўга з языкоў,
А стычка ў дзедавай каморы
Расціла больш жартаўнікоў.
Знайшоўся нават невядомы
Да гэтых пор адзін пясняр
І верш злажыў «Грымелі громы,
І бег народ, як на пажар.
У бой ішлі паліцыянты.
Іх вёў Пшэбора — камандзір.
Пшэбора-бора, дзе мундзір?
Паблеклі, пане, на ім канты».

### 2

Але хвіліны ап'янення
Не доўга песцяць наш настрой:
І дзеда стала браць сумненне —
Што будзе з ім і са старой?
Эх, нажылі сабе заразы,
І не адчэпішся цяпер!
Не сцерпіць пан такой абразы,
І больш раз'юшыцца ў ім звер.

Хоць дзед у стычцы не даў маху,
Перацягнуў двух кабаноў,
Але як вернуцца зноў?
Трасецца трохі дзед ад страху.

3

Марына з мужам па-другому
Налёт-грабеж успрынялі:
Тайком выносяць скарб свой з дому,
Цішком хаваюць у зямлі,
Хаваюць борзда, тарапліва
Усё, што можна прыхаваць,
Бо «матка Польска» ласа, хціва,
Нічым не стане ганьбаваць.
І толькі той сувойчык зрэбны,
Што ў бою вырван з рук паноў,
Марына ў скрыню кладзе зноў,
Бо тут і тактыка патрэбна.

4

Усе ад мала да вяліка
Падзей чакалі ў Петрушах:
Калі ўжо раз іх чорт наклікаў,
То не зачыніцца ім шлях.
Ужо і сам характар справы
Казаў за тое, што паны
Раняць не будуць свае славы,
Хоць, можа, згубяць і штаны.
І праўда, сорам, сказаць шчыра:
Свой гонар страцілі панкі —
Ўзялі над імі верх жанкі,
А пан астаўся без мундзіра.

5

— Ай, малайчына бабка Ева! —
Смяюцца дружна Петрушы: —

І так зняважыла «псякрэва»!
Герой яна, як не пішы. —
У кожнай хаце, на падворку
І ўсюды ўсцяж у грамадзе
Аб ёй вясёлая гаворка,
Як ніва коласам гудзе.
Яе находлівасць узносяць
І хваляць трапны бабчын ход.
Гасай, гасай там, абармот!
Шукай, шукай мундзір, барбос!

6

Гасае пан мой у кашулі,
Здалёк прыметны, як гусак,
Ад лютай злосці на бабулю
Сціскае зубы і кулак —
Ды кіне зрэдку: «О, холера!»
І два спадручнікі яго
Сабачым бегаюць манерам,
Не пакідаюць аднаго.
Бо як-жа так, няма мундзіра!
У стычцы пан згубіў мундзір!
А без мундзіра пан — пузыр,
Пусты пузыр, дзе адна дзіра.

7

І доўга ўтрох яны гайсалі
Ды бралі троп, як ганчакі,
Кружылі, бегалі, снавалі
І заглядалі ў раўчакі.
Нарэшце, усё-ж упалявалі,
І крыкнуў з іх адзін: «А во»!
Мундзір, скамечаны без жалю,
Вісіць, спусціўшы рукаво.
Паны сышліся і з павагай
З куста знімаюць свой мундзір,
Ідуць параіцца ў пустыр
Ды выціраюць поту рагі.

## 8

Ужо і вечар на паходзе,
І ноч глядзіць з лясоў, з нізін,
А ў Петрушах аб той прыгодзе
Няма ніякіх больш навін.
Куды-ж падзеўся пан Пшэбора?
Яго чакаюць тут усе.
Калі ён прыдзе і як скора?
І што прыход той прынясе?
Гадаюць, думаюць, варожаць,
Не спяць у дзедавым двары
Падсуседзі, гаспадары,
І гэта ночка іх трывожыць.

## 9

Усюды ціха і маўкліва
У цемры тонуць лес, гаі,
А над рачулкай гаманлівай
Заводзяць песні салаўі.
Прысела ноч на вузкіх межах
І мрок рассейвае кругом.
Дубы, таполі, нібы вежы,
У неба ўзносяцца шатром.
А ў небе зоркі, як сняжынкі,
Гараць, мільгаюць і дрыжаць.
Нібы на сонцы сенажаць,
Дзе росы ззяюць на былінках.

## 10

А на дварэ каля каморкі
Пад саламянаю страхой
Вядзецца ціхая гаворка
Аб той праявіне ліхой.
Яны адны: Марына, бабка.
І страшна ім, з усіх старон

Глядзяць на іх мундзіры, шапкі,
І шпораў чуецца ім звон.
І нібы тухкаюць дзесь крокі —
Ці ліха то снуе сляды?..
Хто муціць свет? Ён, гад руды,
Асаднік Богут касавокі!

### 11

У бабкі Евы думак многа,
Сябе, Марыны ёй шкада,
Данілы, хлопчыка малога.
Гняце свая і іх бяда.
А спосаб ёсць, і ён адзіны:
Марыне ў двор схадзіць самой,
Бо не адхіліш трасяніны,
Што можа скончыцца турмой.
Прасіць яго, хоць гад ён рыжы,
А пан на просьбы так-жа лас,
Як кот да сала і кілбас.
Гарыць-жа свет ад гэтай грыжы.

### 12

— Схадзі, галубка, — што паробіш?
Ды папрасі, пагавары:
Часамі скуле і хваробе
Наровяць самі дактары.
Паны ўсе маюць там папаску,
Адна ў іх шайка і хаўрус.
Захоча Богут, зробіць ласку,
Адно патрап яму пад густ.
Хоць мець не будзеш калачэчы,
А пойдзеш ім наперакор
І пападзеш пад іх тапор,
Пад іх бізун падставіш плечы.

13

— Ох, служка мілая мая ты!
Ці доўга тут нажыць бяды?
А ён-жа помслівы, зацяты,
Стрыжэ вачамі не тулы.
Ці мала кінута ў астрогі
Такіх, што робяць насупроць?
Спірацца з імі — мала змогі,
Адкрыта іх не пабароць.
А твой Даніла! Ой, глядзі ты!
Зацяўся сам. Ды што? Дарма,
А разгарыцца куцярма,
Дык не яны — ён будзе біты.

14

Не спала ў гэту ноч Марына.
Данілы доўга не было.
Вяла яго адна пуціна —
Қ Аўгену Лемеху ў сяло.
З Данілам сталася адмена.
З якіх прычын яна, з чаго?
Ён часта ходзіць да Аўгена
І не расказвае ўсяго.
Марына часам запытае:
— Аб чым ты думаеш, скажы?
— Аб тым, як скінуць нам гужы,
Мая ты жонка залатая.

15

І доўга словы бабкі Евы
Не вылятали з галавы,
Раслі, мацнелі іх напевы,
У зоў зліваліся жывы.
А што благога ў яе словах?
Не забаронена-ж прасіць.
Дакуль-жа быць у цёмных ковах?

І вечны страх з сабой насіць?
Рашэнне цвёрдае прынята.
— Пайду сама. Тайком пайду
І можа ліха адвяду,
Калі ёсць сэрца ў таго ката.

### 16

З сынком назаўтра яна рана,
Адзеўшы чысты свой убор,
Стаяла ўжо каля паркана,
Што агароджваў панскі двор.
Ёй трохі страшна і нялоўка,
Ды не варочацца-ж назад.
І ціха скрыпнула засоўка.
Вось панскі двор і панскі сад.
Глядзіць, аж Богут у бравэрцы
Выходзіць з дому ў свой абход.
Марына рушыла ўпярод,
Пачуўшы холад нейкі ў сэрцы.

### 17

Спыніўся Богут, глянуў скоса
І раптам вус падняў, як меч.
У зубы ўсунуў папяросу,
Ідзе Марыне насустрэч.
Ухмылка крывіць яго пыскі,
З іх чуць не капае алей.
Марына кланяецца нізка,
І Богут зорыць весялей.
— Да вас я, пане наш ласкавы:
Прасіць прышла я вас, панок! —
І ў дол утупіла свой зрок.
— Якія-ж пані мае справы?

### 18

— Паночку, будзьце літасцівы
І паратуйце-ж нас хоць вы!

Ні хаты ў нас, ні поля-нівы,
Ні жменькі збожжа, ні травы.
Адкуль-жа ўзяць нам столькі платы?
Плаціць за зямлю — дзе-ж зямля?
Плаціць за хату, а дзе-ж хата?
Які набытак бабыля?
Дык зміласердцеся-ж, паночку,
Зніміце з нас ярмо, ланцуг.
Не множце, пане, валацуг
З жабрачай торбай і кіёчкам.

## 19

— Прыседзьма, пані. Проша, проша! —
І каля клумбы на тапчан
Садзіцца Богут, як святоша,
А ставіць вус, як таракан.
З Марыны ён вачэй не зводзіць
І аглядае ўсю да пят.
— І мне падатак ваш абходзіць,
Але я чым-жа вінават?
У пані муж занадта... дзікі
І не па меры зух і жох —
Пустой заўзятасці на трох.
Малы разгон, а ўзмах вялікі.

## 20

Вось гэта раз. А па-другое,
Не я накладваю налог:
Дзяржава, пані, ёсць на тое,
А я адно зрабіць-бы мог:
Узяць на кошт на свой расходы
Па часці хаты і зямлі.
Мне асабіста пані шкода,
Дагаварыцца мы-б маглі,
Але-ж і я нясу выдаткі,
А я не богач, не магнат,
Каб не лічыць сваіх затрат —
Хто за мяне аддасць падаткі?

## 21

Па-трэцяе, мая васпані! —
І ў гэтым вузел перашкод:
Стаяць учынкі ў іншым плане —
Тут цяга значыцца на ўсход.
Што адбылося хоць учора?
То-ж непакора ёсць і бунт!
Ды польскі ўрад без разгавораў
Усіх паставіць на свой грунт.
То-ж непавага да закона,
Да Польшчы-маткі, яе слуг!
Узняць такі гармідар, рух!
Не, пані: тут не край чырвоны!

## 22

— Панок! — не ўмоўчыла Марына: —
На свеце лад даўно такі,
Што церпіць простая людзіна,
І вінаваты бедакі.
Што-ж мы калі зрабілі злога?
І ў галаву я не вазьму.
Ці заступілі мы дарогу?
Ці зачынілі свет каму?
Паночак, будзьце справядлівы.
Захоча пан — паможа нам,
Я-ж ведаю: вы — пан панам,
Для пана ўсё, усё мажліва.

## 23

Страла якраз у цэль папала.
Пан аблізнуўся, як той кот,
Што з'еў кавалак смачны сала,
І растапіўся ў сэрцы лёд,
Але ён від трымае строгі,
А сам тчэ ў мыслях павуццё.

Як лепш аблутаць ім дарогі
І ў іх уклініцца жыццё.
Ён лыпнуў вокам на Марыну
І заківаўся раз, другі —
З якой ступіць яму нагі
І як латвей спаймаць дзічыну?

## 24

— Ну, што-ж, васпані, памяркую,
Закіну слова я за вас.
Ці будзе мець карысць якую,
То не скажу: пакажа час.
І толькі вось што, проша пані:
Глядзець не варта дзікуном
І трэба сесці ў нашы сані
І нас не мысліць з бізуном.
Але-ж і мне таксама пані
Павінна будзе адплаціць,
Няхай нішто не забаліць,
Калі пара таму настане.

## 25

За панскай брамаю Марына
Дыхнула поўнымі грудзьмі
І туліць к сэрцу свайго сына
Ды заліваецца слязьмі.
Чаго? Сама яна не знае,
А ў мыслях муць адна, туман.
Ці ноч бяссонная, страшная,
Ці накурыў дурману пан.
Але яна сябе самую
Нічым не можа папікнуць,
А лямку трэба нейк цягнуць
Ды прабіваць сцяну нямую.

*11—18/І 1941 г.*

## *Раздзел XI*

### 1

Ну, што-ж, сябры мае, прысядзем:
Пара ў дарозе адпачыць,
А ў адпачынку ў добрым ладзе
Паразважаць, пагаманіць.
Старыя пройдзены дарогі
І сцежак тысячы людскіх,
Дзе і мае хадзілі ногі
І ногі родзічаў маіх.
Цяпер яны ужо забыты,
Занеслі пылам іх вятры,
Зарос травою шлях стары,
Крывыя сцежкі ўсе размыгы.

### 2

Змяніўся час. Другія далі
З сінечы смужнае ўсплылі,
Раскрыты новыя скрыжалі
Законаў новых на зямлі.
Не на гары, не пад гарою
І не святыя, не багі —

Іх напісаў сваёй рукою
Народ, разбіўшы ланцугі.
Сыны зямлі арліным зрокам
У цьме спрадвечнае смугі
Знайшлі другія берагі,
Каб волю даць людскім патокам.

3

Шумяць патокі маладыя
Разлівам звонкім, веснавым,
І сонца твар свой у іх мые,
Брыльянты сыплюць зоры ім.
Гляджу на іх, і сэрца поўніць
Мне радасцю іх гонкі ход,
І ім няма на свеце роўні,
Іх не скуе ніякі лёд.
Яны адной паслушны волі.
Вядзе-ж іх моцная рука
Правадыра-бальшэвіка,
І шлях ім значыць зрок саколі.

4

Вітаю вас, шляхі-дарогі
У новы свет, у новы край,
Дзе на бязмежныя разлогі
Выходзіць сейбіт і ратай.
Паклон табе, зямля святая,
Адзела новы ты убор.
Хай пышным цветам расцвітае
Совецкі родны мой прастор!
Я ў захапленні аглядаю
Абрысы новых далячынь,
Разлогі сонечных вышынь,
Што так жычліва свецяць краю.

5

Я з гэтых новых даляглядаў
Свет успрыймаю і свой шлях.
Шумяць зялёныя прысады,
Рунеюць травы ў паплавах.
Насустрач мне праходзяць людзі.
І мне ім хочацца сказаць:
Няхай дастаткаў вам прыбудзе,
Хай родзяць нівы, сенажаць!
Зямля шуміць, зямля спявае
На новы голас і напеў...
Ісці ў дарогу час прыспеў —
Дарога-ж многа з'яў хавае.

6

Прыход Марыны пана ўзрушыў.
Яна даўно мінула шлях,
А словы просьбы б'юць у вушы,
Сама стаіць яна ў вачах.
«Пся крэў, а ладная кабета!
Як гляне, проста кіне злот.
Паможаш ёй за адно гэта».
І ён прыжмурыўся, як кот,
І нават рыжы вус пакратаў,
Зірнуўшы ўкрадкам на свой дом.
Які прывет, такі прыём.
Які тавар, такая плата.

7

Але бярэ ён сябе ў рукі
І кажа: «Ды глядзі, панок,
Каб не нажыць табе дакукі
І каб не схібіць з-за жанок!»
І ён пачаў глядзець на рэчы

Вачамі ўжо гаспадара,
Як свой інтэрас забяспечыць,
Патрэбы ўласнага двара.
Сказаць — аб Польшчы справа ходзіць.
З Данілам трэба звесці шчот —
Штось за яго стаіць народ.
Чым ён заслужан у народзе?

8

І прыгадалася запіска,
Пан Глынка, хата рыбака
І адна дробненькая рыска:
Сфабрыкаваць большэвіка!
І гэта мысль, як цвік, засела
У пана Богута ў мазгах.
Зрабіць-жа трэба тут умела
Сабе ў карысць, другім на страх.
І ён пускае ў ход машыну
І строіць план свой патайны —
Узяць Данілу без вайны
І залучыць сабе Марыну.

9

У Петрушах сваёй чаргою
Жыццё штодзённае плыло,
І лета следам за вясною
Свой несла клопат у сяло.
І па-сваему кожны вохкаў
Ці то адзін, ці ў грамадзе,
А змен у бок дабра, палёгкі
Не адчувалася нідзе.
Ды людзі ўсё-ж жылі надзеяй,
Што прыдзе час жаданых змен
І з цесных выведзе іх сцен,
І іншы ветрык ім павее.

10

Цяклі шляхамі патайнымі
Крыніц гаючых ручайкі,
І весялей жылося з імі,
Бо ў іх купаліся дзянькі
Жыцця, якога ўсе чакалі,
Хто жыў пад панскаю пятой.
Адтуль, з усходу, з яснай далі
Чаканай веяла вясной.
Сюды-ж трапляла часам слова
Сваіх братоў, сваіх сыноў,
Што падымала на паноў,
І асуджала іх сурова.

11

Як гром далёкі, заклік глуха
Плыў па краіне: «Паўставай!»
Паны-ж трымалі чуйна вуха,
У кіпцюры вабраўшы край.
Стагналі людзі ў цёмных мурах,
Ды не спынялі барацьбы
І не згіналіся пад бурай,
Як векавечныя дубы.
Не гасла ў сэрцы прага волі,
І праз астрожныя муры
Гукалі громка змагары,
І з кожным днём расло іх болей.

12

Раскрыў Данілу Богут вочы:
Сумленнай працай, мазалём
У панскай Польшчы люд рабочы
Не пабудуе сабе дом.
А як-жа жыць? Шукаць работы?
Ды дзе? Служыць? Але каму?
Сумленне ёсць-жа і ў галоты,
І ён прыходзіў к аднаму:

Не збудаваць ім свае хаты,
Калі ты з панам не ў ладу.
Трымайся лепш за грамаду,
Капай, як можаш, лад пракляты.

## 13

І гэты погляд, цвёрда, стала
Запаў у мыслі дзецюку.
Цяпер ён ведаў, дзе навала,
Чыю прыняць яму руку.
Ён прагна слухаў тыя словы,
Што сцежкай цеснай, патайной
Ішлі ў народ праз муры, ковы,
Як зелень свежая вясной.
Любіў таксама патаемна
Лісток сакрэтны пачытаць,
З людзьмі аб ім паразважаць,
Каб ён не траціўся дарэмна.

## 14

У поўным бляску месяц круглы
Свой засвяціў ужо лучнік,
Глядзіць на дол, на лес асмуглы,
Як нейкі дбалы вартаўнік.
Пасёлак спіць, і ціха ўсюды,
Хіба што ў хаце дзе якой
Дзіця заплача з перапуду
Ці птушка свісне за ракой.
І толькі ў дзедавай каморы
У тон знямелае цішы
Дзве неўгамонныя душы
Вядуць сакрэтна разгаворы.

## 15

— І едзем мы на нейчым возе
Ды ўсё дарожкаю крывой,
А мне так страшна, я ў трывозе —

Змяніўся ты, Данілка мой!
Знікаеш часта, недзе ходзіш
І тоіш нешта ад мяне.
Скажы, з кім ты знаёмства водзіш?
Ці краля ёсць на старане?
Скажы мне праўду — ўсё дарую.
Я-ж без цябе, як перст адна,
Бо што лічыць яго, блазна?
Як без цябе яго ўзгадую?

## 16

— Да не рабі ты слона з мухі!
Яшчэ і кралю прыпляла.
Без іх даволі завірухі,
Згрызот і клопату і зла.
Сама ты бачыш, як вядзецца:
Дрыжыш, нібы багач які,
На справе-ж сук апошні гнецца,
Дзе два пачэплены гаршкі.
То як-жа з гэтым пагадзіцца?
Маўчаць пакорна ды глядзець,
Як пошасць лезе к табе ў клець,
Каб тым гаршком хоць пажывіцца?

## 17

— А што ты зробіш супраць сілы?
Адно: прыдбаеш сам бяду...
Сатруць у пыл і вырвуць жылы,
Як звера, ў клетку павядуць...
Паслухай: можа-б лепш, Данілка,
Сыйсці адгэтуль нам куды?
— Куды ты сойдзеш? для пахілка
У Польшчы ўсё адны сляды.
Ты вось паслухай рэч такую —
Я гэта чуў, як быў малы:
У паляўнічых ёсць арлы,
Такія, што зайцоў палююць.

## 18

Вось раз у стэпу паляўнічы
На зайца выпусціў арла.
Арол той з крыкам ваяўнічым
Імкне на зайца, як страла.
І чуе заяц за сабою
Смяртэльны холад страшных крыл.
На спіну ўпаў, гатовы к бою,
І — шаг арла ён з усіх сіл!
Згарнуў арол бяссільна крыллі —
Вантробы выпалі з яго.
Хто спадзявацца мог таго?
Дык вось: ёсць сіла і ў бяссіллі.

## 19

Адным цярпеннем і пакорай
Не скінеш ты з сябе ярма.
Людскіх-жа крыўд, пакут і гора
Не ўмесціць панская турма.
Рабі, як можаш, ім на згубу.
І я раблю ўсё, што магу.
А ты трымай замкнёнай губу:
Нідзе нікому ні гу-гу.
Я не адзін — такіх мільёны,
І вер, Марынка: прыдзе час —
Парвецца, лопне іхні пас,
І будзем мы пісаць законы!

## 20

Ужо з усходу светлы золак
На небе сцеле абрусы
І сее зерняты вясёлак,
Тчэ залатыя паясы.
Але пануе сон глыбокі,
І ціха ў лесным шалашы,
А хтосьці з песняй, адзінокі,

Ідзе і будзіць Петрушы.
Грыміць, плыве ў цішы світання,
Сюды даносіцца яна
Праз шыбы тонкія акна.
Хто-ж то пяе ў такое ранне?

21

На дварэ ў Піліпа
Разраслася ліпа.
Ой, Піліп, ой, Піліп!
І выпілі-б, каб далі-б.
Калёсы ў Піліпа
Не бягуць без скрыпу.
Ой, Піліп, ой, Піліп!
І выпілі-б, каб далі-б.
Ехаў воз Піліпаў,
З возу шворан выпаў.
Ой, Піліп, ой, Піліп!
І выпілі-б, каб далі-б.

22

Пяе, чуваць па тону, п'яны
Ці падгуляўшы так, злягка,
А ранак свежы і духмяны
Разносіць песню спевака.
Даніла слухае маўкліва,
Каб сэнсу край схапіць хаця
Той песні простай, жартаўлівай
І бестурботнай, як дзіця.
І песня блізіцца. Дужае.
Напеў нязвычны і дзіўны
Сярод зацятай цішыні.
Гучыць яна ў ёй, бы чужая.

23

І раптам моўкне. У пасёлку
Зноў тая-ж глуш і цішыня.
А з рэчкі ветрык вее волкі,

Як веснік блізкага ўжо дня.
Ноч у Пятроўкі караценька —
Прыдрэмле толькі за гарой,
Глядзіш—дзень з сонцавай сявенькі
Ірдзіцца з яснаю зарой.
Даніла звольна адыходзіць
З раздум'ем ціхім ад акна,
І раптам песня зноў чутна,
Ды ўжо далей і ў іншым родзе.

24

Богут касавокі
Мае тры валокі.
Ой, люленькі, ой, люлі!
А нам выпіць не далі.
Маёнтак Сымонаў
Не меў трох загонаў.
Ой, люленькі, ой, люлі!
А нам выпіць не далі.
Цяпер-жа ў Сымона
Ні двара, ні гона.
Ой, люленькі, ой, люлі!
А нам выпіць не далі.

25

Дык вось ён хто, пясняр удалы:
Знаёмы наш, рыбак Сымон!
Нібы яму і гора мала
І так шырок яго разгон.
Рыбак заходзіць па дарозе
У двор свой колішні і дом
І моўчкі Богуту ён грозіць
Сваім кастлявым кулаком.
Прысеў на шуле пад застрэшкам.

Сядзіць, падпёршы галаву,
Глядзіць на дворык, на траву—
Нідзе не знаць даўнейшай сцежкі.

*19/I—3/II 1941 г.*

## *Раздзел XII*

### 1

— Ну, што-ж, Сымоне: гайда далей, —
Гаворыць сам сабе рыбак: —
Ты збег адгэтуль, іх сагналі...
Ды пачакай-жа, ваўкалак:
І над табою кара звісне,
Прыпрэцца ліха ў двор тайком... —
І ён сядзібе ненавіснай
Яшчэ раз грозіць кулаком
І, торбу ўскінуўшы на раме,
Ідзе ў бок рэчкі, у лугі,
Дзе мае кут сабе другі,
Накрыты небам і вятрамі.

### 2

Цяпер яму разгону меней:
Няма ні сецей, ні чаўна,
А ўсё—з-за прагнай панскай дрэні —
Давай падаткі ім спаўна!
Адна цяпер снасціна—вуда,

А з вудай ты—поўрыбака:
Бярэцца розная зануда
І рэдка спноймеш шчупака.
Сядзіць Сымон і разважае.
Над ім шуміць асілак-дуб,
На сонцы песцячы свой чуб,
А дружба ў іх ужо старая.

### 3

Утульна, ціха тут, бязлюдна,
Якраз мясцінка для разваг:
І рэчка коціцца марудна,
І ветрык шэпча ў чаратах.
А побач зараснік ды лозы
Пераплятаюць карані.
Мільгаюць мошкі і стракозы,
А ты сядзі і мары сні.
Чым адплаціць панам за здзекі?
Аб гэтым думае рыбак.
Ды як-жа іх даняць, сабак?
Як ухіліцца небяспекі?

### 4

Крыўдней за ўсё: пустуе хата.
А людзі добрыя былі.
Яго сустрэлі там, як брата,
І частавалі, як маглі.
Каму-ж цяпер яна патрэбна?
На што ёй сведчыць пра адно:
Аб долі латанай і зрэбнай.
Якой прасветлін не відно?
То пахаваць лепш яе ў дыме.
Няхай нясе яго Хрыстос,
Як нашу скаргу да нябёс.
Хоць можа бог яе не прыме.

5

Снуюцца думкі рой за роем —
А як-жа выпаўніць замах?
І рыбака бярэ парою
Сумненне, жаль і разам страх.
Ды адступіцца ён не можа.
Настала ноч, не спіць Сымон,
Ідзе разведаць стан варожы
У час глухі, у самы сон.
Ён абагнуў сядзібу пана
Між ярыны і жытніх лаў.
Спыніўся, момант пастаяў,
Як прывід, выплыўшы з туману.

6

Яго ніхто не патрывожыў.
Ён двор агледзеў свой цішком
Ды міма панскай агарожы
У луг падаўся хмызняком.
Хадзіў ад дуба і да дуба,
Збіраў сухія скрыпялі,
Што тлеюць доўга, як і губа,
І жар трымаюць, як вуглі.
Сабраў яшчэ пянькоў трухлявых,
Такіх, што іскру зарані,
Дык будуць жыць у іх агні
І верна зробяць сваю справу.

7

Другая ноч сышла на землю,
І дзень ужо даўно пагас.
Рыбак не спіць, рыбак не дрэмле,
А ўсё вартуе зручны час.
Усё ў яго на паготове
Абдуман кожны яго крок.
Стаіць са скрыпелямі ў рове

Хаўруснік спраў яго—мяшок.
Хоць страх бярэ, Сымон-жа чуе,
Што ён стаіць на той мяжы,
Калі не сам, а хтось чужы
Яго пастункамі кіруе.

8

Глядзіць на луг, на хмыз, на поле —
Нібы варушацца карчы!
Дзесь птушка зрэдку заскуголіць
Ды пераклікнуцца драчы.
І месяц зрушыў з палавіны
Свайго спрадвечнага шляху.
Гатовы ў кожную хвіліну
Заплысці хмаркам пад страху.
І ўсюды раптам пацямнела.
Ён агляну ўся яшчэ раз
І шэпча сам сабе: «Ну, час!»
І ўперад сунецца нясмела.

9

Вось спад ракі, масток над ёю,
Вярба з разложыстым шатром,
А там і сцежка за ракою,
І панскі сад, і панскі дом.
Прайшоў масток, зірнуў, паслухаў —
Нідзе ні гуку, ні агню.
Каб праляцела, чуў-бы муху
У ціш такую, ў глушыню.
Лявей—пасёлак на пагорку,
Правей—сядзіба павука,
Між імі хатка рыбака,
Нібы скацілася ў разорку.

10

Сымону ўсё тут памагае:
І гэта сцежка і платы,
Дзе побач з імі ідзе краем

Канопель зараснік густы.
А вось і двор яго і хатка,
І радам з ёю хлевушок —
Прыпаў, нібы дзіця да маткі,
Пад саламяны шалашок.
Сымон, як злодзей, мех знімае,
У хлеў падпал кладзе ў куток,
Па скалцы крэсівам чок! чок!
І іскру ў губцы раздзімае.

11

Праз нейкі час дымок пахучы
Паплыў угору, як туман.
Агоньчык тлее ў нутрах кучы,
Што жар разводзіць, як вулкан.
Сымон імкне на агароды,
А сам калоціцца, дрыжыць
І раптам бачыць—ці то зводы?—
Выходзіць нехта з-за мяжы.
Сымон прысеў, прылёг, цікуе —
Ідзе павольна чалавек
Якраз яму на перасек,
Ідзе, нібыта штось мяркуе.

12

Сымон замёр, стаіў дыханне —
Ці згледзіў ён яго ці не?
Няўжо прапаў ён? вось пытанне.
Ці ліха можа абміне?
Глядзіць — вачам сваім не верыць:
Пан Богут! ён у кроках трох...
Пад пахай скрутачкі паперы,
А сам цянюе без дарог,
Праходзіць далей, прамінае.
Сымону робіцца лягчэй.
Куды-ж ён прэцца, ліхадзей?
Што тут за справа патайная?

## 13

Але яму не да развагі:
Адна яго мысль — уцякаць!
І ён папоўз паўзком тулягі
Уніз к балоціне, на гаць.
І толькі ў хмызе ўстаў на ногі,
Зірнуў, праверыў цішыню —
Нідзе ні шуму, ні трывогі,
Няма ні дыму, ні агню.
І Богут знік... А можа сочыць?
Пастой: а там што? ці не ён?
І бегчы кінуўся Сымон,
А ззаду быццам хтось рагоча.

## 14

Румяны золак над лясамі
Ужо развешвае шаўкі,
І залатымі абрусамі
Звісаюць хмарак астраўкі.
Звініць прастор зямлі, як срэбра,
І абуджаюцца ад сну
Палі, лугі, лясная дзебра,
У песню зліўшыся адну.
І толькі наш рыбак, нябога,
Не трапіць песні той у тон.
На груд глухі адбегся ён,
Глядзіць, ахоплены трывогай.

## 15

Стаіць, не зводзіць воч з сядзібы.
Бярэ яго сумненне, страх:
Няўжо ён маху даў і схібіў,
І план яго разбіўся ў прах?
У вострых мыслях і пачуццях
Канцоў не возьме ён нідзе,
Як жураўель на перапуцці,
Што стада к выраю вядзе.

Яму ўсё цёмна, невядома...
І раптам бачыць — бухнуў дым,
Як вата, белы, а за ім
Агонь прарваўся з-пад саломы.

16

Бушуе полымя патокам
У бурнай сіле і красе,
То ўгору ўскінецца высока,
То плытка ляжа на страсе
Ды ў неба сыпне рой іскрынак,
Бы сноп распусціць залаты,
І дым на богутаў будынак
Нясе, як вестку ліхаты.
Рыбак глядзіць, абняты жахам,
У сэрцы жаль і боль тупы —
Падсек ён сам свае слупы,
Не быць яму пад родным дахам.

17

Агонь унік, згарэла хата,
Як-бы яе і не было.
Курыць яшчэ дым белаваты,
А пад тым дымам — попел, тло.
Рыбак выходзіць з анямення —
Яму тут болей не гуляць:
Падсек ён сам сабе карэнне,
А будзе цэл — там лепш відаць.
Збірае ўрас свае манаткі:
Сякерку, вуды, кацялок.
Бывай-жа, мірны вугалок!
І ты, мой дубе, бывай, братка!

18

Як вулей пчол перад раеннем,
Гудзе народ у Петрушах.
Пажар—не простае здарэнне,
Трывогу сее людзям, страх.

З якіх прычын згарэла хатка?
Яна-ж пустуе ўжо даўно.
Яе пажар — для ўсіх загадка,
Ды ясна ўсім было адно:
Яна з наўмыснага падпалу
Пайшла, як свечка, ў вышыню
У ранні час, у цішыню
Калі ўся вёска крэпка спала.

## 19

А дзед Куцейка многазначна
Трасе старою галавой:
Ой, будзе, будзе ўсім нясмачна —
Ім грозіць ліха булавой!
Нядобры знак здарэнне гэта,
І з нагляданняў знае дзед:
Такі пажар ды сярод лета —
Адзнака ліха, нейкіх бед.
Калі-ж бяда расчыніць дзверы,
Дык верце, людзі, што яна —
Ваўчыца тая, што адна
Капэлю водзіць ваўкоў шэрых.

## 20

Ды дзед бярэцца за работу,
Касу вымае з-пад страхі,
Садзіцца важна каля плоту,
Дзе разрасліся лапухі.
Стаіць калодка там старая,
Каля калодкі чурбанок,
І дзед работу расчынае.
Гамоніць звонка малаток.
Касу дзед клепе ды варожыць —
І што-ж яно будзе далей?
Якіх чакаць яшчэ падзей?
І дзеда цёмны страх трывожыць.

## 21

А па пасёлку ходзяць чуткі,
Што Богут сам зрабіў падпал.
Выжыга ён, прайдоха гнуткі,
Збіраць умее капітал.
Чаго туляўся ў ціхамоўку?
Ужо-ж насіў яго не бог
За хатку лепш узяць страхоўку,
Чым за яе плаціць налог.
Нябось не спіць людское вока.
Хоць шмат на свеце ёсць маны,
Для праўды-ж — не — няма труны:
З вады ўсплыве яна і з мроку.

## 22

Але вастрэй за ўсіх Марына
Адчула весці пра пажар:
Якая-б ні была прычына,
А іх паставяць пад удар.
Жылі яны там, не плацілі,
Адтуль сышлі тайком сюды,
А зрок свой воўчы на Даніле
Даўно спыняе гад руды.
Адно збавенне ёсць, быць можа, —
Данілы дома не было:
Ён у суседняе сяло
Сабраўся ўчора ў падарожжа.

## 23

Яна гадае так і гэтак,
Ды страх не можа адагнаць:
Калі захочуць, знойдуць сведак —
Купіць іх можна і прадаць.
Трывожна ў сэрцы, неспакойна,
І ўсё — з-за хаты рыбака,
І гне яе цяжар падвойны:

І за Данілу і сынка.
— Ну, што, сынок мой, пагуляем?
То дай-жа ручанькі свае. —
Сынок ёй ручкі падае,
А вочкі свецяць ясным маем.

**24**

Яна бярэ сынка, цалуе:
— Ну, пойдзем татку сустракаць
Ды возьмем конаўку малую —
Чарнічка стала паспяваць. —
Расце хлапчынка. Ён умее
Сказаць і «мама», «дай» і «на».
Ён гордасць матчына, надзея —
Як не пацешыць пестуна?
Яны ідуць. Хоць з ім матуля
На момант сэрца адвядзе
У гэтай прыкрасці-бядзе,
І к сэрцу сына яна туліць.

**25**

З пасёлку вышлі яны ў поле,
Адтуль на сцежачку ды ў бор.
І тут на сонцы, на прыволлі
У іх павёўся разгавор:
«Згледзіць майго сына
Дзятлік рабенькі.
Стук! стук! стук! спытае —
Хто гэта маленькі? —
Запытае ў лесе
Заінька шэры:
Як завешся, хлопчык?
Скажаш ты: Валерык».

*4/II—13/II 1941 г.*

## *Раздзел XIII*

**1**

Ці я адзін, ці я на людзях,
А з імі ў думках я жыву.
Яны мой чуткі сон марудзяць,
Трывожаць сэрца, галаву.
Яшчэ-ж дарогу немалую
Павінен з імі я прайсці.
Я пракляну іх долю злую,
А радасць мушу ім знайсці.
Я зноў да вас, мае героі,
Мае тры блізкія душы,
Іду цішком у Петрушы,
Бо сэрца ваша ў непакою.

**2**

Яны ў каморцы крэпка спалі,
Бо крэпак сон перад зарой,
А сны іх неслі кудысь далей,
Ласкалі звадлівай рукой.

Марына хату сваю сніла,
Зямлі кавалак удалы.
У вольным краю быў Даніла,
І штосьці сніў свае малы.
А ў гэты час ім у вароты
Украдкам стукае бяда:
Паліцыянтаў чарада,
Як сват, да іх ідзе ў залёты.

3

Акружан двор, закрыты ходы.
Каля акон, каля дзвярэй
Стаяць гвалтоўнікі свабоды
І не спускаюць з іх вачэй.
А двое стукаюць у дзверы,
Нахабна пруцца ў мірны дом.
Відаць, ліхія ў іх намеры,
Калі так лезуць напралом.
— Хто там?—з сяней пачуўся голас.
Трывога, страх у ім чуцён.
З двара-ж яму зусім не ў тон
Стук узмацняецца раз-по-раз.

4

Бубняць у дзверы, як у бубен,
Аж рэха коціцца пад гай.
Пагрозы, лаянка на губе
І грубы воклік: «Адчыняй!»
— Да нас, Данілка!.. Ох, о, божа!..
— Ты супакойся, не крычы:
Ні плач, ні крык твой не паможа —
Спажывы прагнуць крумкачы. —
У хаце сполах, перапуды,
Усе трасуцца і дрыжаць,
Як пад касою сенажаць,
Ды не падзенешся нікуды.

5

Даніла дзверы адчыняе
І падаецца сам убок.
Рашуча ў сені ўходзіць зграя,
І гулка тухкае ў іх крок.
Вайшлі, стаяць перад каморай.
— А хто тут ест Даніла Смык? —
Пытае ўладна пан Пшэбора: —
Што-ж пан маўчыць? Згубіў язык?
— Даніла я. Што трэба пану?
— То пан убачыць хутка сам...
Пан Гжыб! Няхай пан гляне там,
А ў іх халупу сам я гляну.

6

Паны паволі, урачыста,
Без тараплівай сумятні
Усё варочалі дачыста,
Не прапускалі ані-ні
Ні кожнай шчылінкі, ні рэчы.
Падушкі трэслі, сеннікі,
Былі ў падпечку і на печы,
Настольнік мялі, ручнікі.
У сцены стукалі, ў падлогу,
За бэлькі лазілі, пад столь,
І ў кадубу ўзбівалі соль,
Святых ашчупалі і бога.

7

Злажыўшы рукі, як на модлы,
Прыпершыся каля сцяны,
Глядзіць Марына, як іх кодла
Трасуць, варочаюць паны.
Чаго шукаюць, што ў іх мыслях?
І страшна ёй—не за сябе,
І віткі-космы яе звіслі,
Як тыя голькі на вярбе.

Маўчыць Даніла, бледны, хмуры.
У хатцы жудзь, у хатцы ціш,
І толькі іх сынок-малыш
Спіць і не чуе цёмнай буры.

8

І дзед Куцейка для прыліку
Прысутны тут, як паняты.
Маўчыць і ён, як без'языкі,
Бо што казаць ім будзеш ты?
Стаіць ён, сумны і маўклівы,
Але на ўвагу ўсё бярэ.
А думкі роем мітуслівым
Гуляюць тут і на дварэ.
Шкада іх, бедных! За самога
Таксама возьме часам страх:
А што, калі за адзін мах
Прыцісне пан і панятога?

9

Хто апісаць Пшэбору можа,
Калі ён вобыскі вядзе?
Ён нібы правіць службу божжу,
Як пробашч-ксёндз на калядзе.
І сам ён строгі і няўмольны,
Бо сілу мае ўжо не ён.
І ў тых учынках сам нявольны,
Бо над усім стаіць закон.
І ён сваім уласным вокам
Ацэніць кожную тут рэч:
Ён—Польшчы-маткі шчыт і меч
І носіць меч той ненарокам.

10

Даніла сочыць і мяркуе—
А чым-жа скончыцца наскок?
Дарэмна, пане: іх бракуе,—
Лістовак грэшных і кніжок!

Яны не тут, яны далёка,
І як вачэй, панок, ні жмур,
Не знойдзе сышчыцкае вока
Яго лістовак і брашур.
Але на сэрцы цяжка, смутна,
І ён упэўнены ў адным:
Граза збіраецца над ім,
Гром грымнуць можа памінутна.

## 11

Марыны, сына яму шкода.
А як пакутуе яна!
Як цяжка гэта ёй прыгода:
Сама бялей ад палатна.
А гляне зрэдку яму ў вочы—
Ну, проста томіцца душа..
Ох, сэрца добрае жаноччa!..
А як сабою хараша!
А пан Пшэбора, як той ідал,
І ў бок іх нават не зірне,
У скрыні шворыцца на дне,
Глядзіць на ўсё з такой агідай.

## 12

І як ні крыўдна, ні балюча:
Варваўся, гад, у дом чужы,
Перабірае ўсе анучы,
Нібы ён тут што палажыў!
Залез у скрыню, як зладзюга,—
Ну, аж варочае нутро,
Заціснуў іх у вузел туга,
Капае скарб іх і дабро.
У душу ўлазіць з брудным ботам,
Жыццё атручвае, як гад.
Пракляты-ж будзь ты, панскі лад,
Дзе права правяць абармоты!

13

Ужо і сонца стрэлы-косы
У свет пускае з-за лясоў,
Агнём вясёлак ззяюць росы
У моры жытніх каласоў.
Там, за акном, бясконцым гмахам
Ідзе прастор ва ўсе краі,
І кліча луг мядовым пахам
Кузурак рэзвыя раі.
Гудзе зямля, звіняць прасторы
На свой стары, спрадвечны лад.
Выходзяць людзі з душных хат,
Яны-ж зачынены ў каморы.

14

Калі-ж канец той капаніне?
Калі іх вынесе вон чорт?
Калі кватэру іх пакіне
Сабака гэты, панскі хорт?
І ў ход падзей прыходзіць змена:
Глядзяць — ідзе з сяней пан Гжыб.
Тупое панскае палена·
Вайшоў і вочкамі лып-лып!
На гладкім твару здавальненне
І хітры-хітранькі смяшок—
Папаўся, міленькі дружок:
Праступнік злоўлен без сумнення.

15

І да Пшэборы ён фарсіста
Ідзе са скруткам у руках,
Кладзе на стол яго ўрачыста.
— Забач, пан, цо: «Чырвоны шлях»!
І ног не чуе пад сабою.
Ён дакладае нараспеў:

«Зналязлэм, пане, пад страхою.
І хітра схована, пся крэў!»
Даніла ўраз змяніўся з твару,
Не сцерпеў, крыкнуў:—Фальш, мана!
Тут правакацыя адна,
Каб толькі выхапіць ахвяру.

### 16

Яны-ж з абразлівай усмешкай
Зірнулі толькі на яго.
— Суйміся, пан! Скуль тая спешка?
На што ўскладаць грэх на каго?—
І пан Пшэбора дзелавіта
Пачаў брашуры разглядаць,
Чытаць уголас ядавіта,
Лісток за лісцікам гартаць
І так насмешліва тлумачыць,
На большэвіцкі стаўшы грунт,
К еднанню заклік і на бунт
І большэвіцкія задачы.

### 17

Цяжкая, прыкрая хвіліна!..
О, як прыніжан чалавек!
Чаму пад горкаю асінай
Не захлынуўся гэты здзек?
Гарыць душа і кроў ад болю
Ад гэтых плоскіх слоў тупіц,
Што топчуць годнасць тваю, волю
І радасць чыстых зараніц.
Дзед толькі вочы пераводзіць
То на яго, то на яе,
Ні слоў, ні мыслей не стае—
І што сказаць у той прыгодзе?

18

Нарэшце, кончыў пан Пшэбора
Чытанне кніг і іх разгляд,
Бярэ пісарскія прыборы
І піша нудны свой трактат.
Ён не спяшаецца нарочна,
Каб асалоду мець даўжэй.
Яму прыемна, відавочна,
Памучыць змучаных людзей.
Скрыпіць пяро, і ў гэтым скрыпе
Чуваць канец, але які?
Чаго чакаць ад той рукі,
Што на паперы знакі сыпе!

19

І ён канчае, ставіць кропку;
Чытае моўчкі пратакол
І моршчыць розуму каробку,
Удумна зрок спусціўшы ў дол,
А потым кліча панятога
Засведчыць гэты акт «святы»,
І там, дзе подпіс, крыж убогі
Стаўляе крыва паняты.
— Цяпер усё ў належным стане!—
І ўстаў Пшэбора з-за стала,
І цішу тне яго страла:
— Ну, што-ж: збірацца будзем, пане!

20

Замлела сэрца у Данілы,
І пацямнеў свет у вачах,
І перад ім глухі, панылы
І невядомы ўстае шлях.
Нібы аглушана Марына,
На грудзі падае яму.

— Данілка, родны!.. Сіраціна!
Каму-ж пажаліцца, каму?
— Не плач! Ну, глупства. Я вярнуся.
Бо праўда ёсць... вер... памятай.
Бяруць мяне... ну, што-ж! Няхай:
Я пад няпраўдай не сагнуся.

## 21

— Даволі, хопіць меладрамы!..
Пан Гжыб, «заволай» вартавых!—
Два паліцэйскія з-за брамы
Ідуць панурыя да іх.
— Збяры яго ў дарогу, служка.—
Гаворыць ціха паняты.
Яна бярэ кусок асушка,
Хлябок апошні з каліты,
У торбу суне зрэб'я пару...
Што-ж больш? Не ведае сама.
Адзене панская турма
Ці абдзярэ сваю ахвяру.

## 22

Апошні акт у першай з'яве:
Падаць руку і ставіць крыж.
На ложы сну, чужы той справе,
Сніць сны шчаслівыя малыш.
Дыханне роўнае, і шчокі
Гараць румянкам веснавым,
А ён журботны, адзінокі,
Схіліўся моўчкі над малым.
Якое скажаш яму слова?
На што трывожыць мірны сон?..
Калі яго пабачыць ён?
Сляза з вачэй паплыць гатова.

23

Стаіць над хлопчыкам, пахілы,
Вачэй не можа адвясці,
Прынік губамі...—Бывай, мілы!
Дужай, гадуйся і расці...—
Марына слёз стрымаць не можа,
Утупіў вочы паняты,
А голас, жорсткі і варожы,
Гудзе назолаю слаты:
— Час! Час!—Вядуць яго з каморы:
Пан Гжыб уперадзе. З бакоў
Ідуць дзве пары палякоў,
А замыкае пан Пшэбора.

24

На балоце нікнуць лозы,
  Вецер ломіць гай.
Цень плыве з Картуз-Бярозы,
  Засцілае край.
Звесіў дзюб крывы панура
  Белы кат-арол.
Пачакай, пан, дзьмухне бура,
  Страціш панскі стол!
Свеціць сонца ў ясным небе,
  Носіць ясны дзень,
Дуб расце на роднай глебе,
  Цвёрды, як крамень.

25

Ідзе Даніла пад канвоем,
Пераступае свой парог—
Хіба пажаліцца тым хвоям,
Што абступаюць край дарог?
Пуцінак многа ва ўсе бокі,
А ён дыбае па адной

Сярод чужынцаў, адзінокі,
Панікшы хмура галавой.
Ён—сук дубовы, што ад дуба
Адсек бязлітасны тапор:
Зачынен сонечны прастор,
Чужая воля гоніць груба.

*13/III—6/IV 1941 г.*

*Раздзел XIV*

1

Стаіць Марына ўскрай дарогі
На жоўтай горцы пад сасной.
Ляжаць знямелыя разлогі—
І ён з вачэй знік і канвой.
У жалю-роспачы рукою
Шурпаты комель абняла
І прытулілася шчакою
Да абгарэлага ствала.
Яна ўсе выплакала слёзы,
Але не стала ёй лягчэй.
Няма ні ўцехі, ні надзей,
Пабілі рунь яе марозы.

2

Прышла ў каморку, а з калыскі
Сынок ёй голас падае,
Такі знаёмы, такі блізкі,
Што гэтак радуе яе.
Яна падходзіць тарапліва
І нахіляецца над ім,

Глядзіць журботна і тужліва
І горам дзеліцца з малым.
— Устаў, сынок мой! А дзе-ж тата?
Адны, сыночак, мы, адны!
Забралі татку ў нас паны,
Асірацела наша хата.

### 3

Ох, мой міленькі, мой блазнотка!
Як будзем жыць мы без яго?
І дзе мы знойдзем заработкаў?
Куды мы пойдзем? Да каго?—
Глядзіць ён пільна мамцы ў вочы,
Не разумее гэтых слоў.
Праспаўся хлопчык, есці хоча,
З калыскі вылезці гатоў.

Расце дзіцятка неўзаметкі,
На ногі пробуе сам стаць.
І так пацешна пазіраць,
Калі крок першы робяць дзеткі!

### 4

Яна малога пакарміла.
— Ну, сядзь-жа, коцік, пагуляй.—
Ёй сумна ў хаце і няміла,
І жаласць плёскае праз край.
Зірнула — ўсё параскідана,

Усё павернута ўверх дном.
І пахадзіла-ж рука пана!
Ох, учынілі ёй пагром!
Ды лепш-бы ўсё яны забралі,
Пусцілі-б толькі іх жывых
У рызах латаных старых,
Але няма ў іх сэрца, жалю!

5

Парадкуе свой скарб Марына,
Цяпер утраціў ён цану.
Яна складае яго ў скрыню,
А думку думае адну:
Дзе і ў каго шукаць парады?
Куды пайсці? Каго прасіць?
І гэты вузел цёмнай здрады
На сэрцы каменем вісіць.
Пан Богут ёй прышоў на думку:
А можа-б ён знайшоў ключы,
Як ёй у горы памагчы,
І даў-бы раду для ратунку?

6

Яна той час прыпамінае,
Калі хадзіла ў панскі двор,
Драбніц ніякіх не мінае—
Намёк, двухсэнсны разгавор...
Ой, не: не хіліць і не вабіць
Ліхі, няшчыры дабрадзей.
Праціўна гэтай слізкай жабе
Раскрыць душу сваю ў бядзе.
І што ён скажа? насмяецца
І ў бруд у свой яе займе —
Яму мужчынскае на ўме—
Няхай ён лепей захлынецца!

7

Каморка, прыбраная дбала,
Свой від ранейшы прыняла,
Але Марыне ўцехі мала,
І хата стала не міла.
Народ увесь на сенакосе,
Схадзіць хіба і ёй туды,

Пачуць-бы можа што ўдалося,
На троп напасці, на сляды?
Марына з бабкай Евай дружыць,
А бабка з граблямі адна,
Работы хопіць да цямна,
К таму-ж яна не так і дужа.

8

Яны ўдваіх, сынок і маці,
З двара ідуць у бок ракі
На зыбкі мосцік міма гаці,
Дзе разрасліся хмызнякі.
А сонца жарыць, млеюць далі,
І парнасць зямлю абняла.
З хваёвых ран, як слёзы жалю,
Бурштынам сочыцца смала.
А там, на захадзе паўднёвым,
Дзе луг увенчваюць дубы,
Плывуць мядзяныя клубы,
І громаў чуюцца размовы.

9

За рэчкай луг, такі духмяны.
Пад самы лес бягуць шнуры,
І брыюць спрытна без заганы
Зялёны дол гаспадары.
Грабцы—дзяўчаты, маладзіцы—
Штораз варушацца жывей,
Бо чуюць голас навальніцы,
А хмары сунуцца бліжэй.
У бабкі Евы, ой, няўпраўка:
Замочыць дождж яе мурог,
А ён зялёненькі, падсох—
Ну, як кудзеля тая траўка.

## 10

I вось Марына падбягае
На дапамогу ў самы час,
А ў часе помач—дарагая,
Што ўжо засведчана не раз.
Пайшла работа дружна, швыдка,
Сянцо зграбаюць у валкі
I ставяць копу ўвачавідкі,
А дождж ужо каля ракі,
Шуміць, гудзе. Заслонай белай
Дубы акрыліся, кусты,
I лінуў дождж, буйны, густы,
I ўсё навокал зашумела.

## 11

Работа спынена не ў пору,
Але няма чаго тужыць:
Не воўк работа, як гаворaць,
I ў лес яна не пабяжыць.
I ўсё ідзе сваёй ступою—
Няхай і дождждык пашуміць,
А ў дожджык добра пад капою
I прыдрамаць і гаманіць.
Сядзяць Марына і старая,
У іх каханак-пестунок,
Ён тут—уцеха для жанок
I іх згрызоты разганяе.

## 12

Яму так хочацца на волю
З пахучай вылезці нары:
Не бачыў ён яшчэ ніколі,
Як «плюх-плюх» падае з гары.

Усё тут нова, незнаёма:
І гул, і грукат, і агні,
І ён імкнецца несвядома
Пазнаць таемнасць шырыні.
Праходзіць хмара грозным валам,
Далей разгортвае свой шчыт.
Сям-там праглядвае блакіт,
Нябёс умытыя прагалы.

### 13

О, летні час! дзяцінства мары,
І вы, няспраўджаныя сны!
Жывуць у сэрцы вашы чары,
Як водблеск вечнае вясны.
Яны так вабяць, так хвалююць
Сваім прасторам, глыбінёй
І вобраз лета мне малююць
Неперараймальнаю рукой.
Па гэты час я ў захапленні
Ад гулкіх летніх навальніц,
Ад грозных хмар і бліскавіц—
У іх мне свецяцца праменні.

### 14

Драбнее дожджык. Хмара далей
Плыве, спусціўшы свой паром,
І сыпле срэбра, бы каралі,
На дол нязлічаным дабром.
Грабцам пярэдышка сягоння.
Марына з бабкай пад капой
Яшчэ сядзяць, яшчэ гамоняць,
Гамонку змочваюць слязой.
Няма Данілкі! ох, бядача!
І як то здарыцца магло,
Што кніжкі знойдзены ў яго?
Падкінуў хтось іх, не інакай.

## 15

Марыну бабка суцяшае,
Каб горкі сум развеяць ёй,
А ці ён вернецца? хто знае—
Надзея слабая ў самой.
Ды час-жа прыдзе нейкай змене,
А праўда выплыве са дна.
Хто можа ведаць, што нас стрэне?
Нам прышласць наша не відна.
Рабіць-жа нешта трэба, пэўна:
Бяда не збудзецца слязьмі,
Пайсці параіцца з людзьмі,
І ключык знойдзеш неспадзеўна.

## 16

Ужо за мосцікам Марына
Сынка бабулі аддала,
Сама-ж пайшла пад азярыну
Сабраць хоць шчаўя да стала.
Мінула зараснік і пуню,
Ідзе, спусціўшы вочы ўніз,
І чуе: «Добры дзень, красуня!»
Стаіць пан Богут і не лыс.
Глядзіць з усмешкаю спагаднай,
Але няшчырай, напускной,
Крануў свой вус і кажа ёй:
— Я чуў—у пані не ўсё ладна.

## 17

Яна адчула ў сэрцы холад.
Зірнула—смех яго пусты,
І страшна ёй, а навакола
Адны лазовыя кусты.
Марына страх перамагае—
Цікава знаць, што скажа ён.

Праходзіць хвіля і другая,
Як нейкі томячы палон.
— Куды-ж то пані адна ходзіць?
— А з кім-жа болей мне хадзіць?
З мяне цяпер пан можа кпіць
І без людзей і пры народзе.

18

— Што, пані, кажа!.. Ховай божа!
Каб я падумаць гэтак мог...
Ой, пані, пані! так не гожа:
Я скрыўджан вамі, далі-бог.
Як можна з пані строіць кпіны?
Хутчэй адсохне мне язык,
Чым кпіць з чароўнае жанчыны:
Я, пані,—шляхціц, не мужык.—
Сказаў пан Богут ганарыста:—
І пані бачыць не блазна...
Хіба-ж то паніна віна,
Што мела мужа-комуніста?

19

Марына ўся аж задрыжала,
І жаль пашыб яе і злосць;
Ей горка так, а ён, завала,
Балясы точыць пра мілосць.
— Не маю каяцца ў чым, пане.
Няхай сабе ён комуніст,
Ды гандляваць людзьмі не стане,
Бо ён душой і сэрцам чыст...
Няхай адсохнуць тыя рукі,
Што пахадзілі пад страхой,
Няхай навернуць галавой
Ліхія змоўнікі і сукі.

## 20

Сумеўся Богут з неспадзевы,
Пагладзіў вус, пачухаў скронь—
Ого, якія яе спевы!
Ох, не кабеціна—агонь!
Каму-ж прызначаны праклёны?
Ці ўчынак выкрыт патайны?
Ды без атак і абароны
Няма сапраўднае вайны.
Сабою Богут авалодаў
І пераводзіць ўсё на жарт.
— Сварыцца, пані, нам не варт,
Мне-ж, да душы, вас, пані, шкода.

## 21

Калі-ж я пані чым угневіў,
Прашу прабачыць, даравадь.
Бывае так: і ў добрым севе
Трапляе дзікая трава.
А што да панінага мужа,
То тут дарэмна ваша злосць.
Не бараніце яго дужа:
Дзе ёсць дымок, агонь там ёсць.
Ды мы судзіць яго не будзем:
На гэта ёсць панствовы суд,
Дзе справядлівасць знойдзе люд
І сваё слова скажуць суддзі.

## 22

— Адно-б хацеў, каб знала пані:
Дзе можна, там я памагу,
Але-ж і пані няхай стане
Крыху на іншую нагу.
Няхай у двор у мой прыходзіць,
Ці граблі возьме, ці пажне,

І вам ніколі не пашкодзіць
Быць ласкавейшай да мяне.—
І Богут глянуў ёй у вочы
І вус падняў свой угару,—
Ён паказаў ёй шлях к дабру,
Сказаў усё, яна-ж—як хоча.

### 23

І пакланіўся ганарліва,
Руку паднёс да галавы
Ды йдзе аглядваць пожні, нівы,
Свае лужкі і паплавы.
Глядзіць услед яму Марына,
Ёй прыкра і не па сабе—
Жыве-ж такая абразіна
З такою пыхаю на лбе!
І ўсё-ж у голаву атруты—
Такі і быў, відаць, разлік—
Ёй хоць адзін шматок пранік,
Каб толькі болей мець пакуты.

### 24

У Петрушах настрой прыбіты,
Гудзе, хоць глуха, грамада:
Няма прасветлін, шлях закрыты,
Сваволіць панская брыда.
А з сёл, з мястэчак ідуць весці,
Як сон у казках насланы.
Умеюць гнуць, сціскаць і трэсці
Яснавяльможныя паны.
Растуць касцёлы і астрогі,
А чуеш толькі пра суды,
Адно і ведаеш—туды
У Польшчы бітыя дарогі.

25

У падвячорак да Марыны
Лямех Аўген тайком зайшоў,
Не кінуць-жа ў бядзе жанчыны,
Сказаць ёй трэба колькі слоў.
Сядзелі, ціха разважалі,
Бо вушы могуць быць і ў сцен.
— Ад пана Богута будзь далей.—
Перасцярог яе Аўген:—
Цябе-ж народ адну не кіне,
І хоць-жа мы не багачы,
А можам трохі памагчы.
Ты-ж вернай будзь сваёй сябрыне.

*8—16/IV 1941 г.*

### *Раздзел XV*

1

Ідзе нявольнік мой, Даніла,
Зацяўшы ў сэрцы горач, боль...
Прыгожых сноў ты многа сніла,
Жыццём заціснутая голь!
Ды вось замест іх — этапы,
Шырокі край тваіх пакут.
Глыбокі шрам ад панскай лапы
Ды крыўд, абразы вострыя жгут.
Глядзіць за ім сурова стража.
З бакоў і ззаду — карабін...
Адзін ты, браце, тут, адзін!
А далей што? Ніхто не скажа.

2

І дзіўна вось такая дробязь:
Яму прастору крокаў тры,
А воля — тут яна, з ім побач,
Хоць ты рукой яе бяры
І пі з яе жывой крыніцы,
Жывіся сокамі зямлі,

Ды не пяройдзеш той граніцы,
Што карабіны правялі.
І ён ідзе. Куды? не знае:
Не сам ідзе — яго вядуць.
Другім канвойнікам здадуць,
І будзе воля гнуць чужая.

3

Эх, воля, воля!.. А ён скуты,
І рэжуць рукі кандалы.
За кожны рух канвойнік люты
Таўчэ яго пад вокрык злы:
— Ідзь, ідзь, холера, хлопска морда!
Свярбіць яна табе, пся косць! —
Ён зносіць здзек маўкліва, горда
І не паскардзіцца на млосць.
А пот салёны рэжа вочы,
Абцерці-ж ты яго не смей.
Ступай, дзе вузей, дзе шырэй,
Як стража панская захоча.

4

Хутчэй-бы скончыць з тым канвоем,
Не бачыць-бы плюгавых рыл,
Не чуць-бы лаянкі, пабояў
І не глытаць дарожны пыл.
А думак ён сабраць не можа,
І думаць тут няма калі:
А чуць задумаўся — ў бок ложа,
Паскудны крык і штурхалі...
Не цеш сябе дарэмна, браце,
І сілы ўсе свае збяры:
Багаты панскія «дары»,
І многа слёз у іх багацці.

5

Нарэшце, вось яно, мястэчка
Між гор бялее ў паплавах.
Касцёл куртаты па-над рэчкай
І дом. Над ім дзяржаўны сцяг.
У гэтым доме пастарунак.
Адзін канчаецца этап.
Які-ж прад'явіцца рахунак?
Аб чым пытаць будзе сатрап?
Сатрапік-франт. Адзет па модзе —
Манішка, гальштук, кацялок.
Такі прыемненькі панок —
Стаяць-бы толькі ў агародзе.

6

Гедвіла — агент дэфензівы,
Якіх у панскай Польшчы шмат.
Культурны з віду і пыхлівы
І па натуры сваёй кат.
Узяў ён справы з рук канвоя,
На «вязня» глянуў звысака,
Патрос дакорна галавою
І раптам з палам гусака
Падскочыў злосна да Данілы.
— Холера, з лярвы ты байструк! —
Схапіў за чуб ды ў сцяну стук!
Такі прыём быў у Гедвілы.

7

Такім хлябком, такою соляй
Данілу стрэў варшаўскі пёс.
На першы раз з яго даволі,
А потым будзе ўжо дапрос.
Ён папярэдзіў толькі «вязня»
Прызнаць усе свае грахі.

Не скажа праўды, будзе лазня —
З яго ён выб'е ўсе духі.
Пасля тых слоў нападарожных
Кіўнуў ён стражы галавой.
Вядзе Данілу зноў канвой
У каталажку ў дом астрожны.

8

Вайшлі ў падвал, у сутарэнне.
Вось бакавушка нумар тры.
Аконца-шчыліна ў скляпенні
Так скупа шле святло з гары.
Астрожны сторaж, гном пануры,
Дастаў з-за пояса ключы
І на Данілу зрок сашчурыў —
Ідзі, моў, хлопча, адпачынь!
І скрытнуў ключ. Замок іржавы
Закашляў хрыпла раз, другі,
А «струж» дадаў сабе вагі:
— Да козы проша, пан ласкавы.

9

І расчыніў гасцінна дзверы
І потым бразнуў імі зноў.
І ціха стала «на кватэры».
Адзін Даніла, без паноў.
Ён азірнуўся — пуста, цёмна.
Ступіў адзін крок і — сцяна.
Аконца ў кратах свеціць скромна,
Ён бачыць дошкі тапчана.
Прысеў. Баліць і ные цела,
І рэжуць, ціснуць ланцугі.
Узят ён моцна ў абцугі,
А прышлы час маўчыць знямела.

## 10

У яго жыцці яшчэ ніколі
Такіх дзён доўгіх не было,
Як гэты дзень. Сям'я і воля
І ўсё далёка адплыло.
А можа гэта — сон пачварны?
Ці чмут, ліхімі насланы?
За што пакутуе ён марна?
З якіх прычын? З чыёй віны?
Прызнаць грахі!.. Не, здохнеш, пане,
Варшаўскі кат, прасмердлы струп.
Не вырвеш праўды з маіх губ,
Не ўчуеш ты майго прызнання.

## 11

О, каб яму ды воля, сіла!
Як адплаціў-бы ён за здзек
Панам, іх катам тоўстарылым!
Без жалю-б рэзаў іх і сек.
Зацяўся хлопец, сціснуў зубы,
Каб сэрца болі заглушыць,
Што, як вужакі з-пад падрубы,
Паўзуць і віснуць на душы.
А нехта ў вочка заглядае
Цішком, як злодзей, як шпіён.
Данілу морыць мутны сон,
І ўсё на момант прападае.

## 12

Драмаў ці спаў, а многа, мала,
Ён сам не ведае. Глядзіць —
Яшчэ цямней навокал стала,
І ён губляе думак ніць.
А на двары шуміць, плюскоча,
У трубах булькае вада.

І ўспомніў ён свой лёс сірочы.
Згрызае, есць яго нуда.
Адзін ён тут у волкім змроку.
І гасне дзень, находзіць ноч.
Ліхтарык свеціцца наўзбоч,
Бы ў цьме зімою воўча вока.

## 13

Назаўтра з ранку пан Гедвіла
Прывесці «вязня» даў загад.
У «вязня» ў сэрцы штось заныла,
Ды кажа ён: «Трымайся, брат!»
Яго вядуць на пастарунак.
Плывуць зялёныя кругі
У яго вачах, і ўвесь малюнак
Прымае від цяпер другі.
Стаіць ён супраць кабінета,
Падняць не смее галавы
І чуе — кліча вартавы:
— Да пана следчага з павету!

## 14

Сядзіць пан следчы важна ў крэсле.
Такая постаць, такі від!
Нібы яго на трон узнеслі,
І ён — дзяржавы панскай кіт.
Прад ім ляжыць той самы скрутак,
Што пан Гжыб вывалак з страхі.
Пытае следчы: — Які-ж скутак?
Дзе ўзяў «Чырвоныя шляхі»?
І зрокам тонкім, ядавітым
Акінуў з ног да галавы,
Нібы ён знае шлях крывы,
Якім брашуркі раздабыты.

## 15

— Раскуйце мне наўперад рукі.
За што нашу я ланцугі?
Нявінен я: чужыя штукі —
Падсунуў мне іх хтось другі. —
Пан следчы ў добрым быў гуморы.
Ён усміхнуўся. — Так, так, так!..
Ды ты не будзь занадта скоры,
Другіх-жа путае лайдак.
Кажы мне праўду, як прад богам,
Ты гэтым свой палегчыш лёс.
Брахаць умее кожны пёс. —
Зазначыў пан Гедвіла строга.

## 16

— Хто перадаў паскудства гэта?
Ды не віляй мне, божа бронь! —
Вачамі бліснуў пан з павета
І ў храпу дзьмухнуў, як той конь.
— Ніхто! Адно я толькі знаю:
Паны падкінулі мне іх! —
Гедвіла ўскочыў, бы з адчаю,
Затросся злосна ў адзін міг,
Падбег к Данілу, як шалёны,
Кулак яму ў нос ткнуў тугі.
Рвануў Даніла ланцугі,
І кольцы трэснулі са звонам.

## 17

Адскочыў следчы ў замяшанні.
Разняў труслівa кулакі.
— За што мяне катуеш, пане?
Завошта чыніш здзек такі? —
Упаў Даніла ў злосць, у ярасць,
Уладу страціў над сабой.

— Заб'ю, паскудная ты нарасць! —
І грозна рушыўся на бой.
На шум, на крык набегла стража.
Глядзяць—павален панскі стол,
А «вязень» пана б'е ў хахол
І кроўю морду яго мажа.

18

Даніла, мілы мой Даніла!
Ох, натварыў сабе ты бед!
Надоўга панская магіла
Цяпер зачыніць табе свет.
Ён схамянуўся, ды па часе.
Яго-ж у міг з усіх бакоў
Абсела стража, бы ў папасе
Чароды чорныя гракоў.
Ён рукі ўгору ўзняў пакорна.
На іх абрыўкі кандалоў,
А кроў з-пад кольцаў-абадоў
Цячэ ў рукавы рагай чорнай.

19

Карысці-ж з той пакоры мала:
Яго на дол зваліла з ног.
Таўклі і білі, дзе папала,
Як хто хацеў і як хто мог.
А ён ляжыць маўклівы, млявы,
Ці то жывы, ці не жывы.
І кроў сцякае на рукавы
З разбітых губ і галавы.
Яму назад скруцілі рукі
І закавалі іх ізноў,
Самога-ж вынеслі далоў,
Каб болей з ім не мець дакукі.

## 20

Ляжаў ён тыдні два ў шпіталі,
А ўстаў на ногі, як шкілет.
Яго крыху падмацавалі,
Затым адправілі ў павет.
Не так-та лёгка, не так проста
Прайсці этапы да суда.
Прыліпне панская кароста,
Заесць цябе нуда, бяда.
А настаяшчага дапроса
Яшчэ і блізка не было:
Наперадзе ўсё ліха, зло
І здзекі панскага барбоса.

## 21

З Гедвілам новая сустрэча
Характар мела ўжо другі,
Нібы ў ім годнасць чалавечча
Вайшла ў людскія берагі.
І той выпадак недарэчны—
Аб ім так прыкра ўспамінаць—
Ён абышоў лагодна, «гжэчна»,
Бо-ж людзям трэба меру знаць.
Навошта-ж тыя ўсе пакуты?
Нашто піць гора ўсё да дна?
Ён тут, а жонка там адна—
Ёй не ўхіліцца баламуты.

## 22

Закон-жа строгі і суровы
Стаіць, як сторож, на-чаку,
А ўсе абставіны, умовы
Якраз Данілу не ў руку.
Напрыклад: кніжачкі, лістоўкі,
Запіска—вось яна,—пажар,
А да ўсяго яшчэ і «слоўкі»—
І вось тваё аблічча, твар.

А голых слоў, як «знаць не знаю»,
«Нявінен я», «то—грэх чужы»...
Хто верыць будзе ім, скажы?
Без фактаў словы—гніль пустая.

23

Калі-ж не колецца дзярвяка,
Дык у яе ўбіваюць клін:
І на упартых задзіракаў
Ёсць спосаб тут і не адзін.
Гедвіла «ў прыязным» парыве
Нагайкі вылажыў, бічы
І ўсе прылады ў дэфензіве—
Крукі падвешваць, абручы.
Ды гэта што? Ёсць падзямелле,
А ў ім прыкованы тапчан,
Дзе садзяць голага пад кран —
Сядзі ў вадзе замест пасцелі.

24

А пакупаешся ў той ванне,
Апусціш рукі ў барацьбе:
Дасі такое паказанне,
Што і не снілася табе...
Ці так ці сяк, не скінуць петлі—
Няволя вечная, астрог.
Не будзе ўперадзе прасветлін,
Ні вольных сцежак, ні дарог.
А тым-жа часам ёсць і выйсце,
І можна жыць, не знаць бяды...
Нашто губіць век малады
І траціць леты без карысці?

25

Што-ж патрабуецца з Данілы?
Тайком падацца на іх бок,
Зайсці сям-там часамі з тылу,

Ды асцярожненька, здалёк.
Даволі будзе і намёку,
Няхай хоць лёгенька кіўне.
А сам стаяць ён будзе збоку,
Зусім, зусім у старане...
Даніла слухаў словы здрады.
Яго агортваў цёмны страх,
І цёмна робіцца ў вачах.
Ох, закатуюць яго, гады!

*4—21/V 1941 г.*

## *Раздзел XVI*

1

Я прызнаюся вам адкрыта —
Мне надакучылі паны:
Ад іх нутра, укладу, быта
Мне вее тхлінаю труны.
Хачу я панскі фуз атрэсці,
Зірнуць у іншае акно
І ў ткань паэмы свае ўплесці
Вясёлай фарбы валакно.
Яе-ж герояў не пакіну
І кожны дзень, хоць і здалёк,
Я кіну вокам у іх бок —
І на Данілу і Марыну.

2

На бераг Свіслачы, пад Вусце,
Я перайду на нейкі час
У ціхі кут, у захалусце,
Што ўжо апісваў я не раз,

Але ні разу як належыць
Я Беразянкі не крануў,
Мае-ж сляды яшчэ ў ёй свежы —
Я адчуваю тут віну.
Мне Беразянка, прызнаюся,
Сваёй паэзіяй глушы
Напамінае Петрушы,
Куды я хутка зноў вярнуся.

3

А зараз выйду на дарогу,
Што ўздоўж пасёлка след прадзе.
Такой мясцінкі вы, яй-богу,
Наўрад ці знойдзеце больш дзе.
Дарога роўная, сухая,
Ёй не бракуе шырыні.
На ёй і пылу не бывае,
Гразі-ж ніколі ані-ні.
Уздоўж дарогі шляхам руні
Ляжыць жывая ткань травы.
На хвоі кіньце вокам вы —
Тут што ні хвоя, то красуня.

4

Прашу — ўзыйдзіце, калі ласка,
Ну, хоць на тэты вось грудок.
Ёсць тут сем хвой. Не хвоі — казка.
Пад кожнай хвояй халадок.
Стаяць яны, ну, як графіні.
Я запалонен імі ўшчэнт,
І кожнай з іх, як той жанчыне,
Гатоў сказаць я камплімент.
Яны ўсе стройны, свежы, крохкі,
Сваё-ж аблічча ў кожнай з іх,
А прыгажэйшай з семярых
Назваць сапраўды не так лёгка.

5

Калі зірнуць у бок даліны,
Дзе Свіслач песціцца ў кустах,
То панарама зеляніны
У вашых вынікне вачах:
Густых кустоў жывая лава,
Альховы гай ускрай Парні,
Вусцянскі хвойнік кучаравы,
Што марыць мары ў цішыні,
І той мой груд асірацелы,
Дзе вышка ўсё яшчэ стаіць,
Бы нейкі сон даўнейшы сніць,
Хоць Вусце ўжо і анямела.

6

А луг укрыт увесь дубамі...
Эх, сведкі цьмянай старыны.
Даўно вяду я дружбу з вамі—
Яе вытокі чуць відны.
Яшчэ малым у наднямонні
Я палюбіў вас, і з тых дзён
Мяне галубіць ваша ўлонне,
Як казка-быль, як ява-сон.
Вы запаляеце праменні
Мае дзяцінае пары,
І вы мне сталі, як сябры,
І я ад вас у захапленні.

7

І шмат знайшоў-бы слоў прыязных
І самых яркіх фарб для вас,
За адступленне-ж я адказны —
Даруйце мне на гэты раз.
З-пад хвой-красунь, як на далоні,
Відаць і хаты, і двары,

І агароды ўсе, і гоні
Па бераг Свіслачы стары.
Прастору цьма сярод палянкі.
Сядзіба-ж кожная і двор
Свой выгляд мае, свой узор,
І ў тым прывабнасць Беразянкі.

## 8

Двары разбіты, як папала,
Ніхто не думаў пра планы,
Няма ні вуліц, ні квартала,
І не патрэбны тут яны:
Зямлі пясчанай колькі хочаш,
Будуйся, дзе табе зручней,
Дзе болей вабіць твае вочы,
Ты толькі ўладзіцца умей.
Глядзіш — адзін двор пры балоце,
Другі на горцы пад барком,
А там пад самым хмызняком
Стаяць будынкі ў адзіноце.

## 9

Але зірнем з дарогі ўправа.
Унь адштукован новы двор.
Будынкі зроблены на славу,
Ніхто не кіне ім дакор.
Калгасны свіран, ну, як сонца,
Святлее беллю сваіх сцен.
А паглядзіце на гумёнца —
Прад ім старыя гумны — тлен.
Прасторна, светла ў ім, утульна.
Зірнеш — каўказская гара.
А колькі зложана дабра.
То — ўсё калгасны скарб агульны.

10

Каля гумна стаяць, як вежы,
Стагі саломы і кармоў,
І ўсё ў парадку, як належыць,
Няма тут хітрыкаў і змоў.
Праз гэты двор прайсці прыемна:
Тут відзен клопат, ёсць і план,
І будзеш ты шукаць дарэмна
Слядоў нядбайства і заган.
А на падолку рунь рунее
Травы і рознай збажыны,
І рост яе такі буйны —
Сама сябе яна тут сее.

11

І гэты двор — найлепшы сведка.
Бо ён гаворыць без прыкрас,
Што беразянцы ўзіму, ўлетку
Працуюць дбала на калгас.
Чуць блісне сонца, яны летам
Сюды прыходзяць, як на пір,
І лозунг выкінуць пры гэтым:
«Давай работу, брыгадзір!»
Было, я помню, тут балота,
І што-ж, павёў плячом народ,
І на балоце — агарод,
Дзе працаваць бярэ ахвота.

12

Прывет мой шчыры Беразянцы!
Прывет калгаснаму двару!
Прывет калгасніцы-сялянцы,
Прывет яе гаспадару!
Сярод маіх знаёмых новых
У Беразянцы ёсць адзін.
Яму з ахвотай я гатовы
Адвесці некалькі хвілін.

Немалады ён — мой равеснік,
Але рухавы, як юнак.
Ён — паляўнічы, ён рыбак,
Страляе, ловіць, пяе песні.

### 13

Ён знае шмат якіх прафесій:
Ён і цясляр, ён і сталяр,
І першы грыбнік ва ўсім лесе,
І не абы які пчаляр.
Ідзе, жыве сваім манерам,
Нідзе не хібіць у пуці.
Ён раз быў нават акушэрам,
Бо ўсё-ж трапляецца ў жыцці.
Яго не вяжуць, як другога,
Застылай мудрасці гужы,
Ён і каханню не чужы,
Не адстае ад маладога.

### 14

Ён любіць жыць сваім адумам,
А сам на выдумкі дасуж.
Ён змайстраваў цішком, без шуму,
Для асалоды свае душ.
І гэты душ замыславаты,
Такіх не знаюць гарады:
Ён вышку зладзіў каля хаты,
На вышцы цэбар для вады
Не просты цэбар, а ў два донцы,
У дне адным з поўсотні дзір,
Другое ўзята на шарнір,
А воду грэе яму сонца.

### 15

Ёсць у яго яшчэ таланты:
Ён з мёду робіць хвацкі квас,
І дар ён мае музыканта,
Утне на скрыпцы іншы раз.

І шмат дзялілі мы з ім часу
І на сяле і за сялом.
Хвалу я складваў яго квасу
У дзень выходны за сталом.
Не толькі квас — была і стопка,
Не ганьбавалі мы і ёй,
Пілі з натхнёнаю душой —
І я і сябар мой Паскробка.

16

Жылі тады мы ў яго зяця.
Ідзе аднойчы ён да нас,
Ды на бяду нікога ў хаце
Не аказалася ў той час.
Спыніўся ён, яму нялоўка,
Ён хоча ўжо ісці назад,
Аж бачыць — шэльма поўлітроўка!
Ён падміргнуў сабе — стой, брат!
І да яе. Вымае корак,
Падносіць пляшку ў рот і — хлоп.
І раптам моршчыць губы, лоб
І куляй мчыцца на падворак.

17

Каля калодзежа карыта,
А ў ім вада для парасят.
Палошча рот ён дзелавіта.
Бадай ты спрах — дэнатурат!
— Тфу, панімаеш, ведай дзела! —
І трэ ён кончык языка,
А ўнучка Шурка падглядзела,
Якога даў дзед зевака.
Друг! помні сказ ты знамяніты
Старадаўнейшага пісьма:
На свеце тайн такіх няма,
Што асталіся-б не раскрыты.

## 18

Ў той год было сухое лета.
Дажджы спыніліся з вясны.
Штодзень у сінеч даль адзета
З адной дзьме вецер стараны,
Ды вецер зыркі, сухавейны,
Мой недруг, вораг закляты.
Штодня глядзеў я, безнадзейны,
На ўсход, на захад залаты.
Сачыў за небам пільна, дбала,
За кожнай хмаркаю на ім,
Глядзеў, ці хіліцца ўніз дым, —
Дажджу нішто не абяцала.

## 19

Груды на лузе парыжэлі.
Без часу ліст на дрэвах жоўк.
З дня ў дзень блакітныя пустэлі
Адзін і той-жа слалі шоўк.
Нясу я ў свет свой клопат, мары,
Гляджу, што робіцца вакол.
Разносіць вецер запах гары,
Што лес збірае ў свой прыпол.
І лес, здаецца мне, сумуе,
Сумуюць поле і лугі.
Стуліла неба берагі
І нашых скарг нібы не чуе.

## 20

Іду назад расчараваны
І запыняюся ў барку.
Хіба, каб сцішыць суму раны,
Пакалыхацца ў гамаку?
Ён тут развешан між двух сосен,
А побач просты дачны стол.
Глядзіць праз голькі неба просінь,
І ўсё калышацца вакол —

Са мною разам: неба, хмаркі,
Зямля і лес, што за ракой.
Мяне атульвае спакой,
І нібы сон мне сніцца яркі.

21

Я чую гул. У высях недзе
Ракоча, кружыць самалёт,
Ды так высока, што не згледзіш,
Дзе з ім разгульвае пілот.
І толькі ў небе ў сіняй багне
Я бачу дзіўны ланцужок,
І ён то серп, то дужку цягне,
То піша спрытны завіток.
Расце, паўнее след матора
І расплываецца шырэй,
Нібы павіс даўжэзны змей
У высях сіняга прастора.

22

Я тут і ў той-жа час далёка.
У свет за многа-многа міль
Сягаю я бязмежным крокам
На крыллях дум агледзець быль.
Ужо даўно пад Халхін-Голам
Вядуцца жорсткія баі.
Прышлі руку падаць манголам
Браты і родзічы мае.
Ідуць адтуль марудна весці,
І Глаўны Штаб на словы скуп
Ды наш народ — асілак-дуб
І сцяг высока ўмее несці.

23

Туды, на захад, за кардоны,
Лячу я ў думках неўзнакі.
Успомню родныя загоны,
Дзе чыняць здзек паны, панкі.

Адтуль гарачы вецер вее,
І муць шырэй-шырэй паўзе.
А дзень наступны і падзеі
У неакрэсленай смузе.
Адно мне ясна: завірухі
Не абмінуць, не адхіліць,
Бо сэрца топіцца, баліць,
І люд на ўсход схіляе вуха.

### 24

Вось так гадаю ў чуткай цішы
Глухога мірнага кутка.
Як-бы мне хтосьці ў сэрцы піша
Працяг пачатага радка
Ці доўгі сказ аб людзях, быце,
Аб цьмянай прышласці гадоў,
А я трымаюся за ніці,
Каб не згубіць сваіх слядоў.
І знаю я: збяруцца хмары,
І пераможна грымне гром.
Шырэй збудуецца наш дом,
І дождж буйны залье пажары.

### 25

Калі-ж надыйдзе навальніца,
Сустрэць яе ты будзь гатоў —
Жывыя сочацца крыніцы
З-пад шчыльна злёгшыхся пластоў.
А там, за ціхаю дарогай,
Шуміць бярэзнік малады,
А скрозь — дарожак многа-многа,
І я кіруюся туды.
Прывет я шлю прыродзе, людзям
І громам шумных навальніц,
Усмешкам радасным дзянніц...
Няхай-жа ясным шлях наш будзе.

*19—26/V 1941 г.*

*Раздзел XVII*

1

Работу кончыў серп у полі,
І лета хіліцца на спад,
І плод у сонцавым падоле
За агарожай спеліць сад.
Плывуць дні, ночы ў хвалях часу,
І восень сунецца пад тын,
А пра Данілу ні галасу,
Ніякіх чутак, ні навін.
Шырокі свет, прастору многа,
І многа ў ім шляхоў, дарог,
А дзе данілаў шлях пралёг,
Яна не ведае нічога.

2

Давалі людзі ёй дарады,
Куды схадзіць, каго спытаць.
Хадзіла, мерыла прысады,
Каб літасць, праўду напаткаць.

Была і ў гміне, і ў павеце,
У розных следчых і паноў
І абхадзіла на ўзві-вецер
Нямала панскіх устаноў.
Стаяў між ёю і Данілам
Тупы закон, як плот глухі,
І загароджваў ім шляхі
І засыпаў іх едкім пылам.

3

Але паўзлі патайна чуткі
З сырых падвалаў і муроў,
І страх агортваў яе жудкі,
І застывала ў сэрцы кроў.
Каму-ж паведаць свае болі?
З кім ёй пачуцці падзяліць?
Сваіх згрызот для ўсіх даволі,
Свой клопат кожнаму баліць.
І не адкажуць сонца, зоры,
І не паведамяць вятры,
Што тояць панскія муры
І не спацешаць яе ў горы.

4

Уцеха ёсць адна ў Марыны —
Яе маленькі пестунок.
Ён красіць горкія хвіліны,
Шчабеча мамцы, як званок.
Ён ходзіць сам без дапамогі
Ды гэтак важна, як стары,
І абмінае ўсе парогі,
Хоць прыклад ты з яго бяры —
Такі-ж уважлівы і кемны
І незалежны: хоча сам
Дазнацца, што ёсць тут і там
І час не зводзіць надарэмна.

5

І ўсё ён хоча ўзяць на розум,
Узважыць рэч на свой узор.
Ён за чужым не цягне возам,
А хоча свой пракласці тор.
Ён ходзіць, поўзае па хаце,
Як гаспадар, як следапыт.
Сякеру згледзіць на варштаце
І раптам іншы прыме від.
Зірне на мамку і гаворыць:
— Там... тата... тата.—А яна
Уся ўсхвалюецца да дна
І на сынка журботна зорыць.

6

— Ох, сыночак, мая зорка!
Як цябе падгадаваць,
Як ад ліха захаваць,
Ад галечы, ад паморка?
Дзе наш тата, не згадаем,
І слядочкі не відны.
Мы адны, сынок, адны,
Дарма ў вокны паглядаем.
Ох, паны забралі татку,
Запраторылі ў астрог,
І няма яму дарог
Да сынка ў чужую хатку.

7

Мала ў свеце нам разгону,
Ходу нам нідзе няма,
Цяжка вырвацца з ярма.
Хто нас вызваліць з палону?
Ды не век-жа будзе гэтак—
Згіне панская імгла,
Што на плечы нам лягла
І закрыла наш палетак.

Свеціць сонейка ўсім людзям.
Дык гуляй, расці, сынок:
Завітае наш дзянёк
У вясёлым шуме-гудзе.

8

Татка вернецца на волю,
Лепшы знойдзем сабе кут
І пазбудзем панскі чмут
І прыдбаем шчасце, долю.
Вось тады мы загуляем.
Свет расчыніцца шырэй,
Ападзе той сум з вачэй,
Што, як ноч, вісіць над краем.
Ты пакінеш сваю стрэху—
Шмат расчыніцца пуцін.
Дык гуляй, расці, мой сын,
Мне на радасць і на ўцеху.

9

Вось так гамонка ў іх вялася
У зручны выпадак не раз,
Каб хоць у марах долю скрасіць
І промень веры каб не гас.
Вось так з сынком яна гадала,
А ліха марыла сваё,
Хадзіла збоку, сеці ткала—
Употай ходзіць гадаўё
Была ўжо ноч. Не спіць Марына,
Хоць спаць пара была даўно.
І чуе—стук хтось у акно.
Глядзіць—у шыбе твар мужчыны.

10

Яна ад страху ўся умлела.
Мо' ён? падумала яна.
Бярэ газоўку і нясмела
Падходзіць бліжай да акна.

У цьмяным бляску ад газоўкі
Аблічча страшнае ўсплыло:
Стаіць пан Богут ціхамоўкам,
Упёршы тоўсты нос у шкло.
Яна ў здзіўленні адступіла
І ўся памкнулася назад,
А ён стаіць сабе, як сват,
І хцівасць крывіць яму рыла.

## 11

А потым пальцам ёй ківае
І робіць нейкі яшчэ знак.
Яна стаіць, як нежывая,
А ён глядзіць, як ваўкалак.
— Што пану трэба тут уночы?—
Ён вус падняў.—Пабачыць вас.
Пабыць хвілінку з паняй хочу,—
Мо' справа-б зладзілася ў нас.
Хай пані мне акно адчыніць—
Не будзе крыўды, божа бронь...
Я штось скажу... тушы агонь...
Чаго марнець адной жанчыне?

## 12

Марына ўспыхнула, як порах:
Ці-ж то не здзек? Ці-ж то не глум?
Жыццё згубіў ім, люты вораг,
І што сабе ўзяў на адум.
Ах ты, паскуднік, кот марцовы!
Пастой-жа ты, нячысты дух.
Падшыбла злосць. Застылі словы.
Мігнуў агоньчык і патух.
Яна разводзіць моўчкі створкі
Ды з шумам бух вядро вады.
Сама-ж крычыць: «Сюды! сюды!
Зладзюга ходзіць па надворку!»

13

І ў сцену стукае суседу,
А ён тут сам шусь на парог.
І расказала яна дзеду,
З чаго такі перапалох.
А Богут, нібы з'еўшы мыла,
Хутчэй хаваецца ў бур'ян,
І ўся гарачка ў ім астыла:
Ох, не кабета, а шатан!
І так абразіла, псяюха.
І сведка быў, Куцейка дзед.
Зняслаўлен ён на ўвесь павет.
А дома будзе завіруха.

14

Ён чэша борзда па задворках,
Каб не злавілі Петрушы.
Як апамін аб тых вячорках,
Імчыць ваду ў капелюшы.
А па дварах сабакі выюць,
Пераклікаецца народ.
Угнуў пан Богут спіну, шыю,
Бяжыць у хмыз праз агарод.
Спыніўся толькі каля рэчкі.
Адтуль пасунуўся цішком
На свой палетак пад дубком,
Нібы праведаць копы грэчкі.

15

Прысеў і мокры лоб свой выцер,
Абліты зняўшы капялюш.
«Не спрыцен, васпан, ты, не хіцер:
Чаго не ўмееш браць—не руш!»
Сядзіць пан Богут пад капою
І дакарае сам сябе,
Няўдача прыкрасцю тупою
Яго з'ядае і дзяўбе.

А потым кажа: «Ну, то годзе!
Сарваўся—што-ж, такой бяды,
А вось схавай вянцы, сляды...
Эх, мудры поляк, ды па шкодзе».

16

На шчасце, жонкі няма дома,
А пекі вернецца з гасцей,
Дык трэба сцішыць голас грому,
Адказ прыдумаўшы мудрэй.
І ўсё-ж здарэнне не да смаку:
Унізіць шляхціча, ды як!
Абліць вадою, як сабаку,
А ён стаяў там, як жабрак.
Сказаць, каб пані ці шляхцянка,
А то мужычка, хлопка, тля,
І даць такога штурхаля,
І так зняважыць! О, паганка!

17

Марыну Богут вінаваціць,
Свае-ж віны не прызнае,
А за абразу ён адплаціць—
Пачэпіць торбу на яе.
Ды як пан Богут ні злуецца
І на які ні йдзе замах,
Яна-ж спакуслівa мільгнецца
Ды ўсё ў яго стаіць вачах.
І думкі ўжо другой пуцінай
Плывуць, рысуюць іншы план.
Той не мужчына, мысліць пан,
Калі не біты быў жанчынай.

18

І можа лепш пайсці на згоду,
У жарт выпадак абярнуць,
Каб лішнім плёткам не даць ходу
І прыкрасць тую абмінуць.

Пусціць у ход паціху злоты,
І ёй і дзеду даць на хлеб,
Заткнуць ім рот, каб пра залёты
Нідзе нікому ані шэп.
І зноў сябе ён дакарае:
«Эх, мой васпане, схібіў ты.
Нажыў, Мікодым, ліхаты,
Папаў у пекла замест раю!»

19

Назаўтра ўстаў пан Богут рана,
Агледзеў двор, набытак свой,
Ідзе разважна ўздоўж паркана
Звычайнай сталаю хадой.
За браму вышаў, прыпыніўся
І кінуў зрок на Петрушы.
Настрой яго не ўгаманіўся,
Як рух у свята на шашы.
Канчаць нейк трэба з прыкрай справай,
Ды перш, чым рушыцца ў паход,
Зірнуў на браму і на плот.
На шуле—бачыць ён—аб'ява.

20

Што за абвестка? Пра што кажа?
Падаткі новыя? Вайна?
Глядзіць—а там каракуль пража,
Рука насмешніка-блазна.
І буквы тыя, нібы гусі
Ідуць праз выган на папас.
Сумыслу, бач, наставіць мусіў
Такіх завіслых выкрутас.
Аб чым-жа васпан гэты піша,
Цікава ведаць. Стаў чытаць,
І буквы сталі падлятаць.
Чытае пан ды цяжка чмыша.

## 21

І пацямнела ў яго зрэнках,
І заскакалі брама, сад.
Пачуў ён дрыжыкі ў каленках:
Ці то ён сніць? Ці ён вар'ят?
Працёршы вочы, зноў чытае.
О, гіцаль! Хто-ж гэта такі?
Паветра пану не хапае,
Па твару ходзяць жаўлакі.
Аб'ява, васпан, дык аб'ява.
А што напісана на ёй?
І план свой кінь цяпер у гной:
Пайшла і пойдзе гэта слава:

## 22

«Ломіць Богут акяніцы,
Лезе ўночы к маладзіцы.
Ды хваснуў яго дубец,
Скапыціўся жарабец.
Не будзь, пане, папаўзлівы.
Пільнуй, пане, грушы, слівы,
Другім ямы не капай,
Чужой жонкі не чапай.
Ліне ў пысу зноў вадою,
Чаго цацкацца з брыдою,
Растаўчэ табе і нос,
Зноў ты пойдзеш, як барбос».

## 23

І глянуў Богут на пасёлак
Змяіным зрокам звысака.
Закручан вузел у шмат столак,
Не сойдзе Богут з языка.
О, недаверак, шэльма, гіцаль!
Так напісаць, такі пашквіль.
Хоць ты хавайся за граніцу
Або ўцякай за многа міль.

Хутчэй, хутчэй зняць поскудзь з шула,
Каб хто не ўбачыў гэту дрэнь.
Знімае ў міг, кладзе ў кішэнь—
Ці не аб'явіцца хамула?

24

Нажыў ты, Богут, сабе плягу.
Уграз, Мікодым, ты, уграз!
А што сказаць у працівагу?
З яго-ж патрэбуюць адказ.
І ўспомніў ён сваю Мальвіну.
Як растлумачыць ёй канфуз?
Глынуў пан Богут горка сліну,
Наніз паныла звесіў вус.
І раптам стрэліла. Заслона
З глуздоў упала і з вачэй.
«Не, не прапаў ты, дабрадзей:
Збавенне ёсць, і ты збавёны!»

25

Успомніў сказ адзін з аб'явы:
«Другім, пан, ямы не капай».
Вось дзе яна, загвоздка справы—
На троп наставіў шалапай.
Так, так, васпане,—гэта слушна:
Для Польшчы я на ўсё гатоў,
А грамадзян такіх двурушных
Я не лічу і за братоў,
Капаю ямы. Богут сочыць,
Зірне часамі і ў акно...
Вось дзе збавенне, вось яно!
Пашквіль-жа славы не падмочыць.

*5–18\V 1941 г.*

## *Раздзел XVIII*

1

З чаго пачаць працяг паэмы?
У прошласць сплыў час не малы...
Ох, чарпанулі гора ўсе мы,
Зазналі розныя сталы!
Шумеў, шугаў над нашым краем
Агністы віхар, чорны вір.
Яшчэ сягоння мы не знаем,
Каго і дзе хавае жвір.
І часта, часта ў падарожжы
Магіла зрок запыніць твой,
І ты панікнеш галавой—
Каго вартуе агарожа?

2

Няма ні напісу, ні крыжа,
Адзін гарбок сухой зямлі,
Дзе вецер песні свае ніжа
На травяныя сцебялі.

Мой мілы дружа, скуль і хто ты?
Як ты знайшоў тут дом глухі,
Дзе больш няма надзей, турботы,
Дзе толькі родзяць лапухі?
Мне боль пякучы сэрца гложа,
І сына ўспомню я свайго.
А дзе магіланька яго,
Мне адказаць ніхто не можа.

### 3

Я мімаволі ўспамінаю
І ў той куток імкнуся зноў,
Дзе жыў я ціха, як у раю
З сваёй сям'ёю між дубоў.
Былі вы жывы і шчаслівы—
Ты, друг мой жонка, і ты, сын,
Нам песні пелі пожні, нівы,
Кусты надсвіслацкіх далін.
І вас цяпер няма са мною!
О, хоць-бы вам пачуць мой сум,
Зірнуць у вір гаротных дум
З яго бяздоннай глыбінёю.

### 4

У тым кутку, утульным, гожым
Слядоў пакінулі мы шмат,
І я ў астатнім падарожжы
Гляджу са скрухаю назад.
О, як хацеў-бы я, самотны,
Зноў перажыць той добры час?
Ды паліналі ўсе палотны,
Што сонца ткала там для нас.
І ўсе сляды паастывалі,
Даўно засыпаны пяском,
Пазарасталі вераском,
Іх пазмывалі часаў хвалі.

5

Мой мілы сын, мая Маруся!
Нас разлучыў няўмольны лёс.
За вас зямлі я памалюся
І акраплю расою слёз.
Я падыбаю ў людзі далей
Адзін дарогай, што люблю,
Дарогай, вызначанай змаля,
І ў пуць сыноў благаслаўлю.
Цяпер-жа ў «Хату рыбакову»,
Што я пачаў у тым кутку
Ў саракавым яшчэ гадку,
Ступаю з сумнаю прадмовай.

6

Дзень добры вам, Марынка з сынам!
І вам дзень добры, Петрушы!
І ўсім, хто быў за панскім тынам,
Жычэнне ўсім вам ад душы.
І вы прайшлі дарог нямала
За гэты час, за пяць гадоў,
І вас, быць можа, бура гнала
У лес ад вёсак, гарадоў.
Але пачну я сказ праўдзівы
Ад тых пазіцый, ад тых пор,
Калі быў скончан разгавор,
Для вас нячутны і жычлівы.

7

Назаўтра, толькі ноч мінула
І сонца добра не ўзышло,
Пра пана Богута пачула
З канца ў канец усё сяло.
І смех там быў, былі і жарты,
І кпіны едкія, і злосць.
І не таго пан Богут варты,
Марцовы кот ён, воўча косць!

Марына стала гераіняй,
І многа ёй было пахвал—
Так астудзіла яго пал.
Цяпер, нябось, залёты кіне.

8

Але настрой і рух вясёлы
Памалу ўлегліся, сплылі.
Другія думкі хмурацць чолы,
Як цені ходзяць па зямлі.
Самой Марыне страшнавата,
І ёй вясёласці няма.
Баіцца—будзе ёй адплата—
Чакаць дабра з таго дарма.
Пан Богут помслівы. Зняваг
Не падаруе ёй, ой, не.
Бяда яе не абміне,
Ёй не пазбыцца панскай плягі.

9

Стаіць і дзед Куцейка збоку,
Не раскрывае сваіх карт—
Іначай свецяць яго воку
І той учынак, і той жарт.
І дзед мяркуе па-сваему,
Ды тоіць думкі ў галаве.
Ох, Богут, выклятае племя,
Навошта гад такі жыве!
Ці-ж ён Марынцы падаруе,
Ліхі аматар на падвох?
Няхай-бы ён малы лепш здох!
І мысль адна яго свідруе.

10

Не будзе ёй жыцця, спакою
Ні ўдзень, ні ўвечар, ні ўначы,
Дык лепей сцежкай патайною
Сыйсці адгэтуль, уцячы.

Але-б не скрыўдзіць маладзіцы,
Каб не падумала яна,
Што гоняць прэч яе з святліцы,
Каб выпіць гора ўсё спаўна.
Мяркуе дзед і так і гэтак,
Ды ўсё прыходзіць к аднаму:
Каб збыць ёй панскую чуму,
Сыйсці ёй трэба і без сведак.

## 11

Ды як аб тым сказаць Марыне?
Сказаць не цяжка, ды куды
Падацца ёй ў ліхой часіне?
Як замясці свае сляды?
Гадае дзед пра тую змену,
Ох, Богут, Богут, абармот.
Ды дзякуй Лемеху Аўгену—
Ён дзеда вызваліў з турбот.
Аўген таксама згодзен з дзедам—
Чаго Марыне тут ліпець?
Раз «польскасць» лезе ў яе клець,
Канца не будзе яе бедам.

## 12

У патайным кутку нараду
Яны вядуць учацвярых.
Марынка згодна, нават рада
І за сябе і за старых.
Хіба-ж ёй лёгка жыць і ведаць,
Што столькі клопату яны
Прынеслі бабцы Еве, дзеду,
Што і на іх злуюць паны.
А дзеду, бабцы яна ўдзячна,
Што так ласкавымі былі
І ім прытулак тут далі,
Хоць і самім жыць не так смачна.

13

Марынка ладзіцца ў дарогу,
Як птушка восенню ў адлёт.
Дабра ў яе не дужа многа,
Ды ўсё-ж не мала і турбот.
Ёй бабка Ева памагае,
А дзед дарады падае,
Што браць з сабою, рэч якая
Патрэбна болей для яе.
Данілаў струмант прыхавалі—
Дасць бог, ён вернецца назад,
Бо розных змен на свеце шмат, —
Не раз-жа катаў чэрці бралі.

14

Куды-ж збіраецца Марына?
Дзе, як далёкі яе схоў?
Ды хіба-ж родная краіна
Не мае зацішкаў, куткоў.
Ёсць тут пасёлак недалёка,
Двароў на дваццаць, Буякі.
Туды не любяць кідаць вока
І не заходзяць палякі.
Ці так, ці сяк, а горш не будзе,
Там зацішней і спакайней.
Пабудзе трохі, там відней,
Адну-ж не кінуць яе людзі.

15

Пад вечар скончыліся зборы.
Аўген пад'ехаў немачком,
І скрыню вынеслі з каморы,
На воз паставілі маўчком,
Схавалі хітра яе ў сена
Ад вока панскае брыды—
Ляжыць нібыта шлях Аўгена
На торг у Ціхія Брады.

Тым часам бабка Ева з хаты
Выносіць скорам і хлябок:
— Ну, мой унучак-пестунок,
Жыві здаровенькі, багаты!

## 16

Бярэ Валерыка на рукі
І шчыльна туліць да грудзей.
— Бывай, не ведай гора, мукі,
Мой шчабятунчык-салавей!—
І бабка хлопчыка, як сына,
Латвей усаджвае на воз.

— Бывай, мая ты сіраціна! —
Стрымаць не можа бабка слёз.
І ціха рыпнулі вароты,
Свет расчынілі ў цемнату.
Адчула бабка маркату—
Шкада Марынкі і блазноты.

## 17

Ноч землю туліць цяжкім мрокам.
Далёка ззаду Петрушы.
Глушэй і цішай з кожным крокам
У цёмным лесным шалашы.
Маўчыць Аўген, маўчыць Марына,
А конік клыгае ступой.
Дзяцінства горкая хвіліна
Прыпамінаецца тут ёй.
Даўно, даўно калісьці з братам
Вось так-жа ехалі яны,
Тады яшчэ зусім блазны,
У свет насустрач хмурым хатам.

## 18

Ігнатка ў памяці ўсплывае
І тая ноч, той рад бяроз.
І вобраз брата ажывае.
Дзе ён? Які яго быў лёс?

Ці ён жывы, ці ўжо на свеце
Яго, гаротнага, няма?
Куды закінуў яго вецер?
Дзе прытуліла ночка-цьма?
Усё сплыло. І аб Даніле
Нідзе нічога не чуваць.
Хто можа ёй паспачуваць?
Маўклівa, глуха, бы ў магіле.

## 19

А хлопчык спіць на ўлонні маткі —
Няма ў яго турботных дум.
На міг расчыніць вачаняткі
Пад траску мерную і шум.
Ды зноў у сон плыве салодкі,
Згарнуўшы пальцы ў кулачкі.
Наўзбоч сярод травінкі-шчоткі
Сям-там засвецяць светлячкі.
Марыне сумна-сумна, горка,
І плача ціхенька яна,
Трымае сына-пестуна.
Зусім заціхла іх гаворка.

## 20

Аўген не бачыць, сэрцам чуе,
Што у Марынкі на душы,
І з ёю моўчкі сам гаруе
У гэтай томячай глушы.
Ніяк не клеіцца размова,
Хоць думак шмат у галаве,
І трудна тое знайсці слова,
Што сотні слоў другіх заве.
Нарэшце цмокнуў на Каштанку,
Дарога сцелецца гладзей,
А лес, як нейкі чарадзей
У міг разгортвае палянку.

21

— А ты-б, Марынка, падрамала:
Заснеш, і будзе весялей.
Што плакаць? з плачу толку мала—
Ад слёз не ўнікне сухавей.—
Сказаў Аўген са спачуваннем.
Ён хоча гутарку пачаць,
Бо ў гэтым сцішаным маўчанні
Туга бязмерная чуваць.
— Ой, дзядзечка, хто не заплача,
Калі вакол бяда, нуда!
І брат загінуў без сляда,
І дзе Даніла, мой бядача?

22

— Ну, як сказаць? гадаем гэтак
Ды часта ў мыслях кульганём.
Там, у Советах, сірат-дзетак
Знайшло не мала сабе дом.
Ім там прасторная дарога,
Ім там і ласка і дагляд.
Дык не гаруй, мая нябога—
Яшчэ аб'явіцца твой брат.
Вось разгародзіцца граніца,
Бо панскі лад, вер, не даўгі,
Паводка змые берагі,
Як хлыне свежая крыніца.

23

Такая байка ў людзях ходзіць.
Стварыў бог свет і ўсё, што ў ім,
Сам клопат мае аб народзе
І апякуецца над ім.
Зрабіў у небе ён аконца,
А ў ім дзве шыбінкі. Праз іх
Глядзіць вачамі зор і сонца,
На месца ставіць сваё ўсіх.

Раз бог па слабасці старэчай
Заснуў, задаўшы храпака,
І вось тут чортава рука
Пайшла чыніць благія рэчы.

24

Прачнуўся бог, зірнуў у шклечка,
Аж бачыць—згорбіўся народ.
У сіх, у тых няма гняздзечка,
А сям-там голад, недарод.
— Ілья!—гукае бог прарока.
Прышоў Ілья. Бог да Ілы:
— Ці то мае ўжо хібіць вока?
Што там за ліха на зямлі?—
Зірнуў Ілья і кажа:—Божа!
Няма ў акне другога шкла—
Замазаў чорт яго для зла,
Каб ты не бачыў спраў варожых.

25

Бог — трах па шыбіне! Як гляне —
Аж там маёнткі і двары,
І толькі чуе—проша, пане!—
Яны там богі і цары.
І кажа бог Ілы-прароку:
Ляці маланкаю туды,
Кажы народу—бі па боку!
Не трэба чортавай брыды!—
Ну, і пайшло тут мітусенне.
Бог за народ, чорт за паноў...
Марынка, вер, і мы «далоў!»
Пагонім чортава насенне.

*Раздзел XIX*

1

Зірнем цяпер хоць мімаходам
На ціхі кут у Буяках,
На той, што туліцца за бродам
У пышных, гнуткіх лазняках.
Як у вянок, жывы, зялёны,
Сюды заціснуўся грудок,
Дзе пчолкі звоняць, як у звоны,
У вуллі носячы мядок.
Груд упіраецца ў рачулку,
Што пад альховаю страхой
Пралегла гожаю дугой,
Прабегшы нібы па завулку.

2

Сюды пратоптана дарожка
Ад агарода са двара.
А ў тым двары жыве Аношка,
Што мае славу пчаляра,
Аношкаў двор не той, што ў пана —
Так з дзесяць крокаў шырыні,
Але ў ім чысценька, прыбрана,
На месцы ўсё, дзе ні зірні.

І лік будынін не маленькі:
Хаціна, пуня, хлевушок,
Няхай ён цесны катушок,
І ёсць свіронак, варывенька.

3

Аношка — прыяцель Аўгена.
Яны сябруюць з даўніх пор.
І ён і цётка Магдалена
Пайшлі панам наперакор —
Марыну з сынам прытулілі
І кут у хаце адвялі:
Не пакарыцца-ж ліхай сіле —
Ці-ж месца мала на зямлі?
Няхай сабе жыве ўсё лета,
А трэба будзе — і зіму:
Якая справа і каму
Звяртаць увагу на ўсё гэта?

4

Аношка з жонкаю няплодны—
Не павялося на дзяцей.
Ні сваякоў, ні блізкіх родных,
Дык ім з Марынай весялей.
І пчальнічок-жа ёсць на грудзе —
Дагледзіць пчолак заадно,
А там бог бацька, бачна будзе,
Як што абернецца яно.
Так і прыстроілі Марыну
На новым месцы ў Буяках.
Улёгся трохі яе страх,
Сказаць у добрую часіну.

5

Прайшло дзён два ці трохі болей,
Яна ўжо тут, нібы свая,
І людзі ўведалі спаволля,
Адкуль і хто яна, чыя.

Жанкі ёй шчыра спагадалі
І пракліналі той астрог,
Што ім паны пабудавалі,
Каб меней сталася дарог.
Паны і панскія астрогі...
Аб чым-жа думаць і гадаць?
Канца няволі не відаць,
І жыць так далей няма змогі.

6

І цяжка-б жыць, каб не жывілі
Яе спадзевак і надзей —
Наперакор той панскай сіле,
Што так насела на людзей.
Марына груд упадабала
І варту пчол у пчальніку.
Калі выходзіў рой, бывала,
То быць ёй трэба на-чаку.
Аношка ўвёў яе ў навуку,
Як трэба пчолак даглядаць,
Якую дзе параду даць,
Каб рой абраць без шуму-гуку.

7

Яна з сынком заўсёды разам,
Тут ім вядомы ўсе куткі,
А лепшы кут пад тоўстым вязам,
Дзе рэчка робіць завіткі.
Адгэтуль ім, як на далоні,
Відаць грудок і вуллі ўсе,
Дубы за рэчкаю і тоні
У нерухомай іх красе.
А рэчачка бяжыць, шапоча,
Калыша травы, чараты
І мые бераг свой круты,
Каб шлях зрабіць сабе карочай.

8

Малыш не ўседзіць і хвіліны,
Яму ўсё гэта навіна:
І як калышуцца галіны,
Як рыбка выплыве са дна.
Глядзіць на лёгкую былінку,
Што ён укіне, як плыве.
Чаруе рэчачка хлапчынку
І родзіць мыслі ў галаве.
І ўсё-ж уведаць яму трэба
І распытацца аб усім:
Адкуль яно і ўсё зачым?
Чаму ў рачулку сышло неба?

9

Тлумачыць маці, як умее,
Хоць не ўсё ведае сама,
Расце сынок і разумнее,
А долі хлопчыку няма.
Яна ўздыхне, ды засумуе,
І слёзы бліснуць з-пад павек.
Ёй горка-горка. — Ох, чаму я
Такі няшчасны чалавек?—
І думкі самі мімаволі
Нясуць яе ў далёкі свет —
Як напаткаць данілаў след?
Няма ім, бедным, шчасця, долі.

10

Сядзіць раз так Марына з сынам.
Ён рэчкай цешыцца, яна
Работу робіць сваім чынам,
Штукуе штосьці для пестуна.
І раптам хлопчык палахліва
Да мамкі туліцца, дрыжыць

І шэпча: — Мама! там... дзед сівы!
А сам за рэчачку глядзіць.
За рэчкай лозы і каліна,
Па плечы імяла-трава.
З травы чуць відна галава
І чыйся твар з вясёлай мінай.

11

— Гляджу я, мілыя мае вы,
Ды і не веру сабе сам:
Ці вы, ці не? Вось неспадзевы!
Дзе давялося стрэцца нам! —
Марына перш утарапела.
Глядзіць — знаёма постаць, від,
І той-жа зорыць зрок нясмела,
Сам тымі-ж латамі прыкрыт.
— Дык гэта вы! — Я, я, галубка!
У хаце вы маёй жылі.
Ды ў ёй паны жыць не далі...
У попел-дым пайшла халупка...

12

Ну, добра-ж, сонейка-дачушка.
Вось зараз я іду да вас! —
І мой рыбак, Сымон Латушка,
З вачэй знікае ў той-жа час.
Ідзе кустамі ўскрай рачулкі —
Тут кладка ёсць праз гоны тры.
Ён знае ўсе тут закавулкі
І ўсе дарожкі ў гушчары.
Мінуўшы мосцік і прысады,
Рыбак выходзіць за грудок.
Пры ім паходны кацялок
І ўсе рыбацкія прылады.

## 13

Прышоў, спыніўся, прывітаўся,
Акінуў зрокам ветлым іх.
— Дык ось дзе з вамі я спаткаўся,
Дзе вас пабачыў, ды... не ўсіх. —
Ён уздыхнуў. — Чуў, чуў, нябога. —
Тайком там быў разоў так пяць...
Паны загналі да астрога,
Ды ім не век тут панаваць.
Хваліўся збан, што носіць воду,
Але забыўся на слупкі,
Што б'юць збанок на чарапкі —
І панскага не будзе зброду.

## 14

Марына слухае ў сумоце,
А ў думках ёй карціць адно:
Нідзе-ж у панскім тым балоце
Прагалін ясных не відно.
Яе сынок глядзіць бачліва
На твар, на постаць рыбака.
Маламу ўсё ў ім чуць не дзіва —
Ад вудзільнаў да кацялка.
І хоча ён пакратаць ручкай,
Каб лепш дазнацца рэчаў тых.
Рыбак-жа любіць сам малых,
Пацешыць рад цікавай штучкай.

## 15

І ён звярнуўся да малога:
— Ну, што, качанчык мілы мой?
У дзядзькі, бачыш, цацак многа,
Дык можа пойдзеш ты са мной?—
Глядзіць хлапчына на Сымона —
Відаць, гаворыць не дарма —
Не знята поўнасцю заслона,
Дык той і яснасці няма.

Рыбак счакаўшы: — Падарую
Табе і цацачку адну. —
Рукой правёўшы па радну,
Вымае дудку ён старую.

16

Рыбак наўперад для паказу
Сам заіграў на дудцы той
І падкупіў малога зразу
Сваёю шчодрай дабратой.
Малы ўзяў дудку. Перш агледзеў,
А потым сам, як і Сымон,
Паднёс да губ, і, нібы ў медзі,
Пачуўся мяккі яе тон.
Хлапчынка рады. Вось дык дзіва!
Як маме ў вочы не зірнуць?
І хлопчык стаў у дудку дзьмуць,
Гамоніць дудка галаслівa.

17

Пад тую забаўку дзіцяці
Рыбак пачаў здалёку сказ
Пра пана Богута, аб хаце,
Куды вайшлі не ў добры час.
Цяпер няма яе, той хаты:
Яна згарэла. Яе-ж цень
На іх-жа паў, як мрок заклятьі,
І ўсё праз Богута, праз дрэнь.
— Скажыце, імасць, ці не чулі,
З чаго той вынікнуў пажар?
— Спаліў яе ён сам, вядзьмар,
Каб ён не меў на смерць кашулі.

18

Хадзіў, падкопваўся, гадзюка,
Каб падкусіць, каб утапіць,
Бо што яму чужая мука?
Абы сабе кус падхапіць,

— Скажыце, імасць, вінаваціць
Ён, рыжы гад, і за падпал?
— На ўсё сумлення ў яго хваціць,
Выжыга, злодзей, цемрашал. —
Зірнуў рыбак на маладзіцу
І кажа: — Рыбка ты мая, —
Спаліў-жа хату гэта я!
Гатоў прад вамі павініцца.

## 19

Марына ўскінула вачамі
На твар зліниялы рыбака.
А ён ёй: — Гэта паміж намі.
Займеў я сэрца на ваўка.
Бо як-жа так? І вас ён выжыў,
Не пабаяўшыся граху:
Сам, рыжы гад і панскі выжал,
Лісткі засунуў пад страху.
Я бачыў сам на свае вочы,
Як ён пад пахай скрутак нёс
Вам на пакуту і для слёз
У час глухі, так апаўночы.

## 20

І толькі потым я уцяміў,
Тады-ж на кем не браў ніяк,
Чаго канаплямі, аўсамі
Туляўся юда—ваўкалак. —
Марына рукі сашчаміла,
Ёй вузел зла стаў шмат ясней.
— Дзе-ж тая праўда, божа мілы!
Як зносіць свет такіх людзей...
А можа-б, дзядзечка, прашэнне
Падаць у іх вышэйшы суд
Ды расказаць пра гэты чмут.
Няўжо-ж у ім няма сумлення!

21

— Эх, імасць, імасць-небарака!
Якое ў іх сумленне, суд?
Тут Доўнар пан, там пан Гавака,
Дык нашай праўдзе і капут.
Хто нашу праўду слухаць будзе?
А хеўра ўсюды ў іх адна.
Адзін ёсць шлях: пусціць паскудзе
Тайком у ночы певуна.
Ды толькі, імасць, а ні слоўка,
Нідзе нікому ні гу-гу.
Я знесці крыўды не магу —
Такую злосць займеў на воўка.

22

Глядзіць Марына на Сымона,
Як на вар'ята-дзівака, —
Ці ён не ведае законаў
І штучак пана-паляка?
— Ой, дзядзечка, ды крый вас божа!
Што вы забралі ў галаву?
Ці-ж гэта справа дапаможа?
І так пад страхам я жыву.
А што-ж тады са мною будзе,
З маім Данілам і з малым,
Калі сяліба пойдзе ў дым?
Вы-ж рук не звяжаце прыблудзе.

23

Вы толькі, дзядзечка, ўявеце,
Які падымецца гвалт, крык,
А я даўно ўжо на прымеце,
І муж узят, як большэвік.
Тады мне што? збірай свой клунак —
Вядомы шлях, вядомы лёс—
Ды з пастарунка ў пастарунак
Хадзі пад вартай на дапрос.

А колькі будзе непатрэбных,
Апроч мяне, яшчэ ахвяр.
А злыдню што такі пажар?
Не пажабрує ў торбах зрэбных.

### 24

І вось што, дзядзечка: вядома.
Як допыт чыняць там паны,
Як б'юць, катуюць, гнуць і ломяць,
Як вінавацяць без віны.
А вы сакрэт свой расказалі —
Ці захаваецца-ж сакрэт
У той пакуце, у навале?
Ці не ўсплыве і ён на свет?
Дык адступіцеся, прашу я.
Якая тут карысць, каму?
Няхай адплаціць бог яму —
Ці-ж ён людскі боль не пачуе?

### 25

Пачухаў мой рыбак чупрыну
І цмокнуў. — Ох ты, абармот!
Клянуся: гэты план пакіну,
Бо не ўлічыў тых перашкод.
Не бойся-ж, рыбка: даю слова,
Зямлі і небу прысягну,
Спакойна, імасць, будзь здарова —
Ліхой сядзібы не крану.
Дык так, уважу просьбу вашу,
А касавокай падле, псу
Другую штучку паднясу —
Хоць гада рыжага настрашу.

*3/VII—2/VIII—1946 г.*

### *Раздзел XX*

1

Каб папярэдзіць пагалоскі
І даць кірунак ім другі,
Пан Богут піша «з ласкі боскай»
Крамзолі «польскасці слугі».
У мыслях пан не дужа гнуткі,
Як жорны, клыгаюць глузды,
Але-ж такія ў пана скуткі,
Што мусіць вынуць з іх гвазды.
Ён апусціў пяро ў «атрамант»,
Палюбаваўся з момант ім
І, вокам ляпнуўшы касым,
Стаў выліваць «душы сакрамант».

2

«Ласкавы пане саквэстратар!
Не мысліў пана турбаваць.
Я да пісання не аматар,
Ды польскасць мушу захаваць.
Няхай-жа пан глядзіць цвяроза
На рэчы ўсе, як ёсць яны,

Бо ёсць для польскасці пагроза
У плётках хамскае маны.
Няма да Польшчы ў хлопаў «хэнці»,
У іх інтэрас свой на ўме,
А ўжо калі што хлоп займе,
Яго і пан бог не «асвенціць».

3

Пан знае сам — і дасканала —
Данілу Смыка, лайдака,
Што стража польская забрала,
Як бунтара-бальшэвіка.
Тэн лайдак, пана прапрашаю,
Хоць абясшкоджаны, але
Пусціў атожылкі лішаю—
Сваю заразу на сяле.
Як паляк, я — ганору слова —
За ўсім тут мушу наглядаць.
І вось — ні ў дзесяць і ні ў пяць —
Пайшла гуляць пагудка-змова.

4

Паклёп — і брудны, проша пана, —
Узводзяць хлопы на мяне,
І пашквіль нейкага галгана
Наклеіў хтосьці на сцяне.
І то ўсё—вынік хлопскай злобы.
Якая мэта лайдака?
Дыскрэдытацыя асобы,
Каб знізіць гонар паляка,
Хто розум мае, не дасць веры
Тым пашквілям, што піша хлоп,
Каб толькі свой заблытаць троп,
Што йдзе ад смыкавай халеры.

5

Тут засталася жонка Смыка,
І ніці ўсе вядуць у двор,
Дзе гэта д'ябальскае лыка
Знайшло прыпынак і прызор.
Сюды з аглядкай, патаёмна
Прыходзіць розны шкодны зброд
І ставіць варту каля дома,
Каб не было ім перашкод.
І я аднойчы, проша пана,
Туды пасунуўся ўначы,
Каб шайку тую дасачыць,
Ды быў тым збродам апазнаны.

6

І як-жа хлопы скарысталі
Мой доўг прад Польшчаю святы?
А так, што я — і пашквіль склалі —
Да хлопкі важыўся ў сваты!
Дык вось якія, пане, скуткі.
А як заткнуць паганы рот,
Каб тыя смродныя закуткі
Не сталі месцам плявузгот?
Няхай-жа будзе пан ласкавы,
Мой двор і дом не абміне
І завітае да мяне —
Для справы добрай і забавы».

7

Закончыў ліст, паставіў кропку,
Спачатку стаў яго чытаць,
А прачытаўшы, выпіў стопку —
Пісьмо на славу. «О, пся маць!» —
Сказаў пан Богут пагардліва, —
Плявузгай, гіцлю, і брашы! —

А для сябе дадаў жычліва:
Пісаць пан майстар, дадушы!
Яшчэ раз ён пісьмо чытае,
І панскі пых, сагнаўшы страх,
Расце, як цеста на дражджах,
І чуць да воблак не ўзлятае.

8

Калі парыў самахвалення
Улёгся ў Богуце, апаў,
Ён перайшоў ад лятуцення
Да празаічных шэрых спраў.
Ён прыгадаў сваю Мальвіну,
Не так яе, як момант той,
Калі пашле ім бог часіну
Стыкнуцца ў справе завітой.
Яго залёты — факт бясспрэчны —
Вушэй Мальвіны не мінуць.
Дык можа ёй ліст гэты ткнуць,
Каб гнеў уцішыць бурнацечны?

9

І па нядоўгім разважанні
Знімае копію з пісьма —
Да саквэстратара пасланне
Пісаў пан Богут не дарма.
Пайшло пісьмо сваёй дарогай,
І час ідзе сваёй чаргой,
І Богут ходзіць з перамогай,
Як патрыёт і як герой.
Трывогі голас ціхне, глухне.
Спаўзае ўдалеч прыкры цень.
Ды вось яшчэ праз адзін дзень
Вядзе ўжо рэй Мальвіна ў кухні.

## 10

Але чаго яна марудзіць?
Чаму не выйдзе да стала?
І страх у панскіх мыслях блудзіць,
Смуга ў свядомасць забрыла.
Вось дзверы рыпнулі ў камору,
І кубел там грыміць, гудзе.
Відаць, Мальвіна не ў гумору,
Калі так доўга не ідзе.
Была ў адлучцы праве тыдзень,
А не паказвае вачэй.
Не добра, пане дабрадзей, —
Відаць, пашкодзіў нейкі злыдзень!

## 11

Сядзіць пан Богут у тамленні
І вочы ўзвёў на абразы,
А чарвячок грызе сумленне —
Прадвеснік лазні і лазы.
Хутчэй-бы выйсці з таго стану,
Якіх-бы скуткаў не было.
І ў нетрыванне стала пану,
Яна-ж марудзіць, як на зло.
Нарэшце, від прыняў рашучы,
Хоць апусціў свой вус руды.
Аж тут Мальвіна тыц сюды.
Прывяў пан Богут — будзе буча.

## 12

Аднак, ён борздзенька ўсхапіўся
Ды так, што бразнула пята.
Ох, як па жонцы ён нудзіўся, —
І дом без жонкі сірата.
Ды ў ручку плюсь ёй, у другую,
Затым у шчочку, у далонь.
Аж носіць жонку дарагую,
Па хаце тухкае, як слонь.

Яна-ж ні рыба і ні мяса,
Ды ласкі мужа прыняла —
Без лішняй прыязні і зла,
Без лішніх слоў і выкрутасаў.

13

Скаціўся цяжкі камень гнёту
З крывой душы, з сутулых плеч,
Ды трэба зняць усю турботу,
І ўсе сумненні перасеч.
Ён перад ёю выдыгае,
Як закаханы, малады.
«Мальвіна, жонка дарагая!»
Спявае ён на ўсе лады.
І распытаў, як гасцявала,
Якія ў свеце навіны
І як там маюцца паны.
Ну, вось і добра, богу хвала.

14

Такіх гарачых пацалункаў,
Іскрыстых ласак, як віно,
Мальвіна — ёй няма ратунку —
Ужо не ведала даўно.
Яе замкнёнасць і стрыманасць,
Боль патайных глухіх згрызот
Скрышыла бурная адданасць,
Як сонца крышыць снег і лёд.
Другою сталася кабета —
Расцвіў румянак на шчаках,
Вясёлкі бліснулі ў вачах, —
Так ласкай той была сагрэта.

15

У сэрцы богутавым свята:
Ён зараз — «фацэт» і «вар'ят».
Сабе-ж ён шэпча варавата:
«Ты — дока, пан, і дыпламат!»

І мысліць далей — час спрыяе,
Каб клопат цалкам утрасці,
Ды каб не збочыла «старая»,
І як ёй ліст прыпаднясці?
Ёсць у народзе сказ-прымоўка:
«Дай, божа, ў добры час сказаць,
А ў час нядобры памаўчаць»,
Дык вось і думай тут, галоўка.

16

Але пан Богут рызыкоўны,
Рашае — час якраз цяпер
І, прыязні да жонкі поўны,
Ідзе да «бюрка» для папер.
Бярэ пісьмо, а жонка ў час той
З графіна ў чаркі — буль-буль-буль.
Бо-ж момант гэтакі не часта
У дом прыходзіць іх і скуль?
Зірнуў пан Богут на Мальвіну,
На чаркі, поўныя віном,
І стаў пан Богут зноў блазном —
Ён жонку смокча, як маліну.

17

Даніна любасцям аддана,
Але не скінута ярмо,
Яно-ж вісіць на шыі пана
І не скідаецца само.
Ды як пачаць? Пачаць з прамовы,
Але якой? Дзе верны троп?
Пан Богут злёгку хмурыць бровы,
Крыху сярдзіта моршчыць лоб.
— Да нас, быць можа, чуй, Мальвінка,
Пан саквэстратар зазірне...
Тут справа ходзіць аба мне,
Якую мусіць знаць пан Глынка.

18

Мальвіна вушы навастрыла,
У мужа ўставіла свой зрок,
А ў ім адбіўся з новай сілай
Яе ранейшы халадок.
Збянтэжыў пана зрок марозны —
Пачаў прамову неўпапад.
Сумеўся Богут, але позна,
І слоў не вернеш тых назад.
Ён кажа далей: — «Дарагая!
Каб гэту справу зразумець,
І доўгай квэсты не мець,
Дык гэты ліст я прачытаю».

19

Чытаў пан Богут ды з натхненнем
Свой твор — да пана Глынкі ліст —
У тоне крыўды, абурэння,
Як той прыроджаны артыст.
Мальвіна — дай ты і нам, божа,
Здабыць такога слухача: —
Вачэй звясці з яго не можа,
А ён сячэ, ну, як з біча.
І чым далей, тым больш імпэту,
Запалу, злосці, пачуцця —
Ну, слухаць будзе нехаця,
І ўшчэнт узрушыў ён кабету.

20

Пан Богут скончыў. Міг адказны —
Чакай ці ганьбы, ці пахвал,
Мы-ж гэта ведаем, — не блазны:
Нас вабіць лаўравы фінал.
І Богут, хоць ён не пісьменнік
І не празаік, не пясняр,
Прыязнай крытыкі не меней,
Чым песняры, чакае ў дар.

Мальвіна крытыкам ніколі
Мастацкіх твораў не была,
А тут хвіліна наплыла
І ёй азвацца ў гэтай ролі.

## 21

Спачатку трошкі памаўчала
Ды кажа: — Здольная рука!
Пісьмо, якіх на свеце мала, —
Заходзіць крытык здаляка.
Пан Богут ставіць вус угору
І растае ад той хвалы,
Гатоў ён слова даць ганору,
Што пісар ён і не малы.
— Аднак-жа ёсць у ім загана:
Не ўсё адзначыла пяро —
А дзе-ж з памыямі вядро,
Што выліта было на пана?

## 22

Застыў пан Богут нерухома,
Нібы прыбіў яго пярун.
— Ты шашні строіш патаёма!
Лайдак ты, кныр няшчасны! лгун!
Каму пускаеш пыл у вочы?
За дурня хочаш мець мяне? —
Мальвіна з палкасцю жаночай
На мужа ў ярасці імкне.
Падумаць толькі — «струж дзяржавы!»
Ці бач, які абраўся зух!
Чаго-ж у вокны лез, смярдзюх?..
О, кот марцовы, гад плюгавы!

## 23

Справадзіў мужа да астрога,
А сам да жоначкі яго...
Хіба ты ў сэрцы маеш бога?
Каго ашукваеш, каго?

Каго-ж у лапці абуваеш?
Каго ты выставіў на смех?
Ці праўду ў землю закапаеш?
Навошта фальш і гэты брэх? —
Мальвіна грукнула дзвярыма
Ды бураю ў камору шась!
Зноў вечка кубла стук і бразь!
А Богут лыпае вачыма.

## 24

Аглушан пан — ну, што тварыцца?
Ды мыслей ён сабраць не ўспеў,
Як зноў Мальвіна, бы тыгрыца,
Ляціць сюды — не стыне гнеў.
Глядзіць пан Богут на Мальвіну —
Кабета ўзрушана, што страх!
І бачыць ён — дзяржыць свініну,
Дзялянкі сала дзве ў руках.
Не кеміць Богут, што то значыць —
Ці звар'яцела ў злосці той
З-за гэтай «квэстыі» пустой?
Як тую дзею растлумачыць?

## 25

Як сцяг заможнай гаспадаркі
І гаспадыніных турбот,
Мальвіна ў пылу хатняй сваркі
Угору ўзносіць сала. — Вот! —
Гаворыць Богуту зацята:
— Сама гасцінцу занясу.
І гэта ёй мая адплата,
Што ў морду лінула, як псу.
Скажу ёй дзякуй, а надалей
Я папрашу абліць смалой,
Калі палезеш зноў сватой —
Сама займуся тваёй кралял.

*3—13 VIII 1946.*

*Раздзел XXI*

1

Як прыкра мне па сцежках змрочных
Хадзіць у мыслях сваіх зноў,
Прыгадваць шум вятроў паўночных
Пад свіст нагаек, бізуноў!
Даўно прыглушаныя болі
Суздром не выкінеш з душы,
І затхлы бруд астрожнай молі
Так непрыемна варушыць!
Ды мушу я з маім героем
Прайсці яго кусок шляху,
Што лёг у панскім катуху
Пад панскай вартаю, канвоем.

2

Пракляты будзьце вы, астрогі,
І вы, надзьмутыя паны!
О, як цярпеў наш люд убогі
З-за вашай гнуснасці, маны!
Вы зараз скінуты з дарогі,
І вам няма дарог дамоў,
А вашы смродныя астрогі —
Абломкі панства і паноў.

Дык згіньце, розныя «вянзенні»,
І вы, усіх масцей паны!
Вы без народа, вы адны —
Астача рознай панскай дрэні!

3

Шлях цяжкіх мук прайшоў Даніла,
Канца-ж таму шляху няма.
Такіх пакут душа не сніла,
Што несла панская турма.
Данілу білі, катавалі,
На грозьбы бралі і на страх,
Дабра нямала абяцалі,
Каб скіраваць на іхні шлях.
Даніла-ж быў глухі, зацяты,
Цвярдзіў на допытах адно —
Паны забілі ў свет акно,
Не ён, а Богут вінаваты.

4

Нарэшце, круг адзін «вянзення»
Ім быў пяройдзен і замкнут,
А далей тых-жа здзекаў звенні —
Ланцуг нясконачаных пакут.
Дарога пунктаў перасыльных
Пад брэх канвою, штурхялі
Дзесь у палях растала пыльных
Далёкай сцішанай зямлі.
І адыходзіць далей, далей
Узад наседжаны куток,
Яго Марынка і сынок,
І рвецца сэрца яго з жалю.

5

Ён не адзін — тут гурт іх цэлы,
Людцоў нябачачых раней,
Загнаных, стомленых, спацелых,
Ідзі, працівіцца не смей!

Куды іх гоняць?.. Ды ўсёроўна:
Адзін астрог быў, там другі.
Наступны дзень глядзіць бязмоўна,
Як лес пад покрыўкай смугі.
Тут людзі розных званняў, стану —
І з гарадоў і «веснякі»,
І ёсць напэўна і шпікі,
Што служаць пану паслухмяна.

6

Даніла ведаў гэту моду —
Шпіка ў натоўпе прыхаваць,
І ён сцярогся таго зброду,
Якім не цяжка таргаваць.
Ідзе размеранай хадою
У пары з нейкім кацьмаком.
Рука іх злыгана з рукою,
Як шыі двух валоў ярмом.
І як валы, яны друг другу
Не абранілі пары слоў.
Іх панукаюць, як валоў,
Яны-ж наручнік цягнуць цугам.

7

Уночы іх вядуць к вакзалу
Пад мерны крок, пад ціхі звон,
Здаюць там новаму капралу
І заганяюць у вагон.
І хоць тут цесна, цёмна, брудна,
Як у звярынай клетцы той,
Ды тут не чуеш слоў паскудных,
Пад бок не штурхае канвой.
І ноч прайшла, і дзень мінае,
А іх вязуць. Нарэшце, — стоп!
Цягнік спыніўся і засоп.
Ідзе хвіліна і другая.

## 8

Навокал шум і мітусенне,
Свісткі, гудкі і стук калёс,
Грук, гоман, цяжкае пыхценне —
Другі падходзіць паравоз.
Вагон пад выгукі канвойных
Ідзе назад пад семафор.
Паволі глухне шум нястройны,
Ражок турукнуў і замёр.
Вагон спыніўся. Грук у дзверы.
Разнят замок, апаў засоў.
Зноў вокрык грубых галасоў:
«Цо, не падэхлі? Злазь, холеры!»

## 9

Дык так — закончаны вандроўкі,
Этапы, прыкрасці дарог
Пад вокам панскай калатоўкі,
Дзе шлях нявольніцкі пралёг.
Пачатак новых мук, турботы
І слёз нясплаканых, трывог
Кладуць жалезныя вароты,
Астрожны двор і сам астрог.
Даніла зараз у канторы
Сярод зялёных кунтушоў,
Мардастых, прагных гладышоў
І рознай панскае пражоры.

## 10

Яны трасуць кішэні, складкі
Адзення з ног да галавы,
А да спажывы яны падкі,
Ты-ж стой ні мёртвы, ні жывы.
І ўсё, што толькі хоць якую
Прыгоднасць мае і цану,
Яно ўжо там не павякуе,
Пяройдзе ў рукі хапуну.

І вобыск кончыўся нарэшце.
З канторы шлях вядзе ў астрог,
А ў ім яшчэ адзін парог,
Што можа з свету цябе звесці.

## 11

Ёсць у астрозе ізалятар.
У ім бытуе свой уклад.
Тут не адзін сядзіць аматар —
Забойца, жулік, злодзей, кат.
То ўсё — адпетыя бандыты.
Законы іх — забі! вазьмі!
Яны тым жывы і тым сыты,
Што здзек тут чыняць над людзьмі.
Яны — душа «ізаляцыйкі»,
І ў рукі гэтакай шпаны
Даюць нявольнікаў паны —
Ламаць іх рэбры, мыліць шыйкі!

## 12

Данілу ўпхнулі ў ізалятар,
А з ім яшчэ са трох людцоў.
Зірнуў ён — люднасці багата,
Ну, нібы ў бочцы селядцоў.
І разглядзецца не паспелі,
Бяруць іх тут-жа ў абарот.
— Прынеслі д'ябальскага зелля? —
Спытаў вярзіла-абармот.
А выгляд люты, твар зямлісты,
Вусаты, вочы, як нажы.
Ён да Данілы: «Ну кажы —
Чым адзялілі комуністы?»

## 13

Зірнуў Даніла хмура, строга
І злосна сціснуў кулакі.
— А ты тут што яшчэ за гога?
Што за начальнік за такі? —

Замерла камера, ні слова:
Як ён асмеліўся сказаць!
Каму! Адольфу з Чанстахова,
Перад якім усе дрыжаць!
Змяніўся з твару зух вусаты
Ды лютым зверам як зірне!
— Цалуй, галгане, руку мне! —
І — тыц кулак свой валасаты!

## 14

Ды тыцнуў так, што з губ і з носу
Пабегла кроў па барадзе.
Як дараваць яму, барбосу?
Як сцерпець гэтакай брыдзе?
Не ўзбачыў свету мой Даніла
І, сам не помнячы сябе,
Штурхнуў Адольфа з усёй сілай!
Глядзяць — той носам дол дзяўбе!
— А ну! — сказаў Даніла ў злосці
І вочы ўскінуў на шпану.
— Выходзь яшчэ хто — дзеўбану! —
І прысмірэлі ягамосці.

## 15

Па закутках, спярша нясмела,
Загуў пакрыўджаны народ:
— Вось гэта голас! гэта дзела!
Няхай сам свой адчуе смрод! —
Устаў Адольф пабітай псінай —
Так ураніць аўтарытэт!
Зірнуў са скрыўленаю мінай —
Не ладны спеў яму прапет!
Такі ўжо нораў угалоўных:
Ён здолен толькі тых прызнаць,
Хто можа ў зубы моцна даць —
Тады таму няма і роўных.

## 16

«Ізаляцыйка» зашумела,
І раскалоўся яе лад:
Не мала ў ёй такіх сядзела,
Якім у косці ўеўся кат.
Яны ўзялі руку Данілы
Супроць Адольфа-важака,
Што з іх выцягваў сокі, жылы,
Як стражы польскае рука.
А стража — шусь уціхамоўку!
Разбор і допыт пачала...
Чакаў Даніла болей зла —
Яму-ж прызначылі «рэйбоўку».

## 17

«Рэйбоўка»—гэта вынаходка,
Каб за правіннасць катаваць:
Даецца марная работка —
Падлогу палкай шараваць.
Дадуць табе кіяку ў рукі —
Шліфуй і гладзь ім карыдор,
А за табою для панукі
Ідуць астрожнікі-дазор.
Стаяць яны над тваім каркам,
А ты шаруй пад іх загад
Разоў па семдзесят падрад,
І не праціўся недавяркам!

## 18

Так пачалося для Данілы
Жыццё астрожніка ў турме,
Дзе лад астрожны апастылы
У кожны момант ціске, жме.
Ён водзіць кіем па памосце,
Аж градам пот з яго цурчыць,
І млеюць рукі, ныюць косці,
А падганяты ўсё крычыць:

— Мацней, шпарчэй, чысцей, холера!
Не тобе боскі лад ламаць,
Антыпанствовец ты, пся маць!
Я выб'ю хлопскую манеру!

19

Ды ўсё канчаецца на свеце —
Прышоў канец «рэйбоўцы» той.
Даніла-ж выйграў: з бруднай клеці
Яго наверх павёў канвой.
А там сядзелі свае людзі,
Народ свядомы, дасціпны,
Сягоння «вязні», заўтра суддзі.
З-за іх не маюць сну паны.
Яны прайшлі агонь і воду —
Шлях гераічны барацьбы.
Яны нязломныя дубы,
Што служаць праўдзе і народу.

20

Тут я ўздыхну лягчэй з Данілам:
Хоць тая-ж панская турма,
Ды тут размах ёсць кволым крылам,
І ёсць прасветліна з ярма.
Бо тут пачуеш тыя словы,
Якія сілы дадаюць,
Надзеяй красяць шлях суровы,
Якога нам не абмінуць.
І прывітаю разам шчыра
Адданых партыі людзей —
Тых скромных носьбітаў ідэй,
Што нам прыносяць радасць міру.

21

Плылі марудна дні за днямі,
За імі месяцы, гады,
А белы «ожэл» з кіпцюрамі
Сядзеў на целе грамады.

Паны, дарваўшыся да трону,
Усё рабілі, што маглі,
Каб лад па іхняму закону
Закрасаваўся на зямлі.
Каб знішчыць звычаі і мову
І тых, хто жыў спакон вякоў,
Прывесці ў стан каталікоў
І пад сваю ўсё ўзяць ахову.

## 22

Але паны ў імкненні прагным —
Лад збудаваць на свой капыл —
Не раз траплялі ў тыя багны,
Што вышай сталіся іх сіл.
І больш за ўсё іх ход фарсісты
Збівалі ўбок большэвікі,
Свае, чужыя комуністы —
Панам жыць з імі не з рукі.
Яны настырны, яны ўпарты,
Заложна рухаюць свой воз.
Няма ім страху, ні пагроз,
Вядуць змаганне не на жарты.

## 23

І нават тут, пад пільным вокам,
Пад жорсткай стражай, пад замком
Ідуць яны ўсё тым-жа крокам,
Да купы горнуцца тайком.
Не адступаюць ні на ёту
І закідаюць сваю сець
Ды ловяць розную галоту,
Каб ім і тут уплыў свой мець.
І іх уплыў сярод народу
Вялік, высок аўтарытэт.
Злуецца панскі прайдзісвет —
І ўсюды-ж муцяць яны воду!

## 24

Іх не падкупіш і не зломіш
І не завабіш іх нічым.
Яны і тут, бы ў сваім доме,
Хоць гэты дом для іх — айчым.
Трымаюць іх у чорным целе,
Іх сочаць кожны крок і рух,
У карцар садзяць на нядзелі,
Ды вось не зломіш іхні дух!
Яны ўсё тая-ж непакора,
Яны ўсё той-жа курс вядуць,
І на «панствовы» суд плююць —
У чым іх сіла і апора?

## 25

Пытае вецер у раслінак:
— Чаму зіма вас не ўзяла? —
І кажуць тысячы былінак:
— Мы ад зямельнага цяпла! —
Пытае холад у крыніцы:
— Чаму цябе я не спыніў? —
Яму адказвае вадзіца:
— З зямлі струменіць мой разліў. —
Пытае бура старца-дуба:
— Чаму цябе я не зламлю? —
І кажа дуб: — Я ўрос ў зямлю,
З зямлёю жыць у дружбе люба.

*16/VIII—12/IX 1946 г.*

## *Раздзел XXII*

### 1

Настрой у панскай Польшчы ўзняты—
Трывожны час, акрутны стан:
На Польшчу сунуцца гарматы,
Б'е Гітлер гучна ў барабан.
Урад збянтэжан і ў трывозе
Назад паглядвае цішком,
А пан Рыдз-Сміглы яшчэ грозіць,
Трасе на немцаў кулаком.
Паны міністры, дыпламаты
Гатовы іх тут разарваць:
Нядаўна-ж ездзіў паляваць
Да іх пан Герынг трыбухаты!

### 2

І тым-жа прыяцельскім тропам
І з той-жа ласкаю яны
Дзялілі чарку з Рыбентропам,
Як шчырай дружбы звестуны.
Ці многа-ж часу прамінула
Ад тых залётаў дружбакоў?..

Тэўтон як быў, дык і ёсць скула
І з тым-жа норавам ваўкоў.
Але чакайце вы, псяюхі!
Не трацяць гонару паны,—
А дойдзе справа да вайны,
Ёсць чым паднесці аплявухі!

3

Вайна-ж была ўжо немінуча,
І Гітлер свой праводзіў план.
Пад гукі музыкі траскучай
Стагнаў пад танкамі дзірван.
Уся іх цяжкая армада
Паўзла да польскіх рубяжоў.
Чакалі полчышчы загаду,
Каб ліха выпусціць з гужоў.
Бурліць Варшава ў непакою,
І жах, як ноч, на горад лёг,
Пануе страх, перапалох
Над слаўнай польскаю ракою.

4

Там, у Варшаве, бачыць вока
Вайну выразней і паўней,
А «крэсы ўсходнія» далёка,
І там сягоння спакайней.
І хоць туды даходзяць весці,
Вайна ўсё-ж чуецца не так,
Не можа гэтак яна трэсці
Стратэгаў тамашніх, ваяк.
У пана Богута са ўчора
Не сходзіць чарка са стала.
Мальвіна добрая была.
Быў храбры Глынка і Пшэбора.

5

Зірнеш на стол—што за графіны!
Такіх ці мае Сміглы Рыдз?
Якія скрылікі вяндліны!
Каўбас, ружовых паляндвіц!
І ўсё з такім падана густам
І з ласкай прыязных турбот!
І ўсё само без жаднай змусты,
Ну, так і просіцца ў твой рот.
Пшэбора, Глынка ў такім стане,
І на такім узлёце мар,
Што іх не кратае цяжар,
Які ўжо зыбіцца ў тумане.

6

Пан Глынка зараз, як заўсёды,
Гамонцы тоны задае.
Бывалі ў Польшчы перашкоды,
Ды пан бог мілуе яе.
Відэльцам тыкнуўшы ў вяндліну,
На від прывабную, на смак,
Ён услаўляе і Мальвіну,
Як далікатнейшы паляк,
І сілу панскай Польшчы ўзносіць,
І Польшчу ставіць ён на шчыт.
Хто толькі Польшчай не быў біт?
І немец будзе біт і—досыць!

7

Калі-ж нямецкая навала
На нейкі-б час верх і ўзяла,
То і тады-б не ўсё прапала,
Бо іншы спосаб ёсць ад зла:
У Польшчы ёсць і тут зарука—
Ангелька друг ёй і француз...

Да д'ябла гэта ўся дакука:
Для Польшчы-маткі глупства прус!
Так за сталом, за добрай чаркай
І пад узносячым хмяльком
Махае Глынка кулаком
І храбрасць жывіць польскай «старкай».

8

Мужчыны—Богут, пан Пшэбора—
Стаяць таксама на гары
І пану Глынку дружна ўтораць,
І ў іх свае ёсць казыры.
Калі-ж Мальвіна часам збочыць
І скажа слова неўпапад,
Дык тут-жа страх яе жаночы
Яны развеюць на свой лад.
І гэта толькі дасць зачэпку
За Польшчу выпіць лішні раз,
І дух ваяцкі тут не гас,
Даўнейшы дух шляхецкі крэпкі.

9

Нарэшце, скончана гулянне.
Хвіліна госцям надышла
Для перадышкі, спачывання
Пасля гасціннага стала.
Ідуць яны паходкай млявай.
Вядзе іх Богут у пакой,
Каб пераклікнуцца з Варшавай
На хвалі той ці на другой.
А тут якраз пісьмо прыносяць,
Адкуль яно? чыя рука?
Зірнуў пан Богут здаляка
І прабачэння ў гасцей просіць.

## 10

Прыселі госці на дыване.
І тут вядзе пан Глынка рэй.
— Варшаву зловім зараз, пане,
Навін дазнацца, дабрадзей.—
І ён прыёмнік уключае,
Як той радыст-спецыяліст.
Пшэбора момант улучае,
Каб дым завіць накшталт маніст.
А Богут, сеўшы каля «бюрка»,
Прыціх, разглядвае пісьмо,
Яно-ж завілае вязьмо,
Нібы яго пісала курка.

## 11

Няма ў пісьме ні слоў звароту,
Ні нават аўтара пісьма,
Затое-ж пісар узяў ноту,
Што сіл працівіцца няма,
Каб не дазнацца, што за песня
І лад які яе ў пісьме,
І чмыша пан ужо заўчэсня
Ды ў нос пахрапвае і дзьме.
Чытаць пачаў ён, і адразу
Агнём успыхнуў яго твар.
Працёр пан шклечкі акуляр,
Глынуўшы першую абразу.

## 12

«Які ты пан? Ты—цюцька руды!—
Так пачыналася пісьмо,—
Ты—наша скула, смрод прыблуды,
Ты—проста панскае дзярмо.
Ты раскапусціўся шырока,
Прыбраў у рукі свае ўсё.

Мазоліць зрок твой касавокі
Табе свінчо і парасё.
Ты ўсё гатоў глынуць па-воўчы,
Абы напхаць сабе трыбух,
Ды памятай-жа, чуй, смярдзюх,
А крыўд сваіх народ не змоўчыць!

## 13

Ты паляціш, як пыл дарожны
У суш з-пад ног і з-пад калёс,
Бо ты драсён пустапарожны,
Што чорт з Пазнані нам прынёс.
Як скула, сеў ты на народзе.
Ці-ж век тут будзеш векаваць?
Надыдзе час і скажа: годзе!
Паветра болей не псаваць!
Не псуй-жа гонты, злазь ты з даху—
Не з той дзьме вецер стараны,
І паляцяць з табой паны,
Схваціўшы клунак свой пад паху.

## 14

Ды ты сухім не выйдзеш з краю,
Так ты сабе і запішы,
А зараз—вось аб чым спытаю,
Чаго хадзіў у Петрушы?
І што ты нёс тады сукромна
У двор, дзе жыў Даніла Смык?
Забыўся можа, дык прыпомню,
Ваб'ю ў труну табе я цвік.
Быў час пад поўнач, ты-ж, паскуда
Як злодзей, поўз паміж платоў,
Бо ты-ж тапіць усіх гатоў.
А як тапіў, успомні, юда!

## 15

Асаднік прагны і плюгавы!
Ці ты гадаў, ці сніў ты ў сне,
Што ўсе твае падвохі-справы
Вядомы людзям, як і мне?
Ты хочаш панам жыць на свеце
І ўсё грабастаць, падбіраць.
А бедакоў куды падзеці?
Ну, адкажы ты мне, пся маць!
Што чыніш ты, выжыга, жыла!
Са свету зводзіш бедака:
Ці не твая гэта рука
Лісткі пад стрэху падлажыла?

## 16

Яго забралі з твае ласкі,
Пагналі ў панскі ваш астрог,
Але ёсць суд, народны, наскі—
Дрыжы-ж, пакуль яшчэ не здох!
Скажы, дзе хата рыбакова?
Там калісь жыў рыбак Сымон...
Якое скажаш яму слова?—
Плаці ксяндзу на мшу, на звон!
То ведай: прыдзе ён, спытае,
І мусіш даць яму адказ...
Як гадаў, мы прыціснем вас,
А час той хутка завітае!»

## 17

Пан Богут троcся, бы ў хваробе;
Ён то бляднеў, то чырванеў,
Пот выступаў на панскім лобе,
Не меў граніцы панскі гнеў.
А разам з тым і прадчуванне
Няяснай прыкрасці, бяды

На душу веяла змярканнем
І несла ў сэрца халады.
— Мікодым, што, скажы, з табою?—
Спытала жонка:—хворы ты?
— О, лайдакі! о, хамуты!
Ім трэба помсты і разбою.

18

Пісьмо яшчэ раз прачыталі,
Абразу дзелячы ўдваіх.
Іх паднялі другія хвалі
І радасць змылі ў адзін міг.
Лёг смутак, сум на твар Мальвіны—
Занесен біч над іх дваром.
Яны не чулі той навіны,
Што ўскалыхнула ўсіх, як гром.
Убеглі ўзрушаныя госці.
Пан Глынка цопнуў капялюш,
І разам выгукнулі:—Юш! *
Вайна, панове-ягамосці!

19

— Марыя-Езус! свенты божа!—
Мальвіна выкрыкнула ўраз,
А Богут слоў знайсці не можа,
Нібы язык яго награз.
Глядзіць на Глынку, на Пшэбору,
Не можа сэнсу ўзяць падзей,
І вус яго, падняты ўгору,
Сам апускаецца ніжэй.
Быў цяжкі момант анямення,
А ў госця: твар, як палатно.
Пан Глынка вымавіў адно:
— Бяда! і ўсюды адступленне!

---

* Ужо.

20

І ўсё змянілася адразу:
Развязны тон і жарт, настрой.
Ваяцкі дух, як па заказу
Панік ганебна галавой.
І госцям зараз нецікавы
Гасцінны дом, гаспадары,
Іх сэрцу бліжай свае справы,
Свае манаткі і двары.
І гэта—альфа і амэга
Такой маралі ў час такі.
Ім нават зараз не з рукі
І чарку выпіць «чапкавэга».

21

І стала глуха ў панскім доме.
Няпэўнасць, страх і непакой
Трывожаць душу, сэрца томяць,
Бы помста ходзіць за сцяной.
Цяпер пан Богут іншым вокам
Зірнуў на лёс, на добрабыт.
Ідзе бяда нячутным крокам,
Залазіць ціхенька пад шчыт.
І чуе ён—няма апоры,
Хіснецца Польшча і—каюк.
Навокал сотні прагных рук—
Што толку з Глынкі і Пшэборы?

22

У мыслях тлум і мітусенне—
Як бараніць сябе і чым?
У новым, іншым асвятленні
Пісьмо ўсплывае перад ім.
Яшчэ-б учора тым пагрозам
Пан Богут даў-бы грош цаны,

А зараз холадам-марозам
На пана дыхаюць яны.
А весці з фронта нецікавы.
У Польшчы паніка, разброд.
Няма панам дарог на ўсход,
І не падацца ў бок Варшавы.

## 23

У пана Богута нямала
Прыдбана рознага дабра,
І змесці можа ўсё навала—
Набыткі і гаспадара.
Пан Богут вышаў на дзядзінец.
Гудуць на слупе правады.
І страшна глянуць на гасцінец—
Бягуць машыны, а куды?
— Не добра, пане!—Заўважае
У мыслях Богут сам сабе:—
Усё гад-немец раздзяўбе,
К Варшаве крок свой набліжае.

## 24

Таксама кіне вока скоса
Пан Богут і на Петрушы.
Сяло маўкліва, безгалоса,
А што ў іх тоіцца душы?
Вайне напэўна хлопы рады—
І дзед Куцейка і Аўген
Не любяць панскай яны ўлады,
Даўно чакаюць нейкіх змен.
Але вайна яшчэ ў пачатку,
Ідзе пакуль што сіл развой.
Пан Богут жывіць свой настрой
І грозіць хлопам для парадку.

У доме Богут ад Адася
Пачуў такую навіну:
З Варшавай сувязь у тым часе
Парвана ў хвілечку адну.
Грымела радыё, як трэба,
І ў міг адзін пачуў Адась—
Данёсся свіст драпежны з неба,
І следам бомба за ім—лясь!
І змоўкла радыё, ні гуку,
І голас дыктара заціх.
Відаць, няма ңа свеце іх—
Такую немец зрабіў штуку.

*15/IX—13/XI 1946 г.*

## *Раздзел XXIII*

### 1

Сем лет — не дужа час вялікі,
А колькі ў ім падзей і змен!
Былі паны і іх музыкі
І мары іх на шмат кален.
А дзе і хто яны сягоння?
Дзе пыха панскай старыны?
Чужое туліць іх улонне
Такога-ж зла, як і яны.
Але не здзейсніцца іх марам,
І ім не бачыць той зямлі,
Дзе іх даўно ўжо праклялі,
І не хадзіць на іх пачварам!

### 2

Былі і іншыя вар'яты,
Што неслі цемру ў свет і жах.
А дзе сягоння тыя каты?
Куды завёў іх цёмны шлях?
Гніюць яны, як падаль, дзесьці,
Магіл іх следу не відаць.

Іх будуць толькі людзі клесці
Ды ліхам зрэдку памінаць.
Не ад зямлі, не ад народу,
Не ў іх імя ішлі яны,
Аджытай цемры звестуны —
Такім няма, не будзе ходу.

### 3

І хоць яшчэ дух смроднай тлені
Жыве, павейвае сям-там,
І па зямлі снуюцца цені
Вайны, крывавых яе плям, —
Яны дарог не загародзяць
І не запыняць плыні той,
Што прабіваецца ў народзе
Крынiцай чыстаю, жывой.
І я ў той плыні бачу далі
Іскрыстых, ясных нашых дзён,
Бо наш святы жыцця закон
Мы ў кнігу дружбы запісалі.

### 4

Ніхто не верне цёмных часаў!
Я ў мыслях зноў іду туды,
Дзе быў адсунут панскі засаў
Галечы, крыўды і нуды.
У панскай Польшчы мітусенне,
Бяжыць купец, бяжыць урад,
Бяжыць і войска без спынення,
Не аглядаецца назад.
Ратуе сам сябе, хто можа
І асабліва пан магнат,
А іх у Польшчы было шмат,
Магнаты-ж любяць падарожжа.

5

А па сядзібах і па сёлах
Настрой бытуе не такі.
Гудзе народ, бы ў вуллях пчолы,
Смяецца: драпаюць панкі.
Яму крыху і страшнавата —
Вайна, няпэўнасць як-ні-як,
А ў немцу ты не знойдзеш брата,
Ён можа горш, як пан паляк.
Але-ж, сказаць, не помняць нават
Такога ліха і дзяды,
Каб немец доўгія гады
Над намі правіў сваё права.

6

Ваюе немец з панскай Польшчай,
А тут не Польшча — Беларусь,
Ды ўжо не будзе плягі горшай,
Як гэта панская ўся гнусь.
У косці ўеліся налогі,
Без іх не ступіш крокаў двух.
Плаці за рынак, за дарогі,
За капыткі і за катух.
А ўзяць асаднікаў-скулякаў:
Здушылі ўсіх, як абручы,
Забралі ўсё, а ты маўчы—
Ці мала хто ад іх заплакаў!

7

Цяпер, нябось, яны прыціхлі,
Няма ў іх рызыкі былой.
Усе мікодымы і міхлі
Сядзяць, як мышы пад мятлой.
А новы дзень прыносіць весці
Ім не пад масць і не пад густ.

І пан Пшэбора змыўся дзесьці
І Глынка пан зашыўся ў куст.
У грамадзе навіны, чуткі,
Як ручаі журчаць вясной,
Або той вецер прад гразой,
Калі ён хіліць лознік гнуткі.

## 8

І ў Петрушах настрой узняты,
Ды не такі, як у паноў.
Чакаюць людзі свайго свята,
Ажыццяўлення сваіх сноў.
Чакаюць шчыра, цярпліва,
Без туку-шуму, сумятні:
Надыдзе-ж час, ах будзе жніва,
Другія прыдуць да іх дні.
Але Аўгена ўсё-ж трывожаць:
— Няма часамі навіны
Наконт яшчэ адной вайны?
Што там з панамі ў падарожжы?

## 9

Мой дзед Куцейка зноў на сцэне
І ходзіць гогалем стары,
Ён дужа рад жаданай змене —
Яна ўжо стукае ў двары.
Сярод навін і розных чутак
Адна узрушыла народ,
І дзед, схаваўшыся ў закутак,
Узводзіць вочы на ўсход.
Адтуль збавення прагнуць людзі,
А ў людзях ходзіць слых такі,
Што будуць тут бальшэвікі —
Браты і правільныя суддзі.

10

І часта дзед мой між адрынак
У кут ідзе свой патайны,
Стаіць там некалькі хвілінак —
Ён ловіць гук з той стараны.
І нібы чуе дзед часамі
Глухі, далёкі гул гармат.
Усцешан дзед іх галасамі.
Няхай то здань — ён здані рад.
У грамадзе чутны ўжо словы —
Як далей быць і што рабіць?
Паны згубілі панства ніць,
Дык трэба лад заводзіць новы.

11

Але падзеі, нібы хвалі,
Плылі няспыннай чарадой
І проста часу не давалі
Пра ўсё падумаць грамадой.
Адно для дзеда ясна стала
Сярод няпэўнасці, смугі,
Што Польшча ў буры не ўстаяла,
І лад тут мусіць быць другі.
І людзі гэтак-жа варожаць,
Ну, хоць-бы той рыбак Сымон.
Ізноў сюды падаўся ён
І кажа — досыць падарожжа!

12

І нават людзям даў параду —
Сачыць за Богутам здалёк
І ўсе шляхі адрэзаць гаду,
Каб ён адгэтуль не уцёк.
І двор асадніцкі няўзнакі
Бяруць на вока Петрушы,

Глядзяць за ім не абыяка,
А па сумленню, ад душы.
Свайго вясёлага настрою
Схаваць не можа наш рыбак,
Панам паказвае кулак,
Пяе, гаворыць сам з сабою.

13

«Бабка Тэкля, дзед Лукаш
Паехалі на кірмаш,
Чарку выпілі і дзве,
Зашумела ў галаве.
Рада бабка і дзед рад,
Едуць з торжышча назад,
Конік з горкі як пабег,
Бабка з санак гоп у снег!
Бабка голас падае,
Ды не чуе дзед яе.
А праз пяць вёрст кажа ёй:
— Вось і дома мы з табой!»

14

«Ой, цешыўся старац,
Што пераўжыў марац,
А прышоў ясны май,
І панеслі старца ў гай.
Так і ты, мой пане,
Цешыўся заране,
Баляваў, зухаваў
Ды свой гонар пахаваў.
Я-ж позна ці рана
Запытаю ў пана:
Дзе мой дворык, дзе дамок?
Дзе мой церам-церамок?»

15

«Я — рыбак, я — бабыль,
Чалавек тутэйшы,
А зірнеце на мой брыль,
На самы навейшы!
Няхай сабе ён стары,
З аржаной саломы,
Мы-ж даўно ўжо з ім сябры
І даўно знаёмы.
Я на панскі капялюш
Брыль свой не змяняю.
Ты цяпер мяне не руш —
Гаспадар я ў краю!»

16

Была яшчэ тут неспадзева:
Прышла Марына з Буякоў
Праведаць дзеда з бабкай Евай,
Нібы тых блізкіх сваякоў,
І заадно прачуць навіны,
Якія чуткі ходзяць тут.
Наводзіць шмат што на ўспаміны,
І шмат чым дораг гэты кут.
Жартуе дзед: — «А пан марцовы
Сядзіць ні мёртвы, ні жывы,
Цішэй вады, ніжэй травы
І ўжо не ходзіць больш на ловы».

17

І далей кажа ў іншым тоне:
— Жыві, Марынка, зноў у нас —
Другі павеяў вецер сёння,
Пагнаў паноў на самапас.
Паразбягаліся, як мышы,
А хто астаўся, той прымоўк,

Сядзіць, стаіўшыся, чуць дыша
Ды мяккім робіцца, як шоўк.
Дасць бог, іх песня будзе спета,
І мы змайструем ім труну,
А я засею «мультану» —
Даўно ўжо мару я пра гэта.

18

— Ох, вашым слоўкам, дзеду мілы,
Дайсці-б да богавых вушэй:
Мо' дачакалася-б Данілы,
І жыць-бы стала весялей.
А дзе ён? што з ім? — невядома:
Ніводнай весткі, ні пісьма.
Прапаў, як голка ў кучы лому —
Мо' і жывога ўжо няма. —
Слязу ўраніла маладзіца...
І раптам гоман, нейкі рух,
Трасецца ўсё, кіпіць вакруг —
На ўсходзе пройдзена граніца!

19

Ад вёскі ў вёску, з хаты ў хату
Плыве, бушуе навіна:
Ідзе брат руку падаць брату —
Адзін-жа край, зямля адна.
А ўсе асаднікі-прыблуды,
Як і прыблуды ўсе паны:
Старое песні перагуды,
Гаспадары-ж бо не яны.
І людзі ў вёсках, як у свята,
Сустрэць рыхтуюцца братоў...
Наш бацька Сталін, будзь здароў!
Жыві яшчэ гадоў багата!

## 20

Край ускалыхнут, нібы громам.
Народ за дваццаць доўгіх лет
Стаў адчуваць сябе, як дома,
Бы зноў радзіўшыся на свет.
Сышлі панурасць, клопат з твару,
І радасць свеціцца ў вачах.
Даўно-ж насілі ў сэрцы мару —
Накіраваць на ўсход свой шлях.
І вось ідзе ён зараз, час той,
На свет па-новаму зірнуць
Ды ўсё ў другі бок павярнуць,
Сказаўшы панству: прэч! не застуй!

## 21

І ўсё цікава тут і нова:
Пабачыць іх, сваіх братоў,
Пачуць братэрскае іх слова,
Чым ён спаткаць цябе гатоў,
Які там лад, які парадак,
Як, чым кіруецца народ.
Няўжо няма там сварак, звадак?
І з-за зямлі няма згрызот?
Ці праўда, што там ва ўсе школы
Шляхі-дарогі вольны ўсім,
І што не розняцца нічым
У прывілеях горад, сёлы?

## 22

Паны і недругі Саветаў
Чаго пра іх не наплялі!
Збіралі бруд з усіх паветаў
Для той савецкае зямлі.
Ды хіба-ж людзі дадуць веры
Магнатам, выкінутым вон?

Брашы, панок, ды ведай меру —
Не стане мараю твой сон!
Ды як паны свой глузд ні мучаць,
Як ні ўбіваюць яны клін,
А люд глядзіць на шлях адзін,
На той, што з Руссю яго лучыць.

## 23

Быў ціхі вечар вераснёвы,
Той час, калі і ноч і дзень
Ужо дзялілі напалову
Паміж сабой святло і цень.
Замерла чуйна пагранічча,
Трывогу тоячы ў цішы.
І вось начальства варту кліча —
Пачуўся гул дзесь на шашы!
Гул набліжаецца, дужае,
Аж угінаецца зямля
І лес калоціцца з камля —
Ша! сіла рушыла чужая!

## 24

Ляжаць жаўнеры ў цёмным рове
І па акопах у бары.
Стражніца ўся напагатове...
Ракета ўраз бліснь угары!
І загрымелі раптам стрэлы,
Прарваўшы мрок і цішыню.
Сякуць і рвуць прастор знямелы
Струменні куль, віры агню.
Шуміць тут бой, як навальніца,
А збоку дзесць «ура» плыве...
Прайшлі яшчэ хвіліны дзве,
І змята панская стражніца.

Адным заходам і напорам
Шырокі зроблены праход
Для цэлай арміі, каторай
Чакаў так доўга наш народ.
На пагранічча каля слупа
Спыніўся камандарм на міг.
Глядзіць — байцоў праходзіць група,
І камандарм паклікаў іх.
— Узяць з зямлі слуп і — ў павозку!
Паставіць там, у зямлі той,
Дзе наш урад нам скажа: «Стой!» —
І слуп павезлі ўслед за войскам.

*20/XI 1946 г.—16/XII 1946 г.*

*Раздзел XXIV*

1

Прыходзіць час мне сказаць слова
Маёй паэме: што-ж, бывай!
Жыві ты, «Хата рыбакова»,
Утульнай будзь, як і наш край!
Я шмат прайшоў дарог з табою,
Шмат аб чым марыў я і сніў,
Заняты мірнаю сяўбою
Палеткаў новых нашых ніў.
І дзень за днём і год за годам
За нейкі цьмяны край зямлі
Кудысць далёка адплылі,
І мне іх шкода, мне іх шкода.

2

І сумна мне, мая паэма,
Ступаць з табой на той парог,
Дзе будзе вычарпана тэма,
І больш не будзе тут дарог.

Жылі-ж мы доўгі час у згодзе,
Як брат з сястрою. Шмат краін
Прайшлі мы побач у паходзе,
Шмат розных зведалі пуцін.
І вось прыходзіць час расстання —
Агульны шлях наш не даўгі,
А я пайду на шлях другі,
Пакуль не скончыў вандравання.

3

Я прыгадаю тут, дарэчы,
Далёкі час мае вясны,
Сваё маленства, ціхі вечар
І свой касцёр каля сасны.
Агонь канаў, а ноч страхліва
Глядзела з лесу з-за камлёў,
І вецер шустры сваё жніва
Збіраў з сатлелых вугалёў.
Гарэў агонь, і вось канае,
Адзін, як нейкі сірата,
І я пачуў, як пустата
Мне сэрца ў смутак ахінае.

4

Дык так: астатняя дарога...
Віншую я цябе, мой край!
Твая сягоння перамога,
Ідзі, братоў сваіх страчай!
Яны ідуць, як хвалі мора,
Па ўсіх дарогах і шляхах,
І толькі дол гудзе, гаворыць,
А колькі тэхнікі той, страх!
На цягачах паўзуць гарматы,
Нібы дубовыя камлі...
Ці помніш, край мой, каб калі
Такія тут ішлі салдаты!

5

Ішлі не з захаду — з усходу,
Ішлі не з тым, каб паланіць, —
Ішлі, каб волю даць народу,
Дабро яго абараніць,
Узяць пад братнюю апеку
Яго жыццё, набытак, лёс,
Паставіць крыж закутам, здзеку,
Якіх ён многа перанёс.
І ў камандзіра і ў салдата
У сэрцы быў наказ адзін:
Зямлі савецкай верны сын,
За праўду стань і стань за брата!

6

І гэту прыязнь к простым людзям,
Што наш баец нясе з сабой,
Народ заўсёды помніць будзе
Са шчырым сэрцам і душой.
І ў сюды ў вёсках і па сёлах
Народ святочнай грамадой
Выходзіў, ветлы і вясёлы,
З усмешкай яснай, маладой.
І ўсюды, зеленню спавіты,
Стаялі аркі ў чэсць байцоў.
Ішоў народ з усіх канцоў
Зірнуць братам у твар адкрыты.

7

Усе, каго насілі ногі —
Старыя, дзеці — беглі з хат.
Як мак у полі, ўскрай дарогі
Стаялі тысячы дзяўчат.
Як сонцам, радасцю сагрэты
І шчасця ўсе яны паўны,

І кветак пышныя букеты,
Такіх-жа свежых, як яны.
Праходзяць танкі, і танкісты
Букеты ловяць на хаду.
— Чакай, дзяўчыначка, — прыду! —
І танк імчыцца з шумам, свістам.

## 8

А вось дзе радасць і дзе свята,
Якіх не зналі Петрушы:
Чырвонай Арміі салдаты
Прывал зрабілі пры шашы!
— Сынкі мае вы! — урачыста
Звярнуўся дзед наш да гасцей,
Абняў, цалуе ён танкіста,
Як сына, туліць да грудзей.
— Браткі, галубчыкі вы нашы!
Мы-ж вас чакалі так даўно,
Каб расчыніць у свет акно —
Даволі з нас той панскай пашы!

## 9

Танкісты ў шчыльным акружэнні
Дзяцей, мужчын, жанок, дзяўчат,
І кожны ў шчырым захапленні
Іх на руках насіць-бы рад,
Так блізкіх ім, такіх жаданых —
Ці-ж мала думалі пра іх?
І стол з абрусам даматканым
З'явіўся тут адкулься ў міг.
Рыбак неўрымстуе на месце.
— Браточкі. Дайце хоць зірну
На вас хвіліначку адну!..
Куды вас клікаць, дзе вам сесці?

10

Якія-ж хлопцы вы ды хваты!
Як на падбор: адзін ў адзін!
Машынкі-ж вашы і гарматы —
Ды з імі — проста на Берлін!
— Го, мой браток! — І дзед Куцейка
Пастукаў чучкаю аб бронь: —
Не, гэта, брат, не самасейка!
Вось ён які, совецкі конь!
Паны-ж казалі, што з фанеры
Майструе танкі большэвік...
Пасып, пан, попел на язык —
Совецкай сіле даў ты веры!

11

Танкісты ў шлёмах, блузах сініх
Стаяць, смяюцца ды ў адказ
То той, то іншы слова кіне,
Дарэчы, трапна кожны раз.
Марына з сынам, з бабкай збоку
Стаяць на водшыбе адны,
Ды іх уважліваму воку
Малюнкі стрэчы ўсе відны
І ўсё чуваць ім дасканала.
І раптам голас: «Эй, Ігнат!
Пацеш малодак і дзяўчат,
Каб Беларусь затанцавала!»

12

І вось выходзіць хлопец статны,
Крыху смуглявы, малады,
Танкіст і песельнік выдатны,
І сам прыгожы, хоць куды.
А праз плячо рамень фарсісты
Накінут спрытнаю рукой.
Дзяўчат выглядваюць танкісты —
У танцы рушыць талакой.

Разняў гармонь танкіст удалы
Ды як націсне на басы —
І на ўсе чыста галасы
Вакол запелі ўсе прагалы!

13

І разгарэлася ігрышча —
Даўно такога не было.
Крутнецца пара, вецер свішча
І пыл мяце, як памяло.
І наш рыбак у тон баяну
Прысвісне, шчоўкне языком
Ды зрэдку ў бок якомусь пану
Пагрозіць моўчкі кулаком.
Баян замоўк. Да баяніста
Падходзіць дзед. — Скажы, браток,
Адкуль ты? Дзе твой край-куток?
А як іграеш галасіста!

14

Танкіст-музыка, як дзяўчына,
Усмешкай твар свой асвятліў.
— Кут мой — тутэйшая краіна,
Ды я не доўга ў ёй пажыў.
Я быў малы тады. Са мною
Была старэйшая сястра.
Бацькі памерлі прад вайною,
Мы-ж засталіся без двара.
І вось, нібы праз павуціну,
Я бачу бежанскі абоз,
А дзядзька нас у лес павёз
Ды ў ночы там адных пакінуў...

15

Марына ў моцным узрушэнні
Бліжэй к танкісту падышла.
Расказ аб колішнім здарэнні
Яе працяў, нібы страла.

— Скажыце, будзьце так ласкавы:
Сястру-ж та вашу звалі як? —
Сама глядзіць у твар смуглявы,
Каб адшукаць знаёмы знак.
Танкіст сумеўся, і ў хвілінку
Прад ім узнік той час-пара,
І ён сказаў: — Мо' ты — сястра?
Я помню добрую Марынку.

16

І тут Марына не ўтрымала —
Ды гэта-ж ён! ды гэта-ж брат!
На грудзі брату тварам пала.
— Ігнатка! брацік мой Ігнат...—
Якія-ж больш патрэбны словы?..
Расчынен людзям новы свет.
І тут-жа ў чэсць яго гуртовы
У момант зладзілі банкет.
Калі-ж танкісты ад'язджалі,
Іх праважала ўсё сяло,
І колькі радасці было,
Што родных брацціяў прычакалі!

17

Глядзеў адзін пан Богут скрыва,
Як воўк, уткнуўшыся ў паркан,
А думкі ўюцца мітусліва —
Чакаць адплаты трэба, пан!
І гаспадарыць пан ці будзе:
Аджыў ён час свой і—пад мост!
І пойдзе ўсё, як кажуць людзі,
Не больш, не менш, як псу пад хвост!
А тут яшчэ адна праява,
Якой ніводзін пан не рад:
Пакідаў зброю ўсю салдат,
Да хаты сунуцца аравай.

18

Ужо вось з тыдзень, як пан Богут
Свайго пільнуецца двара
І толькі выйдзе на дарогу,
Калі надарыцца пара.
Адна дарога, хоць без слова,
Яму насіла навіны,
І ён па ёй беспамылкова
Гадаў аб выніках вайны.
Стаіць пан Богут раз у схове,
Глядзіць — вандроўнік! Хто такі?
Відаць, жаўнер. О, лайдакі:
Усе яны ў варожай змове!

19

Але пан Богут далей сочыць,
І раптам дрогнуў ён, як ліст —
Ці то зманулі яго вочы?
Не, гэта ён, ён, комуніст!
І тая ноч, і ёмкі скрутак
Пад стрэху сунутых папер,
І ўвесь астатні цёмны скутак
Наяўна ўспомніў ён цяпер.
Пад сэрцам пану замуціла.
Вандроўнік стомлен, бледны твар.
На ім ледзь значыцца загар, —
Ідзе, бы кара, Смык Даніла!

20

Ідзе ён мернаю ступою
З маленькім клункам на кійку
І з нейкай думкай патайною,
З такой, што пану не ў руку.
І на асадніцкай пляцоўцы
Ён затрымаў халодны зрок,

Нібы гаворачы: «Ну, змоўцы!
А ты адкажаш мне, панок!»
Ён зрок адводзіць з панскай дачы —
Яго больш вабяць Петрушы
І сэрца блізкае душы,
Якой даўно, даўно не бачыў.

21

Вось ён звярнуў убок з дарогі
Ды напянькі ідзе далей
І на знаёмыя парогі
Глядзіць лагодней, весялей.
А ў сэрцы ўсё-ж няма спакою —
Ці знойдзе жонку і сынка?
І ён нясмелаю рукою
Адводзіць веснічкі злягка.
Знаёмы дворык, тая-ж хата,
І ў ганку тыя-ж камяні —
Знаёма ўсё, дзе ні зірні,
Але маўчыць усё зацята.

22

І раптам клямка — бразь! і дзверы,
Шась, расчыняюцца з сяней!
І бачыць — жонка і Валерык
У дружнай пары, як даўней!
Глядзіць Марына ўтарапёна —
Яна яго не пазнае,
І ён гукнуў, заспакаёны:
— Марынка—я—і да яе! —
Было-ж тут радасці, уцехі!
Прыбеглі бабка Ева, дзед,
За імі ўсе суседзі ўслед —
Няма цяпер былой памехі!

## 23

Народ сабраўся, як на дзіва,
І кожны весел, кожны рад.
Вітаюць людзі іх жычліва:
Іх дні схіляюцца на лад!
Лямех Аўген кіўнуў Марыне.
— Ну, што? не праўду я казаў?
Знайшоўся брат і муж не згінуў,
А пан, як бачыш, дуба даў!
— Цяпер мы, браце,—да Данілы
Прамовіў словы і рыбак: —
Дамок свой згораем сяк-так
І возьмем Богута мы ў вілы!

## 24

— А як-жа ты, сынку, ўзяў волю? —
Пытае дзед: — пусцілі вас?
— Не, дзеду: самі іх сваволлю
Канец паклалі мы ў свой час. —
Даніла сына туліць, песціць
Ды далей сказ ён свой вядзе.
— Да нас дайшлі аб вайне весці.
Разведку робім, што і дзе.
Паны далі з астрогу драла,
Дазорцаў кінуўшы старых.
Мы дзверы прэч! а вартавых
На ключ саміх пазапіралі.

## 25

З астрогу вышлі грамадою
Без угалоўніцкай шпаны.
Ідзем радамі, нібы к бою,
І з нас аж цешацца паны.
— Забачце, пане палкоўніку,
Які наш «ест» цывільны люд:
Ідзе без тлуму і без крыку!

Дык гэта-ж, проша пана, цуд! —
Палкоўнік кажа: «Жэчывісце! *
Але наіўным, пан, не будзь:
Не нашы людзі то ідуць —
То-ж гэта, пане, комунісці!»

*22/XII 1946 г.—12/I 1947 г.*

---

* Сапраўды, так.

* * *

Я развітаюся тут з вамі,
Мае людцы, мае сябры!
Цяпер вы сталіся ўжо самі
Зямлі свае гаспадары.
Усё, што жыць вам замінала,
Што прыблудзіла ў цяжкі час
І разгарнуцца не давала,
Як пыл, развеялася ўраз.
Сышлі са сцэны прэч магнаты,
Абломкі выцвіўшых вякоў.
Няма паноў, няма панкоў —
Не збудаваць ім свае хаты!
Мне Богут вочы намазоліў,
І я адзначыць дужа рад,
Што тут няма яго, і болей
Сюды не прыдзе ён назад.
Харом яго пайшоў пад школу
Для петрушоўскае дзятвы.
Сымон рыбак забраў стадолу,
Даніла—пуню і хлявы.
Пабудавалі сабе хаты —
Ну, так, да часу, да пары,
Бо лад канчаецца стары.
Красуйся-ж новы лад багаты!

*12/I 1947 г.*

Мае браты, мае суседзі,
Свабодны, новы польскі люд!
Няхай-жа песняй звонкай медзі
Красуе наша дружба тут!

Няхай-жа стане тленню, прахам
Жыцця мінулага ярмо!
Мы пойдзем далей новым шляхам,
Друг другу руку падамо!

Сустрэнем дружна дзень наш новы,
У мірны рушымся паход.
Няхай не будзе больш згрызот
І змоўкнуць непрыязні словы!

*1940—1947 г.*

## ЗМЕСТ

*Стар.*

Стар.



**Паэмы**

*Афармленне кнігі*
*мастака Е. Тараса*

НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

**Якуб Колас**

**СТИХИ И ПОЭМЫ**

Государственное Издательство БССР
Минск 1948

★

*Рэдактар Н. ТАТУР*
*Мастацка-тэхнічная рэдакцыя Л. ПРАГІНА*
*Карэктар П. ГАЛУБЦОВА*

★

АТ 03132. Падпісана да друку 24/XI 48 г. Тыраж 4000 экз.
Папера 84 × 108/32. Вуч. выд. арк. 18,5. Друк. арк. 26. Заказ 288.

Друкарня імя Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55.

